ПРОЛЕТАРЫІ ЎСІХ КРАІН, ЗЛУЧАЙЦЕСЯ!

# БОЛЬШЭВІК БЕЛАРУСІ

ПАЛІТЫКА-ЭКАНАМІЧНЫ
ШТОМЕСЯЧНІК
ОРГАН ЦК КП(б)Б
ГОД ВЫДАННЯ IX

№ 8
МАЙ 1935 г.



ЗМЕСТ



Адрас рэдакцыі:
Менск, Чырвонаармейская вул.
ЦК КП(б)Б, пакой № 105.
Тэлефон адказнага рэдактара па камутатару 20 000 даб. 80; адк. сакратара — 12; гарадскі — 21064.



# Работу са спачуваючымі—у цэнтр увагі

Соцыялізм атрымаў перамогу ва ўсіх галінах будаўніцтва нашай краіны. Партыя, стоячы на чале працоўных мас, арганізуючы гэтыя масы на барацьбу, заражаючы масы пафасам соцыялістычнага будаўніцтва, паспяхова завяршае пабудову бяскласавага соцыялістычнага грамадства. Перамога соцыялізма азначае, што новыя мільёны працоўных сталі ў перадавыя шарэнгі барацьбітоў, актыўна далучыліся да той гіганцкай работы, якую праводзіць наша партыя.

У барацьбе за пабудову бяскласавага соцыялістычнага грамадства вырас беспартыйны актыў, паказаўшы на справе беззаветную адданасць справе соцыялізма, наблізіўшыхся к партыі, але яшчэ не падрыхтаваных да ўступлення ў яе рады.

Іменна выходзячы з гэтага, XVII з'езд партыі даў дырэктыву аб арганізацыі груп спачуваючых для «згуртавання вакол ВКП(б) найбольш блізкіх к партыі беспартыйных актывістаў, паказаўшых на справе—на вытворчасці, у калгасе—сваю актыўную дапамогу партыі, але яшчэ не падрыхтаваных да ўступлення ў партыю».

Тым часам гэта важнейшая дырэктыва XVII з'езда не знашла дастатковага адлюстравання ў рабоце нашых партыйных арганізацый. Больш таго, мы маем рад фактаў прамога ігнаравання паасобнымі партыйнымі арганізацыямі ўказанняў XVII з'езда партыі аб арганізацыі груп спачуваючых, аб разгортванні з імі работы, аб згуртаванні вакол ВКП(б) найбольш блізкіх к партыі беспартыйных актывістаў.

Даволі ўказаць на тое, што з 2 135 пярвічных партарганізацый КП(б)Б групы спачуваючых арганізаваны толькі пры 379, г. зн. 87% пярвічных партарганізацый не прыступілі да арганізацыі груп спачуваючых, да практычнага ажыццяўлення важнейшай палітычнай дырэктывы XVII з'езда партыі.

Даныя аб складзе спачуваючых у КП(б)Б таксама пацвярджаюць той вывад, што рад арганізацый КП(б)Б недаацэньвае ўсёй палітычнай важнасці разгортвання работы з узросшым беспартыйным актывам, арганізацыі груп спачуваючых і разгортванні з імі работы.

На 1 красавіка 1935 года КП(б)Б налічвала 4 049 спачуваючых: пераведзеных пры чыстцы 2 351 і новапрынятых з часу XVII з'езда 1 698 чалавек. Гэтыя лічбы даволі пераканаўчы для таго, каб іх не каментаваць. Яны з усёй рэзкасцю ўскрываюць нашу выключна слабую работу з беспартыйным актывам, нашу непаваротлівасць, наяўнасць недаацэнкі важнейшай дырэктывы партыі аб спачуваючых.

Даволі сказаць, што такая буйная партарганізацыя як віцебская, дзе налічваецца 141 пярвічная партарганізацыя, мае групы спачуваючых пры 21 пярвічнай партарганізацыі і за ўвесь гэты час прыняла ў спачуваючыя 43 чалавек; магілеўская партарганізацыя налічвае 94 пярвічных партарганізацыі, а групы спачуваючых мае толькі пры

25-ці і прыняла за гэты час 194 спачуваючых; слуцкая партарганізацыя, маючы 35 пярвічных партарганізацый, зусім не мае груп спачуваючых і не прыняла ні аднаго спачуваючага.

Такое-ж становішча, як і ў Слуцку, бачым у мазырскай, дрысенскай, быхаўскай і радзе іншых партарганізацый. Тым часам цяга ў спачуваючыя праверанага беспартыйнага актыва выключна вялікая. Праверany беспартыйны актыў імкнецца яшчэ бліжэй стаць к партыі, падрыхтаваць сябе да ўступлення ў яе рады, яшчэ актыўней удзельнічаць у барацьбе.

Цікава ў гэтых адносінах заява Равенюка—калгасніка Бягомельскага раёна, дэлегата першага ўсебеларускага з'езда калгаснікаў—аб тым, што ён жадае ўступіць у спачуваючыя, «бо партыя вывела нас, беднякоў, на светлую дарогу і вядзе да культурнага заможнага жыцця. У мінулым я меў адну дзесяціну зямлі, цягнуў поўгалоднае існаванне, быў разуты і раздзеты, а зараз ужо ў калгасе я ні ў чым не адчуваю патрэбы».

Гэту пульсуючую актыўнасць узросшага актыва мы недастаткова арганізуем, не накіроўваем. Тысячы лепшых актывістаў, паказаўшых на справе сваю адданасць партыі, у спачуваючыя не ўцягваюцца, з імі сур'ёзнай работы не вядзецца і такім чынам важнейшая дырэктыва партыі ігнаруецца.

З гэтымі недапушчальнымі адносінамі да выканання важнейшай дырэктывы партыі трэба рашуча пакончыць. Неабходна зараз-жа разгарнуць работу сярод беспартыйнага актыва, уцягнуць лепшых у групы спачуваючых і арганізаваць гэтыя групы пры пярвічных партарганізацыях.

Зусім недапушчальна ігнараванне партарганізацыяй работы сярод совецкай інтэлігенцыі, сярод аграномаў, інжынераў, урачоў, настаўнікаў. Спачуваючых з совецкай інтэлігенцыі наша партарганізацыя налічвае адзінкі. Тым часам сярод гэтых груп працоўных мы маем актыўных, адданых справе социялізма людзей, энтузіястаў социялістычнага будаўніцтва, якіх мы павінны наблізіць к партыі, разгарнуць сярод іх работу. РК і ГК павінны зараз-жа забяспечыць разгортванне работы сярод гэтых груп беспартыйнага актыва і ўцягнуць лепшых у рады спачуваючых.

У выніку выключна слабой работы па ўцягненню праверанага беспартыйнага актыва ў спачуваючыя, няўважлівасці раду партарганізацый да гэтай важнейшай работы ёсць факты, калі ў спачуваючыя пралазяць чуждыя нам людзі. На магілёўскім мясакамбінаце двое спачуваючых былі арыштаваны за крадзеж. У соўгасе «Дашкаўка» (Магілеўскі р-н) у спачуваючыя прынята жонка былога белага афіцэра.

Гэтыя факты маглі мець месца толькі з-за адсутнасці пільнасці ў партыйнай арганізацыі, з-за самацёку ў рабоце па ўцягванню ў групы спачуваючых беспартыйных актывістаў, прамой недаацэнкі гэтай важнейшай работы.

Мы маем рад фактаў выключна неахайных адносін да пытанняў афармлення ў спачуваючыя. Вельмі часта рэкамендацыі комуністаў, даваемыя таварышам для ўступлення ў спачуваючыя, носяць фармальны характар; комуністы абмяжоўваюцца простай распіскай на заяве спачуваючага, не даючы характарыстыкі данаму таварышу, яго палітычнага твару, актыўнасці, адданасці і т. д. Гэта таксама з'яўляецца вынікам таго, што партарганізацыі не растлумачылі партыйным масам усёй палітычнай важнасці ўважлівага адбору лепшых, найбольш праверaных з беспартыйнага актыва ў спачуваючыя, значэння

для партыі груп спачуваючых, як рэзерва, адкуль партыя будзе чэрпаць папаўненне сваіх радоў.

Побач з зусім нездавальняючым становішчам работы сярод беспартыйнага актыва, зусім недастатковай работай па ўцягванню лепшай часткі беспартыйнага актыва ў спачуваючыя, партыйныя арганізацыі вядуць вельмі недастатковую работу з таварышамі, прынятымі ў спачуваючыя і пераведзенымі ў спачуваючыя з кандыдатаў і членаў партыі. Спачуваючыя па сутнасці прадастаўлены самі сабе.

Спачуваючыя не запрашаюцца на адкрытыя партыйныя сходы, іх не збіраюць для прапрацоўкі важнейшых рашэнняў партыі і ўрада. Вучоба спачуваючых пастаўлена нездавальняюча, партыйныя арганізацыі не аказваюць дапамогі спачуваючым у рабоце над сабой, у палітычным росце. Спачуваючы Драздоўскі (Парыцкая арганізацыя) скардзіцца на тое, што парторг РВК ніколі не паведамляе аб партсходах, таму ён ні разу на партсходзе не быў. Такія-ж заявы ёсць на швейнай фабрыцы ў Магілёве і ў радзе іншых партыйных арганізацый.

У адносінах вучобы спачуваючага мы маем вельмі часта фармальны чыноўнічы падыход. Не дыферэнцыруючы спачуваючых па ўзроўню палітычнага развіцця, іх усіх уключаюць у адну школу, а гэта, натуральна, прыводзіць к таму, што спачуваючыя не наведваюць школ, бо больш развітым у такой школе працаваць не цікава, а палітычна недастаткова граматным таварышам у такой школе працаваць цяжка. Так, у Бягомельскай, Тэрахаўскай і радзе іншых партарганізацый спачуваючыя хоць і ахоплены вучобай, аднак большая палова іх гурткі і школы не наведваюць. Спачуваючым не даецца ніякіх заданняў, яны такім чынам застаюцца не ўцягнутымі ў практычную грамадскую работу, не выхоўваюцца на рабоце, не правяраюцца.

Да спачуваючых не прымацаваны комуністы з актыва.

Усе гэтыя факты красамоўна гавораць аб тым, што работа са спачуваючымі з'яўляецца ў нас найбольш адсталым участкам. Партыйныя арганізацыі гэтай работай дрэнна займаюцца. У рэзультаце маса спачуваючых, пераведзеных па чыстцы, да гэтага часу для звароттнага ўступлення ў кандыдаты не падрыхтаваны.

Мы маем многа фактаў, калі з гэтай групай таварышоў усё яшчэ не арганізавана вывучэнне статута і праграмы партыі, не наладжаны заняткі па вывучэнню гісторыі партыі. Гэтыя таварышы часцяком не чытаюць газет і мастацкай літаратуры, а пярвічныя партарганізацыі, РК і ГК злачынна-бесклапотна адносяцца да падобных фактаў.

Неабходна зараз-жа рашуча пакончыць з усімі гэтымі фактамі, дабіцца рашучага павароту ў рабоце са спачуваючымі, ліквідаваць самацёк і па-большэвіцку ўзяцца за ажыццяўленне дырэктыў XVII партыйнага з'езда аб рабоце са спачуваючымі.

Неабходна, каб пярвічныя партарганізацыі зараз-жа разгарнулі палітычна-масавую работу сярод беспартыйнага актыва, арганізавалі ўцягванне лепшых з актыва ў групу спачуваючых з тым, каб пры пярвічных партарганізацыях былі арганізаваны групы спачуваючых з правераных, адданых справе партыі людзей.

Партыйныя арганізацыі павінны на падставе вывучэння кожнага спачуваючага, дыферэнцыяванага падыходу да іх, арганізаваць вучобу спачуваючых, вывучэнне імі статута і праграмы партыі, важнейшых рашэнняў партыі і ўрада.

Неабходна забяспечыць, каб уцягванне ў сець партыйнай асветы

спачуваючага праходзіла на аснове строгага ўліку яго палітычнага ўзроўню, развіцця. Школы, дзе працуюць спачуваючыя, павінны быць забяспечаны праверанымі, граматнымі выкладчыкамі.

Пярвічныя партарганізацыі, райкомы і гаркомы павінны заняцца праверкай вучобы кожнага спачуваючага. Разам з гэтым неабходна забяспечыць уцягванне спачуваючых у грамадскую работу, даваць ім нагрузкі, паасобныя даручэнні, уцягваць у якасці чытачоў газет, правяраць, як спачуваючы выконвае данае яму партарганізацыяй даручэнне.

Неабходна ўвесці ў практыку, каб сакратар пярвічнай партарганізацыі не менш двух раз у месяц збіраў асабіста спачуваючых, праводзіў-бы з імі гутаркі па важнейшых рашэннях партыі і ўрада, растлумачваў-бы спачуваючым задачы, што стаяць перад партыяй, выкрываў-бы недахопы ў рабоце з кожным спачуваючым.

Такія-ж нарады з паасобнымі групамі спачуваючых павінны збіраць сакратары РК і ГК.

Неабходна, каб уся работа са спачуваючымі была пастаўлена пад неаслабны кантроль райкома і гаркома. Трэба арганізаваць сістэматычную праверку таго, як пярвічная партарганізацыя ажыццяўляе дырэктывы партыі аб рабоце са спачуваючымі, дапамагчы пярвічнай партарганізацыі ў пастаноўцы гэтай работы.

За апошні час, пасля рашэння красавіковага пленума ЦК КП(б)Б мы наглядаем некаторы зрух у рабоце са спачуваючымі. Спачуваючым пачалі цікавіцца інструктар, сакратар райкома, спачуваючага пачалі ўцягваць у актыўную работу, на сходах пачалі ставіць справаздачы аб рабоце са спачуваючымі, аб рабоце прымацаваных да іх комуністаў. Спачуваючыя ўцягваюцца ўжо ў вучобу. Аднак, гэта толькі першыя крокі. Сапраўднага большэвіцкага размаху ў рабоце са спачуваючымі яшчэ няма. Мы далёка не выканалі важнейшых, маючых агромнае палітычнае значэнне дырэктыў партыі аб рабоце са спачуваючымі.

Перад партыйнымі арганізацыямі ў гэтай галіне стаяць важнейшыя і складанейшыя задачы. Неабходна мабілізаваць партыйную арганізацыю на іх большэвіцкае выкананне, неабходна рашуча пакончыць з недаацэнкай важнейшай дырэктывы XVII з'езда партыі аб рабоце са спачуваючымі і ў самы бліжэйшы час дабіцца рашучага павароту ў разгортванні работы са спачуваючымі.

---

В. Кірылаў і В. Васютовіч

# За ўздым партыйна-масавай работы на транспарце

Загады наркома шляхоў зносін таварыша Л. М. Кагановіча аб барацьбе з крушэннямі і аварыямі, аб паскарэнні звароту вагонаў, з'яўляючыся ўзорам канкрэтнага бальшэвіцкага кіраўніцтва, даюць нам разгорнутую праграму барацьбы за выкананне рашэнняў XVII з'езда партыі і ўказанняў тав. Сталіна аб канчатковай ліквідацыі адставання чыгуначнага транспарта і ператварэнні яго ў перадавую галіну народнай гаспадаркі.

Перад палітаддзеламі і ўсёй партарганізацыяй транспарта стаяць велізарныя задачы ў галіне партыйна-масавай работы і палітычнага забяспечання выканання задач, пастаўленых у загадах тав. Кагановіча.

На нарадзе работнікаў чыгуначнага транспарта тав. Кагановіч падкрэсліў:

> «Ад нас патрабуецца яшчэ большая палітычная масавая работа, чым у любой іншай галіне народнай гаспадаркі».

Указанні тав. Кагановіча выходзяць з таго, што транспарт, з аднаго боку, прадстаўляе сабой найбольш цэнтралізаваную галіну народнай гаспадаркі, дзе патрабуецца чоткасць і наладжанасць работы ўсіх звенняў, а, з другога боку, кадры транспарта адметны ад кадраў прамысловасці большай цякучасцю—значная частка работнікаў знаходзіцца ўвесь час у раз'ездах, распылена па лініі. Старая чыгуначная культура, яе норавы і прывычкі яшчэ вельмі моцны сярод чыгуначнікаў.

У гэтых умовах патрабуецца выключная гібкасць і аперацыйнасць партыйна-масавай работы. Трэба памятаць асноўнае—кадры на транспарце ніколькі не горшыя чым у прамысловасці. З гэтымі людзьмі можна ваяваць і перамагчы. Трэба ўнесці баявы дух у барацьбу за аздараўленне транспарта, даць бальшэвіцкую зарадку людзям, узброіць іх, падняць, клапатліва вырошчваць, як вучыць нас т. Сталін, і павесці ў бой за аздараўленне транспарта.

Пастановы пленума Ленінградскага гаркома ВКП(б) і ЦК КП(б)Б аб задачах партыйна-арганізацыйнай і палітычна-выхаваўчай работы ўскрываюць прычыны буйнейшых памылак у дзейнасці партарганізацый і ўказваюць канкрэтныя шляхі ажыўлення і палепшання ўсёй партыйнай работы.

Як-жа палітаддзел і ўся партарганізацыя Оршанскага эксплаатацыйнага аддзялення перабудоўвае ў адпаведнасці з гэтым партыйна-масавую работу?

Асноўны ўпор і ўвагу мы сканцэнтравалі на ўмацаванні нізавога партыйнага звяна, на штодзённай рабоце з кожным комуністам, на

вырошчванні новых кадраў партыйнага актыва, на выхаванні беспартыйных актывістаў і згуртаванні іх вакол партарганізацыі.

«Члена партыі трэба выхоўваць і ў партыйнай школе і галоўнае на практычнай палітычнай рабоце» **(Кагановіч).**

Праз парторгаў станцый, дэпо, дыстанцый, партгрупоргаў, партыйны актыў мы ўважліва вывучылі комуністаў, іх палітычную граматнасць. Індывідуальны падыход да кожнага комуніста падказваў партарганізацыі, як і чым яна павінна ім дапамагаць. На падставе гэтага была пабудавана ўся сець партыйнай асветы ў аддзяленні. Трэба адзначыць, што ў 1934-1935 гг. партарганізацыя зрабіла рашучы паварот да пытанняў марксісцка-ленінскага выхавання.

Індывідуальны падыход да кожнага комуніста, штодзённая работа па павышэнню ідэйна-палітычнага ўзроўню дала магчымасць выцягнуць рад адстаючых таварышоў. Вось канкрэтныя факты выхавання і росту комуністаў.

Кандыдат партыі, грузчык тав. Тарлоўскі ў мінулым быў самым адсталым на вытворчасці, працаваў дрэнна. Партарганізацыя прымацавала да яго члена партыі, цікавілася яго бытавымі ўмовамі, прадставіла кватэру. Зараз тав. Тарлоўскі—лепшы ўдарнік, вылучан у брыгадзіры, ініцыятар укаранення фабрычнай маркі, прымае актыўны ўдзел у партыйным жыцці, з'яўляецца рэдактарам насценгазеты.

Член партыі стрэлачнік т. Шаціло таксама быў адстаючым. Калі мы пацікавіліся, у чым тут справа, дык аказалася, што ў яго дрэнныя бытавыя ўмовы. Мы дапамаглі тав. Шаціло: адрамантавалі яму кватэру, прыстроілі дзяцей у дзіцячы сад, прымацавалі члена партыі для ліквідацыі палітычнай няграматнасці. Зараз тав. Шаціло—лепшы ўдарнік, вылучан старшым стрэлачнікам.

А вось што расказвае пра сябе кандыдат партыі, сігналіст блокпаста 471 кілометра т. Мічульнікаў:

«Я працаваў раней грузчыкам. Быў палітычна няграматным, газет не чытаў, дрэнна ўдзельнічаў у грамадскай рабоце, часта выпіваў. Гэта ўсё было таму, што ніхто не працаваў са мной, я быў адарваны ад партыйнага жыцця. Зараз я зусім стаў іншым,—перарадзіўся. Выпісваю і рэгулярна чытаю газеты «Гудок» і «Большэвіцкі сігнал», чытаю палітычную літаратуру, прапрацоўваю «Палітграмату» Інгулава. Партарганізацыя высунула мяне сігналістам. Я ўпаўне спраўляюся з работай, мой блок-пост знаходзіцца ва ўзорным і культурным стане. Усё гэта дзякуючы таму, што партарганізацыя моцна ўзялася за маё перавыхаванне. Парторг т. Сергееў не раз гутарыў са мною, рэкамендаваў чытаць літаратуру, прымацаваў да мяне члена партыі».

Кровельшчык завода імя Мяснікова, значкіст-ударнік сталінскага прызыву тав. Падабед пры апошняй чыстцы быў пераведзен з членаў у кандыдаты партыі з-за палітычнай няграматнасці. Рэгулярна наведваючы школу, займаючыся самаадукацыяй, тав. Падабед павысіў свой палітычны ўзровень. Пасля пастановы ЦК ВКП(б) ён падаў заяву аб пераводзе яго ў члены партыі.

Прыклад падобнага роду дае і рад іншых таварышоў (Новікаў, Кульбінскі, Сераў, Лазуцін, Юронак, Велюжын, Гучэк і інш.).

«...Рост члена партыі залежыць ад пастаноўкі ўнутрыпартыйнай работы, залежыць ад увагі да члена партыі і ад таго, як ім кіруюць» **(Кагановіч).**

Паляпшаючы якасць марксісцка-ленінскага выхавання, уцягваючы ў актыўную работу партарганізацыі, мы выхоўвалі комуністаў на практычнай палітычнай рабоце.

Пленум ЦК КП(б)Б і Ленінградскага гаркома ВКП(б) асабліва падкрэслілі неабходнасць вырошчвання партыйнага актыва. Трэба сказаць, што на транспарце мы праз меру дрэнна займаліся гэтым пытаннем.

Правёўшы праверку прапагандысцкіх кадраў, палітаддзел выявіў вялікую палітычную няграматнасць паасобных таварышоў і вымушан быў проста адхіліць іх ад выкладання.

Каб узняць палітычны ўзровень партыйнага актыва, на вузлах Орша і Менск праводзім семінары, дзе прапрацоўваецца зараз пасляокцябрскі перыяд гісторыі партыі. Прыцягнулі да гэтай справы рад відных выкладчыкаў вышэйшых навуковых устаноў Менска.

У парадку кантролю і праверкі выканання, а таксама абмену вопытам партыйна-масавай работы палітаддзел практыкуе не больш разу ў месяц аперацыйныя нарады актыва ў складзе парторгаў кустоў, станцый, сакратароў парткомаў, партгрупоргаў з пастаноўкай практычных пытанняў партыйна-масавай работы. Нядаўна на адной з такіх нарад заслухалі справаздачы двух парторгаў кустоў і двух комуністаў-адзіночак аб іх рабоце.

Выключна вялікае значэнне набывае ажыўленне партыйных сходаў. Яны павінны ператварыцца ў школу большэвіцкага выхавання комуністаў.

Рад партарганізацый (ст. Менск, Барысаў, Орша-ўсходняя і т. д.) перабудоўваюць партыйныя сходы на аснове пастаноў пленума ЦК КП(б)Б і Ленінградскага гаркома. Да партсходаў праводзіцца папярэдняя старанная падрыхтоўка. Так, напрыклад, загад тав. Кагановіча аб паскарэнні звароту вагона, перш чым прапрацоўваць на агульнастанцыйных, агульнадэпоўскіх партыйных сходах, быў абгаворан на ўсіх партыйных групах па цэхах, брыгадах, зменах, сярод рабочых, ІТР. Збіраліся канкрэтныя прапановы аб лепшай рэалізацыі загадаў наркома. Пытанне такім чынам падрыхтавана было загадзя, і комуністы, прышоўшы на сход з практычнымі прапановамі, разгарнулі дзелавыя спрэчкі і самакрытыку.

Аднак, не ўсе партарганізацыі зразумелі значэнне партыйных сходаў і праводзяць іх па-старынцы, без падрыхтоўкі (вагоннае дэпо Менск, ст. ст. Слаўнае, Лепель і інш.).

У сваёй прамове на нарадзе работнікаў чыгуначнага транспарта тав. Кагановіч сказаў:

> «Ёсць рад элементарных пытанняў масавай работы як, напрыклад, чытка газет, з якіх і трэба пачынаць. Бо факт, што многія чыгуначнікі газет не чытаюць».

У радзе буйных прадпрыемстваў чыгункі (ст. Менск, Барысаў, паравознае дэпо Орша і інш.) вылучаны агітатары, якія ў цэхах, брыгадах і зменах праводзяць галосную чытку газет, а таксама гутаркі аб бягучай палітыцы.

Партком ст. Менск правёў нядаўна палітдзень аб міжнародным становішчы. Па ўсіх цэхах загадзя правялі збор пытанняў, якія цікавяць рабочых. Задана было звыш ста пытанняў.

Нядаўна мы праверылі, ці чытаюць газеты рабочыя ст. Орша-Ўсходняя і выявілі вельмі нягожы малюнак. Многія рабочыя (Збужынскі, Кандратчык, Махлаеў, Карэнькоў, Дзерваедаў і інш.) і нават

камандзіраў станцыі (Куневіч, Федзюк, Бохарэва і інш.) не выпісваюць і не чытаюць газет у выніку дрэннай масавай работы партарганізацыі. Неабходна зараз-жа ліквідаваць гэты вялікі прабел. Палітычная інфармацыя, галосная чытка газет—адзін з відаў дзейснай і хутка дасягаючай свядомасці мас агітацыі. Адным з важнейшых «вымернікаў» работы палітаддзельцаў і парторгаў з'яўляецца якасць арганізацыі чыткі газет рабочымі, бо «друк—адзіная зброя, пры дапамозе якой партыя штодзённа, штогадзінна гаворыць з рабочым класам на сваёй патрэбнай ёй мове» **(Сталін).** Асаблівую ўвагу яны павінны ўдзяліць лінейным станцыям і раз'ездным брыгадам.

Задача палітаддзелаў і парторгаў транспарта—выхаваць чыгуначнікаў у духу свядомай дысцыпліны, чэсных і дабрасумленых адносін да сваіх абавязкаў, вырасціць беспартыйны актыў.

**«Трэба згуртаваць масы, абаперціся на лепшых людзей—ударнікаў** транспарта, і перамога будзе забяспечана» **(Кагановіч).**

Оршанскае аддзяленне мае сотні лепшых вытворцаў—галоўную апору партарганізацыі ў яе барацьбе за аздараўленне транспарта. Лепшых, найбольш блізкіх к партыі беспартыйных актывістаў мы ўцягваем у групу спачуваючых, куды прынялі ўжо 165 чалавек.

Машыністы—Мікуловіч, Алексееў, Шпілеўскі; саставіцелі—Канстанціновіч, Няхайчык, Валковіч; стрэлачнікі—Макоўскі, Круцько, Шандыбін, Брыцько, Хадасевіч; сігналісты—Прыгода, Гайлік; дыспетчары—Шыло, Пагарэлік; змазачнік Сенькоўскі, галоўны кандуктар Куцэро, лінейны абходчык Серкуцьеў і інш. за сваю шматгадовую работу на транспарце не маюць ніводнага выпадку аварыі ці крушэння і служаць прыкладам для ўсіх чыгуначнікаў. Вопыт работы гэтых людзей разбівае апартуністычныя размовы аб немінучасці крушэнняў і аварый на транспарце.

Загады тав. Кагановіча ўзнялі новую хвалю энтузіязма. У адказ на загады наркома лепшыя ўдарнікі ўнеслі рад канкрэтных прапаноў па палепшанню работы. Так, стрэлачнік ст. Крупкі т. Хадасевіч прапанаваў сіламі стрэлачнікаў прыводзіць стрэлкі ва ўзорны стан, абкладаць іх шчэбнем, ачышчаць стары шчэбень ад смецця і бруду. Вакол гэтай прапановы, якая мае вялікае значэнне для бяспечнасці руху, разгарнуўся масавы рух стрэлачнікаў аддзялення. Дыспетчар аддзялення т. Пагарэлаў унёс прапанову, якая дае вялікі эканамічны эфект у зніжэнні прастою вагонаў па Оршанскаму і Віцебскаму аддзяленнях і мае не толькі мясцовае, але ўсесаюзнае значэнне.

Пасля загаду тав. Кагановіча мы ўдзялілі вялікую ўвагу палітычнаму выхаванню беспартыйных мас, арганізавалі палітвучобу. Так, напрыклад, па ўсіх цэхах станцыі Менск палітвучоба праводзіцца чатыры разы ў месяц, ахоплена 400 рабочых. Комвуз БССР прымацаваў студэнтаў для выкладання. Такія заняткі адбываюцца і на іншых станцыях. Акрамя таго, для камандзіраў—начальнікаў, дзяжурных па станцыі і дыспетчараў—створаны семінары палітычнай і тэхнічнай вучобы.

Найбольш адстае партыйна-масавая работа на лінейных станцыях. Станцыі Слаўнае—Шчэрба, Лепель—Дробат не прыдаюць партыйна-масавай рабоце баявога, аперацыйнага характару, якога патрабуюць ускладзеныя на іх Цэнтральным Камітэтам партыі задачы.

Паасобныя парторгі правільна зразумелі свае задачы і дабіліся нядрэнных вынікаў. Заслугоўвае ўвагі вопыт парторга куста Краснае—тав. Сергеева. Усе 15 комуністаў куста, галоўным чынам адзіночкі, ахоплены марксісцка-ленінскім выхаваннем, маюць свой агітпроп. габінет.

Не малую работу праводзіць партарганізацыя па выхаванню і вырошчванню беспартыйнага актыва. Па ўсіх станцыях наладжана рэгулярная галосная чытка газет. 68 чалавек беспартыйнага актыва ахоплена 5-ю гурткамі, дзе прапрацоўваецца падручнік Інгулава «Палітгутаркі». Расце актыў. Раней па станцыях было 4—5 актывістаў, а цяпер іх звыш 20 чалавек Дзевяць лепшых беспартыйных актывістаў прыняты ў групу спачуваючых.

Партарганізацыя ўстанавіла цесную сувязь з тэрытарыяльнымі партыйнымі і совецкімі арганізацыямі, прыцягнуўшы іх увагу да работы транспарта. З дапамогай тэрытарыяльных арганізацый усе станцыі і кватэры рабочых электрыфікаваны і прыведзены ў культурны выгляд. Зараз на ўсіх пяці станцыях куста будуюцца новыя чырвоныя куткі.

Не гледзячы на некаторае палепшанне, партыйна-масавая работа па аддзяленню не вядзецца яшчэ з належным размахам і не здавальняе сёнешнім задачам транспарта. Рад партыйных арганізацый яшчэ не перабудаваліся ў адпаведнасці з рашэннямі пленума ЦК КП(б)Б і Ленінградскага гаркома партыі. Замест штодзеннай, крапатлівай работы па выхаванню членаў партыі і партыйнага актыва, яны дапускаюць метады бюракратычнага адміністравання (партком дэпо Орша-паравозная).

Урокі падзей, звязаных са зладзейскім забойствам таварыша Кірава, патрабуюць ад нас рашучага палепшання зместу партыйна-масавай работы і павышэння якасці ідэйна-палітычнага выхавання. Ні на мінуту нельга забыць, што сучасны этап патрабуе асаблівай настарожанасці і рэволюцыйнай пільнасці.

Транспарт пад цвёрдым большэвіцкім кіраўніцтвам жалезнага наркома тав. Кагановіча ўпершыню за многа год перавыканаў красавіковы план пагрузак. Рад дарог, у тым ліку Маскоўска-Беларуска-Балтыйская, дабіліся зніжэння колькасці аварый і крушэнняў. Гэта яркі довад таго, што толькі ад нас, чыгуначнікаў, залежыць хуткае і рашучае аздараўленне транспарта.

Першыя поспехі не павінны нас супакойваць, а яшчэ больш мабілізаваць на палепшанне ўсёй работы. Асабліва гэта адносіцца да работнікаў Оршанскага аддзялення, якое прызнана лепшым па МББ чыгунцы. Станцыя Менск, вагоннае і паравознае дэпо Орша, 4-я дыстанцыя сувязі заваявалі пераходны Чырвоны сцяг сваіх служб. У сувязі з гэтым у некаторых з'явіліся небяспечныя настроі самасупакоенасці і зазнайства. Нельга забыць, што наша аддзяленне ў цэлым і паасобныя прадпрыемствы працуюць далёка не добра. Яшчэ не зжыты выпадкі аварый, непрадукцыйных простояў вагонаў, слабога прымянення маршрутызацыі і ўкаранення новых метадаў эксплаатацыйнай работы, асабліва метада дыспетчара Кутафіна і т. д.

У сваёй прамове 4 мая тав. Сталін з усёй вострасцю ставіць пытанне аб кадрах, што мае выключнае значэнне для транспарта. Яго суровая крытыка аб тым, што «мы маем у цэлым радзе выпадкаў факты бяздушна-бюракратычных і проста агідных адносін да работнікаў»,—датычыць транспарта больш, як многіх іншых галін на-

роднай гаспадаркі. На транспарце вельмі многа фактаў, калі «замест таго, каб вывучаць людзей і толькі пасля вывучэння ставіць іх на пасты, нярэдка кідаюцца людзьмі як пешкамі».

Тав. Кагановіч, сваім ленінска-сталінскім стылам кіраўніцтва з усёй пераканальнасцю даказаў, што ў нашым тэхнічным узброенні яшчэ крыюцца агромныя, нескарыстаныя рэзервы, што большэвіцкае выкарыстанне тэхнікі, правільныя адносіны да людзей, актыўнае, баявое выхаванне іх на прыкладзе, у барацьбе можа даць яшчэ нябачаныя рэзультаты.

Выкананне красавіковага плана і поспех пагрузкі ў першыя дні мая служаць наглядная ілюстрацыяй мыслі тав. Сталіна аб рашаючай ролі кадраў, аб тым, што лепшым выкарыстаннем людзей і тэхнікі мы маем магчымасць у тры і чатыры разы павялічыць прадукцыю краіны. Чыгуначны транспарт, які ўсё яшчэ з'яўляецца вузкім месцам народнай гаспадаркі, здавальняючы толькі мінімальныя яе запатрабаванні, усё-ж такі ўжо «разгортваецца і ідзе ў гару» (Сталін) і мае поўную магчымасць заняць перадавыя пазіцыі.

**В. Чэрнышоў**
Сакратар Бабруйскага
райкома КП(б)Б

# Партыйна-арганізацыйную і выхаваўчую работу— ў цэнтр увагі

XVII з'езд партыі і наш вялікі тав. Сталін ва ўсю шырыню паставілі перад намі задачу—узняць арганізацыйную работу на ўзровень палітычнай лініі партыі.

Пастановы апошніх пленумаў ЦК КП(б)Б і Ленінградскага гаркома «Аб задачах партыйна-арганізацыйнай і палітычна-выхаваўчай работы» маюць агромнае значэнне для далейшага ажыццяўлення пастаўленых XVII партз'ездам задач і прадстаўляюць сабою разгорнутую большэвіцкую праграму ажыўлення і палепшання ўсёй партыйнай работы.

За перыяд пасля XVII партз'езда бабруйская партарганізацыя, пад непасрэдным і канкрэтным кіраўніцтвам ЦК КП(б)Б на чале з тав. Гікало, яшчэ цясней згуртаваўшыся вакол сталінскага ЦК, значна павысіўшы большэвіцкую пільнасць сваіх радоў, дабілася некаторых поспехаў у пастаноўцы партыйна-арганізацыйнай і палітычна-выхаваўчай работы. Аднак поспехі гэтыя (лепшая падрыхтоўка да партсходаў, большы ахоп партвучобай і т. д.)—толькі першыя крокі. Асноўная задача партарганізацыі—далейшае няўстаннае ажыццяўленне ўсіх пастаноў партыі аб перабудове партработы.

Тав. Кагановіч у сваім дакладзе на XVII партз'ездзе указаў:

> «Член партыі навучаецца і павінен навучацца на партыйных сходах большэвізму не менш, калі не больш, чым у партшколе».

Праводзячы партдні па прапрацоўцы пастаноў Ленінградскага гаркома і красавіковага пленума ЦК КП(б)Б, а таксама прамовы тав. Сталіна на выпуску акадэмікаў Чырвонай арміі, партарганізацыя максімальна ўлічыла ранейшыя недахопы: несвоечасовае правядзенне партсходаў і слабую падрыхтаванасць да іх, скарыстанне штатных прамоўцаў, недастатковую праверку рашэнняў.

Партсходы пачынаюцца цяпер своечасова і, як правіла, праводзяцца закрыта, што значна павысіла актыўнасць. Колькасць выступаючых дасягае больш 50% усіх прысутных. На кожным партсходзе сакратар парткома або парторг каротка інфармуюць аб тым, як выконваюцца рашэнні папярэдняга сходу, і сістэматычна робяць справаздачы па асобных пытаннях партработы. У бліжэйшы час, у парадку кантролю, адбудуцца партсходы для праверкі рэзультатаў выканання вывадаў камісіі па чыстцы.

Апошнія партсходы паказалі вялікую зацікаўленасць комуністаў пытаннямі ўнутрыпартыйнага жыцця і работы, выхаваннем, ростам і вылучэннем членаў партыі.

Партыя Леніна—Сталіна заўсёды і на ўсіх этапах сваёй слаўнай большэвіцкай гісторыі асноўную ўвагу ўдзяляе парткадрам. Вось чаму яна мае свае клапатліва выхаваныя ленінска-сталінскія большэвіцкія кадры, якія перамаглі ў агні Окцябрскай рэволюцыі і паказалі большэвіцкія цуды ў справе ўмацавання дыктатуры пролетарыята і ажыццяўлення яго гістарычнай задачы—пабудовы бяскласавага соцыялістычнага грамадства, кадры, беззаветна і да канца адданыя вялікай справе Леніна-Сталіна.

Лозунг тав. Сталіна—«кадры вырашаюць усё», пастанова ЦК ВКП(б) аб арганізацыі аддзелаў партыйных кадраў у буйнейшых гаркомах і райкомах Масквы і Ленінграда, рашэнні Ленінградскага гаркома і красавіковага пленума ЦК КП(б)Б «Аб задачах партыйнаарганізацыйнай і палітычна-выхаваўчай работы»—з усёй большэвіцкай праматой і вострасцю ставяць задачу падбору, падрыхтоўкі, выхавання і вылучэння партыйных кадраў для далейшага ажыўлення і палепшання партыйнага жыцця.

Тым часам у бабруйскай партарганізацыі мы сустракаемся з фактамі баязні вылучаць і нават ігнаравання вылучаных таварышоў, тады як значная частка парторгаў не маюць дастатковага вопыту партыйнай работы.

Для сістэматычнай падрыхтоўкі парторгаў арганізаваны сталыя семінары ў горадзе і два разы ў месяц па буйнейшых прадпрыемствах праводзяцца «дні парторгаў». Распрацаваны мерапрыемствы па летняй падрыхтоўцы і перападрыхтоўцы парткадраў. Усе парторгі будуць прапушчаны праз курсы гісторыі партыі і партыйнага будаўніцтва.

Пры райкоме створан рэзерв з 40 чалавек партактыва для вылучэння на кіруючую партработу і, акрамя таго, інстытут пазаштатных інструктароў. Ва ўсёй падрыхтоўчай рабоце асаблівую ўвагу трэба ўдзяліць беларускім нацыянальным кадрам.

Прамова тав. Сталіна—большэвіцкая праграма ўсёй нашай работы—была шырока прапрацавана сярод партыйнай масы, а таксама сярод рабочых і калгаснікаў. На партднях распрацоўваліся канкрэтныя мерапрыемствы для правядзення ў жыццё лозунга тав. Сталіна «кадры вырашаюць усё» і яго ўказання аб тым, што «трэба берагчы кожнага здольнага і разумеючага работніка, берагчы і вырошчваць яго. Людзей трэба клапатліва і ўважліва вырошчваць, як садоўнік вырошчвае аблюбаванае ім пладовае дрэва».

Вялікая ўвага павінна быць звернута на работу з комуністаміадзіночкамі, асабліва на вёсцы.

Наша вясковая партарганізацыя амаль цалкам складаецца з комуністаў-адзіночак, некаторыя з іх добра зразумелі свае задачы і не дрэнна разгортваюць масавую работу. Напрыклад, тав. Сікорскі (калгас «Колас», Асоўскага с.с.) сістэматычна працуе над сабой, рэгулярна чытае газеты, зараз вывучае гісторыю партыі. У сваёй рабоце шырока скарыстоўвае калгасны актыў, сістэматычна праводзіць пяцімінутныя мітынгі, чытку газет і літаратуры па калгасных брыгадах, усе калгаснікі ахоплены падпіскай на газету. Калгас «Колас»—адзін з перадавых у раёне.

Трэба аднак адзначыць, што так працуюць далёка не ўсе комуністы-адзіночкі вёскі. Таму зараз устаноўлена сістэматычнае правядзенне партсходаў комуністаў-адзіночак і з мая пры Доме партактыва працуюць месячныя трохдзённыя курсы па гісторыі партыі, пытаннях міжнароднага становішча і т. д.

Ва ўсім унутрыпартыйным жыцці і рабоце асноўным і рашаючым з'яўляецца ўзбраенне комуністаў рэволюцыйнай тэорыяй Маркса—Энгельса—Леніна—Сталіна. Тым часам райком з пачатку года недастатковую ўвагу ўдзяліў камплектаванню сеці партасветы і ўліку падрыхтаванасці слухачоў. Слухачы вячэрняга комвуза пасля шасці месяцаў заняткаў не маглі адказаць на самыя элементарныя пытанні. Недахопам камплектавання з'яўляецца і тое, што да сакавіка месяца ў палітшколы для беспартыйных (напрыклад, пры саюзе Медсанпрацы) уключаны былі паасобныя комуністы.

Якасць вучобы ў партшколах яшчэ вельмі нізкая. Многія слухачы слаба засвойваюць матар'ял з-за няўмення самастойна карыстацца падручнікам, рабіць канспекты і т. д. Дапамагчы слухачам у гэтай справе ўзяўся сакратар парткома лесакамбіната «Х Окцябр» тав. Каралевіч. Ён праводзіць спецыяльныя дні падрыхтоўкі да заняткаў у партшколе.

Сярод ахопленых завочнай партвучобай і індывідуальнымі заданнямі комуністаў ёсць частка таварышоў, якія выкарыстоўваюць гэтыя формы вучобы толькі для таго, каб прыкрыць сваё нежаданне сур'ёзна вучыцца. Прамое ігнараванне партвучобы і фармальныя адносіны да яе комуністаў Філімонава (дырэктара фабрыкі імя Халтурына) і Айнбіндэра (старшыня арцелі «Чырвоны мебельшчык») прывялі к таму, што пры праверцы іх на паседжанні бюро РК яно не маглі адказаць на самыя элементарныя палітычныя пытанні. Бюро папярэдзіла Філімонава і Айнбіндэра, што паколькі яны з'яўляюцца зусім палітычна няграматнымі, а значыць не могуць быць паўнацэннымі кіраўнікамі прадпрыемстваў і стаяць на вышыні даручанай ім работы, партарганізацыя паставіць пытанне аб пераводзе іх на ніжэйшыя пасады, калі ў бліжэйшы час яны не ліквідуюць сваю палітычную няграматнасць.

Праверкай устаноўлена, што большасць прапагандыстаў—маладыя па стажу і вопыту сваёй работы, вельмі слаба ўзброеныя методыкай. Так, прапагандыст кандыдацкай школы швейнай фабрыкі тав. Брайман увесь час задае слухачам пытанні і сам на іх адказвае.

За апошнія месяцы ва ўсіх звеннях партвучобы наглядаецца значны прыліў слухачоў. Вывучэнне гісторыі партыі праводзіцца ва ўсёй сеці партасветы. Кандыдацкія і палітшколы канчаюць праправоўку асноўных этапаў гісторыі партыі па падручніку палітграматы. У гуртках па гісторыі партыі, ВСПШ і ВКУ прапрацоўваюць тэмы пасляокцябрскага перыяда гісторыі партыі. Вячэрні комвуз праводзіць канферэнцыі з аслабаненнем слухачоў першага курса на два тыдні і другога на месяц ад работы. Навучальныя планы кандыдацкіх школ, гурткоў па гісторыі партыі, ВСПШ і ВКУ перапрацаваны так, каб можна было скончыць курс гісторыі партыі ў гэтым навучальным годзе. Для ўзмацнення работы па партвучобе ў палітшколы і гурткі накіраваны адказныя работнікі, у тым ліку і члены бюро райкома.

Каб палепшыць якасць партвучобы, у праграму семінараў прапагандыстаў уключаны метадычныя лекцыі і тэарэтычныя канферэнцыі. Агульна-гарадская канферэнцыя ўдарнікаў партвучобы паслужыла

штуршком для шырокага разгортвання соцспаборніцтва і ўдарніцтва ў партвучобе.

Партарганізацыі паспяхова заканчваюць камплектаванне хатніх бібліятэчак комуністаў і арганізуюць чытаемасць літаратуры. Партарганізацыя швейнай фабрыкі імя Дзержынскага (сакратар парткома тав. Уздзінскі) правяла партдзень, прысвечаны пытанню ідэйнай узброенасці комуністаў. Перад сходам адбыліся дзве нарады парторгаў, на партгрупах прапрацаваны пытанні якасці вучобы комуністаў, праведзена ўзаемаправерка комуністаў, як яны рыхтуюцца да заняткаў, чытаюць літаратуру, газеты і т. д. Партдзень прашоў вельмі актыўна, распрацаваны былі канкрэтныя мерапрыемствы для замацавання, поўнага ахвату комуністаў партвучобай і павышэння яе якасці.

Бюро райкома за апошні час сістэматычна заслухоўвае даклады пярвічных партарганізацый і паасобных комуністаў па пытанню партвучобы. Сакратар райкома праводзіць гутаркі аб іх вучобе, як гэта раней звычайна рабілася толькі па гаспадарчых пытаннях. Такія гутаркі даюць магчымасць бліжэй азнаёміцца з таварышам, быць у курсе яго вучобы, павысіць адказнасць. Мы павінны цвёрда памятаць словы тав. Кагановіча:

> «Трэба ўмець знаходзіць і выяўляць людзей, умець разбудзіць іх часам скрытую актыўнасць, не баяцца ўскласці на іх адказнасць, бо людзі растуць і выхоўваюцца, перш за ўсё, пад цяжарам канкрэтнай адказнасці».

Праведзеная ў паасобных партарганізацыях праверка паказвае, што яны не зразумелі ўсёй важнасці работы са спачуваючымі, усяго значэння інстытута спачуваючых, які, як і комсамольская арганізацыя, падрыхтоўвае таварышоў для ўступлення ў партыю.

На прыёме ўдзельнікаў першамайскага параду тав. Сталін указаў:

> «Тысячы і тысячы беспартыйных—адважных, здольных і таленавітых, верай і праўдай служаць рабочаму класу. Многія з іх не ўступілі ў партыю таму, што яшчэ занадта маладыя, іншыя таму, што лічаць сябе яшчэ непадрыхтаванымі, бо высока ставяць і цэняць званне члена партыі».

Гэта ўказанне тав. Сталіна павінна быць пакладзена ў аснову работы са спачуваючымі.

Ёсць у нас і станоўчыя прыклады гэтай работы. На швейнай фабрыцы імя Дзержынскага група спачуваючых складаецца з 15 чалавек, трое з іх пераведзены камісіяй па чыстцы за палітычную няграматнасць. Партком уважліва падышоў да работы са спачуваючымі: ахапіў усіх вучобай, прымацаваў сем добра падрыхтаваных комуністаў для штодзённай дапамогі ў вучобе і рабоце, тры разы ў месяц праводзіць дзень вучобы са спачуваючымі, на якім прапрацоўваюцца важнейшыя артыкулы з газеты «Правда», сістэматычна правярае, як группарторгі дапамагаюць спачуваючым.

Вось што расказвае спачуваючы Юшолек Алексей: «З моманту ўступлення ў групу спачуваючых я навучыўся працаваць самастойна над кнігай, прапрацаваў статут партыі. Вялікую дапамогу аказвае мне прымацаваны парткомам комуніст тав. Канавалаў, які кожную пяцідзёнку займаецца са мною, дапамагае працаваць над кнігай».

Зусім адваротнае наглядаецца ў партарганізацыі Хлебазавода, дзе

парторгам працуе т. Мамуліч. На заводзе 4 спачуваючыя. Усе яны пераведзены ў час чысткі за палітычную няграматнасць. Партарганізацыя з імі і зараз ніякай работы не праводзіць. Спачуваючыя Чэрнін і Кіціна палітычна непадрыхтаваны, газет не чытаюць, не маюць ніякай грамадскай нагрузкі.

* * *

Ажыўленне і палепшанне ўнутрыпартыйнай работы, якога мы дасягнулі пасля прапрацоўкі пастаноў апошняга пленума ЦК КП(б)Б і пленума Ленінградскага гаркома, узняло яшчэ на большую ступень большэвіцкую пільнасць.

За апошні час была выяўлена і выключана з партыі трацкісцкая група Гітэрман-Кац, якая ў свой час галасавала супроць выключэння контррэвалюцыянера Троцкага з партыі, а потым, па-двурушніцку адмовіўшыся ад трацкісцкай лініі, падтрымлівала праз Гітэрмана актыўную сувязь з выключанымі з партыі трацкістамі, атрымлівала літаратуру і ўсімі мерамі старалася скрыць ад партыі сваё галасаванне супроць выключэння Троцкага.

Паводзіны гэтай двурушніцкай трацкісцкай групы паказваюць нам на неабходнасць яшчэ і яшчэ больш узняць нашу пільнасць і рашуча знішчыць малейшыя спробы дзейнасці класавага ворага, дзе-б ён ні ўздумаў працягнуць сваю руку. «Рэвалюцыйная пільнасць з'яўляецца той самай якасцю, якая асабліва неабходна цяпер большэвікам» **(Сталін).**

Мы знаходзімся напярэдадні абмену партбілетаў. Тым часам наша «партыйная гаспадарка» вельмі запушчана. Пры зверцы партбілетаў намі ўстаноўлены выпадкі недапушчальнай распушчанасці комуністаў у адносінах да сваіх партдакументаў. Гэта, у сваю чаргу, вядзе к таму, што дакументы губляюцца, няправільна заносіцца прозвішча, імя, год нараджэння, партстаж, бываюць выпадкі свядомай падздзелкі партстажу і т. д. Трэба цвёрда памятаць, што малейшы выпадак абыякавых адносін да нашай «партыйнай гаспадаркі» зараз-жа выкарыстоўваюць класавыя ворагі ў сваіх контррэволюцыйных мэтах.

За сваімі дакументамі кожны комуніст павінен сачыць, як за зрэнкаю вока. Большэвіцкія адносіны комуністаў да сваіх партдакументаў павінны яшчэ больш умацаваць партыйную дысцыпліну. Кожны комуніст павінен памятаць словы Леніна:

> «Хто хоць колькі-небудзь аслабляе жалезную дысцыпліну партыі пролетарыята (асабліва ў час яго дыктатуры), той фактычна дапамагае буржуазіі супроць пролетарыята» *).

Выкананне ўказанняў тав. Сталіна, рашэнняў партыі аб партыйна-арганізацыйнай і палітычна-выхаваўчай рабоце, большэвіцкае павышэнне ідэйнага ўзроўню комуністаў, узмацненне сапраўды рэволюцыйнай большэвіцкай пільнасці павінны забяспечыць далейшае паспяховае правядзенне задач, якія стаяць перад бабруйскай партарганізацыяй: правядзенне праполкі, падрыхтоўка да ўборачнай і загатоўчай кампаній, выкананне промфінплана нашай прамысловасцю. У гэтай справе агромную ролю павінна адыграць соцыялістычнае спаборніцтва паміж Бабруйскам і Барысавам.

*) Ленін, т. XXV, стар. 191.

Дружнай работай, безупыннай, да канца адданай барацьбой за генеральную лінію нашай ленінска-сталінскай партыі, уздымаючы вышэй рэволюцыйную большэвіцкую пільнасць супроць усіх і ўсякіх ворагаў рабочага класа, пад кіраўніцтвам ЦК КП(б)Б на чале з тав. Гікало змагаючыся за выкананне ўказанняў вялікага Сталіна, бабруйская партарганізацыя павінна заняць і зойме перадавое месца ў КП(б)Б.

---

**М. Клімчук**

**Сакратар Гомельскага гаркома КП(б)Б, загадчык аддзела партыйных кадраў**

# Першыя крокі работы аддзела парткадраў

Пасля рашэння ЦК ВКП(б) аб нашай партарганізацыі мы непараўнальна больш пачалі займацца пытаннямі партыйна-выхаваўчага характару. Партыйная вучоба ў гэтым годзе праходзіць на многа лепш. Буйнейшыя нашы партарганізацыі ў апошні час пачалі загадзя рыхтавацца да партыйных дзён, на якіх абгаварваецца большасць пытанняў унутрыпартыйнага жыцця. Перад партсходамі камуністы робяць самасправаздачы аб вучобе і рабоце.

Аднак, трэба прама сказаць, што, не гледзячы на некаторае палепшанне ў пастаноўцы партыйна-масавай работы, рашэнне ЦК ВКП(б) аб нашай партыйнай арганізацыі застаецца для нас у поўнай сіле. Сапраўднай, поўнай перабудовы арганізацыйна-партыйнай работы ў нас пакуль няма, асабліва-ж слаба наладжана справа вырошчвання партыйных кадраў.

Падрыхтоўкай і вывучэннем партыйных кадраў мы да апошняга часу не займаліся, не вывучалі, не ведалі іх бальшэвіцкіх якасцей. Большасць комуністаў пераключалі з адной работы на другую, або прызначалі на новую толькі на падставе даных уліковай карткі. А ў выніку няўдалага падбору людзей—не мала выпадкаў правалаў і прарываў.

Інструктары гаркома не вывучалі складу нізавых партыйных работнікаў, цэхавых і групавых парторгаў і яшчэ менш ведалі радавых членаў тых партарганізацый, якіх самі абслугоўвалі.

Усё гэта прывяло к таму, што нават у нашых буйнейшых партарганізацыях (Гомсельмаш, Дрэваапрацоўчы камбінат, ф-ка «Комінтэрн», «Праца», «Пролетарый» і інш.), якія налічваюць ад 100 да 170 комуністаў, партыйны актыў складае 10—15 чалавек. Нізавыя партработнікі заседжваюцца на сваёй рабоце па 5—7 год.

Рад комуністаў з нізавых партработнікаў за апошні час палітычна выраслі і ўпаўне могуць быць вылучаны на самастойную партыйную работу, але іх не прасоўваюць нібы з-за адсутнасці замены. Замяніць гэтых таварышоў кожная партарганізацыя безумоўна можа, але няведанне людзей, баязнь вылучаць здольных, растучых радавых членаў партыі, нежаданне штодзенна працаваць з імі, дапамагаць у рабоце—вось асноўныя прычыны, якія прывялі да вузкага кола партыйнага актыва ў гэтых арганізацыях.

* * *

Гарадскі камітэт партыі і партарганізацыі многа ўвагі ўдзялялі партыйнай вучобе, аднак у большасці абмежаваліся толькі арганізацыйным бокам гэтай справы: вялі ўлік наведвання, рэагавалі на пропуск заняткаў і т. д. Пытаннямі-ж ідэйнага зместу лекцый, праверкаю таго, як рыхтуюцца прапагандысты да заняткаў, як засвойваюць слухачы матар'ял, рэагаваннем на выпадкі неахайных адносін як прапагандыстаў, так і слухачоў да заняткаў (а такіх фактаў у нас вельмі многа) парткомы і парторгі стала не займаюцца.

Адсутнасць штодзеннага партыйнага кантроля за ідэйным зместам вучобы спрыяла таму, што паасобныя прапагандысты дапусцілі рад скажэнняў, антыпартыйнага тлумачэння некаторых момантаў з гісторыі партыі. Так было ў партыйнай школе міліцыі, у некаторых комсамольскіх палітшколах. Партарганізацыі своечасова не высвялі падобныя факты.

Фармалізм і школярства—асноўныя недахопы ў рабоце нашых партыйных школ.

На спіртзаводзе ўсіх членаў партыі, кандыдатаў і комсамольцаў, не ўлічваючы іх узроўню, сабралі ў адным гуртку па вывучэнню гісторыі партыі. У рэзультаце тт. Піткевіч, Злоткін, Тітавец, Аляшкевіч вельмі дрэнна засвойвалі курс. Партком гэтым мала цікавіўся, бо лічыў сваю ролю выкананай тым, што стварыў школу і наладзіў улік наведвання.

Многія нашы партыйныя работнікі забылі важнейшае ўказанне тав. Кагановіча на XVII з'ездзе партыі аб ідэйным выхаванні комуністаў:

> «Большэвік—не школьнік, ён выхоўваецца палітычна, яго школьная вучоба павінна спалучацца з палітыкай і практыкай штодзеннай барацьбы».



* * *

Партыйныя сходы не ператварыліся яшчэ ў сапраўдныя школы, якія на канкрэтных пытаннях практычнай работы вучаць і выхоўваюць комуністаў. Нават у буйных партарганізацыях добра падрыхтаваныя партыйныя сходы праводзяцца толькі час ад часу.

6 красавіка сакратар парткома аўчына-шубнага завода т. Дзівакоў намеціў на 8-ае правесці партдзень па прапрацоўцы рашэнняў Ленінградскага гаркома, не забыўшы, вядома, указаць, каб да сходу добра падрыхтаваліся. Зусім зразумела, што за 1—2 дні падрыхтоўку можна правесці толькі для формы.

Стварэнне аддзела партыйных кадраў у нашым гаркоме ёсць важнейшае арганізацыйнае мерапрыемства. Яно павінна аказаць вялікі ўплыў на ліквідацыю недахопаў у нашай партыйна-арганізацыйнай і палітычна-выхаваўчай рабоце.

Аддзел партыйных кадраў найперш узяўся за арганізацыю глыбокай прапрацоўкі рашэнняў Ленінградскага гаркома ВКП(б), красавіковага пленума ЦК КП(б)Б і перадавых артыкулаў «Праўды» аб партыйнай рабоце. 8-га красавіка па ўсёй партарганізацыі праведзен быў адзіны партыйны дзень.

Рыхтуючыся да партдня, мы склікалі інструкцыйную нараду сакратароў парткомаў і парторгаў, прымацавалі да пярвічных арганізацый членаў бюро, членаў пленума і кіруючы гарадскі партыйны

актыў, выпусцілі спецыяльную брашуру з рашэннем Ленінградскага гаркома і перадавымі «Праўды» і прапрацавалі гэтыя матар'ялы ў партгрупах з комуністамі адзіночкамі, адначасова абгаварваючы стан партыйнай работы ў кожнай з іх і збіраючы прапановы комуністаў аб тым, якія пытанні яны лічаць неабходным паставіць на агульным партыйным сходзе.

На ф-цы «Везувій» у падрыхтоўцы да партыйнага сходу прынялі ўдзел 30 чалавек партыйнага актыва. Яны праверылі, як вучацца комуністы, іх авангардную ролю на вытворчасці і палітычны ўплыў на беспартыйных рабочых. У спрэчкі запісалася 50 проц. арганізацыі, выказалася 15 чалавек.

На фабрыцы «Комінтэрн» пачалі з прапрацоўкі рашэнняў Ленінградскага гаркома з цэхавымі парторгамі, якія потым правялі гэту работу з групамі комуністаў. К партыйнаму сходу выпусцілі спецыяльны нумар шматтыражкі аб стане партработы ў цэхах і брыгадах і дыяграмы аб пастаноўцы партыйнай вучобы. На самым сходзе чыталі рашэнне Ленінградскага гаркома, па кожнаму раздзелу разгортваліся спрэчкі і ўносіліся прапановы. На сходзе выступілі 24 комуністы, некаторыя з іх—упершыню. Так рыхтаваліся і праводзілі партсходы «Пролетарый», фабрыка «Праца», Гомсельмаш, шклозавод і інш., шырока разгарнуўшы самакрытыку і крытыку недахопаў партыйнай работы.

Рашэнні агульных партыйных сходаў, як практычная праграма работы кожнай партарганізацыі, упершыню складаліся на падставе прапаноў, унесеных комуністамі да сходу і на самым сходзе. Былі выпадкі і фармальных адносін. На панчошнай фабрыцы, у соўпартшколе, Белгандлі абмежаваліся тым, што прачыталі матар'ялы пленумаў на сходах, 2-3 чалавекі выказаліся, а камісіі даручана было выпрацаваць пастанову. Гарком партыі ўзяў гэтыя арганізацыі пад непасрэдны нагляд інструктароў аддзела парткадраў і даручыў правесці паўторныя сходы.

21 красавіка праведзены нарады ўсіх сакратароў парткомаў і парторгаў аб выніках партдзён і рэалізацыі іх рашэнняў. Пасля гэтага работа значна ажывілася.

На камбінаце імя Гікало для партыйнага актыва арганізавалі гурток па вывучэнню гісторыі партыі, вылучылі 10 чалавек у рэзерв для нізавой партработы і для падрыхтоўкі іх стварылі семінар. Вылучылі 23 палітбяседчыкаў, з якімі праз кожныя пяць дзён праводзіцца кансультацыя ў партгабінеце. Кожны палітбяседчык абслугоўвае пэўную групу беспартыйных рабочых. Прымацавалі комуністаў да інтэрнатаў, што на многа палепшыла палітычную і культурна-масавую работу ў інтэрнатах. Пачалі лепш працаваць са спачуваючымі, сакратар парткома перыядычна збірае іх для гутаркі на тую ці іншую тэму.

На заводзе «Пролетарый» працуе гурток кіруючага партыйнага актыва па вывучэнню гісторыі партыі. Наладжана сістэматычная работа з парторгамі і палітбяседчыкамі. У падрыхтоўцы да партыйнага сходу, прысвечанага рабоце цэхавай партарганізацыі за час пасля XVII з'езда партыі, удзельнічаюць больш дзесяці комуністаў.

На Гомсельмашы пераглядзелі нагрузкі комуністаў і прымацавалі да адстаючых больш падрыхтаваных таварышоў з партыйнага актыва. На шклозаводзе для партарганізатараў і дзесяці чалавек рэзерва праводзяць кароткатэрміновыя курсы. Для 15 палітбяседчыкаў партгабінет арганізаваў сістэматычную кансультацыю. На парткоме

і партыйных сходах слухачы партшкол рабілі справаздачы аб сваёй вучобе, што ў значнай меры ўзняло яе якасць.

Палепшыла работу са спачуваючымі і партарганізацыя фабрыкі «Комінтэрн». Нядаўна там адбыўся вельмі цікавы сход спачуваючых. З невялікім дакладам аб усходнім пакце выступіў спачуваючы т. Іёфэ. Сам дакладчык і ўся яго аўдыторыя добра падрыхтаваліся, таму сход прашоў жыва і цікава. К чарговаму сходу спачуваючых па пытанню аб статуце партыі рыхтуюцца тры дакладчыкі па асобных раздзелах статута.

На ложкавай фабрыцы ніякай партыйна-выхаваўчай работы сярод комуністаў наогул не праводзілася. Пасля-ж сходу створан гурток па вывучэнню гісторыі партыі. Інструктар гаркома дапамог парторгу наладзіць партыйна-выхаваўчую работу ў арганізацыі. Гурткі па вывучэнню гісторыі партыі створаны пры доме папраўчых работ, для пажарнікаў, на заводзе «Чырвоны хімік». На маргарынавым заводзе арганізавалі партыйны габінет.

Пра ажыўленне партыйнай работы гаворыць і змест партыйных дзён 26 красавіка. На камбінаце «Спартак» па пытанню аб рабоце са спачуваючымі праведзены былі цэхавыя партыйныя сходы, на якіх са справаздачай выступілі члены паркома. На фабрыцы «Комінтэрн» заслуханы індывідуальныя справаздачы комуністаў на цэхавых партсходах. На мясакамбінаце пераведзеныя па чыстцы з членаў у кандыдаты расказалі аб тым, як яны рыхтуюцца да пераводу ў члены партыі. На спіртзаводзе адбыліся справаздачы комуністаў аб комуністычным выхаванні дзяцей. На камбінаце імя Гікало—цэхавыя партыйныя сходы па пытанню аб кіраўніцтве нізавым друкам.

Асноўныя пытанні, якімі аддзел партыйных кадраў заняўся на бліжэйшы адрэзак часу,—гэта падрыхтоўка кадраў і праверка рашэнняў гаркома і партарганізацый.

Мы паставілі перад сабой задачу—стварыць не менш як са 100 комуністаў рэзерв для вылучэння на партыйную работу. Пярвічныя партарганізацыі ўжо вылучылі ў рэзерв 83 комуністаў, з іх 10 чалавек прызначаецца на самастойную партыйную работу ў якасці сакратароў парткомаў і парторгаў буйных цэхавых прадпрыемстваў.

У бліжэйшыя дні адкрываем двухдэкадныя курсы па падрыхтоўцы рэзервістаў. Праз гэтыя курсы за некалькі скліканняў думаем прапусціць усіх вылучаных у рэзерв комуністаў, а таксама перападрыхтаваць парторгаў. Для сакратароў парткомаў арганізуем у чэрвені месячныя курсы.

Трэба сказаць, што не ўсе партарганізацыі па-большэвіцку аднесліся да важнейшага мерапрыемства партыі — стварэння партыйнага рэзерва. Былі выпадкі, калі ў рэзерв вылучалі неправераных, нявытрыманых комуністаў, недастойных быць на партыйнай рабоце. На фабрыцы «Праца», у палітасвет-установах, на аўчына-шубным заводзе ў рэзерв вылучалі пераведзеных па чыстцы ў кандыдаты партыі. Гэтыя памылкі гарком выправіў.

На працягу мая месяца кожны інструктар гаркома па сваёй групе вывучае вылучаных у рэзерв таварышоў, пасля чаго яны будуць зацвярджацца бюро гаркома. Інструктары аддзела парткадраў з кожным сакратаром парткома і парторгам прапрацоўваюць цяпер іх месячныя планы работы.

Крыху ажывілася работа партарганізацый совецка-кааперацыйных устаноў. Трэба прызнацца, што гэты ўчастак быў у нас зусім

закінуты. Ранейшы інструктар ГК займаўся ў гэтых арганізацыях чым хочаце, толькі не партыйнай работай. Кадры партработнікаў былі там выпадковыя, неправераныя. Зараз гарком стварыў партыйную групу ў новым універмагу і накіраваў туды для работы парторгамі некалькі комуністаў з вытворчасці. У савецка-кааперацыйных партарганізацыях праводзім цяпер адзіны партдзень па пытанню аб парткіраўніцтве нізавым друкам, а ў некаторых з іх у другі раз прапрацоўваем рашэнні Ленінградскага гаркома і красавіковага пленума ЦК КП(б)Б аб партыйнай рабоце. На бюро і сакратарыятах ставяцца пытанні работы гэтых партарганізацый, на гаркоме заслухоўваюцца індывідуальныя справаздачы комуністаў, якія ўзначальваюць гандлёвыя арганізацыі.

Таксама палепшылася партыйна-палітычная работа ў партарганізацыях Ляснога і Педагагічнага інстытутаў. Комуністы, студэнты і выкладчыкі сур'ёзна ўзяліся за вывучэнне гісторыі партыі. У гуртках чытаюцца лекцыі на паасобныя тэмы з гісторыі большэвізма.

Для павышэння палітычнага і культурнага ўзроўню сакратароў парткомаў, дырэктароў, старшынь ФЗМК пры доме партактыва працуюць семінары. Зараз праводзіцца рад лекцый па гісторыі партыі, міжнароднаму становішчу, літаратуры.

Гарком партыі ўзяўся за праверку сваіх асноўных рашэнняў аб рабоце са спачуваючымі, партыйнай вучобе, вырошчванні і падрыхтоўцы партыйных кадраў. Праводзім усебаковае абследванне партыйна-выхаваўчай работы ў чатырох партарганізацыях: Шклозавода, камбіната імя Гікало, горсовета і школьных работнікаў.

На пленуме гаркома 28 красавіка заслухалі, як рыхтуе і праводзіць партдні фабрыка «Комінтэрн» і як комуністы вывучаюць гісторыю партыі на фабрыцы «Везувій» і ў Лесатэхнічным інстытуце. Вялікім недахопам было тое, што інструктары як гаркома, так і пазаштатныя, прыняўшыя ўдзел у падрыхтоўцы да пленума, не дапамагалі партарганізацыям знішчыць на месцы выяўленыя недахопы. Пленум даручыў інструктарам аддзела парткадраў дапамагчы гэтым партарганізацыям выпрацаваць канкрэтны план работы і пераварыць яго ў жыццё.

27 красавіка адбылося першае паседжанне сакратарыята па пытаннях жыцця і работы партарганізацыі. Гэта паседжанне паказала нам агромную ролю сакратырыята ў палепшанні аперацыйнага кіраўніцтва нізавымі партарганізацыямі.

* * *

Некаторае палепшанне арганізацыйна-партыйнай работы сказалася на ўсіх галінах нашага вытворчага і грамадскага жыцця. На прадпрыемствах амаль не стала прарываў. Камбінат імя Гікало, шклозавод, фабрыка «Клары Цэткін», якія цягнулі ўніз усю гарадскую прамысловасць, зараз працуюць нармальна, а ў красавіку і маі перавыканалі вытворчыя планы.

Рэалізацыя падпіскі на пазыку—гэта важнейшая палітычная кампанія—праведзена з вялікім поспехам. Партарганізацыі прарабілі вялікую масавую растлумачальную работу, узняўшы на гэтую справу сотні беспартыйных рабочых-актывістаў.

Яшчэ не мала адмоўнага ў нашай рабоце. Рад партыйных арганізацый выносяць агромныя пастановы і дэкларацыі, не рухаючы

справу з месца, зусім нездавальняюча пастаўлена партыйная работа на вёсцы.

Наша партыйная арганізацыя ў асноўным зразумела ўвесь глыбокі сэнс рашэння ЦК КП(б)Б аб стварэнні аддзелаў парткадраў, пастаноў Ленінградскага гаркома і красавіковага пленума ЦК КП(б)Б і, закасаўшы рукавы, узялася за іх практычнае ажыццяўленне. Дасягненні маем пакуль што нязначныя, недахопаў больш. Але з дапамогай партыйнага актыва і ўсёй партарганізацыі, паклаўшы ў аснову сваёй работы геніяльнае ўказанне тав. Сталіна аб тым, што з «усіх каштоўных капіталаў, якія ёсць у свеце, самы каштоўны капітал—гэта людзі, кадры»,—гомельская партарганізацыя вырасціць не толькі для сябе, але і для ўсёй КП(б)Б сотні бясстрашных барацьбітоў за справу соцыялізма.

---

**П. Хадасевіч**

Сакратар Менскага Гаркома КП(б)Б
Заг. аддзелам Партнадраў

# Аб рабоце са спачуваючымі

У рашэннях XVII партыйнага з'езда партыі і ЦК КП(б)Б «Аб рабоце са спачуваючымі» указваецца, што работа з беспартыйным актывам, уцягненне лепшай часткі гэтага актыва ў спачуваючыя—адна з буйнейшых задач кожнай партыйнай арганізацыі.

> «Гэта справа вельмі важная і добрая, трэба толькі яе не папсаваць, трэба, каб партыйныя арганізацыі ўдзялялі групам спачуваючых належную ўвагу і сапраўды вялі сярод іх кваліфікаваную, ідэйна-палітычную работу».

Так гаварыў тав. Кагановіч на XVII з'ездзе партыі.

На-жаль, гэты вялікі і важны ўчастак работы многімі партарганізацыямі, у тым ліку і менскім гаркомам партыі, недаацэньваўся. Як паказала праведзенае ў красавіку абследванне раду партыйных арганізацый, пасля XVII з'езда партыі па менскай партарганізацыі было прынята толькі 350 чалавек, што разам з пераведзенымі па чыстцы складала да 650 чалавек.

Партарганізацыі совецкіх установ, ВНУ гэту работу зусім не праводзілі, бо чамусь лічылі, што ў спачуваючыя можа паступіць толькі рабочы (выходзіць, што служачы, вучань, спецыяліст адразу могуць прымацца ў партыю).

Сакратарыят і бюро менскага гаркома КП(б)Б, вывучыўшы стан работы са спачуваючымі, указалі партарганізацыям на недапушчальнасць неахайных адносін да гэтага важнейшага ўчастка. Праведзены былі спецыяльныя партдні аб рабоце са спачуваючымі. У сваім рашэнні ад 8 красавіка бюро гаркома вызначыла рад канкрэтных мерапрыемстваў па палітычнаму выхаванню спачуваючых і рабоце з беспартыйным актывам: дыферэнцыяваны падыход і прымацаванне да спачуваючых палітычна развітых, стойкіх комуністаў, інструктаж прымацаваных, скліканне спецыяльных нарад з папярэдняй падрыхтоўкаю, партыйныя даручэнні спачуваючых, вывучэнне праграмы, статута і гісторыі партыі, правільнае афармленне і ўлік спачуваючых, вывучэнне і ўцягванне ў палітгурткі беспартыйнага актыва і т. д.

Бюро гаркома звярнула асаблівую ўвагу партыйных арганізацый на недапушчальнасць аслаблення работы з таварышамі, пераведзенымі ў спачуваючыя камісіямі па чыстцы.

У выніку мы маем рост груп спачуваючых і палепшанне палітычна-выхаваўчай работы з імі, праўда, яшчэ не ў дастатковай ступені і далёка не ва ўсіх партыйных арганізацыях.

Для характарыстыкі работы са спачуваючымі возьмем рад буйных партыйных арганізацый.

На заводзе «Большэвік»—36 спачуваючых, з іх 19 пераведзена камісіяй па чыстцы і 17 новапрынятых. Пераважная частка спачуваючых—старыя кадравыя рабочыя з вытворчым стажам з 1911 і 1913 гг.

Усе новапрынятыя—лепшыя ўдарнікі, з іх 6 чалавек—брыгадзіры і майстры. Амаль усе маюць нагрузкі і вучацца ў гуртках: 5 чалавек займаюцца ў кандыдацкай школе; 4—у гуртку малаграматных, 3—у СПШ, 5—у школе спачуваючых і т. д. Спачуваючыя размяркоўваюцца па гуртках паводле ўзроўню падрыхтоўкі. Пасля прапрацоўкі рашэння пленума Ленінградскага гаркома ўсе гурткі пераключыліся на вывучэнне пасляокцябрскага перыяда гісторыі партыі.

Да кожнага спачуваючага партком прымацаваў комуністаў. Праўда, не ўсе яны як след працуюць са спачуваючымі. Два разы ў месяц праводзяцца нарады ўсіх спачуваючых завода, на якіх, побач з пытаннямі бягучага парадку, праводзяцца гутаркі па розных пытаннях міжнароднай і ўнутранай палітыкі. Прапрацавалі ўжо статут сельскагаспадарчай арцелі, змены ў канстытуцыі, аб Саарскім плебісцыце, пастанову ЦК ВКП(б) аб прыёме ў члены і кандыдаты партыі пераведзеных камісіямі па чыстцы, рашэнне пленума Ленінградскага гаркома, прамову тав. Сталіна і рад іншых.

Гутарка са спачуваючымі паказала, што ў асноўным яны правільна засвоілі прапрацаваны матар'ял і большасць адказвае на пытанні партыйна-завостранай мовай. Павярховыя і няправільныя адказы параўнаўча рэдкі. Спачуваючыя праяўляюць большэвіцкую пільнасць да антыпартыйных элементаў. Тав. Рэйдэр выкрыў контррэволюцыйнае выступленне аднаго чужака.

Многія таварышы за час прабывання ў спачуваючых значна ўзраслі і прасунуліся на практычнай рабоце. Тав. Гуліс была работніцай, а зараз з'яўляецца начальнікам цэха. Тав. Альперовіч палітычна ўзрос, добра выконвае палітычныя даручэнні, праводзіць гутаркі з беспартыйным актывам. Тав. Доўнар з'яўляецца членам горсовета, добра выконвае сваю нагрузку. Тав. Хвашчэўская—старшыня дэпутацкай групы, і інш.

Тав. Сахановіч, пераведзеная камісіяй па чыстцы, доўгі час адмаўлялася ад усякіх нагрузак. Партком прымацаваў да яе члена партыі, і зараз яна з'яўляецца лепшай ударніцай па ліквідацыі сваёй няграматнасці.

Партыйны камітэт увёў у практыку сваёй работы заслухоўванне самасправаздач спачуваючых. Заслуханы тт. Молчан (па ўказанню гаркома), Бухман, Дзергай Соня і інш.

На май—чэрвень у плане работы партыйнай арганізацыі завода «Большэвік» вызначаны наступныя мерапрыемствы:

1. На кожным паседжанні парткома заслухоўваць аднаго спачуваючага і судаклад прымацаванага.

2. У выхадны дзень правесці нарады спачуваючых у парку культуры і адпачынку па пытанню: «Што партыя патрабуе ад комуністаў».

3. Тт. Аксельроду, Мірскаму і Пятрову праверыць работу са спачуваючымі партгрупы механічнага цэха.

4. Для вывучэння вопыту работы са спачуваючымі арганізаваць экскурсію парторгаў і партактыва на фабрыку імя Кагановіча.

5. Правесці сустрэчу спачуваючых са старымі большэвікамі, экскурсію ў музей рэволюцыі і т. д.

Партарганізацыя завода «Большэвік» мае рад дасягненняў у ра-

боце са спачуваючымі, але гэта далёка не ўсё, што трэба зрабіць: яшчэ недастаткова арганізавана работа з беспартыйным актывам.

Фабрыка «Окцябр» на 7 красавіка мела 71 спачуваючага: 19 пераведзеных па чыстцы і 48 новапрынятых.

Па рабочаму стажу новапрынятыя размяркоўваюцца наступным чынам: звыш 20 год—10 чал., ад 20—15 г. 8 чал., ад 15—10 г. 10 чал., ад 10—8 год 12 ч., ад 8—5 год 4 чал., ніжэй 5 г. 2 чалавекі.

Такім чынам асноўная маса спачуваючых—старыя кадравыя рабочыя. З гэтых 48 спачуваючых—18 жанчын.

Да пастановы ЦК КП(б)Б было ўсяго 28 спачуваючых, сярод якіх ніводнага беларуса. З 7 красавіка па сучасны момант прынята 12 чалавек.

Усе спачуваючыя ахоплены той ці іншай формай вучобы (кандыдацкая школа, рабфак, школа малаграматных, бягучай палітыкі і т. д.). Ёсць гурткі, дзе выкладанне вядзецца на яўрэйскай мове.

Не вельмі добра з наведванем школ. Калі ў тав. Хайтовіча з 20 заняткаў толькі 2 пропускі, то ў Годэра—6, Шустера—8, у Салавейчыка—8, а Аксельрод з 11 заняткаў наведаў толькі 3.

Асабліва дрэнна справа з вучобай пераведзеных у спачуваючыя камісіяй па чыстцы: 4 зусім не займаюцца, а 3 нерэгулярна наведваюць заняткі. Адсюль відаць, што партком недастаткова праводзіць у жыццё рашэнне ЦК КП(б)Б аб дыферэнцыяванай рабоце з кожным спачуваючым. Некаторыя спачуваючыя жанчыны вучацца на курсах чырвоных сясцёр. Курсы гэтыя мала дапамагаюць палітычнаму росту, бо палітгадзіна зводзіцца па сутнасці да інфармацыі аб бягучай палітыцы.

Нагрузкі спачуваючых размеркаваны няроўнамерна. Некаторыя таварышы (Краснасельскі, Файн) зусім не маюць нагрузак, а іншыя (Альтман, Аксельрод, Фурман) нясуць па 3—4 нагрузкі. Пераведзены ў спачуваючыя Альтман вучыцца ў соўпартшколе акуратна, падаў заяву аб пераводзе ў кандыдаты партыі і мае 4 нагрузкі: стараста СПШ, член фабрычнага бюро Чырвонага крыжа, цэхорг АСО, працуе ў групе РКК. Апошнюю нагрузку ён прасіў не даваць, але парторг Перавозкін не згадзіўся, заявіўшы: «Ты павінен папрацаваць для партыі». Такія адносіны прыводзяць к таму, што некаторыя рабочыя не хочуць ісці ў групу спачуваючых, бо баяцца бясконцых нагрузак. Так, рабочы завода «Большэвік» т. Дыкштэйн заявіў, што ён не хоча звязваць сябе лішнімі абавязкамі.

На фабрыцы «Окцябр» далёка не ўсе спачуваючыя маюць прымацаваных, пры чым апошнія недастаткова або зусім не працуюць. Напрыклад, прымацаваны т. Лапідус, не гледзячы на просьбы спачуваючага Руманава, ні разу яму не дапамог. Спачуваючы Салавейчык скардзіцца на тое, што парторг Фрейнкліх ім зусім не цікавіцца. Спачуваючыя лічаць, што агульна-фабрычныя нарады мала дапамагаюць, неабходна індывідуальная работа. Спачуваючыя Фурман, Вол, Рубінштэйн і інш. заяўляюць, што арганізаваная парткомам сустрэча са старымі большэвікамі дала ім вельмі многа і выказваюць пажаданне часцей наладжваць такія сустрэчы, увязваючы іх з прапрацоўкаю гісторыі партыі.

Наогул настроі спачуваючых на фабрыцы «Окцябр» здаровыя. Партыйная арганізацыя павінна значна палепшыць работу з імі, асабліва з беспартыйным актывам.

Нельга не адзначыць безадказную пастаноўку афармлення і ўліку спачуваючых. Заявы і рэкамендацыі пішуцца на маленькіх абрыўках

паперы. Няма звестак аб нагрузцы і вучобе спачуваючых Сака, Шэўчука, Зуковіча, Лісаковіча і іншых.

Работніца Ахрамовіч з 5 гадовым вытворчым стажам працуе на Фабрыцы «Окцябр» з 1934 года, а ў картцы ўліковай яна лічыцца мужчынай з 15 гадовым стажам і на фабрыцы—з 1928 г. Або т. Дордзік лічыцца пераведзеным па чыстцы ў спачуваючыя, тым часам як ён з'яўляецца новапрынятым.

На фабрыцы «Окцябр» у групу спачуваючых прынялі Слабодскага, які два разы выключаўся з партыі, двойчы ўстрымаўся ад галасавання пры вывадзе Троцкага з палітбюро. На заводзе імя Кірава прынялі ў спачуваючыя Бухбіндэра—выхадца з гандляроў.

На заводзе імя Варашылава ўсіх спачуваючых 24 чалавекі: пераведзеных 11, новапрынятых 13. Усе новапрынятыя—лепшыя ўдарнікі вытворчасці, добрыя грамадскія работнікі, па соцстановішчу—рабочыя (Гурэвіч, Белы, Доўнар—член ЦВК БССР і інш.).

Парторгі і сакратар парткома рэгулярна праводзяць са спачуваючымі гутаркі. У тт. Любчыка, Злобіна, Шакуры гутаркі праведзены былі на даму. Спачуваючым Гнедзенка і Васілевічу партарганізацыя аказала матар'яльную дапамогу, 4 чалавекі пасланы ў начны прафілакторый і 1 на курорт.

Для спачуваючых арганізавана школа па вывучэнню статута і асноўных пытанняў з гісторыі партыі. Школай кіруе сакратар парткома. Некалькі раз выпускаліся спецыяльныя нумары шматтыражкі аб рабоце са спачуваючымі, праведзены партдні па цэхах і т. д. 21 лютага партком склікаў нараду спачуваючых аб далейшай рабоце з імі, пасля чаго правялі культпаход у тэатр. Большасць спачуваючых маюць нагрузкі і актыўна ўдзельнічаюць у грамадскай рабоце.

Па фабрыцы «КІМ» 14 спачуваючых. 17 мая правялі закрыты партыйны сход, на якім заслухалі справаздачы парторгаў Ліпковіча, Лінгевіча, Оксенкруг, а таксама самасправаздачы спачуваючых Дукора, Кагана, Гофмана і Рубінштэйна. Сход адзначыў недастатковую палітычна-выхаваўчую работу, слабы рост групы спачуваючых, хоць на заводзе ёсць старыя кадры рабочых, і вынес рашэнне:

1. Кожнаму парторгу прапрацаваць статут і праграму партыі сярод сваіх спачуваючых, уцягваючы ў гэтую прапрацоўку беспартыйных рабочых.

2. Правесці 2—3 агульныя лекцыі па гісторыі партыі для спачуваючых па пытаннях барацьбы партыі з «левымі» комуністамі, зіноўеўска-трацкісцкай групай і інш.

3. Правесці гутарку спачуваючых са старымі большэвікамі.

4. Парторгам арганізаваць чытку мастацкай літаратуры і культпаходы для спачуваючых, праводзіць гутаркі па пытаннях міжнароднай палітыкі, выявіць наяўнасць бібліятэчак у спачуваючых і аказаць дапамогу у набыцці іх.

5. Больш падрыхтаваных спачуваючых—Дукава, Кагана, Дукора, Яноўскага—выкарыстаць як бяседчыкаў.

6. Правесці гутаркі з кадравымі рабочымі па растлумачэнню ім задач і мэт арганізацыі груп спачуваючых.

На заводзе імя Кірава ў групе спачуваючых 29 чалавек, з іх пераведзеных па чыстцы 16, новапрынятых 18. Афармленне спачуваючых пастаўлена безадказна. Заявы ёсць толькі на 11 новапрынятых. Несцюк і Эпштэйн маюць толькі па аднаму паручыцелю. У парткоме няма рашэння аб прыёме ў спачуваючыя Ермашкевіча і Андрыянава, хоць яны лічацца спачуваючымі. Рэкамендуючыя часта не ўказваюць

ні нумара свайго партбілета, ні партыйнага стажу. У такарным цэху практыкуецца такое афармленне спачуваючых: пасля партыйнага сходу пытанне аб зацверджанні пераносіцца на сход рабочых цэха, а потым ужо на партком. У ліцейным цэху пры прыёме ў спачуваючыя галасуюць і комсамольцы.

Большая частка спачуваючых (Парфінчук, Магер і іншыя) актыўна ўдзельнічаюць у грамадскай рабоце прадпрыемства, але палітычна-выхаваўчая работа вядзецца з імі дрэнна. Палітгурток з 18 новапрынятых акуратна наведваюць 4 чалавекі, неакуратна—6, а астатнія зусім не ходзяць. Спачуваючыя Ліхт, Ляперт, займаючыся ў гуртку з пачатку навучальнага года, не ведаюць статута партыі. Прымацаваныя працуюць слаба. Напрыклад, член партыі т. Кацовіч, прымацаваны да спачуваючага Бакіноўскага, даручыў яму выясніць, як рабочы кузнечнага цэха Катушкоў выхоўвае сваіх дзяцей. Тав. Бакіноўскі выявіў нездаровыя адносіны Катушкова да сваіх дзяцей і не ведаў, што рабіць далей. Прымацаваны-ж аб сваім даручэнні зусім забыўся. Спачуваючы Кождан, хоць і акуратна наведвае палітгурток, але дрэнна засвойвае матар'ял, а парторг ні ў чым не дапамагае і толькі пытаецца ці быў на палітзанятках.

Усяго рабочых на заводзе 729 чалавек, ІТР—74, служачых—70. Рабочых са стажам больш 10 год—10 чалавек. Ніякай работы ні з беспартыйным актывам, ні з астатнімі рабочымі партыйная арганізацыя не праводзіла.

Зусім дрэнна пастаўлена работа са спачуваючымі на Электрастанцыі. Усяго ў групе спачуваючых 15 чалавек, з іх 3 пераведзены камісіяй па чыстцы. Усе спачуваючыя—лепшыя ўдарнікі, старыя кадравыя рабочыя са стажам ад 5 да 30 год. Толькі на 6 чалавек ёсць пастанова парткома аб прыёме ў групу спачуваючых. На астатніх 6 ніякага рашэння няма. Заявы Врублеўскага і Рафаловіча згублены. Рэкамендацыі даюцца без указання партстажу і нумара партбілета. Ёсць факты, калі заявы ляжаць па 3 месяцы і нават па году. Тав. Тараскевіча партгрупа прыняла 21 лістапада 1934 года, а партком яго справы яшчэ не разглядаў. Тав. Гурын з 28 студзеня 1935 года, тав. Банькоўскі з 2 красавіка 1934 года да гэтага часу не афармлены. З прычыны такіх адносін да заяў некаторыя з таварышоў не лічаць сябе спачуваючымі.

Усе спачуваючыя скардзяцца на тое, што партыйны камітэт не вядзе работы з імі. Тав. Банькоўскі не раз прасіў аб прымацаванні комуніста, але просьба яго не выканана. Парторг машыннага зала Курылюк прымацаваў кандыдата партыі Месмана адразу да ўсіх спачуваючых цэха, таму Месман ніякай работы з імі не вядзе. Рад спачуваючых не маюць ніякай нагрузкі. Такім чынам, партыйны камітэт Электрастанцыі, не гледзячы на ўсе ўказанні гаркома, работы са спачуваючымі не вёў.

З дапамогай інструктара гаркома цяпер наладзілі ўлік спачуваючых, склалі план работы на май—чэрвень, разам з парткомам прымацавалі комуністаў да спачуваючых і перагледзелі нагрузкі.

Работа са спачуваючымі на прадпрыемствах, не гледзячы на рад станоўчых фактаў, яшчэ мае вельмі многа недахопаў. Партарганізацыі Электрастанцыі, завода імя Кірава, фабрыкі «Чырвоны тэкстыльшчык» і рад іншых прадпрыемстваў работу са спачуваючымі ўсё яшчэ не разгарнулі.

У ВНУ і некаторых совецкіх установах, дзе раней зусім не было

спачуваючых, за выключэннем пераведзеных па чыстцы, ужо арганізаваны групы.

У Мед'інстытуце група спачуваючых складаецца з 21 чалавека, з іх 6 навуковых працаўнікоў. За выключэннем 3 чалавек, усе—новапрынятыя. Партком уважліва падыходзіць да падбору спачуваючых, усебакова вывучае іх. Пяці чалавекам па розных прычынах было адмоўлена ў прыёме.

Арганізаваны два гурткі для спачуваючых па вывучэнню праграмы і статута партыі і пасляокцябрскага перыяда гісторыі партыі; адным гуртком кіруе сакратар парткома т. Брунштэйн, а другім—член партыі, навуковы работнік. Са спачуваючымі рэгулярна праводзяцца гутаркі, большасць маюць нагрузкі.

У парарганізацыі БДУ новапрынятых 15 чалавек, з іх 3 навуковыя работнікі. Адзін навуковы работнік падаў заяву пры распрацоўцы прамовы тав. Сталіна. Прыток заяў прадаўжаецца.

Такі прыліў у групу спачуваючых па Мед'інстытуту і БДУ тлумачыцца тым, што партыйныя арганізацыі шырока разгарнулі работу сярод беспартыйнага актыва, растлумачвалі задачы груп спачуваючых, прымацоўвалі комуністаў для індывідуальнай работы з беспартыйнымі, арганізавалі розныя гурткі, даклады, лекцыі па вывучэнню палітыкі партыі.

У Палітэхнічным інстытуце прынята ўсяго 4 чалавекі, 7 чал. пераведзена камісіяй па чыстцы. Інстытут мае буйную партыйную арганізацыю і агромны рэзерв для росту груп спачуваючых, аднак работа сярод беспартыйнага актыва не разгорнута.

Партарганізацыя Соўбуда прыняла ў групу спачуваючых 3 чал., Акадэміі Навук—3 чал. і КІЖ'а—2 чал.

Некаторы рост груп спачуваючых наглядаецца ў партарганізацыях совецкіх устаноў, аднак яшчэ вельмі слабы. У Наркамфіне прынята 3 чал., НКУнутргандлі—2 чал. (заявы ляжаць па 4 месяцы), у Белводгасе—4 чал., у НКЗ многа жадаючых уступіць у групу спачуваючых, аднак прыём іх яшчэ не аформлен.

Прагляд работы са спачуваючымі паказаў безумоўны зрух (завод «Большэвік», фабрыкі «КІМ» і «Окцябр», Мед'інстытут, БДУ), але ўсё яшчэ недастатковы. Безадказна праводзіцца афармленне і ўлік спачуваючых, слаба, а то і зусім не разгорнута, работа з беспартыйным актывам, няма дыферэнцыяванага падыходу і ўважлівых адносін да спачуваючых, зусім адстала гэта работа ў совецкіх установах.

Партыйная арганізацыя гор. Менска павінна па-большэвіцку разгарнуць выхаваўчую работу з беспартыйным актывам і групамі спачуваючых, каб выканаць рашэнні партыі і ўказанні тав. Сталіна аб клапатлівым і ўважлівым вырошчванні кадраў.

---

П. Рэвінскі
Сакратар Магілеўскага РК КП(б)Б

# З вопыту нашай работы са спачуваючымі

XVII з'езд партыі паставіў перад намі задачу арганізацыі груп спачуваючых з найбольш блізкіх к партыі беспартыйных актывістаў, паказаўшых на справе, ударнай работай на будаўніцтве соцыялізма сваю актыўную дапамогу і адданасць партыі, але яшчэ непадрыхтаваных да ўступлення ў партыю.

У 1933 г., пры чыстцы, члены і кандыдаты партыі, недастаткова палітычна падрыхтаваныя, пераводзіліся ў спачуваючыя. Пастановай ЦК ВКП(б) ад 17/І-35 г. пераведзеным па чыстцы ў спачуваючыя прадастаўлена магчымасць, падрыхтаваўшыся, ставіць пытанне перад пярвічнымі партарганізацыямі аб прыёме назад у партыю.

Тав. Сталін вучыць нас, што «сіла большэвікоў, сіла комуністаў заключаецца ў тым, што яны ўмеюць акружаць нашу партыю мільёнамі беспартыйнага актыва».

З ударнікаў соцыялістычнай вытворчасці—фабрык і заводаў, соўгасаў і калгасаў—высоўваюцца тысячы новых, адданых партыі і совецкай уладзе, беспартыйных актывістаў. Гэты рост выклікае настойлівую патрэбнасць сталай штодзеннай работы з беспартыйным актывам: рабочымі, калгаснікамі і работнікамі культурнага фронта. Партыйная і палітвыхаваўчая работа з беспартыйным актывам—важнейшая справа кожнай партарганізацыі.

Формы палітмасавай работы сярод гэтага актыва шырокі і разнастайны.

Правядзенне палітдзён на сходах рабочых шырока практыкуецца на нашых прадпрыемствах, як сталая форма работы з беспартыйнымі. Гэта форма ўкараняецца цяпер і ў навучальных установах, у соўгасах і калгасах. Правільны падбор тэмы, уважлівы збор пытанняў сярод рабочых, калгаснікаў, навуковых работнікаў і студэнтаў, добрая падрыхтоўка дакладчыкаў—справа вялікай выхаваўчай вартасці. Трэба прама сказаць, што найбольш масавымі сходамі з'яўляюцца палітдні.

Задача палітдня—не толькі шырока правесці растлумачальную палітвыхаваўчую работу, даць адказ на хвалюючыя пытанні, але і рэалізаваць іх, як каштоўнейшыя прапановы, перанесці вопыт іх вырашэння ў іншыя партарганізацыі.

Другая форма партмасавай работы—скліканне кадравых рабочых для распрацоўкі з імі розных пытанняў, палітгутаркі на даму і ў абе-

дзены перапынак, арганізацыя тэхвучобы і аўладанне тэхмінімумам, работа з выдатнікамі, шырокае снабжэнне іх адпаведнай літаратурай. У гэтым напрамку добра працуе шоўкавая фабрыка імя Куйбышэва.

На 30 мая ў магілеўскай партарганізацыі спачуваючых налічваецца 244 чал. або 14,4% партарганізацыі. З іх рабочых 199 чал., інжынерна-тэхнічных работнікаў—4 чал., служачых—24 чал. і калгаснікаў—17 чал. Жанчын—49 чал. Амаль усе спачуваючыя з'яўляюцца ўдарнікамі. У больш буйных партарганізацыях спачуваючыя складаюць большасць; па пяці асноўных—116 чал. і па ўсіх астатніх—128 чал. Самая буйная група спачуваючых (56 чал.) на шоўкавай фабрыцы.

Агромнейшыя магчымасці для росту груп спачуваючых не выкарыстоўваюцца пярвічнымі партарганізацыямі. Асабліва слабы рост у соўгасах і калгасах, сярод навучальных устаноў і інжынерна-тэхнічных работнікаў.

Да апошняга часу работа са спачуваючымі ў магілеўскай партарганізацыі была пастаўлена нездавальняюча.

Магілеўскі РК КП(б)Б звярнуў цяпер ўвагу на работу пярвічных партарганізацый са спачуваючымі, паставіўшы перад імі задачу шырокага разгортвання палітмасавай і выхаваўчай работы. Пры райкоме склікаюцца нарады спачуваючых, паасобку—горада, вёскі і пераведзеных па чыстцы, з папярэднім абследваннем іх. Пярвічныя партарганізацыі складаюць планы сістэматычнай работы са спачуваючымі. Сакратары парткомаў і парторгі рэгулярна інфармуюць бюро райкома аб стане гэтай работы. На бюро выклікаюцца і самі спачуваючыя.

Вось некалькі фактаў з работы са спачуваючымі.

На скурзаводзе імя Сталіна стары кадравы рабочы Лапташоў з 25-гадовым рабочым стажам з-за палітычнай ніграматнасці пераведзен быў у спачуваючыя. Вельмі нездаволены гэтым, ён перастаў наведваць партыйныя сходы, партвучобу і ўвесь час сцвярджаў, што з ім паступілі няправільна. Інструктар РК т. Гольдзін правёў рад гутарак і нарэшце пераканаў таварыша ў тым, што ён павінен над сабою працаваць. Цяпер Лапташоў акуратна наведвае палітзаняткі і падрыхтаваўся ўжо да пераводу ў кандыдаты. Тое-ж было і з Чумаковай—работніцай швейнай фабрыкі імя Валадарскага.

Людзей з такімі настроямі сярод пераведзеных у спачуваючыя было нямала. Таму партыйныя кіраўнікі пачалі сваю работу з пераведзенымі ў спачуваючыя з індывідуальнага падыходу, растлумачвалі кожнаму паасобку правільнасць рашэння камісіі па чыстцы, уцягвалі ў актыўную грамадскую работу.

Вопыт паказвае, што цяга ў групы спачуваючых лепшых беспартыйных актывістаў залежыць ад якасці партыйнай работы на прадпрыемстве, у соўгасе, калгасе. Там, дзе партком, парторг і партгрупорг ведаюць свой беспартыйны актыў, штодзённа вядуць з ім работу, знаходзяць правільны падыход да кожнага, групы спачуваючых растуць колькасна і якасна. Так, пры партарганізацыі шоўкавай фабрыкі (сакратар парткома т. Драбінскі) групы спачуваючых выраслі да 56 чал. На аўтарэмзаводзе імя Кірава (сакратар парткома т. Анісімаў) група спачуваючых за кароткі тэрмін вырасла з 9 да 22 чал., на швейнай фабрыцы (сакратар парткома т. Бахрах) група спачуваючых за кароткі час вырасла да 24 чал. І наадварот—групы спачуваючых не растуць там, дзе партыйная работа ідзе па-старому. На рымарнай фабрыцы ў рады спачуваючых уцягнут усяго адзін чалавек.

На заводзе імя Дзімітрава—2 чалавекі. Зусім няма спачуваючых на сушзаводзе, у друкарні імя Молатава, на электрастанцыі, у ЦРК, у некаторых арцелях і т. д. На рымарнай фабрыцы (сакратар парткома т. Янавіцкі) заява лепшай ударніцы-актывісткі члена горсовета— т. Чушкінай марынавалася ў парткоме больш двуш месяцаў. Патрабавалася ўмяшанне бюро райкома, каб заява Чушкінай была разабрана.

Рад фактаў сведчыць аб тым, што класава-варожы элемент імкнецца засмеціць рады спачуваючых. На аўтарэмзаводзе прынялі ў спачуваючыя кулака, які быў пад судом. На мясакамбінаце выкрылі двух спачуваючых, як раскрадвальнікаў соцыялістычнай маемасці. На шоўкавай фабрыцы ў рады спачуваючых пралез былы чыноўнік.

Рад нашых парткомаў цэнтр работы са спачуваючымі перанеслі ў партыйную групу, што дало станоўчыя вынікі. Большасць спачуваючых з'яўляюцца перадавікамі на вытворчасці, прымаюць актыўны ўдзел у грамадскім жыцці прадпрыемства.

Спачуваючы Фельдман (скурзавод імя Сталіна), як член горсовета, актыўна працуе ў гандлёва-кааперацыйнай секцыі, кіруе мопраўскай арганізацыяй на заводзе.

Спачуваючы тэхнік Якімецкі, таго-ж завода, з'яўляецца лепшым паліт'інфарматарам, праводзіць вялікую работу на заводзе, падрыхтаваў 40 выдатнікаў. Грамадскі тэхнарук брыгады кантоўшчыкаў ператварыў сваю брыгаду з тэхнічна малаграматнай у суцэльную зотаўскую.

Спачуваючы Тярэшчанка (трублітзавод) прышоў на завод некваліфікаваным рабочым, а зараз аўладаў тэхнікай вытворчасці, з'яўляецца лепшым ударнікам, актывістам у грамадскай рабоце.

Парткомы і группарторгі шоўкавай і швейнай фабрыкі, аўтарэмзавода і іншых прадпрыемстваў сочаць за палітычным ростам спачуваючых, за іх работай.

Партгрупа прадзільнага корпуса шоўкавай фабрыкі заслухала некалькі самасправаздач комуністаў, прымацаваных да спачуваючых. У гэтай партгрупе ўсе спачуваючыя ахоплены палітвучобай, выпісваюць і чытаюць газеты.

Группарторг аддзелачнага цэха скурзавода імя Сталіна тав. Каган заслухаў самасправаздачу спачуваючых Фельдмана і Карначыка. Партгрупа загадзя вылучыла дзве брыгады, даручыўшы ім праверыць, як гэтыя спачуваючыя выконваюць свае нагрузкі, як паспяваюць у вучобе, якія газеты выпісваюць і чытаюць, як выхоўваюць сваіх дзяцей, як выкарыстоўваюць свой вольны час. Такія самасправаздачы заслухоўвае партгрупа адмочна-зольнага цэха.

Рад парткомаў арганізавалі спецыяльныя гурткі для спачуваючых па вывучэнню праграмы і статута нашай партыі.

У рабоце са спачуваючымі і беспартыйным актывам ёсць яшчэ і рад недахопаў. Парткомы і парторгі рымарнай і цукеркавай фабрык, піваварнага і сушзавода, электрастанцыі яўна недаацэньваюць работу са спачуваючымі. Усю работу з беспартыйным актывам і палітвучобу перадаюць профарганізацыі. Вось чаму ў іх няма прытоку спачуваючых. Асабліва слаба пастаўлена работа сярод спачуваючых і беспартыйнага актыва ў радзе калгасаў, соўгасаў, навучальных лекавых устаноў.

Многа недахопаў у пастаноўцы палітвучобы. Спачуваючыя скардзяцца на няправільнае камплектаванне школ і гурткоў. На заводзе

імя Дзімітрава ўсіх спачуваючых залічылі ў адну школу з членамі і кандыдатамі партыі. Такія факты нярэдкі і ў іншых партарганізацыях. Ёсць скаргі на дрэнную работу і фармальныя адносіны партпрымацаваных. Парторгі мала сочаць за тым, каб спачуваючыя чыталі газеты, часопісы, мастацкую літаратуру.

Навучыць спачуваючага працаваць над кнігай, рэгулярна чытаць газеты, карыстацца палітслоўнікам, старанна рыхтавацца дома да заняткаў, выступаць на сходах—важнейшая задача нашай работы са спачуваючымі.

Рашуча выпраўляючы адзначаныя недахопы ў рабоце са спачуваючымі, палепшыўшы ўнутрыпартыйную і палітвыхаваўчую работу з беспартыйным актывам, мы безумоўна забяспечым выкананне задач, пастаўленых перад намі XVII з'ездам партыі і красавіковым пленумам ЦК КП(б)Б.

---

**Д. Чарненка**

Інструктар аддзела кіруючых парторганаў ЦК КП(б)Б

# Больш увагі і канкрэтнага кіраўніцтва работай са спачуваючымі

У рашэннях Ленінградскага гаркома і красавіковага пленума ЦК КП(б)Б указана на нездавальняючую работу ў галіне стварэння груп спачуваючых пры пярвічных партарганізацыях, на адсутнасць штодзеннай увагі да справы бальшэвіцкага выхавання і ідэйнай загартоўкі спачуваючых, што фактычна тлумачыцца яўнай недаацэнкаю ўсёй важнасці рашэнняў XVII з'езда ВКП(б) аб арганізацыі груп спачуваючых і марксісцка-ленінскім выхаванні іх.

> «Пленум ЦК звярачае ўвагу ўсіх партыйных арганізацый на тое, што работа са спачуваючымі да гэтага часу пастаўлена зусім нездавальняюча. РК, ГК і пярвічныя партарганізацыі не аддаюць дастатковай увагі пытанню ўцягвання ў групы спачуваючых «найбольш блізкіх к партыі беспартыйных актывістаў, паказаўшых на справе на вытворчасці сваю адданасць партыі, але яшчэ не падрыхтаваных да ўступлення ў партыю» (статут ВКП(б) ), у рэзультаце чаго на значнай колькасці прадпрыемстваў і ўстаноў групы спачуваючых зусім не арганізаваны, там-жа, дзе гэтыя групы спачуваючых арганізаваны, работа пастаўлена выключна слаба».

Гэта ўказанне абавязвае ўсе партарганізацыі пакончыць з няўважлівасцю да работы са спачуваючымі і забяспечыць канкрэтнае кіраўніцтва гэтым важнейшым участкам, маючы на ўвазе, што «групы спачуваючых, побач з комсамолам, з'яўляюцца адным з асноўных каналаў папаўнення партыі стойкімі, моцнымі большэвікамі».

Матар'ялы з раду райкомаў гавораць аб празмерна слабой рабоце і самацёку ў арганізацыі груп спачуваючых. Аб гэтым сведчыць хоць-бы такі факт, што пры наяўнасці па 12 райкомах 256 пярвічных партарганізацый толькі ў 45 ёсць групы спачуваючых, прычым новапрынятых спачуваючых усяго 256 чалавек.

Некаторыя РК (Дрысенскі, Бялыніцкі, Нараўлянскі і інш.) не займаліся гэтым пытаннем, не маюць груп спачуваючых, хоць цяга беспартыйнага актыва ў спачуваючыя вялікая.

У пярвічныя партарганізацыі калгасаў Бялыніцкага р-на («Шлях соцыялізма», «Чырвоная дуброва» і інш.) паданы былі заявы аб

прыёме ў спачуваючыя, але ніхто імі не заняўся, што характарызуе нецярпімую бесклапотнасць раду партарганізацый у выкананні сур'ёзнейшых указанняў партыі аб рабоце з беспартыйным актывам, аб уцягненні ў спачуваючыя людзей, найбольш блізкіх партыі, праверавераных на справе.

Рад партыйных арганізацый бессістэмна праводзіць палітмасавую работу з беспартыйным актывам, забываючы, што без дыферэнцыяванага падыходу да паасобных слаёў і груп беспартыйнага актыва, на падставе ўсебаковага і глыбокага вывучэння яго складу, наогул нямысліма і нематчыма паспяховая работа партарганізацый у стварэнні груп спачуваючых.

Большасць партарганізацый практыкуюць так званыя індывідуальныя метады: парторгі праводзяць гутаркі з кожным паасобку беспартыйным актывістам. Метад сам па сабе добры, але калі побач з ім у партарганізацыі не вядзецца масавая работа з беспартыйным актывам, не разгорнута партыйная работа ў цэлым, то ён не дае належных вынікаў.

Слаба канцэнтруецца ўвага на рабоце сярод кадравікаў, рабочых вядучых прафесій, а таксама сярод ІТР, урачоў і інш. спецыялістаў. На заводзе «Звязда» Петрыкаўскага раёна, дзе працуе больш тысячы рабочых, у тым ліку многа кадравых, ёсць, бясспрэчна, добрая база для ўцягнення ў спачуваючыя, і тым не менш партарганізацыя не прыняла ў спачуваючыя яшчэ ні аднаго чалавека. У гутарцы з рабочымі выяснілася, што парткам і заўком мала ўвагі ўдзяляюць кадравым рабочым, не растлумачылі ім задач і ролі спачуваючых. Такія-ж скаргі і заявы чуем ад старых кадравых рабочых раду прадпрыемстваў Магілева. Сярод 300 спецыялістаў шоўкавай фабрыкі няма ніводнага прынятага ў спачуваючыя так сама, як і сярод урачоў 1 савецкай больніцы. Партарганізацыя дрэнна працуе сярод гэтых груп спецыялістаў, хоць многія з іх добрыя грамадскія работнікі.

Пры наяўнасці ў гэтых раёнах зусім слабога колькаснага росту спачуваючых, некаторыя партарганізацыі (Магілеў, Клімавічы) часта мала патрабавальны да прымаемых, што характэрна і для многіх іншых раёнаў, і такім чынам у групы спачуваючых пранікаюць людзі неправераныя і класава-варожыя элементы, асобы з няясным мінулым, якія не з'яўляюцца лепшымі ўдарнікамі і нявартьі звання спачуваючага. На аўтазаводзе прынялі ў спачуваючыя былога аднаасобніка, які судзіўся за сабатаж у выкананні абавязацельстваў перад дзяржавай і на заводзе прапрацаваў толькі год. Падобныя факты былі і ў радзе іншых пярвічных партарганізацый Магілеўскага раёна.

Некаторыя партарганізацыі часта не маюць уяўлення аб людзях, якіх прымаюць у спачуваючыя. Куды, напрыклад, варта такая заява т. Ражноўскай—парторга пярвічнай партарганізацыі магілеўскай больніцы: «Мы прымаем у спачуваючыя тых, хто з'яўляецца членам профсаюза, і на аснове таго, як яны цяпер працуюць. Мінулае нас не цікавіла. Я лічу, што сапраўднае вывучэнне неабходна толькі пры прыёме ў партыю». Але-ж для кожнага большэвіка павінна быць ясна, што класавы вораг, спрабуючы пралезці ў групу спачуваючых, каб выкарыстаць гэта званне ў сваіх варожых мэтах, падрабляецца актывістам. І тым лягчэй ён гэтага дабіваецца, калі ў партарганізацыі прытупляецца партыйнае чуццё і насцярожанасць да малейшых прошукаў варожых элементаў.

Самацёк, кампанейшчына ў выніку фармальнага, механічнага падыходу да гэтай выключна сур'ёзнай работы адчуваюцца ў некаторых партарганізацыях Магілеўскага раёна. У соўгасе Дашкаўка прынялі ў спачуваючыя 8 чалавек без дастатковай праверкі. Сярод іх—Беразнёва, Акулевіч і інш., якія нават не з'яўляюцца ўдарнікамі вытворчасці і наогул нядаўна працуюць у соўгасе. Парторг Буракоў, між іншым, лічыць, што раз група спачуваючых арганізавана, значыць усё зроблена. Партарганізацыя нічога не робіць для таго, каб наладзіць палітмасавую работу з кадрамі, якія працуюць у соўгасе па 10 і больш год, і наблізіць іх да сябе.

Яшчэ і зараз, пасля рашэнняў Ленінградскага гаркома і красавіковага пленума ЦК КП(б)Б, паасобныя райкомы партыі не спалучаюць работу па ўцягненню ў спачуваючыя лепшых, адданых партыі беспартыйных актывістаў з сістэматычнай глыбокай выхаваўчай работай, вырашаюць гэту задачу наспех, у парадку ўдарнай кампаніі.

Так, пленум Нараўлянскага райкома 12 красавіка вынес рашэнне: «Прапануецца ў самы кароткі тэрмін, не пазней 1 мая 1935 года, у першую чаргу парторгу ф-кі «Чырвоны мазыранін», парторгу кустпромарцельнай партарганізацыі і сакратару парткома РВК, арганізаваць з прыкладных ударнікаў і адданых партыі групы спачуваючых».

А ў Бягомельскім РК да апошняга часу не ведалі, ці можна пры сельскай арганізацыі стварэць групы спачуваючых. Адказныя работнікі райкома так і заявілі: «Не праводзілі мы гэтай работы, бо не было ніякіх на гэты конт указанняў з ЦК і не ведалі, ці можна на вёсцы прымаць у спачуваючыя».

За выключэннем адзначаных вышэй адмоўных фактаў, у групу спачуваючых прыняты ў асноўным лепшыя людзі, ударнікі прадпрыемстваў, соўгасаў, актывісты, грамадскія работнікі.

Напрыклад, у спачуваючыя ўступіла работніца магілеўскай цукеркавай фабрыкі т. Веккер. На гэтым прадпрыемстве яна працуе з 1928 года. Яе агульны вытворчы стаж—28 год. Веккер—ударніца, член горсовета. Яна гаворыць: «Не хачу адставаць — у сям'і ўсе комуністы і комсамольцы. Парашыла падрыхтавацца ў групе спачуваючых, каб уступіць у партыю і актыўна ўдзельнічаць у выкананні задач, якія стаяць перад ёю».

У соўгасе «Насовічы», Терахаўскага раёна, у спачуваючыя прыняты рабочы соўгаса т. Седзелаў К.—1895 г. нараджэння, агульны вытворчы стаж 22 г., чырвоны партызан, за ўдарную работу некалькі раз прэміяваны. Кірычук М.—1903 г. нараджэння, рабочы-слесар, вытворчы стаж 18 г., быў дэлегатам на ўсебеларускім з'ездзе рабселькораў.

Цяга ў спачуваючыя ў пярвічных арганізацыях вялікая. І толькі няўважлівасцю партарганізацый можна вытлумачыць закінутасць гэтай работы, асабліва ў пярвічных партарганізацыях, не кажучы аб тым, што ў калгасных і тэрытарыяльных партарганізацыях гэта работа амаль не разгорнута.

З усіх адзначаных 12 раёнаў толькі пры трох калгасных пярвічных партарганізацыях Магілеўскага раёна і пры адной Терахаўскага створаны групы спачуваючых.

Пра змест работы са спачуваючымі трэба сказаць, што пярвічныя партарганізацыі часта абмяжоўваюцца фармальным уключэннем

спачуваючых у сецьшкол і гурткоў партасветы, мала цікавяцца ўзроўнем ведаў і агульным развіццём кожнага таварыша. Спачуваючыя часта займаюцца ў адным гуртку з комуністамі (магілеўскі піваварны завод, соўгас «Комунар», Уваравіцкага раёна, і інш.). Такая пастаноўка партасветы, не кажучы ўжо наогул аб яе няправільнасці, дрэнна адбіваецца на якасці засваення матар'ялу, бо часта спачуваючы не можа асіліць праграмы той школы, куды яго ўключылі. Здараюцца і такія факты, калі спачуваючыя з сярэдняй асветай і малаграматныя займаюцца ў адным гуртку.

Правільная пастаноўка марксісцка-ленінскага выхавання і ідэйнай загартоўкі патрабуе неабходнай дыферэнцыяцыі, індывідуальнага падыходу пры вызначэнні спачуваючаму гуртка, школы, грамадскай нагрузкі, партыйнага даручэння. Толькі пры такой пастаноўцы справы можна дасягнуць патрэбных рэзультатаў у выхаванні спачуваючых.

Дрысенскі, Нараўлянскі і інш. райкомы партыі склікаюць спачуваючых з раёна для заняткаў раз у 1-2 месяцы, астатні-ж час яны нідзе не вучацца і не працуюць над сабой. Такая практыка шкодна. Трэба ўстанавіць штодзённую сувязь інструктароў райкома са спачуваючымі, каб аказаць ім патрэбную дапамогу, маючы на ўвазе, што гэта ў асноўным спачуваючыя-адзіночкі, пераведзеныя па чыстцы партыі.

Палітузровень спачуваючых у большасці партарганізацый вельмі нізкі. Многія не ведаюць важнейшых рашэнняў партыі, рашэнняў VII усесаюзнага з'езда советаў аб унясенні некаторых змен у канстытуцыю СССР і т. д. У радзе выпадкаў даўно ўступіўшыя спачуваючыя заяўляюць, што яны яшчэ статута партыі не прапрацоўвалі і не ведаюць, якія абавязкі ўскладаюцца ім на спачуваючых, што іх вельмі рэдка, а то і зусім не склікаюць для гутарак, не прыцягваюць на адкрытыя партсходы.

Кожная партарганізацыя павінна ўвесці ў сістэму сваёй работы рэгулярнае скліканне спачуваючых для гутарак з сакратаром парткома або парторгам, прапрацоўкі рашэнняў партыі і ўрада, каб спачуваючыя маглі яшчэ актыўней уключыцца ў правядзенне гэтых дырэктыў у жыццё. Трэба забяспечыць прысутнасць спачуваючых на ўсіх адкрытых партсходах, загадзя азнаямляючы іх з абвесткаю дня, шырока прымяніць вопыт правядзення сходаў спачуваючых прыкладна раз у месяц па пытаннях ролі спачуваючых у правядзенні таго ці іншага мерапрыемства партарганізацыі, з тым каб кожны спачуваючы ясна ўяўляў свае задачы ў выкананні даручанага яму задання. Кіраваць падрыхтоўкай і правядзеннем гэтых сходаў павінен сакратар парткома.

Мэта гэтых сходаў не ў тым, каб выносіць пастановы і рэзалюцыі, а ў тым, каб спачуваючы ўспрымаў сваю актыўную ролю ў грамадска-палітычным жыцці. Кожны спачуваючы павінен адчуваць жывую сувязь у рабоце, атрымаць кіраўніцтва і дапамогу, каб правільна выканаць заданне партарганізацыі.

Работа сярод спачуваючых, пераведзеных па чыстцы партыі, у большасці раёнаў (Бягомля, Парычы, Петрыкаў, Бялынічы і інш.) пушчана на самацёк. Магілеўскі, Тэрахаўскі і іншыя райкомы не маюць нават дакладнага ўліку спачуваючых. Толькі пасля рашэння апошняга пленума ЦК КП(б)Б некаторыя райкомы сёе-тое пачалі рабіць. Няўважлівасць партарганізацый да марксісцка-ленінскай ву-

чобы спачуваючых спрыяла таму, што пераведзеныя па чыстцы не працавалі над павышэннем свайго палітычнага ўзроўню і ў абсалютнай большасці непадрыхтаваны да пераводу ў кандыдаты партыі.

На магілеўскай швейнай фабрыцы імя Валадарскага 12 чалавек пераведзены пры чыстцы ў спачуваючыя. Але імі вельмі дрэнна займаліся, таму большасць нідзе не вучыцца, не наведвае адкрытых партсходаў і т. д.

На заводзе «Звязда», Петрыкаўскага р-на, у спачуваючыя з-за палітнеграматнасці пераведзена 5 чалавек лепшых, не раз прэміяваных ударнікаў вытворчасці, як, напрыклад, герой першай пяцігодкі тав. Лельчук, які працуе на заводзе 35 год без перапынку і больш 10 раз прэміяваўся. Партарганізацыя з гэтымі людзьмі не працуе, яны нідзе не вучацца.

Старшыня калгаса «Светлана», Драчкоўскага с-с., Смалявіцкага раёна, т. Курэйчык М. так гаворыць аб сабе: «За 4 месяцы толькі раз быў на кустовым комсамольскім сходзе. У 1934 г. выклікаўся райкомам 2 разы: адзін раз па пытанню партвучобы і другі раз па пытанню падзежу каня ў калгасе. У 1935 г. адзін раз прыязджаў у калгас сакратар РК т. Кудман, пабыў дзве гадзіны, азнаёміўся з ходам сяўбы, даў указанні і паехаў. Больш у нас ніхто і не быў». Зараз т. Курэйчык нідзе не вучыцца, не працуе над павышэннем свайго палітузроўню, толькі зрэдку чытае «Звязду».

Тав. Добышаў М., які пераведзен па чыстцы ў спачуваючыя і працуе зараз старшынёю калгаса «Чырвоны барацьбіт», Ханаўскага с-с., заявіў: «Я варты быць зноў прынятым у партыю: сяўбу зернавых закончыў к 1 мая, астатніх культур—к 10 мая». З гутаркі-ж высьнілася, што ён не чытаў нават статута і праграмы партыі, зусім не займаецца, нерэгулярна чытае газеты, дома кніг наогул ніякіх няма. Інструктар Р К т. Навасёлаў, які пабыў у яго адзін раз у гэтым годзе, толькі параіў вучыцца. Райкомы партыі павінны забяспечыць у першую чаргу канкрэтнае кіраўніцтва работай пярвічных партарганізацый са спачуваючымі, перыядычна заслухоўваць на бюро іх справаздачы і правяраць пастаноўку справы на месцы. На партсходах, парткомах пярвічных арганізацый, а таксама і на бюро РК трэба ставіць справаздачы спачуваючых-адзіночак аб іх рабоце, вучобе і выкананні даручэнняў.

Сакратар і інструктар райкома па сваіх зонах павінны ведаць кожнага спачуваючага, вывучаючы яго не па звестках і даных, а на аснове асабістых гутарак, азнаямлення з яго работай на месцы, каб своечасова дапамагчы таварышу, прымацаваць да яго падрыхтаванага члена партыі.

Толькі пры такіх умовах партарганізацыі змогуць выправіць недахопы і забяспечыць канкрэтным большэвіцкім кіраўніцтвам гэты сур'ёзны ўчастак партработы.

Сярод спачуваючых вяліка жаданне вучыцца, каб падрыхтаваным уступіць у партыю і прыняць актыўны ўдзел у палітычным жыцці і грамадскай рабоце. Аднак ад іх можна пачуць скаргі на тое, што з імі мала працуюць, зусім не склікаюць, не праводзяць гутаркі па пытаннях бягучай палітыкі, не прымацоўваюць падрыхтаваных членаў партыі і т. д. Кожная партарганізацыя павінна гэта ўлічыць і прыняць адпаведныя меры.

Сур'ёзныя недахопы мае пастаноўка ўліку спачуваючых. Як правіла, ні ў адным райкоме не знойдзеш неабходных даных аб спачу-

ваючых, многіх інструктары дрэнна ведаюць і наогул ніякай работы з імі не праводзяць.

Надта дрэнна пастаўлена афармленне спачуваючых, часта груба парушаецца статут партыі. У соўгасе «Комунар», Уваравіцкага раёна, у спачуваючыя прынята 4 чалавекі, якія маюць толькі па адной рэкамендацыі, двое зусім не маюць рэкамендацый і тым не менш лічацца прынятымі.

У Смалявіцкім р-не кандыдацкая група Лядскага вінзавода (парторг Ходаў), атрымаўшы ад рабочых чатыры заявы аб прыёме ў спачуваючыя, ужо лічыць іх спачуваючымі і размеркавала нават абавязкі сярод іх: «Заберт—масавая работа сярод рабочых (?!), Хасевіч—кіраўнік АСО і культработа сярод канторскага персанала; Бантоўскі — кіраўніцтва работай транспарта» і т. д. Акрамя таго «узаконена» прысутнасць спачуваючых і на закрытых партсходах.

Такім чынам, ёсць факты парушэння статута партыі, факты неразумення сутнасці рашэнняў XVII партз'езда аб спачуваючых, іх ролі, правах і абавязках, што прыводзіць да сцірання мяжы паміж комуністамі і беспартыйнымі.

Некалькі слоў аб выкананні спачуваючымі грамадскіх абавязкаў і даручэнняў. У цэлым радзе выпадкаў партарганізацыі «міраццa» на тым, што пакідаюць спачуваючым іх ранейшыя абавязкі, якія выконваліся імі да ўступлення ў групу спачуваючых (прафорг, зборшчык членскіх узносаў і т. д.). Толькі на магілеўскай шоўкавай фабрыцы спачуваючаму даецца заданне па мабілізацыі сродкаў, па лініі шэфства над калгасам і т. д.

Трэба паставіць справу так, каб спачуваючы, пры выкананні даручэння партарганізацыі ідэйна-палітычна рос і загартоўваўся на практычнай рабоце, а не «замаражваўся» на зборы членскіх узносаў.

Партарганізацыі абавязаны ўдумчыва падыйсці да работы са спачуваючымі, даючы ім заданні, забяспечыць штодзеннае кіраўніцтва, увагу і неабходную дапамогу.

---

**М. Гольдзін**

Інструктар Магілеўскага РК КП(б)Б

# Больш увагі рабоце са спачуваючымі

Тав. Кагановіч у сваім дакладзе на XVII з'ездзе партыі адзначыў:

> «Мы ўстанаўляем групы спачуваючых. Партыя ўлічвае, што ў рабочым класе і калгасным сялянстве, побач з масай беспартыйных, актыўна падтрымліваючых партыю і совецкую ўладу, выдзяляюцца групы рабочых-актывістаў, якія ўзняліся на вышэйшую ступень і больш наблізіліся к партыі, чым астатнія. Мы даем магчымасць такім актывістам, якія на адну ступеньку яшчэ не дараслі да партыі, успрыняць навыкі арганізаванасці і перадавітасці спачатку ў групе спачуваючых... Чалавек павінен прывыкнуць к партыйнай дысцыпліне».

XVII партз'езд вынес рашэнне аб арганізацыі груп спачуваючых пры пярвічных партарганізацыях.

З таго часу мінула амаль паўтара гады, якіх больш чым дастаткова, каб кожная пярвічная партарганізацыя, кожны інструктар райкома партыі маглі падагуліць вынікі сваёй работы з групамі спачуваючых, падзяліцца вопытам, выявіць недахопы.

Я працую інструктарам Магілеўскага РК КП(б)Б больш года, а па прамысловых партарганізацыях—8 месяцаў. У маёй групе членаў і кандыдатаў партыі—693 чал., спачуваючых—156 чал., 23 пярвічныя партарганізацыі.

Зусім зразумела, што ў тых партарганізацыях, якія лепш паставілі ўнутрыпартыйную і палітычна-выхаваўчую работу з беспартыйным актывам, групы спачуваючых значна выраслі за лік перадавых беспартыйных актывістаў рабочых і ІТР. Да такіх трэба аднесці партарганізацыі шоўкавай фабрыкі (сакратар парткома т. Драбінскі), аўтарэмзавода (сакратар парткома т. Анісімаў), швейнай фабрыкі (сакратар парткома т. Бахрах), завода імя Сталіна (сакратар парткома т. Сегаль).

Пытанне аб рабоце трох партарганізацый са спачуваючымі было мною падрыхтавана і слухалася на паседжанні бюро райкома. Былы сакратар парткома швейнай фабрыкі тав. Якабсон імкнуўся вытлумачыць адсутнасць новапрынятых у спачуваючыя тым, што ў іх на фабрыцы ўсе рабочыя і работніцы маладыя, і комуністы не хочуць даваць рэкамендацыі, бо добра іх не вывучылі і т. д. Але жывая работа пасля змены парткіраўніцтва спрыяла таму, што група спачуваючых на швейнай фабрыцы вырасла за лік лепшых ударнікаў, прымаючых

актыўны ўдзел у гаспадарча-палітычным жыцці, да 24 чал.; на заводзе імя Сталіна—да 15 чал.

Сакратары парткомаў (тт. Драбінскі, Анісімаў, Бахрах, Сегаль), члены парткомаў, а за імі і ўвесь партактыў узяліся за вывучэнне беспартыйнага актыва, за палітычна-выхаваўчую работу і дабіліся станоўчых вынікаў.

Амаль усе спачуваючыя ахоплены партвучобай. На аўтарэмзаводзе, швейнай і шоўкавай фабрыках арганізаваны школы спецыяльна для спачуваючых. Больш падрыхтаваныя таварышы займаюцца ў партсеці павышанага тыпу (пачатковыя школы па ленінізму, соўпартшколы і інш.).

У паасобных партарганізацыях заслухоўваюцца на партгрупах і партсходах справаздачы спачуваючых аб рабоце над сабою, практыкуецца наведванне спачуваючых на даму і дапамога ва ўкамплектаванні бібліятэчак партыйнай і мастацкай літаратурай.

Сакратары парткомаў перыядычна праводзяць нарады са спачуваючымі, дзе прымаюць удзел цэхавыя, групавыя парторгі і прымацаваныя комуністы. Нядаўна адбылася нарада спачуваючых горада, на якой стаяў даклад «Аб арганізацыйных прынцыпах большэвізма». У сваіх выступленнях спачуваючыя расказалі аб тым, як яны працуюць над сабой, як у гэтым дапамагаюць ім парткомы і парторгі. Нарадай кіраваў сакратар райкома партыі т. Рэвінскі.

Мы маем ужо рад прыкладаў палітычнага і арганізацыйнага росту спачуваючых.

Тав. Фельдман (завод імя Сталіна)—да ўступлення ў групу спачуваючых амаль ніякага ўдзелу ў грамадскай рабоце не прымаў, не чытаў газет, а зараз добра разбіраецца ў бягучай палітыцы, вывучыў статут і праграму партыі.

Тав Лапташоў—стары кадравы рабочы пераведзен быў пры чыстцы ў спачуваючыя, чым надта пакрыўдзіўся і адразу не хацеў рыхтавацца да ўступлення ў партыю. Партарганізацыя занялася Лапташовым, гутарыў з ім і я. Урэшце ўдалося пераканаць яго ў тым, што ён можа і павінен папрацаваць над сабой, каб быць адноўленым у партыі. Зараз Лапташоў актыўны ў палітычным жыцці завода і ў партвучобе, падрыхтаваўся да пераводу ў кандыдаты партыі.

Тав. Тярэшчанка (трублітзавод) два гады назад прышоў на завод палітычна адсталым, а зараз не толькі аўладаў тэхнікай вытворчасці, але значна ўзняў свой палітычны ўзровень, добра засвоіў рашэнні XVII партз'езда, сістэматычна чытае газеты, акуратна наведвае адкрытыя партсходы, актыўна рыхтуецца да ўступлення ў партыю.

Тав. Гердзі (аўтарэмзавод) прэміяваны партарганізацыяй за прыкладнае наведванне заняткаў і поспехі ў партвучобе.

Тав. Ліхардзеенка добра аўладаў тэхнікай вытворчасці, прымае актыўны ўдзел у грамадскай рабоце, была абрана дэлегаткай на XI усебеларускі з'езд советаў. Спачуваючыя Гершанок, Чухоўская, Бескіна паказваюць узорныя прыклады не толькі ў выкананні промфінплана, але і ў грамадскай рабоце.

Далёка не ўсе пярвічныя партарганізацыі маюць станоўчы вопыт у рабоце са спачуваючымі. Партарганізацыі Саюзтранса, сушзавода, друкарні, рымарнай фабрыкі, хлебакамбіната, завода імя Дзімітрава яўна недаацэньваюць рашэнні XVII партз'езда аб арганізацыі груп спачуваючых. І ў гэтым не толькі іх віна, але і мая, як інструктара

райкома партыі. Галоўны недахоп маёй работы ў тым, што я недастаткова перадаваў вопыт, накоплены перадавымі партарганізацыямі. З ліку 23 пярвічных партарганізацый спачуваючых маюць толькі 15, а групы арганізаваны толькі ў 10. У дадатак не наладжаны яшчэ дакладны ўлік спачуваючых.

Рад партарганізацый не ўключылі ў свой план работу з беспартыйным актывам, перадаўшы яе цалкам прафарганізацыі. Зусім зразумела, чаму нам. сакратара парткома рымарнай фабрыкі тав. Марты-наў не мог назваць прозвішчы лепшых актывістаў з беспартыйных рабочых, правёўшы з імі толькі тры сходы, чаму больш двух месяцаў марынавалася заява аб уступленні ў спачуваючыя работніцы-актывісткі члена горсовета тав. Чушкінай.

На заводзе «Пролетарый», цукеркавай фабрыцы, часткова на шоўкавай спачуваючыя ахоплены партвучобай без уліку ведаў, не арганізавана вывучэнне статута і праграмы партыі (спачуваючы Пісараў не мог расказаць пра абавязкі спачуваючых).

Не праводзіцца асобна работа з пераведзенымі па чыстцы. Вось чаму адсеяліся спачуваючыя Чумакова (швейная фабрыка), Егораў (завод імя Сталіна), Гарадзецкі (шоўкавая фабрыка) і інш.

Устаноўлены факты, калі паасобныя комуністы безадказна адносяцца да рэкамендацый, а партарганізацыі недастаткова іх правяраюць. Не дзіўна пасля гэтага, што ў групы спачуваючых пралазяць класава-варожыя элементы. Так, на аўтарэмзаводзе ў спачуваючыя пралез кулак, на мясакамбінаце двое спачуваючых арыштаваны за раскраданне соцмаемасці. На шоўкавай фабрыцы ў спачуваючыя пралез былы чыноўнік.

Выпраўляючы недахопы ў рабоце груп спачуваючых і кіраўніцтве імі, пакончыўшы з недаацэнкай ролі спачуваючых, палепшыўшы ўнутрыпартыйную і палітычна-выхаваўчую работу з беспартыйным актывам, скарыстоўваючы вопыт перадавых партарганізацый, мы тым самым у найкарацейшы тэрмін і поўнасцю забяспечым выкананне рашэнняў XVII партз'езда, Ленінградскага гаркома і красавіковага пленума ЦК КП(б)Б аб арганізацыі і рабоце груп спачуваючых.

---

**Пазнякоў**

Інструктар Гомельскага ГК КП(б)Б

# Спачуваючага трэба клапатліва вырошчваць

Рашэнне XVII партыйнага з'езда аб арганізацыі вакол ВКП(б) найбольш блізкіх к партыі беспартыйных актывістаў, якія паказалі сябе на вытворчасці, як актыўныя памочнікі партыі, але яшчэ не падрыхтаваны да ўступлення ў яе рады, набывае вялікае значэнне для ўсіх партарганізацый.

> «Арганізаваныя ў групы спачуваючых ВКП(б) абавязаны наведваць усе адкрытыя партыйныя сходы, на якіх яны карыстаюцца правам дарадчага голасу, актыўна змагацца за выкананне рашэнняў партыі і ўрада, сістэматычна працаваць пад кіраўніцтвам партыйных арганізацый над павышэннем свайго ідэйна-палітычнага ўзроўню» (са статута ВКП(б)).

Некаторыя пярвічныя партарганізацыі недаацэньваюць ролі і значэння спачуваючых для ўзмацнення сувязі і ўплыву партыі ў масах.

У партарганізацыях «Палесдруку», ф-кі «Комінтэрн», камбіната «Спартак» у сучасны момант налічваецца 51 чалавек спачуваючых, з іх 31 навапрынятых. Большасць—старыя кадравыя рабочыя, лепшыя вытворцы. Рабочы «Палесдруку» член горсовета тав. **Казанчук** з вытворчым стажам 20 год нясе нагрузку старшыні дэпутацкай групы. **Кейліна**—ударніца, выдатніца. **Басава**—брыгадзір, член горсовета. **Сапуноў**—актывіст, скончыў тэхнікум. **Шылер**—брыгадзір, лепшы ўдарнік, 20 год вытворчага стажу, кандыдат горсовета. **Глебава**—брыгадзір цэха, 15 год вытворчага стажу, і рад іншых рабочых.

Да гэтага часу работа са спачуваючымі заключалася ў тым, што заслухоўвалі іх індывідуальныя справаздачы на нарадах, цэхпартгрупах і некаторых парткомах. Прымацоўвалі для дапамогі спачуваючым паасобных комуністаў, давалі нагрузкі і т. д.

Аднак без дыферэнцыяванага падыходу сакратара парткома і парторга да кожнага спачуваючага, без дэталёвага вывучэння яго здольнасцей і сістэматычнай праверкі работы нельга дабіцца неабходных рэзультатаў і задаволіць патрабаванні, якія прад'яўляе да спачуваючых наша партыя.

Возьмем некалькі фактаў. Партком «Палесдруку» прыняў 5 чалавек у групу спачуваючых і адразу даў ім нагрузку, цэхпарторгі ў сваю чаргу далі ім па некалькі нагрузак. У выніку актыўны рабочы тав. **Казанчук** выконвае такія грамадскія абавязкі: член горсовета, старшыня дэпутацкай групы, шэфработнік на вёсцы, грамадскі інспек-

тар па якасці, член дамавога камітэта пры жакце. Брыгадзір слясарна-механічнай майстэрні, тав. Камароўскі, якому ўжо 57 год, з'яўляецца: праформгам аддзялення, зборшчыкам членскіх узносаў, падпісчыкам на газеты.

Уступіўшыя ў групу спачуваючыя безумоўна жадаюць актыўна і своечасова выконваць даручэнні, набыць у рабоце вопыт, але фармальны падыход парткома «Палесдруку» і цэхпарторгаў Лейкіна і Блюменкранц не спрыяе гэтаму.

Спачуваючым неабходна стварыць адпаведныя ўмовы для выканання нагрузак, правяраць работу, практычна дапамагаючы ўзняць свой палітычны і культурны ўзровень. Нячулыя адносіны да спачуваючых прывялі к таму, што тт. Казанчук і Камароўскі на працягу трох месяцаў не мелі магчымасці наведваць кіно і тэатр, не кажучы ўжо пра чытку мастацкай літаратуры.

У гэтых-жа пярвічных партарганізацыях з пераведзеных пры чыстцы ў спачуваючыя 20 таварышоў падрыхтаваліся да пераводу зноў у партыю толькі 6 чалавек, з якіх заявы аб прыёме падалі трое на фабрыцы «Комінтэрн», а ў астатніх арганізацыях толькі па аднаму. Як аказалася, ніхто гэтым таварышам не дапамагаў, партком і парторгі ні разу за 6 месяцаў не збіралі і не правяралі іх і наогул не ведаюць, што яны робяць. А тым часам гэтыя таварышы з'яўляюцца на вытворчасці ўдарнікамі, зотаўцамі і т. д. Для дапамогі пераведзенаму пры чыстцы ў спачуваючыя т. Бруку партком прымацаваў члена партыі т. Лебедзева, які, працуючы поплеч з Брукам, не дапамагаў яму. Пакінуты без усякай дапамогі, т. Брук не мог справіцца з нагрузкай рэдактара штодзенкі, бо па свайму агульнаму і палітычнаму развіццю не здольны быў для гэтай справы.

Побач з прыведзенымі фактамі неабходна ўказаць, што ў справе рэалізацыі дырэктыў ЦК ВКП(б) і ЦК КП(б)Б аб рабоце са спачуваючымі пярвічныя арганізацыі за апошні час маюць дасягненні і набылі некаторы вопыт. Партком фабрыкі «Комінтэрн» раней практыкаваў прапрацоўку са спачуваючымі паасобных газетных артыкулаў, задаваў пытанні, як яны чытаюць газеты і літаратуру. У сучасны момант адчуваецца пералом у рабоце са спачуваючымі. Два разы ў месяц партком праводзіць сходы спачуваючых. На сходзе 19 мая спачуваючы Іефэ, пераведзены ў час чысткі, зрабіў даклад аб усходнім пакце. У спрэчках выступілі трое спачуваючых, якія некалькі дапоўнілі дакладчыка. Урэшце спачуваючыя, падвёўшы вынікі падрыхтоўкі і правядзення сходу, адзначылі, што Іефэ добра зрабіў даклад, бо падрыхтаваўся як належыць; што самі спачуваючыя, ведаючы тэму, мелі магчымасць азнаёміцца з матар'яламі і прыняць актыўны ўдзел у абгаварэнні пытання аб усходнім пакце.

Кожны спачуваючы загадзя ведае месца, час і канкрэтныя пытанні чарговага сходу. К прыкладу, для першай змены спачуваючых а 10-й гадзіне раніцы ў партгабінеце робяць даклады тт. Шусцін і Вергейм аб статуце і праграме партыі. Для другой змены, а 7-й гадзіне ўвечары праводзяць тое-ж самае тт. Левітанскі і Беленькоў, пераведзеныя ў час чысткі з кандыдатаў.

Такія формы і метад работы захапляюць спачуваючых, спрыяюць павышэнню іх ідэйна-палітычнага ўзроўню. Напрыклад, Іефэ пачаў добра вучыцца, зрабіўся актыўным, яму даверылі нагрузку «палітбяседчыка цэха», і ён з поспехам правёў ужо тры гутаркі на розныя палітычныя тэмы. Растуць палітычна і новаўступіўшыя спачуваючыя. Тав. Ленц вельмі добра вучыцца ў завочнай соўпартшколе і зараз

вылучана палітбяседчыкам у касцюмны цэх, дзе прапрацавала матар'ялы «Аб выдатніку», аб «Першым Мая», прамову тав. Сталіна на выпуску акадэмікаў Чырвонай арміі.

У групу спачуваючых камбіната «Спартак» прынялі тав. Нікіценко, які пяць год працуе качагарам. Тав. Нікіценко быў зусім палітычна няграматным, у студзені гэтага года не мог адказаць на пытанне, хто з'яўляецца старшынёю СНК СССР. 24 красавіка на нарадзе спачуваючых ён зрабіў даклад аб адносінах Германіі з Францыяй і адносінах СССР з Францыяй. Тав. Нікіценко рэгулярна чытае газету «Звязда», прачытаў «Паднятую цаліну» Шолахава, «Маці» Горкага і дзеліцца вопытам з іншымі спачуваючымі. На нарадзе па пытанню «Як спачуваючы выкарыстоўвае свой вольны час» т. Нікіценко заявіў: «Я заўсёды раней чытаю газету, каб на свежую галаву больш і лепш разабрацца ў палітычных пытаннях, а мастацкая літаратура з'яўляецца для мяне адпачынкам».

Гэта пакуль што нязначныя факты, але з іх ужо можна зрабіць вывад, што ў рэалізацыі рашэнняў красавіковага пленума ЦК КП(б)Б зрух ёсць.

Ад партыйных арганізацый патрабуецца яшчэ больш узмацніць работу са спачуваючымі, яшчэ мацней арганізоўваць вакол ВКП(б) найбольш блізкіх да яе беспартыйных актывістаў.

Партарганізацыі павінны правяраць работу кожнага спачуваючага, ставячы іх справаздачы на абгаварэнне партсходаў і парткомаў, яшчэ больш уцягваць іх у палітычную вучобу, цяснейшым чынам увязаўшы формы, метады і змест яе з грамадскай і вытворчай работай, а таксама з задачамі павышэння культурнага ўзроўню.

На XVII партыйным з'ездзе тав. Кагановіч адзначыў:

> «Мы даем магчымасць такім актывістам, якія на адну ступеньку яшчэ не дараслі да партыі, успрыняць навыкі арганізаванасці і перадавітасці спачатку ў групах спачуваючых. Гэта справа вельмі важная і добрая, трэба толькі яе не папсаваць, трэба, каб партыйныя арганізацыі ўдзялялі групам спачуваючых адпаведную ўвагу і сапраўды вялі сярод іх кваліфікаваную ідэйна-палітычную работу».

Гэтыя словы тав. Кагановіча павінна моцна памятаць кожная партыйная арганізацыя ў сваёй рабоце са спачуваючымі.

П. Варшаўчык

Інструктар Віцебскага ГК КП(б)Б

# Больш клопату аб палітычным росце спачуваючых

Пасля рашэнняў пленума Ленінградскага гаркома ВКП(б) і апошняга пленума ЦК КП(б)Б многія нізавыя партарганізацыі пачалі больш сур'ёзна займацца работай і выхаваннем спачуваючых.

> «Работа па ўзмацненню груп спачуваючых, іх ідэйна-палітычнаму выхаванню набывае важнейшае значэнне ў сувязі з тым, што групы спачуваючых, побач з комсамолам, з'яўляюцца адным з асноўных каналаў папаўнення партыі стойкімі, моцнымі большэвікамі».

Гутарка са спачуваючымі Шчоткамбіната і завода «Чырвоны металіст» імя Кірава паказала, што амаль усе спачуваючыя—праверапыя людзі, лепшыя вытворцы, зотаўцы, што палітузровень іх значна вырас. Аднак парткомы недастаткова ўцягваюць іх у партжыццё і вучобу, а цэхавыя партарганізатары амаль не кіруюць іх работай.

Вось характарыстыка некаторых спачуваючых.

Тав. Кісельгоф (шчоткамбінат)—на вытворчасці працуе 21 год, займаецца у СПШ, вучыцца добра, чытае газеты «Правда» і «Віцебскі пролетарый», з літаратуры прачытаў «Ціхі дон», «Паднятая цаліна», актыўна выступае на сходах, у рабоце прыкладны. Яшчэ нядаўна баяўся выступаць на сходах, а зараз ужо просіць даручыць невялічкі даклад. Ва ўсёй рабоце дапамагае яму парторг.

Тав. Мягкова (шчоткамбінат)—прафорг цэха мыцця, вучыцца ў гуртку спачуваючых, сістэматычна чытае газеты «Рабочий», «Віцебскі пролетарый» і мастацкую літаратуру. Сама тав. Мягкова заяўляе: «У спачуваючых я ўжо больш года, але спачатку хацела выйсці з групы, бо ніхто мною не цікавіўся, не дапамагаў у рабоце. Пасля змены кіраўніцтва я адчуваю клопаты і дапамогу. Акуратна наведваю вучобу і абавязкова падрыхтуюся да ўступлення ў партыю».

Тав. Пурнін («Чырвоны металіст» імя Кірава)—на заводзе працуе 7 год, стаж 22 гады, вучыцца ў соўпартшколе і адначасова праходзіць камандзірскую вучобу, кіруе агульназаводскай арганізацыяй Асоавіяхіма, рэгулярна чытае «Правду», «На стражы» і мастацкую літаратуру, нядаўна прачытаў «Пётр Першы», «Чапаеў» і інш., рэгулярна наведвае дом партактыва, перыядычна праводзіць чытку газет у сваёй брыгадзе па заданню партарганізацыі.

Тав. Шнеераў («Чырвоны металіст»)—на заводзе 5 год, усяго працуе 17 год. Чытае акуратна «Правду», «Віцебскі пролетарый». Грамадская работа—рэдактар штодзёнкі і культработнік цэха. Вучыцца ў соўпартшколе на добра. Сістэматычна чытае мастацкую літаратуру, прачытаў «Цусіму», «Паднятую цаліну», наведвае вячэрні універсітэт культуры, перыядычна ўцягваецца ў партжыццё.

Да гэтай невялікай групы можна было-б дадаць яшчэ многіх спа-

чуваючых, якія хутка растуць палітычна. Але побач з імі рад спачуваючых выпаў з поля зроку партарганізацыі і для работы з імі неабходна зараз-жа прыняць адпаведныя меры.

К прыкладу тав. Аксельрод (шчоткамбінат)—на вытворчасці працуе 14 год, у групе спачуваючых 6 мес. Газетай не цікавіцца, кніг зусім не чытае, на сходах не выступае. Партком да яе прымацаваў у дапамогу члена партыі тав. Лімухіна, які на просьбы Аксельрод дапамагчы заўсёды адказвае: «У цябе ёсць кніжка Інгулава, ну і чытай сабе».

Або тав. Плавінскі («Чырвоны металіст» імя Кірава)—на заводзе працуе 8 год, у групе спачуваючых ужо год, газеты чытае нерэгулярна, някіх грамадскіх абавязкаў не мае. На працягу цэлага года не быў ні на адным адкрытым партсходзе ні на спецыяльнай нарадзе спачуваючых. А ўсё з-за таго, што быў закінуты, што яго не заўважалі ні партком, ні партарганізатар цэха тав. Двынфельд.

Такім чынам мы бачым, што на радзе прадпрыемстваў няма яшчэ дыферэнцыяванай жывой работы з кожным спачуваючым. Не ўлічваюцца іх запатрабаванні і веды, не аказваецца практычная дапамога. Гутарка з жывымі людзьмі, спачуваючымі, паслужыла ўрокам для сакратароў парткомаў адзначаных прадпрыемстваў. У рэзультаце намечан рад захадаў для палепшання работы са спачуваючымі. На чарговых паседжаннях парткомаў будуць заслуханы інфармацыі прымацаваных комуністаў. Спачуваючыя пазбаўлены будуць лішніх нагрузак, якія затрудняюць работу над сабой.

У рашэннях красавіковага пленума ЦК КП(б)Б указана:

> «РК і ГК і пярвічныя партарганізацыі не аддаюць дастатковай увагі пытанню ўцягвання ў групы спачуваючых найбольш блізкіх к партыі беспартыйных актывістаў, паказаўшых на справе—на вытворчасці сваю адданасць партыі, але яшчэ не падрыхтаваных да ўступлення ў партыю».

З гэтага ўказання не ўсе яшчэ партарганізацыі зрабілі практычны вывад, не разгарнулі належным чынам палітмасавую работу са старымі кадравымі рабочымі і работніцамі, мала ведаюць іх. Інакш нельга вытлумачыць таго факта, што на шчоткамбінаце, дзе працуе 1400 рабочых, спачуваючых усяго 28 чалавек; на «Чырвоным металісце» імя Кірава з 900 рабочых—23 спачуваючыя, прычым каля 300 чалавек працуюць на заводзе па 10 год і больш; на акулярнай фабрыцы—адным з перадавых прадпрыемстваў нашага горада з вялікай колькасцю старых кадравікоў—пры 526 рабочых 19 спачуваючых.

Праўда, за апошні час партарганізацыі пачалі праводзіць спецыяльныя нарады кадравых рабочых у парткоме («Чырвоны металіст» імя Кірава, шчотачны камбінат і інш.). На «Чырвоным металісце» нарада прашла выключна актыўна, выступіла больш двух дзесяткаў людзей. Такія-ж нарады мяркуецца праводзіць раз у месяц для прапрацоўкі рашэнняў XVII партыйнага з'езда аб спачуваючых і раду іншых важнейшых пытанняў.

Работа з жывымі людзьмі—складаная і адказная. Партарганізацыі павінны ўлічыць свае ранейшыя памылкі. Трэба дабіцца росту груп спачуваючых за лік рабочых вядучых прафесій, палепшыць іх быт, зрабіць яго больш змястоўным. Даючы спачуваючаму даручэнні грамадскага характару (праверка інтэрнатаў, сталовых, лазень і іншых бытавых устаноў, работа па размеркаванню пазыкі, гутаркі з адсталымі рабочымі, чытка газет і інш.), цесна ўвязваць іх з мерапрыемствамі партыйнай арганізацыі.

**Драбінскі**

*Сакратар парткома Магілеўскай шоўкавай фабрыкі*

# Трэба па-большэвіцку арганізаваць работу са спачуваючымі

«Для згуртавання вакол ВКП(б) найбольш блізкіх к партыі беспартыйных актывістаў, паказаўшых на справе,—на вытворчасці, у калгасе—сваю актыўную дапамогу партыі, але яшчэ не падрыхтаваных да ўступлення ў партыю, стварыць пры нізавых партыйных арганізацыях групы спачуваючых ВКП(б), якія безумоўна падначальваюцца ўсім рашэнням партыйных органаў».

Гэтым самым, як гаварыў тав. Кагановіч:

«Мы даем магчымасць такім актывістам, якія на адну ступеньку яшчэ не дараслі да партыі, успрыняць навыкі арганізаванасці і перадавітасці спачатку ў групах спачуваючых. Гэта справа вельмі важная і добрая, трэба толькі яе не папсаваць, трэба, каб партыйныя арганізацыі ўдзялялі групам спачуваючых адпаведную ўвагу і сапраўды вялі сярод іх кваліфікаваную ідэйна-палітычную работу».

Пасля XVII з'езда, прапрацаваўшы яго рашэнні, партарганізацыя пачала ажыццяўляць гэту, адну з важнейшых, дырэктыў партыі. Найперш пачалі работу сярод пераведзеных у спачуваючыя, якіх было 13 чалавек. Правільна разумелі свой перавод тт. Жаркоў, Жыдкоў, але былі таварышы, якія разглядалі перавод у спачуваючыя, як асабістую крыўду. Патрэбен быў выключна чулы і таварыскі падыход, каб рассеяць гэтыя настроі і пераканаць у неабходнасці вучыцца, каб быць вартымі пераводу ў партыю.

Да кожнага з пераведзеных прымацавалі найбольш падрыхтаваных, моцных таварышоў, членаў парткома, партыйных актывістаў. Так, да т. Жаркова прымацавалі члена партыі Цыпермана для дапамогі ў палітвучобе і комсамолку Мільруд для навучання чытанню і арыфметыцы.

Партком паставіў задачу — прымаць у групу спачуваючых не к святам, не па-кампанейску, а ў рэзультаце сістэматычнай работы з усёй масай беспартыйнага актыва, вярбуючы тых, хто па свайму палітычнаму ўзроўню стаіць на ступеньку вышэй за ўсю масу. На кожным пасяджэнні партком абгаварваў некалькі кандыдатур. 1 лютага прымалі ў спачуваючыя Гарбачова—рабочага механічнага цэха, работніцу Купрэеву і Паніфедава з адбельнага цэха, 20 лютага—Іванова Д. і Іванова А.—прадзільшчыкаў, Іваненко—з мотальнага цэха; 10 сакавіка—Ракіцкага Е., Іванова; 7 красавіка—Варанчука, Кіцішава, Гаваркова; 9 мая—Родзінава, Рагачова; 15 мая—Сіда-

рава, Чэрток, Терахаву, Фішбейна, Анфілава, Матвееву. Заявы тт. Терахавай і Фішбейна разглядаліся ў першы раз на парткоме месяц таму назад, але яны не былі прыняты, бо праявілі няведанне статута партыі і абавязкаў спачуваючага; праз месяц т. Терахава і Фішбейн з'явіліся на паседжанне парткома ўпаўне падрыхтаванымі.

Партыйныя групы вядуць вярбоўку не наогул. Скажам, у кожнай брыгадзе прадзільнага корпуса 2—3 члены, кандыдаты партыі і 90 беспартыйных рабочых. Кіраўнік партыйнай, кандыдацкай групы, ведучы работу са сваёй брыгадай, у той-жа час намячае групу найбольш блізкіх, адданых рабочых і вядзе з імі работу, маючы на ўвазе вярбоўку людзей з гэтай групы перадавікоў.

Сёння фабрычная група спачуваючых налічвае 75 рабочых па ўсіх партыйных групах, падрыхтавана на бліжэйшае паседжанне мясцкома 18 чалавек, ужо прынятых цэхавым сходам. З каго-ж яны складаюцца, хто ідзе ў групу спачуваючых?

Варанчук Ефрэм—стары пролетарый, роданачальнік сям'і ўдарнікаў і герой пяцігодкі;

Радзевіч—стары кваліфікаваны рабочы металіст.

Паніфедаў—высокакваліфікаваны майстар.

Матвеева—лепшы майстар прадзільнай справы, кіруе агрэгатам.

Терэнцьеў—30 год рабочага стажу, дае лепшыя ўзоры работы, рабкор-грамадчык.

Ідуць у спачуваючыя найбольш кваліфікаваныя рабочыя, лепшыя людзі фабрыкі, але яны адчуваюць патрэбу ў дапамозе. Да большасці спачуваючых і новапрынятых прымацаваны кваліфікаваныя таварышы: да Фішбейна—член партыі Шавінскі, да Варанчука—лепшы прапагандыст фабрыкі Шэвелеў, да Родзінава—т. Кундовіч.

Партыйныя групы за апошні час пачалі склікаць спачуваючых на спецыяльныя сходы, дзе заслухоўваюцца індывідуальныя справаздачы аб павышэнні палітычнай граматнасці, даюцца канкрэтныя ўказанні, як лепш павысіць свае веды. На партыйных сходах заслухоўваюцца інфармацыі прымацаваных. Партгрупа прадзільнага цэха, заслухаўшы тт. Чуднікава і Шавінскага аб тым, як яны дапамагаюць спачуваючым, адзначыла іх недастатковую работу ў гэтым напрамку. Трэба сказаць, што член партыі Шавінскі зрабіў з указання партгрупы правільныя вывады, і цяпер прымацаваны да яго спачуваючы Сідараў робіць поспехі ў сваёй рабоце. Можа быць пераведзен у кандыдаты спачуваючы Жаркоў.

Камплектуючы сець партыйнай вучобы, мы стварылі спецыяльную школу спачуваючых, але потым жыццё паказала няправільнасць гэтай справы. Сярод спачуваючых ёсць людзі розных ведаў. К прыкладу, т. Жаркоў адчувае патрэбу ў вывучэнні граматы, а майстар Паніфедаў мае сярэднюю асвету. Зусім зразумела, што такая школа не задавальняла ні Жаркова, ні тым больш Паніфедава. Такім чынам мы адмовіліся ад школы спачуваючых і прымацавалі іх, у залежнасці ад ведаў, да школ кандыдацкіх, па вывучэнню гісторыі партыі і частку—у фабрычны комвуз і соўпартшколу.

У апошні час створана школа спачуваючых у прадзільным корпусе, для таварышоў аднаго ўзроўню. Кірую школай я. Незалежна ад ведаў, да кожнага спачуваючага давялі і даводзім рашэнні XVII з'езда, статут партыі. На паседжанні парткома слухаем інфармацыі паасобных комуністаў аб рабоце са спачуваючымі. Апошні раз слухалі аб рабоце са спачуваючымі ў адбелачным цэху і аб дапамозе спачуваючай Падгароднікавай. Канстатавалі нядрэнную



работу адбелкі і няважную работу тав. Красоўскай, якая толькі два разы займалася з Падгароднікавай. Праверка Красоўскай пасля парткома паказала, што яна ўлічыла ўказанні парткома і значна падцягнулася. Акрамя вучобы кожны спачуваючы нясе нагрузку, партыйныя заданні: Купрыянава, Сідлераў—праформі брыгад, Клачкова—член рэдкалегіі, Падгароднікава—арганізатар падпіскі на газеты і т. д.

300 чалавек інжынерна-тэхнічнага складу патрабавалі асобай работы. Пачалі са спецыяльных даручэнняў сур'ёзнага парадку—адказы на палітпытанні ў цэху пасля інструктажа ў парткоме. Нядаўна сабралі ў парткоме групу найбольш блізкіх нам інжынерна-тэхнічных работнікаў і ўзнялі пытанне аб большым удзеле іх у партмасавай рабоце. Ствараем спецыяльны семінар павышанага тыпу для кіруючай і найбольш падрыхтаванай групы інжынераў—Кіпергілака, Волкава і іншых.

У некаторых цэхах работа са спачуваючымі пастаўлена дрэнна. Сартоўка не прыступіла нават да арганізацыі групы, хоць і працуе побач з матальным, які здолеў скамплектаваць моцную групу спачуваючых. Партком прымацаваў групу адбелкі для дапамогі і перадачы вопыту сартовачнаму цэху.

Партарганізацыя змагалася за правядзенне ў жыццё рашэнняў XVII з'езда, указанняў т. Сталіна і т. Кагановіча. Але наперадзе яшчэ не мала работы.

Наша фабрыка, якая мае шматтысячны калектыў з тонкай партыйнай праслойкай, бяспрэчна, можа вылучыць у спачуваючыя вялікую групу актыва, выкарыстоўваючы яго для ўзмацнення партыйнага ўплыву, для мабілізацыі ўсяго калектыва на баявое выкананне вялікіх задач, пастаўленых перад фабрычнай арганізацыяй гістарычным выступленнем тав. Сталіна і рашэннямі ЦК КП(б)Б.

---

**Ш. Бахрах**

**Сакратар парткома магілеўскай швейнай фабрыкі імя Валадарскага**

# Як мы працуем са спачуваючымі

У нашай партарганізацыі за палітычную няграматнасць пераведзена пры чыстцы ў спачуваючыя 12 чалавек.

Па сутнасці ніякай работы з імі ў далейшым не праводзілася. 5 чалавек не былі ўцягнуты ні ў якія формы вучобы, не мелі нагрузак, прымацаваных комуністаў. Партыйна-масавая работа сярод рабочых праводзілася слаба. Фабрыка не выходзіла з прарываў у выкананні промфінплана.

Партарганізацыя за апошні час узялася за рэалізацыю рашэнняў XVII з'езда партыі, які паставіў задачу—арганізаваць вакол ВКП(б) найбольш блізкіх к партыі беспартыйных актывістаў, паказаўшых на вытворчасці, на грамадскай рабоце сваю адданасць партыі.

Партыйная арганізацыя за апошні час правяла значную работу па ўцягненню перадавых работнікаў у групы спачуваючых. На нарадзе, дзе прысутнічалі ўсе парторгі, была шырока прапрацавана пастанова пленума Ленінградскага гаркома аб задачах партыйна-арганізацыйнай і палітычна-выхаваўчай работы. Парторгі, атрымаўшы зарадку, па-большэвіцку ўзяліся за работу. Праведзены былі сходы партгруп з шырокім удзелам рабочых. Цэхавыя партгрупы разгарнулі партыйна-масавую работу сярод беспартыйных рабочых. Вакол брыгадных партгруп скалочан моцны актыў з перадавых ударнікаў, якія прымаюць актыўны ўдзел у правядзенні гаспадарча-палітычных кампаній. У партгрупах пасля прапрацоўкі пастановы Ленінградскага гаркома прымацаваны былі комуністы да некалькіх рабочых ударнікаў. Зараз у нашай партарганізацыі 32 спачуваючыя. Выдатнікі-зотаўцы, перадавыя барацьбіты за промфінплан падаюць заявы аб прыёме іх у спачуваючыя.

Спачуваючая Бескіна мае 28-гадовы вытворчы стаж, ударніца-зотаўка, вылучэнка, інструктар ленты сталінскай брыгады. Лахардзенко—ударна працуе ў цэху жаночага поўпаліто, з моманту арганізацыі фабрыкі добра аўладала тэхнікай вытворчасці, зотаўка-выдатніца, прымае актыўны ўдзел у грамадскай рабоце, з'яўляецца зменавым праформгам, была абрана дэлегаткай на XI усебеларускі з'езд советаў. Спачуваючыя Гершанок, Чахоўская, Сіманоўскі і інш. паказваюць узорныя прыклады не толькі ў выкананні промфінплана, але і ў грамадскай рабоце.

Пры партгабінеце, прыстасоўна да змен, працуе школа спачуваючых, дзе вывучаецца статут і праграма партыі, бягучая па-

літыка. Заняткі праводзіць прапагандыст тав. Доўжык. Ён-жа прымацаваны адказным да групы спачуваючых. Спачуваючыя добра засвойваюць матар'ял. Тт. Лахардзенко, Леплер, Сіманоўскі, Чахоўская і інш. паказваюць узоры ўдарнай вучобы. Заняткі ў школе адбываюцца 6 раз у месяц.

На сходах спачуваючых шырока растлумачана вялікае значэнне ўзбраення асновамі марксізма-ленінізма, важнасці партыйнай дысцыпліны, неабходнасці актыўнага ўдзелу ў грамадскім і вытворчым жыцці фабрыкі. Да ўсіх спачуваючых прымацаваны комуністы, у большасці тыя таварышы, якія давалі рэкамендацыі. Прымацаваныя дапамагаюць спачуваючым выконваць даручэнні партыйнай арганізацыі.

Спачуваючыя Алескер з партгрупы закройнага цэха (парторг Эстрын) мае партыйную нагрузку рэдактара цэхавай насценгазеты і прыкладна выконвае гэту работу. Насценгазета вядзе нястомную барацьбу за ператварэнне закройнага цэха ў перадавы, бо ад яго залежыць паспяховая работа ўсёй фабрыкі. Трэба сказаць, што закройны цэх значна падцягнуўся. Алескер рэгулярна чытае газеты і многа мастацкай літаратуры.

Спачуваючы Сіманоўскі—праforг склада, з работай спраўляецца нядрэнна, чытае газеты і мастацкую літаратуру, прымае актыўны ўдзел у грамадскіх арганізацыях.

Спачуваючая Губчэўская мае грамадскую нагрузку ў якасці старшыні ячэйкі «Прыхільнік дзяцей». Губчэўская імкнецца як мага больш завербаваць у ячэйку работніц, каб агульнымі сіламі весці барацьбу з дзіцячай беспрытульнасцю.

Нельга не адзначыць прыкладны ўдзел спачуваючых у правядзенні падпіскі на новую пазыку. Сёлета мы правялі падпіску на працягу 24 гадзін (у мінулым годзе яна працягвалася больш 2-х тыдняў). У паспяховай рэалізацыі пазыкі вялікую ролю адыгралі спачуваючыя. Варта адзначыць выступленне на мітынгу спачуваючай Шчукінай, якая проста, па-рабочаму, расказала аб ролі нашых пазык у справе соцыялістычнага будаўніцтва. Шчукіна першай падпісалася на месячны заработак. Пасля выступлення Шчукінай спачуваючая Лаева падпісалася таксама на месячны заработак. Іх простыя словы і прыклад узнялі ўсю масу работніц. Падпіска ў першай змене другога цэха, дзе працуе больш 100 работніц, была праведзена за 10 мінут.

Побач з поспехамі ў рабоце са спачуваючымі ёсць у нас і недахопы. Мы яшчэ не ставілі індывідуальныя справаздачы спачуваючых аб іх грамадскай і вытворчай рабоце. А такія справаздачы маюць вялікае выхаваўчае значэнне. Мы павінны правесці яшчэ значную работу, каб падрыхтаваць са спачуваючых сапраўдных рэволюцыйных барацьбітоў, вартых змагацца за справу Леніна—Сталіна ў радах нашай вялікай большэвіцкай партыі.

Шырока прапрацаваўшы пастанову пленума Ленінградскага гарадскога камітэта ВКП(б) па партгрупах, у цэхах і на агульным сходзе, партарганізацыя паставіла сваёй асноўнай задачай ідэйна-палітычна ўзброіць кожнага комуніста, палепшыць якасць партыйнай вучобы. У гэтай справе мы дабіліся значнага пералому. Калі ў канцы сакавіка наведванне заняткаў па ўсёй сеці партвучобы было дрэннае, многія комуністы прапускалі заняткі па 5—7 раз (Алексеенко, Нешкес, Рыўкін, Лейн, Бескін, Кацман і інш.), паспяховасць была нізкая, бо комуністы не працавалі над сабой, не рыхтаваліся да заняткаў, то ця-

пер малюнак іншы. Кожны комуніст узят на ўлік і пад кантроль. Партком вынес рашэнне аб палепшанні якасці вучобы і наведвання заняткаў. Рашэнне гэта строга выконваецца. Прыкладам можа служыць Алексеенко. Раней ён лічыўся самым адстаючым, а зараз добра вучыцца, старанна рыхтуецца да заняткаў. Таксама добра вучацца і працуюць над сабою Рыўкін, Бескін і рад іншых таварышоў, аб чым дакладваў на парткоме прапагандыст СПШ тав. Віткоўскі. Матар'ял да заняткаў прапрацоўваецца не толькі індывідуальна, а групамі. Група парторга Пеўзнер (цэх № 2, змена Славіна) пад кіраўніцтвам парторга ўзорна рыхтуецца да заняткаў партшколы. Комуністы старанна вывучаюць гісторыю партыі. Да першага мая заняткі па гісторыі адбываліся 4 разы ў месяц, а зараз 10 раз. На семінарах группарторгаў, якія адбываюцца 4 разы ў месяц, прапрацоўваюцца пытанні бягучай палітыкі. Прапрацавана пастанова пленума Ленінградскага гаркома, пастанова аб барацьбе з дзіцячай злачыннасцю, прамова тав. Сталіна, пастановы ЦК КП(б)Б, РК КП(б)Б і т. д.

У парткоме і на партгрупах заслухоўваюцца індывідуальныя справаздачы комуністаў аб іх рабоце, вучобе і выхаванні дзяцей (заслуханы справаздачы Бескіна, Гнесіна, Класса, Элькінай і рад іншых).

Асабліва значная ўвага ўдзяляецца спачуваючым і кандыдатам, пераведзеным па чыстцы партыі. Пераведзены ў кандыдаты т. Сімховіч прынят ужо зноў у члены партыі. Добра ўзбройваюцца марксізмам-ленінізмам т. Хамялянскі, пераведзены ў кандыдаты, Леплер, пераведзены ў спачуваючыя, і Сусман. Гэтыя таварышы хутка будуць адноўлены у сваім ранейшым званні.

Па цэху і брыгадах вылучаны паліт'інфарматары, чытчыкі газет, з якімі праводзіцца падрыхтоўчая работа. На нашай фабрыцы працуе больш 1500 рабочых. Гэта—былыя саматужнікі, калгаснікі і аднаасобнікі, у псіхалогіі якіх яшчэ трымаюцца дробнаўласніцкія перажыткі. Таму сістэматычная большэвіцкая агітацыя ў гэтых умовах мае велізарнейшае значэнне.

Агітатар у цэху, у брыгадзе—вялікая сіла ў барацьбе за выкананне промфінплана, за высокую якасць прадукцыі, за выхаванне людзей у духу большэвізма.

Канкрэтная работа агітатараў дае ўжо свае вынікі. У другім цэху агітатары Дучкова, Дзмітрава растлумачваюць рабочым рашэнні партыі і ўрада, праводзяць гутарку аб міжнародным становішчы. Яны многа дапамаглі цэху ў аўладанні тэхнікай і выкананні промфінплана. Дзякуючы добрай пастаноўцы партыйна-масавай работы і агітацыі, цэх перавыконвае промфінплан і знізіў брак да 0,17 (замест планавых 0,50).

Усёй работай кіруюць зменавыя партгрупы, на чале якіх стаяць вылучэнцы Чэрняк і Пеўзнер. У цэху ўсё яшчэ няма памяшкання для ленкутка, і ўсю партмасавую работу прыходзіцца праводзіць на дварэ. Раней у цэху быў заціск самакрытыкі, ганенне на рабкораў (нач. цэха Бескін за крытыку перавёў т. Мяцеліцу на іншую работу), зрыў штодзёнак, сямейнасць. Усё гэта цяпер ліквідавана. Комсамолец рабкор Мяцеліца лічыцца лепшым ударнікам на рабоце і ў друку. Рэгулярна ў цэху выходзяць брыгадныя штодзёнкі і цэхавыя насценгазеты, якія значна дапамагаюць у рабоце. Тры сталінскія брыгады—Агрэст, Бескінай і Ляцкевіч сталі суцэльна тэхнічна граматнымі. Усе рабочыя брыгады Агрэста—выдатнікі.

Або возьмем цэх дамскага поўпаліто, які ўвесь час быў адным з адстаючых. Пасля таго, як партгрупы шырока разгарнулі агітацыю

і партмасавую выхаваўчую работу, цэх мае значныя поспехі. Агітатар Камелянскі штодзенна вядзе з рабочымі гутаркі і чытку газет. Парторг Марголін узорна паставіў работу ў партгрупе, яго змена з'яўляецца перадавою. Добра пастаўлена агітацыйная работа за лепшае выхаванне дзяцей.

За апошні час палепшылася якасць правядзення партсходаў, што тлумачыцца вялікай падрыхтоўчай работай. Да сходу загадзя праводзім семінары парторгаў, потым абгаварваем на партгрупах абвестку дня. Азнаёміўшыся з абвесткаю дня, комуністы ўзмоцнена рыхтуюцца да выступлення. На жаль, у нас яшчэ ёсць маўчальнікі, як Лукомская, Фрэйдман, Розельман, Купрэеў, Апосталаў, якія адарваліся ад партыйнага жыцця і не прымаюць удзелу ў партыйнай рабоце. Партком прымае адпаведныя меры для ўцягнення іх у партыйнае жыццё.

За апошні час значна палепшылася партыйнае кіраўніцтва нізавым друкам і рабкорамі, што адзначана ў пастанове райкома партыі. Як партком, так і паасобныя парторгі сталі ўдзяляць больш увагі нізавому друку. Амаль на ўсіх партгрупах штодня заслухоўваюцца справаздачы рэдактароў. З парторгамі, а потым на партгрупах, прапрацоўваюцца пытанні кіраўніцтва нізавога друку рабкорамі.

Значна палепшылася арганізацыйная і выхаваўчая работа сярод рабкораў, для іх арганізован семінар. Перыядычныя нарады рабкораў спрыялі значнаму росту актыва (зараз налічваецца 375 рабкораў).

Улічыўшы былыя факты зацiску самакрытыкі, зрыву штодзёнак, сямейнасці, партарганізацыя шырока разгарнула растлумачальную работу, правяла палітдзень і партдзень па пытанню стану крытыкі і самакрытыкі на фабрыцы. У гэтай справе цяпер дасягнут значны пералом.

Работа комсамольскай арганізацыі значна палепшылася. Усе комсамольцы ахоплены вучобай, школы забяспечаны прапагандыстамі. Да комсамольскай арганізацыі прымацован член парткома дырэктар фабрыкі т. Коган. Да кожнай комсамольскай групы ў цэхах таксама прымацаваны комуністы. Слаба яшчэ пастаўлена комсамольская дысцыпліна, некаторыя таварышы як след не рыхтуюцца да заняткаў.

Партарганізацыя мае яшчэ і рад недахопаў у сваёй рабоце. Профактыў фабрыкі не ахоплен палітвучобай. Не арганізавана палітшкола і семінары для праforгаў, якіх на фабрыцы налічваецца 12 зменавых і 41 брыгадны. Фабком канкрэтна не дапамагаў ім і не кіраваў іх работай. Партгрупы Бекерава і Рагавера не наладзілі масавай і выхаваўчай работы са спачуваючымі, не выяўляюць актыва ўдарнікаў. У партгрупах слабая дысцыпліна. Слабасць інтэрнацыянальна-выхаваўчай работы спрыяла антысеміцкім і шавіністычным вылазкам паасобных рабочых. У першым цэху толькі адна сталінская комсамольска-маладзёжная брыгада. Партгрупы дрэнна кіруюць і дапамагаюць комсамолу, не наведваюць партшкол. Комуністы Кацман, Фрэйдзін, як і сам партгрупорг Бекераў, не рыхтуюцца да партыйных заняткаў, мала наведваюць партшколу, слаба вучацца, не здалі яшчэ тэхэкзамена.

Партком фабрыкі прыняў усе захады к таму, каб ліквідаваць адзначаныя недахопы. Асаблівая ўвага ўдзяляецца выхаванню і вырошчванню кадраў, клопату аб людзях.

---

**В. Анісімаў**

**Сакратар парткома Магілеўскага аўтарамонтнага завода**

# Работа са спачуваючымі—важнейшая задача партарганізацыі

Пленум Ленінградскага гаркома ў сваім апошнім рашэнні аб задачах партыйна-арганізацыйнай і палітычна-выхаваўчай работы з усёй вострасцю паставіў пытанне аб рабоце са спачуваючымі:

> «Многія партыйныя камітэты яўна недаацэньваюць значэнне работы па арганізацыі пры пярвічных партарганізацыях груп спачуваючых ВКП(б) з ліку... «найбольш блізкіх к партыі беспартыйных актывістаў, паказаўшых на справе—на вытворчасці, у калгасе—сваю актыўную дапамогу партыі, але яшчэ не падрыхтаваных да ўступлення ў партыю».

Гэта недаацэнка прывяла к таму, што на многіх прадпрыемствах або зусім няма груп спачуваючых, або яны невялікія. Пленум, указваючы, што групы спачуваючых з'яўляюцца, побач з комсамолам, адным з асноўных каналаў папаўнення партыі новымі палітычна-стойкімі комуністамі, прапануе ўсім партарганізацыям разгарнуць работу па арганізацыі груп спачуваючых.

Пры партарганізацыі аўтарэмзавода да рашэння красавіковага пленума КП(б)Б было 9 чалавек спачуваючых, з іх новапрынятых толькі 4 чалавекі.

Як партком, так і парторгі цэхаў не займаліся пытаннямі прыёму ў спачуваючыя, хоць і мелі ў дастатковай меры праверany на рабоце беспартыйны актыў, які блізка стаіць к партыі. Раз у месяц праводзіліся нарады-гутаркі, на якіх высвятляліся пытанні, што цікавяць і хвалююць таварышоў, уступіўшых у спачуваючыя. Да партыйных груп спачуваючыя не прымацоўваліся і былі прадастаўлены самі сабе.

Прапрацаваўшы на партсходзе рашэнні пленума Ленінградскага гаркома і адпаведныя артыкулы «Праўды», партарганізацыя паставіла адной з важнейшых сваіх задач прыём і работу са спачуваючымі.

Лепшыя, найбольш блізкія к нашай партыі беспартыйныя рабочыя і ІТР, дзякуючы шырока разгорнутай растлумачальнай рабоце, падалі заявы аб прыёме ў спачуваючыя. За апошнія паўтара месяцы прынята 9 чалавек. Сярод іх т. Стражэвіч з 30-гадовым вытворчым стажам слесар рамонтна-механічнага цэха; тав. Астапаў—лепшы ўдарнік-каваль цэха аднаўлення і выбару дэталей (ЦВІД); Гадунцова Соня рэвальвершчыца, якая прышла на пабудову чорнарабочай, а

зараз набыла кваліфікацыю. Зараз на заводзе прынята ў спачуваючыя 17 чалавек, і падалі заявы яшчэ 5 чалавек.

Усе спачуваючыя вучацца ў залежнасці ад ступені падрыхтоўкі: асноўная маса—у школе спачуваючых, 4—у кандыдацкай, 2—у гуртку па вывучэнню гісторыі партыі і 1 у марксісцка-ленінскім гуртку.

Спачуваючыя Гардзей, Вялічка і Сідарэнка з'яўляюцца ўдарнікамі вучобы. Са спачуваючымі рэгулярна праводзяцца нарады па пытаннях вучобы, нагрузак, падрыхтоўкі да пераводу ў партыю і т. д. Да найбольш слаба падрыхтаваных Гадунцовай і Мурашко прымацаваны члены партыі. Партгрупорг рамонтна-механічнага цэха тав. Іваноў склікае рэгулярна нарады спачуваючых, группарторг інструментальнага цэха т. Мар'янаў разгарнуў вялікую работу па ўцягненню лепшых беспартыйных актывістаў. За апошні час па гэтаму цэху падалі заявы і прыняты ў спачуваючыя 4 чалавекі.

Асноўны і істотны недахоп работы са спачуваючымі—усё яшчэ слабы прыём у групы. Такія буйныя цэхі, як кузаўны, мантажна-дэмантажны, не маюць ні аднаго спачуваючага. Партгрупоргі адміністрацыйнай групы і механічнага цэха нерэгулярна збіраюць спачуваючых, не працуюць сістэматычна з імі. З-за недастатковай увагі адзін са спачуваючых, добры ўдарнік, плотнік-брыгадзір т. Спірыдовіч дрэнна наведваў партвучобу, не працаваў над сабой і ў рэзультаце амаль адарваўся ад партыйнага жыцця.

Адсутнасць пільнасці і безадказнасць рэкамендаваўшых прывялі к таму, што ў спачуваючыя прынялі чалавека, які раней судзіўся, але скрыў гэта ад партарганізацыі. На парткоме таксама быў устаноўлен факт, што рэкамендаваны ў спачуваючыя членам партыі адзін з рабочых, як лепшы ўдарнік, не толькі не выконвае сваіх абавязкаў рабочага, але быў заўважан у розных антымаральных учынках (п'янка, дэбошы).

Усё гэта гаворыць аб тым, што паасобныя комуністы не ўлічылі ўсёй важнасці прыёму ў спачуваючыя сапраўды лепшых рабочых і ІТР.

На заводзе, хоць яшчэ і маладым, мы ўжо маем значныя кадры добрых рабочых і ІТР, якія безумоўна могуць быць у групе спачуваючых. Група спачуваючых складаецца з 17 чалавек. Сярод іх лепшыя знатныя людзі завода—тт. Вялічка (шофер), Гардзей (слесар-вылучэнец, зараз—цэхавы планавік), Эйгер (слесар, зараз загадчык клубам), Спірыдовіч (брыгадзір-плотнік). Гэта вядучае ядро паказвае прыклад соцыялістычных адносін да вытворчасці, актыўна змагаецца за план, павышае сваю палітычную граматнасць і вытворчую кваліфікацыю. Тт. Эйгер, Дубенкоў і Саўчанка, пераведзеныя пры чыстцы з членаў і кандыдатаў у спачуваючыя, падрыхтаваліся ўжо да пераходу ў партыю.

У рабоце з беспартыйным актывам партком практыкуе ў асноўным індывідуальныя гутаркі, але яшчэ далёка несістэматычна. З беспартыйным актывам Панасевіч (брыгадзір), Стругацкі (табельшчык), Волчанка (дзесятнік-будаўнік), Карташова (тэхнік), Пшанічнікаў (плотнік-вылучэнец) і інш.—партарганізацыя яшчэ не наладзіла сталай работы.

У далейшым неабходна глыбей разгарнуць работу па ўцягванню ў групы спачуваючых лепшых беспартыйных, больш увагі аддаваць прынятым у спачуваючыя, дыферэнцыяваць вучобу іх у залежнасці ад узроўню падрыхтаванасці, канкрэтна дапамагаць спачуваючым, прымацоўваючы да іх развітых членаў партыі.

---

**Я. Сегаль**

**Сакратар парткома скурзавода—г. Магілеў**

# Работу са спачуваючымі трэба паставіць узорна

Амаль паўтара гады таму назад XVII з'езд партыі пастанавіў:

«Для згуртавання вакол ВКП(б) найбольш блізкіх к партыі беспартыйных актывістаў, паказаўшых на справе,—на вытворчасці, у калгасе—сваю актыўную дапамогу партыі, але яшчэ непадрыхтаваных да ўступлення ў партыю,—стварыць пры нізавых партыйных арганізацыях групы спачуваючых ВКП(б), якія безумоўна падначальваліся-б усім рашэнням партыйных органаў».

Тав. Кагановіч у сваім дакладзе на XVII з'ездзе папярэдзіў партыйных работнікаў, што «гэта справа вельмі важная і добрая, трэба толькі яе не папсаваць, каб партыйныя арганізацыі аддавалі групам спачуваючых адпаведную ўвагу і вялі сярод іх кваліфікаваную ідэйна-палітычную работу».

Цяпер на нашым заводзе налічваецца 15 спачуваючых, з якіх 4 пераведзеных па чыстцы партыі, а астатнія 11 прыняты з ліку лепшых ударнікаў-перадавікоў прадпрыемства. Спачуваючымі з'яўляюцца пераважна рабочыя вядучых прафесій, старыя кадравікі з 15-20 гадовым стажам, глыбока правераныя арганізацыяй людзі. Усе спачуваючыя ахоплены партпалітвучобай. 13 чалавек вучыцца ў кандыдацкай школе, 1—у соўпартшколе і 1 у першапачатковай школе па ленінізму. Для павышэння ідэйна-тэарэтычнага і палітычнага ўзроўню да 9 спачуваючых прымацаваны найбольш падрыхтаваныя комуністы. Акрамя вучобы ў школах і работы прымацаваных, ужываецца гуртковы метад прапрацоўкі статута і праграмы партыі ў час абедзеных перапынкаў.

Такіх гурткоў на заводзе два: адзін пры партгрупе аддзелачнага цэха, дзе навучаюцца 7 спачуваючых (кіруе прапагандыст т. Гейман) і другі—пры партгрупе адмочна-зольнага цэха, дзе навучаецца 5 чалавек (кіруе группарторг т. Барздо). Гэтымі гурткамі ахоплен таксама і рад рабочых-ударнікаў, якія падрыхтоўваюцца да ўступлення ў групу спачуваючых. З іх ліку партыйны камітэт прыняў у спачуваючыя лепшую ўдарніцу-выдатніцу тав. Кірпічэнко, якая ўвесь час акуратна наведвала гурток па вывучэнню статута і праграмы партыі і кандыдацкую школу.

Як партком, так і группартарганізатары ўцягваюць спачуваючых у актыўную работу, даюць ім даручэнні, а таксама грамадскія нагрузкі, што з'явілася рэзультатам агульнага і палітычнага росту спачуваючых.

Ахарактарызуем работу паасобных спачуваючых. Тав. Фельдман, акрамя перыядычных даручэнняў группартарганізатара, выконвае і пастаянную нагрузку: сакратар ячэйкі МОПР і, як член гарадскога совета, актыўна працуе ў яго гандлёва-каапeрацыйнай секцыі. Да ўступлення ў спачуваючыя не прымаў амаль ніякага ўдзелу ў грамадскай рабоце, а цяпер з дапамогай парткома і сваёй партыйнай групы нядрэнна спраўляецца са сваімі нагрузкамі, пачаў лепш паспяваць у кандыдацкай школе.

Тэхніка т. Якімецкага партыйная група прызначыла палітбяседчыкам. У дні паліт'інфармацый тав. Якімецкі праводзіць у брыгадзе гутаркі аб важнейшых рашэннях партыі і ўрада, па пытаннях бягучай палітыкі і т. д. Многае зрабіў для ўкаранення тэхнічных ведаў сярод рабочых. Як кіраўнік тэхнічнага гуртка, падрыхтаваў больш 40 вынатнікаў, актыўна працуе ў секцыі ІТР завода, з'яўляецца грамадскім тэхнічным кіраўніком брыгады кантоўшчыкаў, якуюператварыў з тэхнічна малаграматнай у зотаўскую. Адначасова прымае актыўны ўдзел у рабоце заводскага совета вынаходцаў.

Тав. Шкель—рабочы-кантоўшчык з 25-гадовым вытворчым стажам. З группрафорга брыгады вылучан арганізатарам адмочна-зольнага цэха, дзе працуе каля 130 чал., разбітых на пяць суцэльных зотаўскіх брыгад. Сам тав. Шкель служыць прыкладам для ўсяго калектыва цэха і ў вытворчай рабоце, акуратна наведвае кандыдацкую школу.

Брыгада кантоўшчыкаў, старэйшым брыгадзірам якой з'яўляецца спачуваючы т. Фёдараў, першай па заводу стала суцэльнай зотаўскай брыгадай. У выкананні вытворчых паказчыкаў і зніжэнні браку брыгада кантоўшчыкаў таксама лічыцца адною з першых. Сам тав. Фёдараў сістэматычна перавыконвае сваё заднне і звёў брак да нуля.

Партком і партгрупарганізатары сістэматычна правяраюць, як спачуваючыя выконваюць свае заданні і грамадскую нагрузку і ў выпадку патрэбы своечасова ім дапамагаюць.

Партгрупа аддзелачнага цэха (групparторг Каган Ш.) намеціла заслухаць на чарговым сваім сходзе справаздачу спачуваючых Фельдмана і Карначыка. Двум брыгадам даручана праверыць, як гэтыя спачуваючыя выконваюць свае нагрузкі, як паспяваюць у вучобе, якія газеты і літаратуру чытаюць. Пры праверцы брыгады цікавіліся і бытавымі ўмовамі спачуваючых, выхаваннем дзяцей, скарыстаннем вольнага часу. Такія самасправаздачы, як адзін з асноўных метадаў выхавання і дапамогі спачуваючым у рабоце, намеціла і партгрупа адмочна-зольнага цэха.

Практыкуем таксама нарады спачуваючых, дзе высняем, як той ці іншы прымацаваны працуе са спачуваючым, як сам спачуваючы працуе над кнігай і газетай, у чым заключаюцца прычыны, якія тармозяць развіццё спачуваючых, як спачуваючыя спраўляюцца з вытворчымі задачамі і інш.

Нельга абыйсці моўчкі таго, што некаторыя прымацаваныя (Швец, Розін) слаба, а то і зусім не дапамагаюць спачуваючым у іх ідэйна-палітычным росце. Палітычная інфармацыя, выпіска і чытаемасць газет спачуваючымі не на належнай вышыні. Партпрымацаваныя часта недыферэнцыявана падыходзяць да спачуваючых, дзякуючы чаму, напрыклад, тав. Рудкова стала пасіўнай.

Пасля пастановы пленума ЦК КП(б)Б аб рабоце са спачуваючымі мы паставілі перад сабой задачу—навучыць спачуваючых працаваць над кнігай, рэгулярна чытаць газету, карыстацца паліт-

слоўнікам, добра рыхтавацца на-даму да заняткаў, правільна выкладаць свае думкі на гуртку і сходах. Гэтыя задачы стаяць цяпер у цэнтры ўсёй работы партыйнай арганізацыі завода са спачуваючымі.

З беспартыйным актывам партком праводзіць у цэхах, брыгадах, групах паліт'інфармацыі, палітгутаркі, а таксама палітдні. Паліт'інфармацыі ў цэхах праводзяцца раз у 3—5 дзён, для чаго партком вылучыў найбольш падрыхтаваных членаў арганізацыі. Кожны паліт'інфарматар прымацован да пэўнага цэха: т. Месенгісер—да аддзелачнага, тав. Азбель—да першай змены дубовага, т. Розін—да другой змены, т. Швец—да сокаваркі, т. Кагаnoўскі—да зольнага, т. Файнштэйн—да механічнага і т. д.

Акрамя таго, арганізован інстытут палітбяседчыкаў з комуністаў, якія непасрэдна працуюць у брыгадзе. На іх ускладзена адказнасць за правядзенне палітгутарак і чытак сярод рабочых брыгады. Як паліт'інфарматары, так і палітбяседчыкі атрымліваюць неабходны інструктаж і дапаможны матар'ял ад парткома. Беспартыйны актыў таксама выхоўваецца на актыўным удзеле ў рабоце грамадскіх арганізацый (Мопр, Асовіяхім, Озет і інш.). Праводзяцца заняткі для рабочага кантролю. Усе рабочыя, якія здалі тэхэкзамен на выдатна, навучаюцца ў гуртках павышанага тыпу. Аднак нам яшчэ патрэбна многае зрабіць, каб паставіць на належную вышыню работу са спачуваючымі.

**Шагер**

**Сакратар парткома Магілеўскага трубаліцейнага завода**

# Як мы працуем са спачуваючымі

Магілеўскі трубаліцейны завод пабудован к канцу першай пяцігодкі і пушчан у ход у 1932 г. Завод пачаў сваю работу пры 100 рабочых. Калі ў 1933 г. завод меў план на выпуск 1600 тон труб, то ў 1934 г. планавае заданне павялічылася да 6 тыс. тон, а на 1935 год мы маем план 10 тысяч тон.

Рабочыя ў большасці прышлі з вёскі і не ведалі тэхнікі вытворчасці. Гэта адмоўна адбівалася на выкананні промфінплана. Завод да 1934 года промфінплан выконваў не больш як на 50—60 проц., у 1934 годзе план выканан на 85%. У 1935 годзе завод працуе значна лепш. Красавік месяц у параўнанні з красавіком мінулага года паказвае рост прадукцыйнасці працы. Калі ў красавіку 1934 г. пры планавым заданні 417 тон труб было выпушчана толькі 116,6 тон—28% плана, то ў красавіку 1935 года пры планавым заданні 776,5 тон труб выпушчана 820,3 тоны—105,7%. Партыйная арганізацыя завода змагаецца за тое, каб план выконваць штодэкадна, штомесячна з высокаякаснай прадукцыяй.

Партарганізацыя завода ў 1934 годзе складалася з 15 комуністаў. Зараз яна ўсё яшчэ малаліка—23 чал. На заводзе каля 500 чалавек рабочых, большая частка прышла з вёскі і працуе на заводзе 1—2 гады. Пры такой колькасці рабочых партыйная праслойка слабая.

У асноўным, ліцейным, цэху толькі 5 комуністаў, двое з іх працуюць за станком, а трое майстрамі. Паколькі завод працуе ў тры змены, то некаторыя з іх маюць па аднаму комуністу. У цэхах няма партыйных груп, што ўскладняе работу парткома.

Асноўную ўвагу партком удзяляе рабоце з комуністамі і арганізацыі масава-выхаваўчай работы з актывам. Зараз на заводзе больш 100 чалавек актыва—лепшых людзей вытворчасці, ударнікаў выдатнікаў. Яны дапамагаюць партыйнай арганізацыі ў правядзенні ўсіх мерапрыемстваў партыі і ўрада. Сярод гэтых людзей блізка стаяць к партыі чалавек—25—30.

У групе спачуваючых 9 чалавек, якія не толькі апраўдваюць сябе на вытворчасці, але актыўна ўдзельнічаюць у грамадскім жыцці завода. Тав. Тярэшчанка прышоў на завод чорнарабочым, не меў уяўлення аб вытворчасці, а зараз аўладаў тэхнікай, здаў дзяржтэхэкзамен на выдатна, добра працуе брыгадзірам па вырабу шышак і можа быць майстрам. Ён значна ўзняў свой палітычны ўзровень, разбіраецца як у міжнароднай, так і ўнутранай палітыцы партыі. Добра

працуе ў мопраўскай арганізацыі. Каваль механічнага цэха тав. Дарэўскі прыкладны ў рабоце, актыўны ў заўкоме, добра вучыцца ў палітшколе. Сярод спачуваючых мы маем такіх лепшых выдатнікаў вытворчасці, як тав. Бондар (брыгадзір шышэльнік), Конанава (саломакрутка), Шумакоў (майстра-шышэльнік) і іншыя.

Спачуваючыя актыўна ўдзельнічаюць у адкрытых партыйных сходах. На апошнім партсходзе 20 мая спачуваючыя тт. Тярэшчанка, Фішбейн і інш. канкрэтна выступалі, выяўлялі недахопы ў рабоце, давалі свае прапановы.

Трэба адзначыць, што спачуваючыя добра выконваюць партыйныя даручэнні. Прыкладна, тав. Дарэўскі добра арганізаваў сярод рабочых падпіску на пазыку «3-ці год другой пяцігодкі», за 4 гадзіны ахапіўшы 100% рабочых свайго цэха. Спачуваючы Тярэшчанка добра арганізаваў падрыхтоўку рабочых сваёй змены да палітдня, сабраў ад рабочых каля 200 розных пытанняў.

Партком удзяляе сур'ёзную ўвагу павышэнню палітычнага ўзроўню спачуваючых. Усе спачуваючыя ахоплены палітвучобай і займаюцца ў кандыдацкай школе. З ростам групы паўстае пытанне аб арганізацыі асобнай палітшколы для спачуваючых, каб ахапіць усіх палітвучобай.

Партыйная арганізацыя дабіваецца, каб у самы кароткі час значна павялічыць групу спачуваючых за лік лепшых ударнікаў. Ёсць ужо падрыхтаваныя да новага прыёму ў групу спачуваючых рабочыя тт. Тецярукоў, Міцкевіч, Даніловіч, Кузьміцкі і іншыя.

Партком намеціў праводзіць кожны месяц дзве нарады са спачуваючымі па пытанню чытання імі газет і кніг, выданых бібліятэкай, а таксама па пытанню выхавання імі сваіх дзяцей.

Партарганізацыя завода з усёй сур'ёзнасцю змагаецца за падрыхтоўку палітычна развітага папаўнення радоў партыі з тым, каб павялічыць партыйную арганізацыю і яе ўплыў на беспартыйныя масы рабочых і ў самы кароткі час вывесці завод у рады перадавых прадпрыемстваў ордэнаноснай рэспублікі.

---

С. Крывулін

Сакратар парткома
віцебскай ф-кі „КІМ“

# Групы спачуваючых—асноўны канал папаўнення партыі стойкімі большэвікамі

Амаль паўтара гады прашло з таго часу, як XVII з'езд ВКП(б) прыняў рашэнне аб арганізацыі груп спачуваючых. Пярвічная партарганізацыя ф-кі «КІМ» недаацаніла сваёй важнай ролі ў арганізацыі груп спачуваючых, у крапатлівай штодзеннай рабоце з імі.

На фабрыцы працуе 5 тысяч рабочых. У партарганізацыі фабрыкі—членаў партыі 92 чал. і кандыдатаў 46 чал. У час чысткі ў спачуваючыя было пераведзена 17 чалавек.

За апошні час група спачуваючых узрасла да 47 чалавек, што ў параўнанні з агульнай колькасцю рабочых фабрыкі вельмі недастаткова. Гэты факт гаворыць аб тым, што партком не поўнасцю перабудаваў сваю работу і недазразумеў, што «групы спачуваючых, побач з комсамолам, з'яўляюцца адным з асноўных каналаў папаўнення партыі стойкімі моцнымі большэвікамі». *)

Пасля чысткі выхаваўчая работа са спачуваючымі праводзілася слаба, без усякага плана, не насіла масавага характару. Не лічачы парторга трыкатажнага цэха т. Гобербург, якая праводзіла вялікую індывідуальную работу са спачуваючымі, ні адзін парторг спачуваючымі не цікавіўся. Сем спачуваючых зусім не ўдзельнічалі ў грамадскім жыцці свайго цэха, 5 чал. адсеяліся—выбылі з фабрыкі і нават не зняліся з уліку. Вельмі мала спачуваючых займалася ў школах.

Гэта было вынікам несістэматычнай работы партарганізацыі са спачуваючымі, некаторыя з якіх (Гуткін, Вельфля і інш.) лічылі сябе нават пакрыўджанымі тым, што іх называюць спачуваючымі.

Пастанова пленума ЦК КП(б)Б аб задачах партыйна-арганізацыйнай і палітычна-выхаваўчай работы паставіла перад кожнай пярвічнай партарганізацыяй мэту—рэалізаваць рашэнне XVII з'езда партыі аб рабоце са спачуваючымі.

У групу спачуваючых уступаюць старыя кадравыя работніцы, якія працавалі яшчэ на фабрыцы імя Клары Цэткін. Многія з іх маюць 20-гадовы вытворчы стаж, а т. Магін—нават 25-гадовы. Сістэматычная і паслядоўная работа парткома і асабіста парторгаў дала тое, што кожны спачуваючы зразумеў сваю авангардную ролю на вытворчасці. Усе 47 спачуваючых з'яўляюцца ўдарнікамі, 75 проц. спачуваючых-зотаўцы.

Цэхавыя партгрупы цяпер праводзяць выхаваўчую работу з кож-

*) З пастановы красавіковага пленума ЦК КП(б)Б.

ным спачуваючым. Парторг вязальнага цэха т. Вайнштэйн прымацоўвае комуністаў да паасобных спачуваючых і да тых работніц, якія жадаюць уступіць у спачуваючыя. Так, т. Іванова прымацавана да работніц Дуброўскай і Святагоравай. Больш моцны спачуваючы Рамашкін шэфствуе над спачуваючым Майміным і т. д.

Многія спачуваючыя выраслі з адсталых і сталі перадавымі. Напрыклад, т. Серабракова пасля пераводу з кандыдатаў партыі ў спачуваючыя рабіла частыя прагулы, не вучылася, стаяла ў баку ад грамадскай работы. Індывідуальная работа парторга т. Гобербург дала свае вынікі. Серабракова зараз лепшая ўдарніца-зотаўка, выконвае план на 110—115%, займаецца ў школе спачуваючых, тры разы была прэміявана, зараз выбрана праформгам матальнага цэха.

Механік швейна-кацельнага цэха т. Ром безупынна павышае свой палітычны ўзровень, займаецца ў школе майстраў, выпісвае і чытае марксісцка-ленінскую літаратуру.

Кожны спачуваючы ганарыцца сваёй назвай і сапраўды рыхтуецца да ўступлення ў рады партыі. Акрамя двух спачуваючых, Рыка і Давыдава, усе займаюцца ў школах: СПШ, кандыдацкай, на агульнаадукацыйных, профтэхнічных курсах і т. д.

Безумоўна, што ў рады спачуваючых імкнуцца пралезці класававарожыя элементы, каб потым папасці ў партыю і шкодзіць. Такі факт меў месца ў швейна-кацельным цэху, дзе спачуваючы Вельфля ўкраў заработак у адной работніцы. Партгрупа і група спачуваючых выкінула Вельфлю з радоў спачуваючых і зараз правяраюць, хто ён такі і што сабою прадстаўляе.

На паседжанні парткома не раз ставіліся справаздачы спачуваючых. Некаторыя скардзіліся на дрэнныя жыллёвыя і бытавыя ўмовы (Пук, Берасцецкая, Рымаш і інш.). Нядаўна праведзены сход аб авангарднай ролі комуністаў на вытворчасці яшчэ больш павысіў ролю спачуваючых.

Галоўныя недахопы ў рабоце са спачуваючымі—несістэматычнае правядзенне нарад як пры парткоме, так і пры цэхавых партарганізацыях; слабы рост спачуваючых; недастатковая работа школы спачуваючых, дзе займаецца каля 25 чал. Нядаўна партком зняў з работы прапагандыста Кіціна, які дрэнна выкладаў, і зараз школа падцягнулася.

Група спачуваючых нашай фабрыкі (за невялікім выключэннем) з'яўляецца актыўным барацьбітом за ажыццяўленне рашэнняў партыі і ўрада і прадстаўляе сабой пэўную сілу, на якую апіраецца наша фабрычная партарганізацыя ў правядзенні палітычна-масавай работы.

Апошняя нарада па пытанню прапрацоўкі прамовы т. Сталіна аб вырошчванні кадраў вельмі захапіла спачуваючых. У сваіх выступленнях яны адзначылі, што партком недастаткова працуе з імі: «Поўгода назад нас сабралі, пагутарылі і на гэтым супакоіліся. Ці не будзе і на гэты раз так, што збярэмся зноў толькі праз поўгода». Яшчэ не ўсе спачуваючыя ўцягнуты ў грамадскую работу, не кожны мае нагрузку. Наогул няма яшчэ сістэмы ў рабоце са спачуваючымі.

Выхаванне, вырошчванне і чулыя адносіны да запатрабаванняў спачуваючых павінны стаць у цэнтры ўвагі партарганізацыі, каб з поспехам рэалізаваць рашэнні XVII з'езда партыі і ўказанні апошняга пленума ЦК КП(б)Б.

**Ф. Сушанкоў**

Сакратар парткома віцебскай фабрыкі „Дзвіна"

# Наша работа са спачуваючымі

Рашэнні XVII з'езда нашай партыі патрабуюць ад усіх партарганізацый асобай увагі ў рабоце з беспартыйным актывам, найбольш блізкім, паказаўшым на справе сваю адданасць партыі. З гэтага актыва мы павінны вырасціць моцных, устойлівых комуністаў для папаўнення радоў нашай слаўнай большэвіцкай партыі.

Лозунг тав. Сталіна «кадры вырашаюць усё» прад'яўляе ўсім партарганізацыям яшчэ большыя патрабаванні ў галіне работы з групамі спачуваючых.

На нашай фабрыцы гэта работа праводзіцца ўсё яшчэ бяспланава, несістэматычна. Партком, як і партарганізатары, не праяўляюць належнага клопату. На вырошчванне гэтых кадраў нам прыдзецца палажыць яшчэ не мала работы, асабліва ўлічваючы ўзросшыя патрабаванні да ведаў пры прыёме ў спачуваючыя.

У час чысткі на фабрыцы было 18 чалавек спачуваючых, на сёння мы маем 25 чалавек. Усе яны—лепшыя людзі нашай фабрыкі: Цыганкова Ф.—старая работніца-зотаўка, член ЦВК СССР; Мяккая—старая работніца-зотаўка, член ЦВК БССР; Шчыглова М.—маладая работніца-зотаўка, член горсовета, соцнамеснік ашчадкасы; Ментузава Н.—старая работніца-ўдарніца і рад іншых.

Метад нашай работы: жывая гутарка (праўда, яшчэ не з усімі і не заўсёды), прапрацоўка статута і важнейшых рашэнняў партыі і ўрада, уцягненне ў грамадскую партыйную работу, на адкрытыя партсходы, самасправаздачы спачуваючых на партгрупах, на паркоме аб тым, як яны рыхтуюцца для ўступлення ў рады партыі і як ім дапамагаюць расці.

Паасобныя комуністы і партарганізатары цэхаў праводзяць у партгабінеце гутаркі са спачуваючымі, але, трэба сказаць, бяспланава.

Наведваем спачуваючых і на кватэры, знаёмімся з тым, як яны выхоўваюць сваіх дзяцей, якую маюць і чытаюць літаратуру, газеты, як культурна абслугоўваюцца.

Паасобныя спачуваючыя палітычна значна выраслі. Тав. Грэчухіна—старая работніца ва ўзросце 51 год, пераведзеная з членаў партыі, з'яўляецца адной з самых прыкладных слухачак кандыдацкай школы, актыўна выступае, пачала значна лепш разбірацца ў гаспадарчых і палітычных пытаннях, на вытворчасці актыўна, падае ўзоры дысцыплінаванасці. Мяккая, Цыганкова Ф.—новапрынятыя, нядрэнна вучацца ў кандыдацкай школе, актыўна ўдзельнічаюць ва ўсіх мера-

прыемствах, якія праводзяцца на фабрыцы, дапамагаюць адстаючым і маладым работнікам лепш арганізаваць работу станка. Нядрэнна растуць новапрынятыя Шчыглова і Ментузава Н. Маладая работніца Бількоўская М., пераведзеная з кандыдатаў, вучылася на вытворча-тэхнічных курсах, актыўна на вытворчасці.

Але гэта толькі пачатак. Большасць спачуваючых растуць яшчэ слаба. Пазнякова Бася—маладая работніца, пераведзеная з кандыдатаў, не гледзячы на неаднаразовыя гутаркі сакратара парткома і партарганізатара, пакінула вучыцца ў кандыдацкай школе і застаецца пасіўнай у грамадскай рабоце. Ермашкевіч—пераведзены з членаў партыі, 39 год, нідзе не займаецца, сам граматны, раней быў актыўны ў рабоце, а цяпер усё яшчэ «крыўдзіцца», будучы нездаволеным камісіяй па чыстцы, але заявы не падаваў. Нядаўна на паседжанні парткома слухалі яго, рассеялі сумненні ў неабходнасці пераводу ў спачуваючыя, прымацавалі комуніста і абавязалі, каб наведваў партгабінет, чытаў літаратуру, вывучаў статут і праграму партыі. Разумееў—пераведзены з членаў, 35 год, моцна п'янстваваў (і зараз часам п'е), ніяк не хацеў вучыцца, хоць малаграматны. Прапанавалі наведваць палітшколу, партком узяў яго пад свой кантроль і аказвае неабходную дапамогу. Старыкава П.—пераведзеная з кандыдатаў, 29 г., Ермалаева—пераведзеная з кандыдатаў, Мураўёва—пераведзеная з кандыдатаў,—неактыўны. Парторг Хадарчэнка мала працуе з імі, за што партком паставіў ёй на від.

З паданага відаць недахопы нашай работы са спачуваючымі. Партарганізацыя фабрыкі «Дзвіна» не дабілася ў сваёй рабоце галоўнага—займацца з кожным спачуваючым, кожным комуністам не ад выпадку да выпадку, а сістэматычна. Узяць хоць-бы мяне—сакратара парткома, партарганізатараў, паасобных комуністаў: усе мы кружымся і захлістваемся ў бягучых пытаннях, у нарадах на фабрыцы і ў горадзе (а іх не мала). Гэта няўменне планаваць свой час безумоўна шкодзіць і ўласнаму росту і рабоце партарганізацыі.

---

**Х. Сухаліцкі**

Сакратар парткома ф-кі „КІМ“

# Партдзень, прысвечаны рабоце са спачуваючымі

У рашэнні пленума ЦК КП(б)Б аб задачах партыйна-арганізацыйнай і палітычна-выхаваўчай работы ўказана:

> «Пленум ЦК звярачае ўвагу ўсіх партыйных арганізацый на тое, што работа са спачуваючымі да гэтага часу пастаўлена зусім нездавальняюча. РК, ГК і пярвічныя партарганізацыі не ўдзяляюць дастатковай увагі пытанню ўцягнення ў групы спачуваючых».

Да рашэння пленума выхаванне на нашай фабрыцы было ў далёка нездавальняючым стане. Арганізавалі групу спачуваючых, але недастаткова клапаціліся аб яе росце. Пераведзеных пры чыстцы было 4 таварышы, новапрынятых 10. На фабрыцы ёсць добры беспартыйны актыў, старыя рабочыя кадравікі, якія на справе, на вытворчасці паказалі сваю адданасць партыі. 49 чал. беспартыйнага актыва ахоплены вучобай у сеці партасветы. З такім актывам партарганізацыя магла зрабіць значна больш.

Некаторых станоўчых вынікаў партком дабіўся ў павышэнні ідэйна-палітычнага ўзроўню спачуваючых. Усе спачуваючыя, за выключэннем хворай Шульман, нядрэнна займаюцца. Звыш праграмы яны прапрацавалі рад артыкулаў аб партыйным жыцці. Трэба аднак сказаць, што ў выхаванні спачуваючых у нас не было пэўнай сістэмы. Не ўсе спачуваючыя ведаюць добра статут і праграму партыі (Шульман, Гародкін, Аксельрод).

Усе недахопы ў выхаванні і росце спачуваючых былі ўскрыты намі на апошнім партыйным сходзе 17 мая, да якога партарганізацыя рыхтавалася 10 дзён. Загадзя праведзены былі нарады па распрацоўцы плана падрыхтоўкі, які абгаварылі потым на паседжанні парткома. Парторг абследваў хатнія ўмовы спачуваючых і на сходах груп паставіў самасправаздачы Кагана, Дукора, Рубінштэйна, Марголіна і інш. На групавых сходах удалося даведацца аб асабістым жаданні кожнага члена і кандыдата партыі, кожнага спачуваючага і сабраць рад каштоўных прапаноў, якія пакладзены былі ў аснову пастановы партыйнага дня.

Рад мерапрыемстваў з гэтай пастановы ўжо праводзяцца ў жыццё, партарганізатары прапрацавалі ў сваіх групах статут партыі.

Парторг т. Ліпковіч некалькі раз збірала спачуваючых сваёй групы на кватэры ў спачуваючага тав. Кагана для прапрацоўкі статута партыі. У партгрупах тт. Лінгевіча, Оксенкруга і інш. для прапра-

цоўкі статута і праграмы партыі запрашаюцца беспартыйныя рабочыя, якіх парторгі маюць на ўвазе ўцягнуць у групы спачуваючых, і тыя, якія падалі заявы аб уступленні.

Пасля партсходу праведзены нарады са старымі рабочымі, лепшымі ўдарнікамі; для індывідуальнай работы з імі прымацаваны члены і кандыдаты партыі. 15 рабочых, падаўшых заявы аб уступленні ў групу спачуваючых, мы зараз афармляем. Сярод падаўшых—лепшыя людзі фабрыкі: Зайдэнкноп, Вензель, Гімельштэйн, Тунік, Шмідт, Кручонак. Усе яны займаюцца ў партыйнай секцыі.

Для спачуваючых наладжваем спецыяльныя лекцыі па гісторыі партыі. 27 мая чытаў лекцыю на тэму «Окцябр на Беларусі» тав. Зюзькоў з Гістпарта. Практыкуем калектыўныя паходы ў кіно, тэатр.

За 8 месяцаў работы групы заўважваецца значны ідэйна-палітычны рост спачуваючых. Тт. Лукаў, Дукор, Каган, Карачун, Гофман стала працуюць над павышэннем свайго палітычнага ўзроўню, рэгулярна чытаюць газеты, старанна рыхтуюцца да заняткаў. Ім мы даручаем праводзіць палітгутаркі ў брыгадах, чытанне і разбор газетных матар'ялаў.

Пастанова партыйнага сходу аб рабоце са спачуваючымі з'яўляецца для нашага калектыва канкрэтным планам работы па выхаванню і арганізацыі далейшага росту групы спачуваючых і няўхільна праводзіцца парткомам у жыццё.

---

**Я. Гінзбург**

Інструктар аддзела парткадраў
Гомельскага гаркома КП(б)Б

# Выхаванне жывога чалавека—цэнтральная задача ўсёй нашай работы

«Галоўны абавязак усіх партыйных кіраўнікоў знізу даверху і аддзелаў кадраў заключаецца ў штодзенным асабістым вывучэнні партыйных кадраў. Кожны кіраўнік павінен ведаць па рабоце не толькі кадры, якія ўжо кіруюць той ці іншай галіною партыйнай работы, але і тых работнікаў, якіх можна вылучаць на больш буйную работу» (з пастановы пленума Ленінградскага гаркома).

Гэта ўстаноўка вельмі многаму абавязвае кожнага з нас. Прывяду некалькі прыкладаў, як вывучаліся, падрыхтоўваліся ў нас партыйныя кадры.

Вось што расказвае работніца Палесдруку тав. Лейкіна: «На работу цэхпарторгам мяне ніхто не вылучаў, ніхто не выбіраў, не зацвярджаў. Парторг цэха, ад'язджаючы ў адпачынак, сказаў: «Ты, Лейкіна, будзеш мяне замяшчаць». І вось я працую ўжо 6 месяцаў цэхпарторгам». Пры такой пастаноўцы вылучэння на кіруючую партыйную работу могуць папасці прахадзімцы, чужакі, якія нічога агульнага не маюць не толькі з партыйнай работай, але і з нашай партыяй у цэлым, не кажучы ўжо аб паўнейшым парушэнні ўнутрыпартыйнай дэмакратыі.

У гомельскай арганізацыі яшчэ і зараз ёсць сакратары парткомаў, парторгі—выхадцы з розных партый. За антыпартыйныя ўчынкі яны не раз падлягалі партыйнаму спагнанню.

Некаторыя партыйныя работнікі аднесліся фармальна да вылучэння рэзерва.

На ф-цы «Праца» і Гомсельмашы былі факты вылучэння людзей, якія раней з'яўляліся членамі іншых партый. На аўчына-шубным заводзе, на камбінаце імя Гікало вылучалі людзей, якія пры чыстцы былі пераведзены з членаў у кандыдаты, або выключаліся з партыі.

Тым часам на другараднай рабоце ў цэхах ёсць дзесяткі людзей, якіх можна зараз-жа паставіць на самастойную кіруючую партработу—сакратарамі парткомаў. Яны нічым не заплямлены і ўвасабляюць усе якасці партработніка. Трымаць іх падыспадам злачынна. Такія людзі ёсць і на заводзе «Пралетарый» імя Кірава, і на Гомсельмашы, і на «Везувіі», і ў іншых арганізацыях горада.

На Гомсельмашы даволі таварышоў, якіх можна вылучыць у якасці рэзерва. Трэба толькі, каб партыйная арганізацыя з усёй сур'ёзнасцю аднеслася да вылучэння партыйных кадраў, памятаючы, што галоўнае зараз у людзях, што ад таго, як мы іх расставім, залежыць якасць нашай работы.

Рад партыйных арганізацый разгарнулі работу па павышэнню ідэйна-палітычнага ўзроўню нізавога партыйнага актыва і вылучанага рэзерва. Напрыклад, на камбінаце імя Гікало пачаў рэгулярна і па пэўнай праграме працаваць 3-месячны семінар для парторгаў і вылучанага рэзерва. Кіруюць семінарам сакратар парткома і прапагандысты.

Не дрэнна разгарнулася работа па падрыхтоўцы нізавога партыйнага актыва на заводзе «Пролетарый» імя Кірава, дзе акрамя семінара для партактыва і рэзерва праводзяцца дадатковыя лекцыі па міжнароднаму становішчу і паасобных пытаннях гісторыі партыі. Да гэтай работы прыцягваюцца лепшыя лектары Гомеля.

З 11 мая пачаў работу семінар пры доме партактыва. Але ўсё гэта толькі пачатак. Работа па выхаванню партыйных кадраў павінна стаць у цэнтры ўвагі аддзела парткадраў і кожнай партыйнай арганізацыі.

Вырошчванне і падрыхтоўка партыйных кадраў цесна звязаны з пастаноўкай марксісцка-ленінскага выхавання. У гэтай галіне мы маем рад дасягненняў—павялічылася сецьшкол, гурткоў, палепшылася іх наведванне, але якасць вучобы ўсё яшчэ не на высокім узроўні.

Возьмем для прыкладу Гомсельмаш.

Заняткі пачынаюцца роўна а 4 г. 30 м. дня. Людзі прыходзяць на заняткі не паабедаўшы, брудныя, сядзяць у спецоўках і галаўных уборах, падчас удвох на адным крэсле. Заняткі канчаюцца а 6 гадзіне, г. зн.—вытрымалі рэгламент, правялі дзве акадэмічныя гадзіны, а па сутнасці займаліся 1½ гадзіны без перапынку. Зразумела, што такія ўмовы не спрыяюць якаснаму засваенню вучэбнага матар'ялу.

Некаторыя кіраўнікі школ прыходзяць на заняткі не зусім падрыхтаванымі. Напрыклад, 13 красавіка кіраўнік кандыдацкай школы тав. Кофман да тэмы «Асноўныя задачы другой пяцігодкі» прынёс з сабой на заняткі геаграфічную карту.

— Дзе ў нас, акрамя Данбаса, ёсць яшчэ запасы вугалю?—задае пытанне тав. Кофман.

— Кузбас! Караганда!—пасыпаліся адказы.

— Пакажыце на карце, дзе знаходзіцца Кузбас.

Доўга вадзілі на карце чалавек пяць слухачоў, але Кузбаса не знашлі.

Доўга яго шукаў і сам тав. Кофман, пакуль рашыў дарма не турбавацца.

— Выбачайце, таварышы,—сказаў успацеўшы кіраўнік школы,—па карце я зусім не рыхтаваўся...

А тым часам тав. Кофман мае сярэднюю асвету. Калі-б ён па-партыйнаму аднёсся да такога важнага ўчастка, як выхаванне жывых людзей, ён мог-бы не толькі ўзняць ідэйна-палітычны ўзровень камуністаў, але і навучыў-бы разбірацца на карце, дыяграмах, апераваць лічбамі, працантамі і інш. Як на адмоўную з'яву, трэба ўказаць таксама і на тое, што ў дні масавай партыйнай вучобы, калі школамі

кіруюць самі сакратары парткомаў, штатныя прапагандысты, астатнія школы застаюцца без кантролю.

На вывучэнне гісторыі нашай партыі пераключыліся ўсе школы і гурткі, але не ўсе паставілі гэту справу на належную ступень, што асабліва адчуваецца ў дробных пярвічных партарганізацыях: у адных гуртках прапрацоўваецца тэма аб пятым годзе, у другіх пачынаюць з гадоў рэакцыі, у трэціх з імперыялістычнай вайны і т. д.

Культпропу гаркома неабходна будзе ўзяць гэтыя новыя гурткі пад свой асабісты кантроль, праверыць якасць выкладчыкаў, сканцэнтраваць іх увагу на глыбокім вывучэнні гісторыі нашай партыі, асабліва пасляокцябрскага перыяда.

У рабоце з паасобнымі комуністамі мы маем некаторыя дасягненні. Для прыкладу возьмем камбінат імя Гікало, дзе для кансультацыі і дапамогі слаба паспяваючым вызначаны спецыяльныя дні. Дапамагае рыхтавацца да заняткаў прапагандыст парткома.

На фабрыцы «Везувій» да комуністаў Філонавай, Лерман і на каніфольным заводзе да комуністаў Літвіновіч, Дзержынскай прымацаваны больш падрыхтаваныя таварышы, якія дапамагаюць ім павысіць тэарэтычны ўзровень.

Аднак не мала яшчэ ў нас выпадкаў нядбайных адносін да людзей. Так партарганізацыя Гомсельмаша не звярнула ўвагі на тав. Яхніна, пераведзенага пры чыстцы з членаў у кандыдаты. Тав. Яхнін палітычна няграматны, не ведае нават прозвішчы некаторых праваднікоў, тым часам як ён кадравік, які мае за плячыма 25-гадовы рабочы стаж. Партыйная арганізацыя павінна была аб ім падумаць.

Або кандыдат партыі т. Аксельрод (каніфольны завод), таксама пераведзены пры чыстцы, працуе на такой рабоце, што па 3—4 месяцы не бывае ў партыйнай арганізацыі, не наведвае партсходы, нідзе не займаецца, адарваўся ад партыйнага жыцця.

Ад кожнай партыйнай арганізацыі мы павінны патрабаваць больш чулых і ўважлівых адносін да члена партыі, канкрэтнага падыходу да выхавання, вырошчвання і вылучэння партыйных кадраў з лепшых вытрыманых большэвікоў, здымаючы з партыйнай работы людзей, няздольных перабудаваць яе да ўзроўню задач сучаснага перыяда.

Выхаванне людзей, работа з жывым чалавекам, вывучэнне гісторыі нашай партыі і яе барацьбы з рознымі адхіленнямі ад лініі партыі павінны стаяць у цэнтры ўсёй нашай работы.

---

З. Кавальчук

# Заработная плата на даным этапе і задачы профсаюзаў

Наша партыя, следуючы ўказанням Маркса-Энгельса-Леніна-Сталіна аб тым, што асноўным прынцыпам у заработнай плаце з'яўляецца соцыялістычны прынцып аплаты па колькасці і якасці працы, заўсёды звварачала ўвагу на тое, каб заработную плату ператварыць у магутны фактар павышэння прадукцыйнасці працы і кваліфікацыі рабочых.

Нават у перыяд ваеннага комунізма, калі існавала змешаная грашова-натуральная форма аплаты працы, партыя, не гледзячы на абмежаванне харчовых рэсурсаў краіны, знаходзіла магчымым вылучыць рабочых машынабудаўніцтва, вугалю, металургіі і транспарта. Гэтым катэгорыям рабочых натуральныя выдачы ўстанаўляліся вышэй іншых галін. Практыкавалася выдача так званых «ударных пайкоў» і прэміяванне ўдарных і лепшых па выкананню праграмы прадпрыемстваў. Аднак, неабходна адзначыць, што ўмовы грамадзянскай вайны, абмежаванасць рэсурсаў у краіне, неабходнасць першачарговага снабжэння Чырвонай арміі не дазвалялі нашай партыі ў поўнай меры ажыццяўляць соцыялістычны прынцып аплаты па колькасці і якасці працы. Фальсіфікатары гісторыі нашай партыі—контррэволюцыйныя трацкісты, зіноўеўцы, шляпнікаўцы і інш.—імкнуліся выкарыстаць вымушаныя зрывы ў ажыццяўленні гэтага прынцыпа і паказаць справу такім чынам, нібы партыя наогул вядзе палітыку на ўраўняльнасць у зарплаце. Партыя не толькі выкрыла гэты гнусны контррэволюцыйны паклёп, але і ўскрыла ўсю сутнасць буржуазнай «роўнасці», ураўнілаўкі ў зарплаце і ў снабжэнні.

Ленін даў сакрушальны адпор контррэволюцыйнаму лозунгу Троцкага «у рабоце—ударнасць, у спажыванні—ураўняльнасць» і проціпаставіў яму марксісцкі лозунг: «Ударнасць у рабоце і ўдарнасць у спажыванні».

Тав. Сталін на XVII з'ездзе нашай партыі гаварыў:

> «Пара ўсвоіць, што марксізм з'яўляецца ворагам ураўнілаўкі. Яшчэ ў «Маніфесце Комуністычнай партыі» бічавалі Маркс і Энгельс прымітыўны утапічны соцыялізм, называючы яго рэакцыйным за яго пропаведзь «усеагульнага аскетызма і грубай ураўняльнасці.
>
> Энгельс у сваім «Анты-Дзюрынгу» прысвяціў цэлую главу бічуючай крытыцы «радыкальнага ўраўняльнага соцыялізма», высунутага Дзюрынгам, як процівагу супроць марксісцкага соцыялізма!»

Наша партыя на ўсіх этапах вяла самую жорсткую і рашучую барацьбу з ідэалогіяй усіх антыпартыйных груп і ўхілаў, якія прапаведвалі антымарксісцкі прынцып ураўнілаўкі ў аплаце працы.

Соцыялістычны прынцып аплаты працы скажаўся таксама і былым апартуністычным кіраўніцтвам профсаюзаў на чале з Томскім. Аб гэтым сведчыць хоць-бы тарыфная сетка, пабудаваная імі пры правядзенні тарыфнай рэформы ў 1927-28 гг. Гэта сетка была пабудавана па лініі паменшання разрыву паміж простай і кваліфікаванай працай (па патухаючай крывой). Узяць хоць-бы тарыфную сетку металістаў, якая з'яўлялася, у параўнанні з іншымі, найбольш дасканалай:

| Разрады | 1 | 2 | 3 | 4 | [5 | 6 | 7 | 8 |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| Суадносіны паміж разрадамі . | 1 | 1.2 | 1.45 | 1 70 | 1.90 | 2.2 | 2.5 | 2 8 |
| Разрыў паміж разрадамі ў %% адносінах . . . . | 0 | 20 | 20,8 | 17,2 | 14,7 | 12,8 | 12,8 | 12 |

Гэта значыць, што пры пераводзе рабочага з другога разраду ў трэці, зарплата павышалася на 20,8%, з пятага ў шосты—на 12,8%, з сёмага ў восьмы—на 12 %.

Наколькі гэта палітыка была шкоднай, відаць хоць-бы з таго факту, што высокакваліфікаваных рабочых металістаў, як 7 і 8 разрадаў, было зусім мала (у машынабудаўніцтве рабочых 7 разраду—4,5 %, а 8 разраду—1 % з лішкай). Гэтыя рабочыя выконваюць самыя адказныя і складаныя работы, якія патрабуюць многа часу для набыцця высокай кваліфікацыі. Пры такім-жа рэгуляванні заработнай платы і сціранні межаў паміж менш кваліфікаванымі і высокакваліфікаванымі, у рабочага падае стымул к павышэнню сваёй кваліфікацыі.

Праваапартуністычнае кіраўніцтва профсаюзаў, праводзячы дробна-буржуазную ўраўнілаўку ў зарплаце, пашло па лініі выцяснення здзельшчыны на прадпрыемствах, наблізіўшы працу здзельшчыкаў і пачасоўшчыкаў.

Ураўнілаўка ў заработнай плаце прыносіла велізарную шкоду ўсяму нашаму гаспадарчаму будаўніцтву, пазбаўляла рабочых стымула к павышэнню кваліфікацыі, авалодванню тэхнікай справы.

Правадыр нашай партыі тав. Сталін у сваёй гістарычнай прамове на нарадзе гаспадарнікаў 23 чэрвеня 1931 года з усёй большэвіцкай рэзкасцю і рашучасцю ўскрыў і асудзіў дробна-буржуазную ўраўнілаўку ў зарплаце, даў ключ да вырашэння грандыёзных задач соцыялістычнай арганізацыі вытворчасці наогул і заработнай платы ў прыватнасці:

> «Нельга цярпець, што машыніст на чыгуначным транспарце атрымліваў столькі-ж, колькі перапісчык. Маркс і Ленін гавораць, што розніца паміж працай кваліфікаванай і працай некваліфікаванай будзе існаваць нават пры соцыялізме, нават пасля зніштажэння класаў, што толькі пры комунізме павінна знікнуць гэта розніца, што з прычыны гэтага «зарплата», нават пры соцыялізме павінна выдавацца паводле працы, а не паводле патрэбнасці. Але нашы ўраўнілаўцы з гаспадарнікаў і профсаюзнікаў не згодны з гэтым і лічаць, што гэта розніца ўжо знікла пры на-

шым совецкім ладзе. Хто праў—Маркс і Ленін ці ўраўнілаўцы? Трэба лічыць, што правы тут Маркс і Ленін. Але з гэтага следуе, што хто будуе цяпер тарыфную сістэму на «прынцыпах» ураўнілаўкі, без уліку розніцы паміж працай кваліфікаванай і працай некваліфікаванай, той парывае з марксізмам, парывае з ленінізмам».

Гэтыя ўказанні тав. Сталіна зрабіліся разгорнутай праграмай дзейнасці ў планаванні і рэгуляванні заработнай платы.

Праведзеная тарыфная рэформа ў большасці галін прамысловасці—перабудова тарыфных сетак, перабудова заработнай платы па вугалю, чорнай металургіі, транспарту, вылучэнне ў аплаце рабочых выдучых галін і прафесій унутры іх, якія маюць рашаючы ўплыў на выкананне промфінплана—з'яўляецца важнейшым этапам ажыццяўлення генеральнай лініі нашай партыі ў пытанні заработнай платы.

У выніку рэалізацыі 6-ці гістарычных умоў тав. Сталіна мы дабіліся велізарнейшых поспехаў як у росце заработнай платы рабочых, так і ў яе арганізацыі.

Заработная плата ў Совецкім саюзе з года ў год няўхільна расце. Па БССР месячная зарплата аднаго рабочага цэнзавай прамысловасці ўзрасла з 64 р.46 к. у 1927-28 гг. да 126 р. у чэрвені 1934 года.

З бурным ростам прамысловасці штогод уцягваюцца ў вытворчасць мільёны новых рабочых, значную частку якіх складаюць члены іх сямей. Расце прыбытак рабочай сям'і.

Вось некалькі наглядных прыкладаў росту бюджэта рабочай сям'і: рабочы завода «Большэвік» Таболін М. працаваў у 1933 годзе адзін у сям'і, зарабляючы 140 р. у месяц, а ў 1935 годзе працуюць два члены сям'і, іх месячны заработак складае 300 руб.; рабочы Язгур, працуючы ў 1933 г. адзін, атрымліваў 200 руб., а ў 1935 г. тры члены сям'і зарабляюць 600 руб.; рабочы Шапіра—адпаведна: 130 і 350 руб.; Рабіновіч Ё.—120 і 400 руб.; Рабіновіч Э.—270 і 450 руб.; Паўлаў—250 і 550 руб.; Таборскі—65 і 325 руб.; Кавалеўскі—150 і 350 руб.

Такіх прыкладаў можна прывесці безліч.

Расце не толькі грашовая частка заработнай платы. Штогод Совецкі саюз траціць многа мільярдаў на палепшанне матар'яльных і культурна-бытавых умоў рабочых. Узяць хоць-бы соцыяльнае страхаванне, бюджэт якога ў 1934 годзе складае звыш $4\frac{1}{2}$ мільярдаў руб. па Саюзу і 96 мільёнаў руб. па БССР, фонд па палепшанню быту рабочых, жыллёвае і комунальнае будаўніцтва, бясплатныя школы, ВНУ здзельшчына. Процант здзельныых работ па прамысловасці БССР (ВСНГ) узрос з 51 у студзені да 68,7 у верасні 1931 года.

Такімі культурна-бытавымі выгадамі карыстаюцца рабочыя толькі адной краіны ў свеце—СССР.

* * *

Рэалізуючы ўказанні тав. Сталіна, гаспадарчыя і прафесіянальныя арганізацыі ўсяго Совецкага саюза, у тым ліку БССР, дабіліся сур'ёзных поспехаў у арганізацыі заработнай платы. Значна пашырана здзельшчына. Процант здзельных работ па прамысловасці БССР (ВСНГ) узрос з 51 у студзені да 68,7 у верасні 1931 года.

Далейшае ўкараненне здзельшчыны і павелічэнне яе ўдзельнай вагі

за кошт змяншэння пачасовай аплаты, а таксама за кошт усямернага скарачэння выпадкаў захавання сярэдняга заработку незалежна ад рэзультатаў працы, відаць з табліцы размеркавання часу рабочых фабрычна-заводскай прамысловасці БССР па сістэмах аплаты:

| Перыяд | У процантах да адпрацаванага часу | | | |
|---|---|---|---|---|
| | Здзельна | Пачасова | Пачасова-прэміяльн. | Па сярэдн. заработку здзельшчыка |
| Люты 1933 г. | 70,6 | 22,7 | 2,1 | 4,6 |
| Снежань 1934 г. | 76,7 | 20,7 | 1,9 | 0,7 |

Аднак мы яшчэ і зараз не вычарпалі ўсіх магчымасцей пашырэння здзельшчыны, асабліва ў яе якаснай пабудове і змесце.

Асабліва адстаюць са здзельшчынай харчовая прамысловасць (69,3 %), абутковая (67,1 %), хімічная (62,4 %) і лесафанерная (74,1 %).

Істотнейшы прабел у пабудове здзельшчыны на нашых прадпрыемствах—гэта няўвязка яе з якасцю работы.

Розная аплата ў залежнасці ад гатунковасці або якасці прадукцыі прымяняецца літаральна на адзінічных прадпрыемствах (скурзавод «Большэвік», кандзіцерская фабрыка «Комунарка», папяровыя фабрыкі «Спартак» і «Чырвоная звязда» і некаторыя іншыя). Тым часам на прадпрыемствах, якія ўвялі пагатунковую аплату, значна палепшылася якасць і знізіўся сабекошт прадукцыі. Эканомія ад павышэння гатунковасці на скурзаводзе «Большэвік» за 1934 год складае 12.219 руб. У рэзультаце ўвядзення пагатунковай аплаты на папяровай фабрыцы «Чырвоная звязда» выхад паперы першага гатунку павялічыўся з 88 % у 1934 г. да 92 % у студзені і лютым бягучага года, пры планавым заданні ў 88,4 %. На папяровай фабрыцы «Спартак» выхад бабін складаў у сакавіку г.г. 81 % пры планавым заданні 75 %.

Зусім мала ўвагі ўдзяляюць гаспадарчыя і профсаюзныя арганізацыі пытанням заработнай платы пачасоўшчыкаў. Цвёрды аклад незалежна ад якасці работы не стымулюе павышэння кваліфікацыі, не прывучае людзей да адказнасці за сваю работу.

На віцебскім скураным заводзе 28,9% рабочых аплачваюцца па простай пачасовай сістэме. На шчотачнай фабрыцы імя Крупскай—14 % рабочых, у тым ліку 22 рамонтныя, ад якіх залежыць бесперабойная работа фабрыкі, не стымулююцца аплатай за добрую якасць рамонту. На Віцебскім шчаціна-шчотачным камбінаце 24 дзяжурныя слесары і манцёры аплачваюцца па цвёрдых акладах, а простой абсталявання ў 1934 г. з-за рамонту выліўся ў даволі буйную лічбу—1.086 гадзін.

Сістэма аплаты інжынэрна-тэхнічных работнікаў на скураных, шчаціна-шчотачных, папяровых і многіх іншых прадпрыемствах таксама нездавальняючая. Нельга цярпець фактаў, калі брыгадзір, майстар, начальнік цэха атрымліваюць цвёрды аклад незалежна ад вынікаў работы, бо гэта не дае ім ніякага матар'яльнага стымула для лепшай арганізацыі працы, лепшага выкарыстання магутнасці абсталявання і беражлівых да яго адносін. Ёсць не мала фактаў, калі кіраўнік якога-небудзь вытворчага ўчастка атрымлівае зарплату меншую, чым ра-

бочы яго брыгады. На папяровай фабрыцы «Чырвоная звязда» обер-рольшчык атрымлівае 130 руб. у месяц, а рольшчыкі—145—150 руб., брыгадзір гаспадарча-транспартнага аддзела—108 руб., а рабочыя яго брыгады—130—140 руб.

Указанні тав. Сталіна ў гутарцы з металургамі аб тым, што мы павінны «арганізаваць зарплату так, каб яна ўмацоўвала рашаючыя звенні вытворчасці і рухала людзей на вышэйшую кваліфікацыю», патрабуюць рэзкага павароту да пытання ўвязкі заработнай платы з кваліфікацыяй рабочага і якасцю яго работы, каб заработная плата стымулявала рабочага, брыгадзіра, майстра працаваць на выдатна.

Ініцыятарам аплаты па павышанай расцэнцы за выдатную прадукцыю з'яўляецца маскоўскі завод імя Менжынскага, дзе ўмела спалучылі шырокі рух вышэйшых форм соцыялістычнага спаборніцтва, выдатніцтва з матар'яльнай зацікаўленасцю рабочага. Завод значна павысіў якасць сваёй прадукцыі: у студзені даў 18 % прадукцыі з ацэнкай на выдатна, у лютым—21,9 %, у сакавіку—33,1 %. Паасобныя рабочыя здаюць звыш 90 % прадукцыі выдатнай якасці.

Гэта вопыт у найкарацейшы тэрмін павінен быць выкарыстан на нашых прадпрыемствах. Наяўнасць звыш 60.000 ахопленых тэхвучобай, 42.000 рабочых, здаўшых тэхэкзамен, з іх 28.000 выдатнікаў ствараюць усе прадпасылкі для паспяховага ўкаранення вопыту менжынцаў. Кожны выдатнік вучобы павінен зрабіцца выдатнікам і на прадпрыемстве.

Неабходна таксама спыніцца ў некалькіх словах і на пытанні аб прагрэсіўнай здзельшчыне. На прадпрыемствах БССР, за рэдкім выключэннем, прагрэсіўка амаль нідзе не прымяняецца, што ў далейшым зусім нецярпіма. Хоць і няма ў нас яшчэ падагуленага вопыту прымянення прагрэсіўкі на нашых прадпрыемствах, аднак неабходна з усёй рашучасцю падкрэсліць, што прагрэсіўка, як заахвочваючая сістэма аплаты працы, бясспрэчна апраўдала сябе, і яе трэба смялей укараняць, асабліва на работах, якія маюць тэхнічна абгуртаваныя нормы выпрацоўкі. Прагрэсіўка пры правільным яе прымяненні павінна даць рост прадукцыйнасці працы, рост заработнай платы рабочага і палепшанне якасці прадукцыі. Профсаюзныя арганізацыі павінны даць рашучы адпор усім тым, хто замест правільнага прымянення прагрэсіўкі імкнецца ахайваць гэтую сістэму аплаты працы.

* * *

Здзельная і іншыя заахвочвальныя сістэмы аплаты па якасці і колькасці работы непарыўна звязаны з правільным тэхнічным нармаваннем, якое павінна стаць асновай арганізацыі вытворчасці і няўхільнага росту прадукцыйнасці працы.

Бясспрэчныя поспехі, дасягнутыя намі ў рэалізацыі дырэктыў партыі і ўрада аб перабудове тэхнармавання, яго дэцэнтралізацыі, аб узмацненні адказнасці дырэктара, майстра, начальніка цэха за правільную арганізацыю працы, нас супакойваць не могуць.

Якасць тэхнармавання на значнай колькасці нашых прадпрыемстваў нездавальняючая з-за недастатковай кваліфікацыі нармавальнага апарата і бесперспектыўнага падыходу нармоўшчыка да сваёй работы, а галоўнае—у выніку таго, што многія гаспадарнікі-кіраўнікі перадавяраюць гэты важнейшы ўчастак другарадным асобам.

Ступень падрыхтаванасці нармоўшчыкаў характарызуецца данымі

кваліфікацыйнага складу ўлічаных 62 работнікаў металапрамысловасці, з іх: па адукацыі—адзін інжынер, 19 тэхнікаў, 21 скончыўшых курсы нармоўшчыкаў, а астатнія 21 чал. без усякай спецыяльнай падрыхтоўкі. Па стажу нармавальнай работы да 2 год—36 чал., са стажам менш 1 года—26 чал. Пры гэтым трэба падкрэсліць, што ў іншых галінах прамысловасці адукацыйны і кваліфікацыйны ўзровень нармоўшчыкаў яшчэ ніжэй.

Гэта сведчыць аб тым, што рад кіраўнікоў прадпрыемстваў і трэстаў, а таксама наркаматаў, якія рыхтуюць кадры для прамысловасці, недаацэньваюць усю важнасць тэхнармавання. Інстытут народнай гаспадаркі, дзе тэхнармаванне з'яўлялася раней абавязковай дысцыплінай, зняў яе з праграмы спачатку 1934 года. Хімфак Палітэхнічнага Інстытута таксама зняў гэту дысцыпліну з 1935 года. Тарфяны факультэт на працягу ўсіх пяці год навучання адводзіць гэтаму прадмету толькі 30 гадзін. На радзе прадпрыемстваў у праграмах вытворча-тэхнічных курсаў для майстроў і начальнікаў цэхаў няма тэхнармавання, як прадмета.

Перагляд застарэлых і няправільных норм паказаў, што ў большасці яны ўстанаўліваліся вопытным або статыстычным метадам, тэхнічна абгрунтаваных норм укарэнена зусім недастаткова, нават у тых галінах прамысловасці, якія маюць для гэтага вялікія магчымасці. Па металапрамысловасці ў цэлым тэхнічна абгрунтаваных норм налічваецца толькі 29 %, а па асобных прадпрыемствах значна менш.

На радзе прадпрыемстваў шчаціна-шчотачнай, папяровай прамысловасці дырэктары, начальнікі цэхаў пытаннямі тэхнармавання і заработнай платы не займаюцца, цалкам перадаверылі іх нармоўшчыкам і цэхавым рахункаводам. На шчотачнай фабрыцы імя Крупскай доўгі час «выводзілі» норму, як дзель ад дзялення тарыфнай стаўкі на загадзя вызначаную здзельную расцэнку. Такім чынам расцэнка не выцякала з абгрунтаванай нормы, а наадварот, сама дыктавала велічыню нормы. Такое «тэхнармаванне» практыкаваў былы загадчык ТНБ Пекер, пры поўным неўмяшанні дырэктара фабрыкі.

На папяровай фабрыцы «Спартак» дырэктар т. Халаменюк, а таксама начальнікі цэхаў Іврын, Рыжэнкоў вырашэнне пытанняў нармавання і арганізацыі працы таксама цалкам усклалі на нармоўшчыка Леонава, які не толькі бескантрольна «нармаваў», але і капіраваў старыя фатаграфіі рабочага дня, выдаючы іх за новастворaныя. Для работніцы т. Гусевай, якая падае шчэпы к чанам, была ўстаноўлена норма па фатаграфіі дня, складзенай не на падставе наглядання за яе работай, а перапісанай са старой фатаграфіі рабочага дня Чуркевіча. Замест таго, каб распрацаваць мерапрыемствы для ліквідацыі страты рабочага часу на чаканне пустых ваганетак па 2 г. 20 м. за змену (32 %), нармоўшчык аднёс гэтыя прастоі да карыснай работы, чым дэзарыентаваў кіраўніцтва фабрыкі ў пытаннях рацыянальнага выкарыстання рабочага дня.

Замест таго, каб кіраваць тэхнікай вытворчага працэса вынікамі даследвання, інструктаваць рабочага, паказваць яму правільныя метады і прыёмы работы, часта нармоўшчыкі выходзяць са статыстыкі рэзультатаў вытворчага працэса, з'яўляючыся рэгістратарамі фактаў, інфарматарамі аб устаноўленай самацёкам новай норме.

Толькі гэтым тлумачыцца невыкананне норм выпрацоўкі значнымі групамі рабочых віцебскага шчотачнага камбіната, шчотачнай фабрыкі імя Крупскай, папяровых фабрык «Чырвоная звязда» і «Спартак» і інш.

* * *

Ураўнілаўка ў заработнай плаце—гэты біч социялістычнай вытворчасці—праяўляецца іменна там, дзе фабрычна-заводскія арганізацыі не займаюцца пытаннямі заработнай платы, дзе нармаванне пушчана на самацёк. На віцебскім шчацінным камбінаце рабочыя 4 разраду зараблялі ў студзені на 4 руб. менш рабочых 3 разраду. На шчотачнай фабрыцы імя Крупскай рабочыя 5 разраду на вырабу конскіх шчотак зараблялі на 14 руб. у месяц менш рабочых 4 разраду, якія вырабляюць палавыя шчоткі. На віцебскім скурзаводзе падвяльшчыкі 5 разраду зараблялі па 8 р. 31 к. у дзень, а рабочыя вядучай прафесіі—строгалі 7 разраду—па 7 р. 86 к. На шклозаводзе (Барысаў) зарплата рабочых 5 разраду ніжэй зарплаты рабочых 4 разраду. На папяровай фабрыцы «Спартак» падатчыкі хімікатаў 3 разраду зарабляюць на 7 руб. у месяц больш старшых клеевараў 6 разраду; каландроўшчыкі 6 разраду—менш сушыльшчыкаў 5 разраду і т. д.

Не меншую адказнасць за невыкананне норм, за няправільную арганізацыю зарплаты нясуць і прафесіянальныя арганізацыі фабрык, адпаведныя цэнтральныя праўленні саюзаў, якія яшчэ далёка недастаткова займаюцца пытаннямі заработнай платы.

Тав. Кагановіч у сваёй прамове на IX з'ездзе профсаюзаў сказаў:

> «Галоўны біч у рабоце профсаюзнікаў—гэта тое, што яны расплываюцца ў рабоце, хватаюцца за ўсё і ўстанаўляюць «роўнасць» паміж усімі сваімі функцыямі, але адказваць за ўсё нельга, будзь хоць сямі пядзей у ілбе—трэба ўмець выбіраць галоўнае ў рабоце... Для профсаюзаў у 6-ці ўказаннях тав. Сталіна галоўнейшымі, рашаючымі з'яўляюцца пытанні заработнай платы і нармавання працы, аховы працы, снабжэння і жылля. Іменна адсюль павінны профсаюзы «ісці» да вытворчых пытанняў».

Многія профработнікі яшчэ не засвоілі гэтай ісціны і расплываюцца ў рабоце, не заўважаючы асноўнага звяна. На віцебскім шчацінным камбінаце па вытворчых прычынах у пачатку гэтага года былі перакінуты з воласа-прадзільнага ў шчацінны цэх звыш 100 рабочых 2 і 3 разрадаў на работу 2 разраду. Ніякага клопату аб зарплаце гэтых людзей, аб засваенні імі новай вытворчасці старшыня фабкома тав. Тэв не праявіў, для яго былі цэлым адкрыццём факты пагалоўнага невыканання норм гэтымі рабочымі. Ён не клапаціўся аб своечасовай выдачы зарплаты рабочым, аб правільнасці налічэння падатку і культзбору, былі факты, калі падатак браўся з сум дапамогі рабочаму па часовай непрацаздольнасці.

На папяровай фабрыцы «Спартак» не вялася вытворча-масавая работа, міма фабкома праходзілі скаргі рабочых на ўраўнілаўку ў заработнай плаце, многія рабочыя, а сярод іх і профарганізатары, не ведалі сваіх норм і расцэнак (перакатчыцы філіграна Доўгіна, Шолахава, накатчык 2-й машыны—Янчанка, прэсоўшчык—Коган, работніцы—Прыгадзінская, Франтова, Міронава і інш.).

А вось чаго можна дабіцца пры штодзенным увазе профработніка да пытанняў заработнай платы кожнага рабочага. На заводзе «Большэвік» на працэсе мыцця шчаціны тры работніцы 2 разраду выконвалі норму на 73%. Заўком склікаў вытворчую нараду 3-х брыгад (гэтага працэса, папярэдняга і наступнага) і выявіў, што на папя-

рэднім працэсе з'ёмкі шчаціны рабочыя не клалі лукавіцы да лукавіцы, што недастаткова якасна праводзілася адмочка (абястлушчванне). У выніку прынятых мер і намаганняў тэхнічнага кантроля гэтыя работніцы—Баргдановіч, Драздоўская і Кураш—пачалі перавыконваць нормы на 54%.

Невыкананне норм рабочымі Аксельродам, Бабровым, Стрыхнічэнка. Пам прыкавала ўвагу праформа клееварнага цэха т. Петлаха. На вытворчай нарадзе ён арганізаваў абгаварэнне прычын адставання, пасля непаладкі былі знішчаны, і гэтыя рабочыя ўжо выконваюць і перавыконваюць свае нормы. Завод «Большэвік» у цэлым на 111,3 % выканаў заданне па прадукцыйнасці працы за 1934 год.

* * *

Рашэнне майскага пленума ЦК КП(б)Б стварыла вялікі пералом у рабоце прамысловасці БССР. Увесь перыяд 1934 года пасля пленума і асабліва ў 1935 г. прамысловасць працуе значна лепш. План валавой прадукцыі I квартала г. г. выканан усёй прамысловасцю на 103%, а за красавік на 104%.

Асноўныя паказчыкі арганізацыі працы і заработнай платы, суадносіны паміж гэтымі паказчыкамі і выкарыстанне фондаў заработнай платы значна лепшыя, чым у 1934 годзе.

| | 1934 год | | | | | | Сакавік 1935 года | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | Прадукцыйн. працы аднаго рабочага ў год (у руб.) | | | Зарплата аднаго рабочага ў год (у руб.) | | | Прадукцыйн. працы аднаго рабочага ў дзень (у руб.) | | | Зарплата аднаго рабочаго ў дзень у руб.) | | |
| | План | Вык. | % | План | Вык. | % | План | Вык. | % | План | Вык. | % |
| Прамысловасць НКЛП . . . | 7 506 | 7 302 | 97,3 | 1 387 | 1 505 | 108,5 | 29.50 | 31.87 | 108 | 5.82 | 6.06 | 104,1 |

| | 1934 год. | | | | 1 квартал 1935 года | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | Фонд зарплаты рабочых (у тыс. руб.) | | | % выкан. плана вал. прадукцыі | Фонд зарплаты рабочых (у тыс. руб.) | | | % выкан. плана вал. прадукцыі |
| | План | Вык. | % | | План | Вык. | % | |
| Прамысловасць НКЛП . | 60 061 | 62 947 | 104,8 | 93,9 | 15 891 | 16 314 | 102,6 | 103,9 |
| Прам. Уп. НКЦП . . . | — | — | — | — | 2 323 | 2 323 | 100,0 | 109,1 |

Лічбы паказваюць, што 1934 год прамысловасць Наркаммясцпрома закончыла з перавыдаткам фондаў зарплаты рабочых у 2.886 тыс. руб. пры недавыкананні плана валавой прадукцыі на 6,1%, а таксама, што заработная плата ўзрасла супроць плана на 8,5% пры недавыкананні задання па прадукцыйнасці працы на 2,7%.

Рэзультаты-ж работы першага квартала г. г. сведчаць аб некаторым аздараўленні тарыфнай дысцыпліны на прадпрыемствах, аб

лепшай арганізацыі працы і аб некаторым палепшанні ў выкарыстанні рабочага часу. Мы павінны ўлічыць урокі нездавальняючай работы ў 1934 годзе і замацаваць пералом колькаснага і якаснага парадку, які намеціўся ў рабоце прамысловасці за 1 квартал г. г.

Асноўнае ў правільнай арганізацыі працы—найбольш поўнае выкарыстанне сямігадзіннага рабочага дня. У нас яшчэ вялікі «адыходы», уцечка рабочага часу.

Фатаграфіі рабочага дня па Віцебскаму шчаціннаму камбінату паказваюць цесную сувязь невыканання нормы з растранжырваннем рабочага часу.

| Прозвішча | Процант прастояў | Процант выканання нормы |
|---|---|---|
| Рыжык | 9,65 | 84,8 |
| Канавалаў | 22,7 | 68,2 |
| Зенько | 27,8 | 68,2 |

На папяровай фабрыцы «Чырвоная звязда» фатаграфія рабочага дня брыгады тав. Валюлевіча (4 рабочых) ад 7 лютага паказала прастоі з-за няспраўнасці нажоў 104 мін., змены нажоў—92 мін., псаванья матора—51 мін., разам прастоі складалі 32% рабочага часу, а норма выканана на 58%.

Фатаграфія рабочага дня сартоўшчыц Ляшко і Міткавец ад 13 студзеня паказала страту часу ў 22,9%, у тым ліку 1 г. 16 м. пашлі на размовы.

«Кіраваць прадпрыемствам—гэта значыць так арганізаваць рабочы час, каб рабочыя гадзіны, якія рабочы працуе на заводзе, выдаткоўваліся прадукцыйна, каб яны не губляліся дарма» **(Орджанікідзе).**

Там, дзе ажыццяўляецца сапраўднае бальшэвіцкае кіраўніцтва, пачынаючы ад дырэктара і канчаючы майстрам, брыгадзірам, там, дзе мабілізуюць масу на барацьбу з растратчыкамі часу, там рабочы дзень ушчыльнены. Гэта можна паказаць на прыкладзе. На скурзаводзе імя Сталіна, пасля праведзенага «дня ўзорных паказчыкаў прадукцыйнасці працы» баланс рабочага дня брыгады катчыкаў зусім змяніўся.

| | Першаеназіранне | Другое назіранне |
|---|---|---|
| Час карыснай работы | 89,50 | 99,96 |
| Позні прыход і ранні ўход з работы | 3,37 | — |
| Размовы і курэнне | 7,13 | — |
| Прастоі | — | 0,04 |
| Разам | 100% | 100% |

* * *

Прамысловасць БССР, як і ўсяго Савецкага саюза, за апошнія гады значна ўзброілася новай тэхнікай. Побач з пускам новых прадпрыемстваў, большасць старых фабрык і заводаў атрымалі новае абсталяванне. Ёсць вялікія дасягненні ў палепшанні тэхналагічнага працэса.

Рацыяналізатарская думка і рабочая смякалка садзейнічалі ўдасканаленню прыёмаў працы, лепшаму выкарыстанню магутнасці абсталявання. Новая тэхніка дала значны рост прадукцыйнасці працы. Таму і зразумела, што многія нормы застарэлі.

На паасобных участках нормы доўгі час наогул не пераглядаліся. На заводзе імя Кірава (Менск) на 41 такарным станку рабочы Цыпкін выконваў норму на 226%; Сакольчык на 89 станку—выконваў у студзені сваю норму на 190%, у лютым на 263%; Адуцкевіч на тымжа станку выпрацоўваў у студзені 238%, у лютым 183% і т. д.

У шліфавальным цэху барысаўскага шклозавода дзенная норма шліфоўкі 680 кружак «Маскоўская ямка» выконвалася на працягу года ў сярэднім на 226%. Аналіз нормы паказаў, што лёгка выпрацаваць 2.780 кружак у дзень, г. зн. больш 4-х норм. Такіх прыкладаў не мала і па іншых прадпрыемствах.

Натуральна, што такое становішча не магло садзейнічаць далейшаму павышэнню прадукцыйнасці працы, барацьбе з непаладкамі, знішчэнню тэхнічных і арганізацыйных прастояў, выкарыстанню агромных скрытых рэзерваў.

Перагляд застарэлых і няправільных норм паасобных груп рабочых стварыў стымул для далейшага палепшання арганізацыі працы, ушчыльнення рабочага дня і далейшага прасоўвання наперад.

На заводзе імя Варашылава разметчык тав. Шапіра лёгка выконваў заніжаныя нормы і зусім не рэагаваў на частыя прастоі, уцечкі рабочага часу з-за нездавальняючай арганізацыі працы на сваім участку. Пасля перагляду норм і павелічэння іх на 40—50%, тав. Шапіра пачаў актыўна рэагаваць на несвоечасовую дастаўку чарцяжоў, прымусіў начальніка цэха знішчыць непаладкі, ушчыльніў свой рабочы дзень, выконвае і перавыконвае новыя нормы, захаваўшы свой ранейшы заработак.

Каваль гэтага-ж завода тав. Шмідт заявіў: «Мае нормы зараз павышаны на 100%. Я так арганізаваў сваю работу, што не трачу ніводнай лішняй мінуты. У горан кладу да 10 дэталей падрад, па чарзе іх кую. Пакуль акую адзін болт, другі награваецца, і так мая работа ідзе без перапынку. Стараюся дабіцца правільнага нагрэву дэталей, што таксама паскарае маю работу. У красавіку, калі я ўжо працаваў па новых нормах, зарабляў 440 руб.»

На швейнай фабрыцы «Профінтэрн» прадукцыйнасць працы пасля перагляду норм узрасла на 5 %, эканомія па фонду зарплаты складае 10.200 руб. у год.

На абутковай фабрыцы імя Лекерта, у сувязі з пераглядам норм, праведзена рэарганізацыя пашывачнага цэха—перавод выключна на клеевы метад. Раней адзін рабочы абслугоўваў шэсць працэсаў, цяпер 8—10.

Асабліва значны вынік перагляду норм па віцебскай акулярнай фабрыцы. Аб росце прадукцыйнасці працы сведчаць наступныя лічбы.

| Зотаўцы | Працэс | Выкананне да перагляду | Выкананне пасля перагляду | Процант росту |
|---|---|---|---|---|
| Піражкоў | Алíброўка рам | 240 | 276 | 15 |
| Іваноў | Абвінчэнне рам | 1 950 | 2 660 | 36 |
| Чэрнамордзік | Рэдутаванне завушніка | 4 370 | 4 830 | 10 |
| Янчанка | Прэсоўка шарніра | 8 550 | 9 100 | 7 |
| Каваленка | Калíброўка завушнікаў | 3 810 | 4 670 | 23 |

Рост прадукцыйнасці працы пасля перагляду норм можна адзначыць па раду працэсаў на многіх прадпрыемствах Менска, Гомеля, Барысава, Рэчыцы і іншых прамысловых цэнтраў БССР.

Расчышчан шлях для далейшага ўздыму прадукцыйнасці працы і звязанага з ім росту заработнай платы. Па меры засваення новых норм расце заработная плата ўдарнікаў. Рабочыя наглядна пераконваюцца ў тым, што перагляд норм быў мерапрыемствам, накіраваным на павышэнне прадукцыйнасці працы, а разам з гэтым—на далейшы рост жыццёвага ўзроўню рабочых мас. Аб гэтым сведчыць агромная вытворча-палітычная актыўнасць і свядомасць рабочых, факты ініцыятыўнага павышэння сваіх норм выпрацоўкі і высоўвання сустрэчных (сталінская брыгада мяздрыльшчыкаў на гомельскім аўчына-шубным заводзе, брыгада швейнага цэха абутковай фабрыкі «Праца»—т. Круглікава, брыгада «Кускут», брыгада малатарань на Гомсельмашы, ударнікі шклозавода «Ноўка», ударніца т. Кручкова на гомельскім лесакамбінаце імя Гікало і многія іншыя).

Перагляд норм быў сур'ёзным экзаменам для гаспадарнікаў і прафесіяналістаў на ўменне канкрэтна кіраваць, канкрэтна падыходзіць да паасобных рабочых, на сувязь з масай. Але далёка не ўсе гаспадарнікі і не ўсе прафарганізацыі гэты экзамен вытрымалі. Побач з фактамі далейшага росту прадукцыйнасці працы некаторыя кіраўнікі ўжо праяўляюць «халадок» у засваенні новых норм, што можа прывесці да зрыву задання па далейшаму павышэнню прадукцыйнасці працы і да механічнага зніжэння заработнай платы рабочага. Невыкананне адміністрацыяй арганізацыйна-тэхнічных мерапрыемстваў, уплываючых на выкананне норм, заўважаецца на фабрыцы «Дзвіна», заводзе «Ударнік», папяровых фабрыках «Спартак», «Чырвоная звязда» і інш.

Задача профарганізацыі—дабівацца на кожным прадпрыемстве ўпарадквання тэхнічнага нармавання, стварыць сапраўды масавы кантроль над ажыццяўленнем усіх умоў для павелічэння прадукцыйнасці працы, метадамі соцспаборніцтва і ўдарніцтва падцягваць адстаючых рабочых да ўзроўню перадавых, змагацца за ўсямернае павышэнне кваліфікацыі кожнага рабочага, за ажыццяўленне ўказанняў тав. Сталіна аб клапатлівых адносінах к работнікам, «вырошчваючы іх клапатліва, дапамагаючы ім, калі яны маюць патрэбу ў падтрыманні, заахвочваць іх, калі яны паказваюць першыя поспехі, высоўваючы іх наперад».

* * *

Факты аблічвання рабочых—гэта ганебная з'ява на нашых прадпрыемствах—далёка яшчэ не зжыты. Яшчэ нядаўна выяўлены аблічванні на менскай ЦЭЦ, на віцебскім скураным заводзе, на менскім хлебакамбінаце і іншых прадпрыемствах.

Трэба сказаць, што ў радзе выпадкаў грамадскія кантралёры выяўляюць бязграматнасць і няведанне працоўнага заканадаўства рахунковымі работнікамі, начальнікамі цэхаў, якія абавязаны гэта ведаць у першую чаргу.

Не сакрэт, што многія дырэктары прадпрыемстваў не клапоцяцца аб павышэнні кваліфікацыі сваіх табельшчыкаў і работнікаў разліковага стала—важнейшага ўчастка работы, разлікі з рабочымі давяраюць бязграматным малакваліфікаваным работнікам.

Аблічванні рабочых на паасобных прадпрыемствах маюць разнастайны характар: неахайныя і нядбайныя адносіны табельшчыкаў і

бухгалтараў да сваёй работы, а адсюль—пропуск дзён і гадзін работы, памылкі ў падліках выпрацоўкі і заработнай платы, няправільная аплата за работу ў начны час, няправільная аплата падлеткаў і матак, якія кормяць грудзьмі, няправільная аплата за звыштэрміновыя работы, а таксама незаконныя ўтрыманні заработнай платы, узніманне падатку і культзбору не ў адпаведнасці з устаноўленай шкалою.

Такія адносіны паасобных гаспадарнікаў да заработнай платы рабочага зусім нецярпімы. Прычыны аблічвання рабочых трэба рашуча знішчыць.

* * *

Пасля гістарычнага рашэння лістападаўскага пленума ЦК ВКП(б) аб устанаўленні адзінай цаны на хлеб і іншыя прадукты і адкрытай іх прадажы, пасля адмены картачнай сістэмы значэнне заработнай платы яшчэ больш узрасло, яна з'яўляецца асноўным рэгулятарам аплаты працы.

Рэалізацыя рашэнняў бюро ЦК КП(б)Б аб профсаюзах БССР, разбуйненне профсаюзаў, праведзенае па асабістай ініцыятыве тав. Сталіна далі пэўнае палепшанне ў рабоце профсаюзаў БССР у галіне заработнай платы. Аднак гэтыя поспехі далёка недастатковы і значна адстаюць ад задач, пастаўленых партыяй і ўрадам у 1935 годзе.

Калі да разбуйнення, як адзначыў IV пленум ВЦСПС, саюзы не былі ў стане дастаткова поўна і дыферэнцыявана абслужыць членаў профсаюзаў, здавальняюча весці работу, асабліва па зарплаце, дык зараз, пасля разбуйнення, профсаюзы маюць поўную магчымасць канкрэтна ажыццяўляць свае функцыі па зарплаце, канкрэтна дапамагаць гаспадарніку ў барацьбе за высокую прадукцыйнасць працы, за высокую якасць прадукцыі.

ЦО нашай партыі—газета «Правда» зусім правільна падвергла рэзкай большэвіцкай крытыцы работу профсаюзаў і прыявяла рад матар'ялаў, якія сведчаць аб адставанні іх работы ад задач, пастаўленых партыяй на даным этапе социялістычнага будаўніцтва. Профсаюзныя арганізацыі павінны не на словах, а на справе перабудаваць сваю работу па-большэвіцку ўспрыняць крытыку газеты «Правда» і адказаць на яе не траскатнёю і шуміхай, а канкрэтнымі большэвіцкімі дзеяннямі на ўсіх участках сваёй работы.

Не закранаючы ў гэтым артыкуле ўсіх участкаў работы профсаюзаў у галіне арганізацыі і рэгулявання заработнай платы, неабходна адзначыць найбольш важныя з іх, якія павінны быць пакладзены ў аснову профработы ў пытаннях заработнай платы. Гэта—ператварэнне заработнай платы **ў важнейшы рычаг выяўлення і выкарыстання агромных рэсурсаў прадукцыйнасці працы, у важнейшы рычаг засваення тэхнікі і павышэння кваліфікацыі, поўнай загрузкі рабочага дня, у рычаг дачы пролетарскай дзяржаве таннай і высокаякаснай прадукцыі.**

Уся ўвага партыйных, профсаюзных і гаспадарчых арганізацый у пытаннях заработнай платы павінна быць сканцэнтравана на гэтых задачах.

Неабходна рашуча пакончыць з недаацэнкай ролі зарплаты, з панскімі адносінамі да яе паасобных гаспадарнікаў і профсаюзных работнікаў. Для таго, каб зарплата стымулявала прадукцыйнасць працы,

трэба канкрэтна падыйсці да зарплаты кожнай групы рабочых і кожнага рабочага паасобку, арганізаваць зарплату так, каб кожны рабочы быў зацікаўлен у сістэматычным павелічэнні сваёй выпрацоўкі і павышэнні кваліфікацыі.

Далейшае пашырэнне здзельнай сістэмы аплаты і тэхнічнага нармавання, перабудова здзельшчыны з пункту погляду цеснай увязкі яе з якасцю работы, шырокае прымяненне дыферэнцыяванай аплаты ў залежнасці ад гатунковасці, бальнасці, якасці, выкараненне чыстай пачасовасці, стварэнне матар'яльнага стымула для ўсіх груп рабочых нашай прамысловасці—вось тыя пытанні заработнай платы, да якіх павінна быць прыкавана ўвага прафарганізацыі.

Перад прафсаюзамі БССР стаіць вельмі сур'ёзная задача—укараніць вышэйшую форму ўдарніцтва і спаборніцтва па выпуску прадукцыі на выдатна, спалучыўшы соцспаборніцтва з матар'яльнай зацікаўленасцю выдатнікаў.

Прафарганізацыі павінны прадаставіць рабочаму магчымасць працаваць поўныя 7 гадзін у нармальны рабочы дзень, дабіваючыся безагаворачнага правядзення ўсіх вызначаных мерапрыемстваў арганізацыйна-тэхнічнага парадку, якія забяспечваюць выкананне і перавыкананне норм выпрацоўкі.

Штодзённыя клопаты аб уздыме прадукцыйнасці працы кожнага паасобнага рабочага, жывое рэагаванне, напорыстасць у знішчэнні непаладак, арганізацыя дапамогі перадавікоў адстаючым рабочым—першы доўг кожнага групавога і цэхавага прафарганізатара, кожнага старшыні фабзаўкома.

Кожны прафработнік павінен узорна аўладаць тэхнікай зарплаты. На гэты важнейшы ўчастак павінны быць падабраны лепшыя ўдарнікі. Трэба забяспечыць ім найбольшую дапамогу ў рабоце, клапатлівыя адносіны, памятаючы лозунг тав. Сталіна: «кадры вырашаюць усё».

Было-б няверна думаць, што цыркулярам, пастановай, адміністрацыйным распараджэннем, гастралёрскім выездам можна ліквідаваць недахопы ў зарплаце і арганізацыі працы. Правільная арганізацыя працы і зарплаты могуць быць дасягнуты тады, калі пытаннямі зарплаты шчыльна, канкрэтна займуцца кожны дырэктар трэста, кожны дырэктар прадпрыемства, кожны старшыня фабзаўкома саюза, калі да гэтага будуць прыцягнуты шырокі актыў, шырокія масы рабочых, калі ўсе гэтыя задачы будуць цвёрда ўсвядомлены кожным рабочым.

Не заклінаннем, не алілуйшчынай можна вырашыць гэтую задачу, а глыбокай, крапатлівай, штодзеннай работай у кожнай брыгадзе, групе, у кожнага рабочага месца.

---

С. Малінін і Б. Рывін

# Барацьба за прадукцыйнасць працы на фрэзернай здабычы торфу ў БССР

У дырэктывах к складанню другога пяцігадовага плана народнай гаспадаркі СССР 17 канферэнцыя ВКП(б) указала:

> «Асноўнай і рашаючай гаспадарчай задачай другой пяцігодкі з'яўляецца завяршэнне рэканструкцыі ўсёй народнай гаспадаркі, стварэнне навейшай тэхнічнай базы для ўсіх галін народнай гаспадаркі».

У адпаведнасці з гэтым важнейшым фактарам павышэння прадукцыйнасці працы ў торфпрамысловасці БССР у другой пяцігодцы з'яўляецца карэнная тэхнічная рэканструкцыя торфздабычы, рашучае ўкараненне навейшых, больш тэхнічна ўдасканаленых і высокапрадукцыйных спосабаў здабычы: гідраторфу, фрэзернага, багернага. Сярод іх фрэзерны спосаб торфаздабычы выгадна адрозніваецца большай лёгкасцю поўнай механізацыі, меншымі капіталаўкладаннямі і затратамі, а таксама асабліва высокай прадукцыйнасцю працы, хоць побач з гэтым ён адмоўна характарызуецца адносна большай залежнасцю ад метэаралагічных умоў сезона.

Па плану механізацыі тарфянай прамысловасці Галоўторфа ў другой пяцігодцы, к 1937 г., фрэзерны торф па ўдзельнай вазе ў агульнай праграме торфаздабычы павінен заняць другое месца пасля гідраторфу (29,2% да агульнай здабычы), ім павінна быць здабыта 4.528 тысяч тон супроць 3.212 тысяч тон у 1934 г.*) Па Белторфу к канцу другой пяцігодкі павінна быць здабыта 335 тысяч тон фрэзторфу, што складае 27,1% ад агульнай праграмы здабычы 1937 г.

У БССР асваенне фрэзернага спосабу здабычы адбывалася нездавальняюча. План па здабычы ў 1931 г. Белторфам быў выканан толькі на 18,6%, у 1932 годзе на 24,6%, у 1933 г. на 14,6%. Толькі ў 1934 годзе, у выніку перабудовы ўсёй работы па-новаму, на аснове дырэктыў XVII з'езда ВКП(б) і XV з'езда КП(б)Б, праведзенай пад непасрэдным аперацыйным кіраўніцтвам ЦК КП(б)Б, упершыню план фрэздабычы быў выканан цалкам на 100,6 % **). У выкананні плана

---

*) Тэзісы даклада галоўнага інжынера Галоўторфа т. Длугоцкага на Усесаюзнай Н-Т канферэнцыі торфпрамысловасці ў 1934 г. „Сучаснае становішча і план да канца 2-й пяцігодкі механізацыі торфпрамысловасці", стар. 15.

**) Большасць лічбовых матар'ялаў, што прыводзяцца ў гэтай рабоце, ахапляюць толькі торфзаводы сістэмы Белторфа, г. зн. заводы „Асінторфа" і імя Гея. Аднак, ва ўмовах БССР, гэтыя заводы з'яўляюцца буйнейшымі,—вытвараючымі большую частку фрэзторфу, здабываемага ў БССР, і перадавымі па сваяму тэхнічнаму абсталяванню і арганізацыі вытворчасці. Такім чынам, вытворчыя рэзервы і крыніцы росту прадукцыйнасці працы, якія будуць указаны па гэтых прадпрыемствах, яшчэ ў большай меры маюць месца на больш дробных торфзаводах БССР, здабываючых фрэзерны торф.

1934 года асабліва вялікую ролю адыграў магутны ўздым соцспаборніцтва і ўдарніцтва на торфзаводах, у прыватнасці пачаты па ініцыятыве лепшых ударнікаў торфу вытворчы паход імя Гікало.

Адной з галоўнейшых прычын невыканання плана 1932 і 1933 гг. з'яўляўся надзвычай нізкі ўзровень прадукцыйнасці працы. Нават для лепшага па БССР торфзавода імя Гея, дзенная прадукцыйнасць працы ў 1932 г. складала 55,2% і ў 1933 г. толькі 66,3% узроўню прадукцыйнасці, дасягнутага ў 1934 г. Сезонная-ж прадукцыйнасць у 1932 г. раўнялася 48,6%, а ў 1933 г. толькі 29,1% сезоннай прадукцыйнасці 1934 г. (гл. табліцу):

| Даныя аб прадукцыйнасці працы па торфзаводу імя Гея | 1932 г. | 1933 г. | 1934 г. |
|---|---|---|---|
| Дзённая прадукцыйнасць на адпрацаваны чал.-дзень у тонах (з улікам затрат рабочай сілы на паўторныя аперацыі) . . . . . . . . | 2,0 | 2,4 | 3,62 |
| У % % к 1934 году . . . . . | 55,2 | 66,3 | 100,0 |
| Сезонная прадукцыйнасць на 1-го сярэдне-спісачн. рабочага за сезон у тонах . . . . . . . . . . | 75,0 | 44,9 | 154,2 |
| У %% к 1934 году . . . . . . | 48,6 | 29,1 | 100,0 |

У сваю чаргу, асноўнымі прычынамі такой нізкай прадукцыйнасці працы, апрача адсутнасці вытворчага вопыту і пэўнай закаранеласці, праяўленай пры асваенні гэтага спосабу радам работнікаў торфпрамысловасці (у значнай меры ў рэзультаце гэтага) былі: недастатковае выкарыстанне наяўнага абсталявання і нязначны процант механізацыі паасобных працэсаў работы, выключна дрэннае скарыстанне сезона, што выразілася ў малым ліку цыклаў (па торфзаводу імя Гея—11,5 у 1932 г., 6,79 у 1933 г. супроць 18 планавых, па Осінторфу-ж яшчэ менш), а таксама недастатковае развіццё соцспаборніцтва і ўдарніцтва сярод рабочых, недахопы ў арганізацыі працы і заработнай платы і т. д.

Гаворачы аб сезоне 1933 г., трэба ўлічыць, што ў метэаралагічных адносінах ён быў неспрыяючым для здабычы фрэзернага торфу, што таксама з'яўлялася адною з галоўнейшых прычын рэзкага зніжэння колькасці цыклаў, а значыць і сезоннай прадукцыйнасці працы торфрабочага.

Рэзалюцыі XVII з'езда партыі прадугледжваюць рост прадукцыйнасці працы ў другім пяцігоддзі па прамысловасці «у такіх размерах, пры якіх прадукцыйнасць працы становіцца рашаючым фактарам выканання намечанай праграмы павелічэння прадукцыі» *). Гэта дырэктыва можа быць праілюстравана тымі агромнымі магчымасцямі росту прадукцыйнасці працы, якія мае фрэзерны спосаб здабычы. З пункту-ж погляду практычнага асваення гэтых магчымасцей асабліва вя-

*) Рэзалюцыі XVII з'езда ВКП(б). Партвыдав. 1934, стар. 13.

лікае значэнне набывае аналіз тых канкрэтных фактараў, за лік якіх гэты рост прадукцыйнасці працы ў бліжэйшыя гады можа і павінен быць дасягнут.

Аналізуючы паасобныя фактары, якія вызначаюць узровень прадукцыйнасці працы на фрэзерным спосабе здабычы торфу, перш за ўсё трэба спыніцца на тых крыніцах прадукцыйнасці, якія прадстаўляюць сабой нескарыстаныя вытворчыя рэзервы пры тым становішчы тэхнікі, якое мы ўжо зараз маем у тарфянай прамысловасці.

Сюды трэба аднесці: скарыстанне наяўных механізмаў і ўшчыльненне рабочага дня рабочых, увядзенне прасцейшых прыстасаванняў і інструментаў, якія рацыяналізуюць працу, максімальнае скарыстанне сезона, змяншэнне вытворчых страт і павелічэнне выхаду паветрана сухога торфу за кошт далейшага зніжэння вільготнасці залежаў *). Да гэтай-жа групы крыніц росту прадукцыйнасці працы, якія могуць быць скарыстаны ўжо ў сучасны момант, павінна быць аднесена: магчымае павышэнне прадукцыйнасці з прычыны ўкаранення рэзультацыйных форм аплаты і лепшай арганізацыі працы, далейшага развіцця соцспаборніцтва, разгортвання тэхвучобы і павышэння кваліфікацыі, змяншэння цякучасці; далейшае значнае палепшанне матар'яльна-бытавога і культурнага абслугоўвання рабочых; аздараўленне ўмоў працы; павелічэнне насычанасці торфпрамысловасці кваліфікаванымі кадрамі ІТР і т. д.

Асобна трэба спыніцца на перспектывах росту прадукцыйнасці працы, якія могуць мець месца ў сувязі з карэннай тэхнічнай рэканструкцыяй самога фрэзернага спосабу здабычы, з укараненнем у вытворчасць новых механізмаў, ужо сканструяваных і паказаўшых сваю прыгоднасць у вопытна-вытворчых умовах, але не асвоеных яшчэ прамысловасцю.

* * *

Адказваючы на пытанне, на чым аснована запраектаванае другою пяцігодкай павелічэнне прадукцыйнасці працы ў прамысловасці, тав. Молатаў у сваім дакладзе на XVII з'ездзе ВКП(б) указаў, што калі, па-першае, крыніцай уздыму прадукцыйнасці з'яўляецца агромны рост новай удасканаленай тэхнікі, то, «уздым прадукцыйнасці працы асноўваецца, па-другое, на наяўнасці агромных рэзерваў нявыкарыстанага рабочага часу ў нашых прамысловых прадпрыемствах» **).

Каэфіцыент скарыстання рабочага часу асноўнага абсталявання на здабычы фрэзторфу (трактароў) пакуль яшчэ далёка адстае ад намечаных планам 75%, паводле справаздачных даных на 1934 г. складаючы: на заводзе імя Гея 64,8%, на Осінторфе—65,0%.

Шматлікія фатаграфіі рабочага дня, складзеныя ў сезоне 1934 г. па торфзаводзе імя Гея, паказваюць, што фактычна час іх карыснай работы яшчэ меншы. Так, на працэсе фрэзеравання на карысную работу затрачвалася толькі 56,2% рабочага часу за змену, на варашэнне—60,8%.

---

*) Трэба агаварыць, што спецыфічнасць фрезернага спосабу і вызначаемая ёю значная залежнасць ад метэаралагічных умоў сезона ў розныя гады можа ў значных межах змяніць у той ці іншы бок частку аналізуемых ніжэй фактараў (лік цыклаў, проц. паўторных аперацый і некаторыя іншыя) і, як вынік гэтага, дзённую і сезонную прадукцыйнасць на аднаго рабочага.

**) Молатаў, даклад на XVII з'ездзе ВКП(б) „Задачы другой пяцігодкі". Партвыдат 1934 г., стар. 27.

Такі нізкі процант карыснай работы, як гэта паказалі даныя хранаметражу і фатаграфій рабочага дня, выклікаецца недапушчальна вялікімі затратамі часу на падрыхтоўку трактароў да работы (запраўка, праверка сістэмы жыўлення і запальвання і т. д. адымае 21—26,9% часу), вялікімі прастоямі (11—12%), з якіх прастоі толькі па арганізацыйных прычынах, зусім недапушчальныя, складаюць 7,9%—9,8%.

Баланс рабочага дня трактароў па торфзаводу імя Гея (паводле даных фатаграфіі рабочага дня) у сезоне 1934 года:

| | Фрэзераванне | | Варашэнне і валкаванне | |
|---|---|---|---|---|
| | Працягл. (у мінут.) | %% | Працягл. (у мінут.) | %% |
| **Падрыхтоўка трактароў да работы.** | | | | |
| Праверка, устаноўка сістэмы жыўлення і запальвання . . . . . . . | 74 | 15,4 | 38 | 7,9 |
| Запраўка . . . . . . . . . . . . . | 55 | 11,5 | 61 | 12,7 |
| Прыцэп варашылкі і ваўкавальніка . | — | — | 2 | 0,4 |
| **Работа трактара прадукцыйная** | | | | |
| Прадукцыйны рух . . . . . . . . . | 270 | 56,2 | 292 | 60,8 |
| **Работа трактара непрадукцыйная** | | | | |
| Пераезды (халасты ход) . . . . . . | 28 | 5,8 | 29 | 6,1 |
| **Прастоі:** | | | | |
| Па арганізац. прычынах . . . . . . | 38 | 7,9 | 47 | 9,8 |
| Па віне рабочага . . . . . . . . . | 10 | 2,1 | 2 | 0,4 |
| Па метэаралагічных нрычынах . . . | 5 | 1,1 | 9 | 1,9 |
| Разам . . . . . | 480 | 100,0 | 480 | 100,0 |

З-за няправільнай арганізацыі працы трактарысты непрадукцыйна растрачваюць на падрыхтоўча-заключныя і дапаможныя работы ў сярэднім 30,6% усяго рабочага часу за змену, у паасобныя дні толькі на запраўку трактара затрачвалася 13,3%, на праверку сістэмы жыўлення і запальвання—19% рабочага часу і т. д.

Аднак, побач з нізкім сярэднім каэфіцыентам скарыстання рабочага часу ўсіх трактароў, паасобныя трактары завода імя Гея, абслугоўваемыя найбольш кваліфікаванымі ўдарнікамі-трактарыстамі, за сезон 1934 г. мелі процант карыснай работы па фрэзераванню—72,6 (трактарыст Кулінковіч), 73,5 (Малахоўскі), па варашэнню і валкаванню—72,5 (трактар № 1), 76,1 (Скуратовіч). У паасобныя-ж месяцы каэфіцыент карыснай работы некаторых трактароў падымаўся нават да 77%, 79 і 80%. Такія высокія паказчыкі выкарыстання рабочага часу трак-

тароў ёсць вынік аўладання трактарыстамі тэхнікай сваёй справы і правільнай арганізацыі працы на аснове соцспаборніцтва і ўдарніцтва.

Работы Цэнтральнага Інстытута Працы*), праведзеныя ў 1932 г. на Шатурскіх і Чорнараменскіх торфараспрацоўках, практычна даказвалі магчымасць давядзення каэфіцыента карыснай работы трактароў, пры ўмове правільнай арганізацыі працы і рамонтнай справы, у сярэднім да 78—80% за кошт скарачэння прастояў, змяншэння затрат часу на догляд і абслугоўванне трактара (да 11,7% за змену) і т. д. Лепшаму выкарыстоўванню трактароў павінна спрыяць і шырока разгорнутая зараз работа па павышэнню кваліфікацыі трактарыстаў.

Улічваючы, што ў 1934 г. карысная работа трактароў на заводзе імя Гея і Осінторфе ў сярэднім не перавышае 64,8—65% (даныя фатаграфій рабочага дня паказваюць, што і гэты процант з'яўляецца пераўвялічаным), прадукцыйнасць працы трактарыста на фрэзераванні, механічным варашэнні і валкаванні толькі за кошт давядзення каэфіцыента скарыстання рабочага часу трактароў да планавага можа быць павышана не менш як на 15,7%, $\frac{75,0 \cdot 100}{64,8}$.

Важнейшай крыніцай росту прадукцыйнасці на працаёмкіх працэсах варашэння і валказбірання з'яўляецца замена ручной працы варашылкамі і валкавальнікамі.

Сучаснае становішча тэхнікі фрэзернага спосабу здабычы дае магчымасць поўнасцю механізаваць працэс варашэння і амаль поўнасцю працэс валкавання**). Тым часам процант механізацыі гэтых працэсаў на т-з. БССР, усе мінулыя гады быў яўна нездавальняючым:

| Завод | Працэсы | Ахоп механізацыяй у проц. | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | | 1932 г. | | 1933 г. | | 1934 г. | |
| | | План | Фактычна | План | Фактыч. | План | Фактыч. |
| імя Гея | Варашэнне | 67 | 67 | 100 | 87 | 100 | 81 |
| | Валказбіранне | 60 | 28 | 60 | 7 | 60 | 26,6 |
| „Осінторф“ | Варашэнне | Няма вестак | | | | 100 | 52 |

*) Час. „Арганізацыя працы“ № 5, 1933 г. А. Г. Шалаеў, „Работа ЦІП на торфараспрацоўках“.

**) Пастановы Ўсесаюзнай навукова-тэхнічнай канферэнцыі торфпрамыслов. (15/XII-34 г., зацверджаныя Галоўторфам 2/II-35 г.) устанаўляюць проц. механізацыі варашэння ў 1935 г.—100, механізацыі валказбірання—70. „Торфяное дело“ № 2, 1935 г., стар. 13.

Нават на перадавым заводзе імя Гея ў 1934 г., не гледзячы на выключна спрыяльныя метэаралагічныя ўмовы сезона, процант механізацыі варашэння складаў толькі—81 (знізіўшыся ў параўнанні з 1933 г. на 6%), валказбірання—26,6. На Осінторфе процант механізацыі варашэння і валказбірання яшчэ значна ніжэй, на другіх-жа заводах, як напрыклад «Шлях соцыялізма», варашэнне і валказбіранне праводзілася амаль выключна ўручную. Пры механізаваным варашэнні і валказбіранні амаль зусім яшчэ не выкарыстоўваецца універсальны групавы прыцэп Інсторфа, які дае магчымасць павялічыць пры варашэнні шырыню захопу з 3,5 да 7, а ў некаторых выпадках да 10,5 мт. Усё гэта з'яўляецца яркім пацверджаннем таго, што ў тарфянай прамысловасці сям там ёсць яшчэ антымеханізатарскія настроі.

Тым часам эфектыўнасць адзначаных мерапрыемстваў агромна. Даволі сказаць, што давядзенне механізацыі варашэння па заводу імя Гея з 81 % (у 1934 г.) да 100 % і выкарыстанне групавога прыцэпа Інсторфа можа даць павышэнне прадукцыйнасці працы на працэсе варашэння ў сярэднім па заводу больш як у 3 разы. Не менш эфектыўна і механізацыя валказбірання, якая скарачае расход рабочай сілы на га з 1,54 чал.-дня (пры ручным валказбіранні) да 0,064 (пры механізаваным, строеным валкавальнікам сістэмы Куклева).

Важнейшым пытаннем максімальнага ўкаранення механічнага валказбірання з'яўляецца далейшае ўдасканаленне і аблегчанне канструкцыі валказбіральнікаў, у прыватнасці ўкараненне валказбіральнікаў сістэмы Куклева, якія забяспечваюць мінімальнае ўвільгочанне торфу пры валказбіранні.

Апошняя аперацыя фрэзернай торфаздабычы—штабелёўка, да поўнай механізацыі ўборкі і штабелёўкі праз увядзенне ўборачных машын або механічнага камбайна ў спалучэнні са штабелёвачнымі машынамі,—застаецца ручной і надзвычай працаёмкай аперацыяй.

Буйным рацыяналізатарскім мерапрыемствам, якое дае рост прадукцыйнасці працы на штабелёўцы, з'яўляецца замена кашоў тачанкамі.

Спецыяльныя назіранні, праведзеныя Інстытутам Працы на торфзаводзе імя Гея, паказалі, што эфектыўнасць прымянення тачанак рэзка хістаецца ў залежнасці ад вышыні штабеляў. Калі пры нізкіх штабелях (да 1,5—2 мт.) дзенная прадукцыйнасць рабочага пры рабоце тачанкамі (з улікам рабсілы на апраўку штабеляў) складала 6,5—7,0 тон, перавышаючы прадукцыйнасць пры рабоце кашамі ў сярэднім на 37,6%, то к канцу сезона пры значным узрастанні штабеляў, прадукцыйнасць тачанкамі і кашамі амаль ураўніваецца з-за вялікіх затрат працы на апраўку штабеляў. У сярэднім-жа за сезон увядзенне тачанак можа павысіць прадукцыйнасць працы на штабелёўцы не менш як на 15—18%.

Не гледзячы на бясспрэчную эфектыўнасць гэтага мерапрыемства, штабелёўка тачанкамі была поўнасцю асвоена торфзаводамі імя Гея толькі ў 1934 г., на Осінторфе тачанкі прымяняліся часткова, на заводзе «Шлях соцыялізма» зусім не прымяняліся.

* * *

У дакладзе на XVII з'ездзе партыі аб задачах другой пяцігодкі тав. Молатаў указаў:

«Уздым прадукцыйнасці працы грунтуецца, па-трэцяе, на росце актыўнасці рабочых мас ва ўсім соцыялістычным будаў-

ніцтве. Гэта актыўнасць знаходзіць сваё найлепшае выражэнне ў социялістычным спаборніцтве і ўдарніцтве і яго новых і новых формах (напрыклад, у грамадска-тэхнічных экзаменах на прадпрыемствах)».

У тарфянай прамысловасці, якая штогод папаўняецца значным кадрам рабочых, упершыню прышоўшых на вытворчасць, тэхвучоба, побач з іншымі формамі спаборніцтва, мае асабліва вялікае значэнне.

Прадукцыйнасць працы—найбольш яркі паказчык асваення тэхнікі. У 1934 г. узровень прадукцыйнасці працы лепшых ударнікаў, трактарыстаў (тт. Малахоўскі, Міхейчык, Хмялеўскі), аўладаўшых тэхнікай сваёй справы па фрэзераванню, быў на 13,4% вышэй сярэдняй прадукцыйнасці ўсіх астатніх трактарыстаў завода імя Гея, па варашэнню—на 29,7%.

| | | Норма | Выкапана | %% | Заўвага |
|---|---|---|---|---|---|
| Фрезераванне | Лепшыя трактарысты . | 633,8 | 728,9 | 115,0 | Даныя ахапляюць май, чэрвень, ліпень 1934 г. Весткі аб норме і яе выкананні ўзяты з фактычна адпрацаванай колькасці змен кожнаю з груп трактарыстаў паасобку. |
| | Астатнія трактарысты . | 685,7 | 696,9 | 101,6 | |
| Варашэнне | Лепшыя трактарысты . | 500 | 533,5 | 106,7 | |
| | Астатнія трактарысты . | 1 020 | 785,3 | 77,0 | |

Паводле аналагічных даных завода Осінторф пры сярэднім выкананні плана на 115%, лепшыя ўдарнікі-трактарысты выконвалі нормы выпрацоўкі на 135,5% за сезон 1934 г. (Пулк), 144,0% (Раманаў) і нават 163% (Новік).

Належыць увесь час памятаць гістарычнае ўказанне тав. Сталіна на выпуску акадэмікаў Чырвонай арміі: «Кадры вырашаюць усё». Пытанне стварэння кваліфікаваных кадраў для тарфянай прамысловасці, улічваючы хуткія тэмпы яе развіцця і тэхнічнай рэканструкцыі, мае асабліва вялікае значэнне. Каб павялічыць механізацыю торфаздабычы, павысіць каэфіцыент выкарыстання наяўнага абсталявання, забяспечыць значны рост прадукцыйнасці працы і перавыкананне плана, «патрэбны людзі, аўладаўшыя тэхнікай, патрэбны кадры, здольныя асвоіць і выкарыстаць гэтую тэхніку па ўсіх правілах мастацтва. Тэхніка без людзей, аўладаўшых тэхнікай, мёртва. Тэхніка на чале з людзьмі, аўладаўшымі тэхнікай, можа і павінна зрабіць цуды» **(Сталін).**

Лепшыя ўдарныя брыгады торфзавода імя Гея на сушцы і ўборцы торфу (Міхейчык, Зыль, Рабчыкава), якія прашлі тэхвучобу і ў большасці здалі соцтэхэкзамен, на аснове правільнай арганізацыі працы, высокай інтэнсіўнасці і максімальнага ўшчыльнення рабочага дня дасягнулі ўзроўню прадукцыйнасці працы, які перавышае сярэд-

нюю прадукцыйнасць у астатніх брыгадах фрэзернага ўчастка па штабелёўцы на 30%, па варашэнню на 47,2%.

| | Штабелёўка | | Валкаванне | | Заўвага |
|---|---|---|---|---|---|
| | Прадукцыйн. за 8 гадз 1-ой тарфяніцы (у тонах) | %% | Прадукцыйн. за 8 гадз. 1-ой тарфяніцы (у га) | %% | |
| **Лепшыя ўдарныя брыгады** | | | | | Даныя па штабелёўцы ахапляюць чэрвень, ліпень 1934 г. Па валказбіранню — чэрвень, ліпень, жнівень 1934 г. |
| Міхейчык . . . . . . | 6,9 | 133,5 | 1,05 | 145,8 | |
| Зыль . . . . . . . . | 6,67 | 129,0 | 1,06 | 147,2 | |
| Рабчыкава . . . . . . | 6,65 | 128,6 | 1,08 | 151,4 | |
| У сярэднім . . | 6,72 | 130,0 | 1,06 | 147,2 | |
| У сярэд. па астатніх брыгадах фрэзерн. участка . . . . . . | 5,17 | 100,0 | 0,72 | 100,0 | |

У справе ўмацавання соцспаборніцтва і ўздыму яго на большую вышыню асабліва трэба падкрэсліць выключнае значэнне партыйнамасавай і профсаюзнай работы на торфараспрацоўках.

Далейшае разгортванне соцыялістычнага спаборніцтва, тэхвучобы і ахоп імі ўсіх рабочых, перадача вопыту лепшых ударнікаў адстаючым—важнейшая задача соцыялістычнага спаборніцтва на торфараспрацоўках.

Побач з соцспаборніцтвам, агромная роля ў справе павышэння прадукцыйнасці працы належыць і правільнай арганізацыі зарплаты. Трэба памятаць, што ў сувязі з адменаю картак на хлеб і некаторыя іншыя прадукты роля грашовай зарплаты значна ўзрастае, яна «ператвараецца ў асноўны рэгулятар, а яе павышэнне ў рашаючы стымул для рабочых і служачых» *).

Калі на фрэзерным спосабе здабычы для механізаваных працэсаў работы ўжо ўведзена індывідуальная, прагрэсіўная здзельшчына і недахопы ў арганізацыі заработнай платы маюць месца толькі ў частцы штодзеннага ўліку і давядзення да рабочых іх выпрацоўкі і заработку, то на ручных працэсах (валкаванне, штабелёўка) у вельмі вялікай ступені захавалася яшчэ калектыўна-брыгадная здзельшчына, якая значна зніжае прадукцыйнасць працы тарфяніц.

У сезоне 1934 г. на заводзе імя Гея дробна-групавая здзельшчына на сушцы і ўборцы фрэзторфу пачала прымяняцца толькі спачатку чэрвеня (да гэтага брыгады па 20—24 работніцы аплачваліся калектыўна). Аднак, хоць пераход да яе з першых-жа дзён даў значнае павышэнне прадукцыйнасці, усё-ж пачатая перабудова зарплаты не была даведзена да канца, у групах сумесна працавалі і калектыўна аплачваліся да 9—12 чалавек.

Спецыяльная праверка эфектыўнасці дробна-групавой здзельшчыны, пры правільнай арганізацыі звяна (3—4—5 чалавек на штабе-

*) Молатаў, даклад на лістападаўскім пленуме ЦК ВКП(б), 1934 г.

лёўцы), паказала, што пры меншым звяне прадукцыйнасць была, як правіла, вышэй:

| Колькасць работнік у звяне | Выпрацоўка на чал.-гадз. у тонах | %% | Заўвага |
|---|---|---|---|
| 3— 4 | 0,927 | 154,0 | Назіранні ахапляюць 112 чал.-дзён па тых-жа або аднародных картах і таму-ж складу рабочых. |
| 5— 8 | 0,747 | 124,1 | |
| 9—20 | 0,602 | 100,0 | |

Сярэдняе-ж павышэнне прадукцыйнасці працы пры пераходзе на правільна арганізаваную дробна-групавую здзельшчыну выразілася ў 41%, паказаўшы на наяўнасць большых магчымасцей (якія раней не скарыстоўваліся) павысіць прадукцыйнасць за кошт палепшання працоўнай дысцыпліны, спорасці, інтэнсіўнасці, лепшай арганізацыі працы і лепшага скарыстання рабочага часу.

Зусім выключнае значэнне ў барацьбе за выкананне плана і рост прадукцыйнасці працы набывае зараз барацьба за рашучае палепшанне культурна-бытавога абслугоўвання торфрабочых.

У сваёй гістарычнай прамове на нарадзе гаспадарнікаў, яшчэ 23 чэрвеня 1931 г., т. Сталін падкрэсліў:

«Трэба зыходзіць не з мінулага, а з узрастаючых патрэбнасцей рабочых у сучасны момант. Трэба зразумець, што ўмовы існавання рабочых змяніліся ў нас у корані. Рабочы цяпер—не тое, што раней. Цяперашні рабочы, наш савецкі рабочы, хоча жыць з пакрыццём усіх сваіх матар'яльных і культурных патрэбнасцей і ў сэнсе харчовага снабжэння, і ў сэнсе жылля, і ў сэнсе забяспечання культурных і ўсякіх іншых патрэбнасцей. Ён мае на гэта права, і мы абавязаны забяспечыць яму гэтыя ўмовы» *).

Іменна ў наяўнасці яшчэ недабітых элементаў дробнабуржуазнай ураўнілаўкі ў аплаце і раду недахопаў у культурна-бытавым абслугоўванні торфрабочых трэба шукаць прычыну таго факта, што ў сезоне 1932—33 гг. цякучасць на торфзаводах «Белторфа» перавышала 100% (працант выбыўшых да сярэдня-спісачнай колькасці рабочых), яшчэ і ў 1934 г. па заводу імя Гея складала 87,5%. У нездавальняючым стане знаходзіліся кватэры рабочых, сталовыя, дрэнна арганізоўваўся культурны адпачынак, несістэматычна працавалі клубы, чырвоныя куткі, бібліятэкі і т. д.

Пастанова ЦК КП(б)Б і СНК БССР «Аб падрыхтаванасці торфпрамысловасці да торфсезона 1935 г.» гаворыць:

«Надаючы выключнае палітычнае значэнне становішчу культурных умоў жыцця рабочых, устанавіць наступны мінімум для кожнага рабочага жылля на торфпрадпрыемствах: ложак, матрац, прастыня, коўдра, навалачка, тумбачка на 2-х чалавек, табурэтка на 3-х чал., вешалка, занавескі на вокнах, люстра, гадзіннік, радыё, газеты, бібліятэка, шахматы, шашкі, гармонь, балалайка» **).

*) Сталін. „Вопросы ленинизма“ вып. 1934 г, стар. 453.
**) Час. „Большэвік Беларусі“ за 1935 г. № 5—6, стар. 146

Торфаздабываючым арганізацыям і торфзаводам прапануецца правесці ачыстку ўсіх пасёлкаў, падрыхтаваць для бесперабойнай работы лазні, арганізаваць пральні, правесці азеляненне пасёлкаў і т. д.

Стварэнне культурных умоў жыцця торфарабочых, значнае палепшанне іх матар'яльна-бытавога абслугоўвання павінна спрыяць падцягванню торфзаводаў да ўзроўню прадпрыемстваў перадавых галін прамысловасці. Яно з'яўляецца і ўмовай рэзкага зніжэння цякучасці, гэтага біча тарфянай прамысловасці. На прадукцыйнасць-жа працы цякучасць уплывае ў сілу таго, што не толькі дэзарганізуе вытворчасць, але і зніжае сярэдні ўзровень кваліфікацыі рабочага складу, павялічваючы ўдзельную вагу рабочых, якія яшчэ не маюць вытворчых навыкаў. Прадукцыйнасць гэтых рабочых, як правіла, у першыя дні іх работы (да 10—15 дзён) на заводзе складае не больш 80% ад узроўню прадукцыйнасці старых рабочых, асвоіўшых ужо тэхніку сваёй вытворчасці.

Самы асцярожны разлік паказвае, што нават зніжэнне цякучасці да 25%, што бясспрэчна магчыма, на працягу бліжэйшых 1—2 год дасць прырост прадукцыйнасці не менш як на 3—5%.

* * *

Спецыфічнымі для фрэзернага торфу фактарамі павышэння прадукцыйнасці працы з'яўляюцца: павелічэнне выхаду ў сувязі з паніжэннем вільготнасці верхняга пласту торфзалежаў, максімальнае павелічэнне ліку цыклаў за сезон і зніжэнне вытворчых страт.

Зніжэнне вытворчых страт пры працэсах фрэзеравання, варашэння, валказбірання і штабелёўкі, з'яўляючыся адным з істотных фактараў павелічэння выхаду, уплывае таксама і на павышэнне прадукцыйнасці працы, бо павелічэнне выхаду за кошт зніжэння страт не выклікае дадатковых затрат працы па аперацыях фрэзеравання, механічнага варашэння і валказбірання.

Паводле даных доследаў Інсторфа, у сярэднім недабор торфу супроць тэарэтычна магчымага выхаду на Тарфянай Вопытнай Станцыі складаў 37,6%, на балоце «Пальцо»—48,2, пры гэтым вытворчыя страты, зніжэнне размеру якіх упаўне магчыма, былі акрэслены ў 25% *) (пры ручной сушцы і ўборцы). Паводле даных праф. Гарачкіна, у залежнасці ад ступені разлажэння і пністасці залежаў, фактычныя страты складаюць ад 45 да 60% **). Аналагічныя матар'ялы прыводзяцца і ў радзе іншых работ.

Спецыяльныя назіранні, праведзеныя ў 1934 г. на торфзаводзе імя Гея (інж. Д. І. Шуманам) з мэтай устанаўлення мінімальна магчымай нормы страт у вытворчых умовах, паказалі, што пры асабліва старанным правядзенні працэсаў фрэзеравання, сушкі і ўборкі, страты супроць тэарэтычна магчымага выхаду былі скарочаны (на вопытных картах) да 25,8%, змяняючыся па асобных цыклах ад 20 да 30%, тым часам як у сярэднім за сезон фактычна страты па тых-жа картах дасягалі 58%.

Улічваючы характар балота на заводзе імя Гея (бяспністае, добрая ступень разлажэння, уведзена ў эксплаатацыю ўжо некалькі год),

*) Працы Інсторфа, вып. № 8, раздз. V, выд. 1931 г.

**) Праф. Гарачкін „Эксплаатацыя тарфяных залежаў на паліва", выд. 1934 г., стар. 253.

фактычны размер страт трэба прызнаць надзвычай вялікім. І калі нельга патрабаваць зніжэння страт да норм вопытнага ўчастку (бо ўсё-ж вопытныя ўмовы могуць мець перавагу перад вытворчымі), то ў кожным разе давядзенне іх да норм экспартнага савета Саюзторфа трэба лічыць неабходным. Норма, прыведзеная ў адзначанай вышэй кнізе праф. Гарачкіна для бяспністых залежаў з сярэдняй і добрай ступенню разлажэння, складае 45%, што дае рэзкае павышэнне прадукцыйнасці.

Каб дасягнуць гэтага, трэба рашуча палепшыць тэхнічнае кіраўніцтва вытворчасцю і забяспечыць большую стараннасць пры выкананні рабочымі паасобных аперацый.

Далейшая механізацыя працэсаў варашэння і валказбірання, выпростванне паверхні карт на торфзаводзе імя Гея таксама павінны спрыяць указанаму зніжэнню страт. У якасці прыкладу даволі сказаць, што толькі ўвядзенне групавога прыцэпа на варашэнні, які павялічвае шырыню захопу да 7 метраў і на палову змяншае плошчу карты, умінаемую коламі трактара, можа даць павышэнне выхаду прыкладна на 2,5%. (Пры карце шырынёю 25 мтр., вобадзе колаў трактара шырынёю 0,35 мтр. і дапушчэнні, што 50% крошкі з-пад колаў трактара ўбіраецца, атрымаем пры адной варашылцы з шырынёю захопу 3,5 мтр. страты плошчы $\frac{0{,}35 \times 25}{3{,}5} = 2{,}5$ мтр. або 10%, г. зн.—страты на выхадзе 5%; пры шырыні захопу 7 мтр. атрымаем адпаведна —2,5% страт).

Другім важным фактарам павышэння выхаду паветрана-сухога торфу з адзінкі аб'ёму, а значыць і фактарам росту прадукцыйнасці працы торфарабочых, з'яўляецца зніжэнне пачатковай вільготнасці торфзалежаў. Пры гэтым, калі для іншых спосабаў торфаздабычы мэтазгоднасць асушкі залежаў мае пэўныя межы (так, напрыклад: аптымальнай вільготнасцю на здабычы машына-фармовачнага і багернага спосабу лічыцца вільготнасць 83—85%), то для фрэзернага торфу мэтазгодна максімальная асушка залежаў. На фрэзерным спосабе паніжэнне вільготнасці верхняга пласту залежаў непасрэдна павышае ўзровень прадукцыйнасці працы рабочых, занятых на аперацыях фрэзеравання, механічнага варашэння і валказбірання, павялічваючы прадукцыйнасць на гэтых працэсах у прамой адпаведнасці з павелічэннем выхаду з га. Што датычыць ручных працэсаў работы, то пры валказбіранні з павелічэннем выхаду ў некаторай ступені павялічваюцца і затраты працы на га, пры штабелёўцы-ж, з прычыны дачы нормы і ўліку выпрацоўкі рабочых у танажы, прадукцыйнасць не ўзрастае.

Вырашэнне пытання аб размеры магчымага зніжэння вільготнасці торфзалежы фрэзучасткаў патрабуе ўліку канкрэтных умоў кожнага паасобнага завода. Аднак, на ўсіх заводах рад мерапрыемстваў па палепшанню догляду за асушальнай сеткай, разбіўка шырокіх карт на 25-ці метравыя, старанная прачыстка і паглыбленне картавых, валавых і магістральных канаў, а таксама магчымасць прымянення дрэнажу, адкрываюць канкрэтную перспектыву далейшага зніжэння вільготнасці верхняга пласту торфзалежаў.

Трэба падкрэсліць, што акрамя павелічэння выхаду з га, лепшая асушка залежаў спрыяе і паскоранню сушкі, а значыць і скарачэнню сярэдняй працягласці цыкла і павелічэнню агульнага ліку цыклаў за сезон, што павінна павышаць сезонную прадукцыйнасць. У значнай

меры гэтым тлумачыцца той факт, што паводле даных торфзавода імя Гея ў 1934 г. на картах з вільготнасцю ніжэй 70% сярэдні лік цыклаў складаў 21,4 у тым ліку 3,3 аднадзённых, па картах-жа вільготнасцю звыш 70% агульны лік цыклаў раўняўся—18,6, аднадзённых—1,8.

Да фактараў лепшага скарыстання сезона, павышаючых сезонную прадукцыйнасць працы на фрэзерным спосабе здабычы, трэба аднесці: лік і працягласць цыклаў, а таксама магчымае змяншэнне нявыхадаў рабочых па розных прычынах.

Пытанне аб ліку і працягласці цыклаў, на торфзаводах БССР у сучасны момант можна лічыць у асноўным вырашаным. Работа, праведзеная Інстытутам Працы з удзелам ГІМЕІН'а *), паказала на шматгадовым матар'яле метстанцый, што фрэзерную здабычу ў БССР трэба арыентаваць у сярэднім на 18 цыклаў. Праведзеная некалькі пазней Інсторфам сумесна з Белторфам распрацоўка метэаралагічных паказчыкаў фрэзздабычы ў БССР, у асноўным пацвердзіла правільнасць зробленых Інстытутам Працы вывадаў. У гэтым даследванні **) сярэдні лік цыклаў пры фрэзернай здабычы ў БССР складае 19,6, вар'юючы ў межах ад 17 (Полацк) да 24 (Васілевічы). Пры гэтым адстайваецца мэтазгоднасць арыентавацца на 2-х дзённыя цыклы, бо іх колькасць паводле даных паасобных метстанцый складае да 70—80% ад агульнага ліку магчымых цыклаў, у той час, як трохдзённыя толькі 17—27%. Такі лік цыклаў на торфзаводах БССР, упершыню быў дасягнут у 1934 г. (18 на т.-з. імя Гея, 19,1—на «Асінторфе»). Хоць, трэба падкрэсліць, што іменна ў гэтым годзе асоба спрыяючыя метэаралагічныя ўмовы сезона давалі магчымасць правесці значна большы лік цыклаў. Так, напрыклад, завод імя Гея даў 18 цыклаў да 1 жніўня, увесь-жа жнівень і верасень, не гледзячы на добрае надвор'е, фрэзерныя палі заставаліся зусім нескарыстанымі.

Што датычыць нявыхадаў, то яны па фрэзучастку торфзавода імя Гея ў 1934 г. складалі 2,47% ад агульнага ліку адпрацаваных чалавека-дзён, прагулы складалі 1,1 %, хваробы 1,23 %.

Прагулы павінны быць зусім знішчаны. Павінны быць зніжаны нявыхады і па захворванню.

Дэтальнае вывучэнне захворваемасці, праведзенае на чатырох буйнейшых заводах БССР у 1934 годзе Інстытутам Працы з удзелам кафедр мікрабіялогіі і токсікалогіі Мед'інстытута, устанавіла, што найбольш распаўсюджанымі відамі захворванняў на торфраспрацоўках з'яўляюцца: скурныя захворванні (23,3% усіх захворванняў), жалудачна-кішачныя (16%), траўматызм (19,8%) і інфекцыйныя хваробы (14%). У справе зніжэння жалудачных захворванняў рашаючую ролю павінна адыграць палепшанне санітарных умоў (сталовак, жылля) і, у асаблівасці, правільная арганізацыя водаснабжэння торфарабочых; зніжэнне скурных захворванняў можа быць дасягнута больш уважлівым выбарам рабочага струманту, у прыватнасці ўкараненнем гігіенічнага тыпу лапаты, якая змяншае націранне скуры рук у ямшчыкаў, канаўшчыкаў ***). Вытворчы інструктаж, тэхвучоба і ўзмацненне мерапрыемстваў па тэхніцы бяспекі павінны рашуча зні-

*) Час. „Торфяное дело“ № 5, 1934 г., арт. Малінін С. і Карон Э. „Аб ліку цыклаў на здабычы фрэзернага торфу ў БССР“.

**) Інсторф і Белторф „Тарфяна-метэаралагічныя паказчыкі фрэзздабычы ў БССР“ склалі тт. Ліпніцкі і Гурэвіч пад кіраўніцтвам Бегака, Менск, 1934 г.

***) В. Г. Чарно, П. А. Саваневіч „Гігіенічная рацыяналізацыя тарфяной лапаты“, выд. Інстытута Працы ВЦСПС. Менск, 1935 год.

зіць траўматызм. Гэтыя мерапрыемствы, побач з палепшаннем усёй лячэбна-прафілактычнай работы на торфзаводах, могуць забяспечыць рэзкае зніжэнне захворванняў на торфраспрацоўках.

* * *

Указваючы на неабходнасць механізацыі найбольш працаёмкіх працэсаў, тав. Сталін падкрэсліў:

> «Механізацыя працэсаў працы з'яўляецца той **новай** для нас і **рашаючай** сілай, без якой немагчыма вытрымаць ні нашых тэмпаў, ні новых маштабаў вытворчасці» *).

Ужо з папярэдніх раздзелаў відаць, што сярод іншых указаных намі крыніц росту прадукцыйнасці найбольш эфектыўнымі з'яўляюцца механізацыя працэсаў варашэння і валказбірання, шляхам увядзення варашыльных грабляў і валказбіральнікаў. Аднак, гэтыя мерапрыемствы, не вырашаючы цалкам механізацыю валказбірання, пакідаюць зусім нявырашанай механізацыю найбольш працаёмкага працэса ўборкі і штабелёўкі фрэзернага торфу.

Работы Інсторфа паказваюць, што поўная механізацыя фрэзернага спосабу здабычы можа быць дасягнута ўкараненнем у вытворчасць уборачнай машыны або механічнага камбайна, у спалучэнні з штабелёвачнымі машынамі. І хоць гэтыя машыны ў сучасны момант нельга яшчэ лічыць вытворчымі (уборачную машыну з прычыны раду канструкцыйных недахопаў, механічны камбайн у сілу адсутнасці дастатковых даных аб яго рабоце непасрэдна ў вытворчых умовах), усё-ж, бясспрэчна, к канцу другой пяцігодкі гэтыя механізмы ўжо пачнуць укараняцца ў тарфяную прамысловасць. У асаблівасці гэта можна сказаць аб механічным камбайне, які быў выпрабаван у эксперыментальных, а потым у вопытна-вытворчых умовах на тарфянай вопытнай станцыі Інсторфа і спецыяльнай экспертнай камісіяй Галоўторфа быў прызнаны вытворчай машынай для здабычы фрэзторфу на нізінных і практычна малапністых залежах **).

Тэхналагічны працэс пры рабоце механічным камбайнам складаецца з фрэзеравання і ўборкі, якія праводзяцца камбайнам, механічнага варашэння, якое будзе праводзіцца варашылкамі з трактарам Ф-П або «Інтэрнацыянал», і падштабелёўкі ўручную, або лентачным транспарцёрам (працэс валказбірання зусім адпадае).

Параўнанне ўзроўню прадукцыйнасці працы пры ўвядзенні механічнага камбайна з узроўнем, які мы маем зараз на нашых торфараспрацоўках, з'яўляецца ў пэўнай меры ўмоўным, бо ў працэсе асваення гэтага механізма вытворчасцю паказчыкі яго работы могуць быць значна ўдасканалены, акрамя таго, у адзнаку ад разабраных вышэй фактараў, павышэнне прадукцыйнасці працы пры ўвядзенні механічнага камбайна трэба разглядаць не дапасоўна да паасобных аперацый (як гэта зроблена ў адносінах разабраных вышэй крыніц прадукцыйнасці), а да ўсяго працэса фрэзздабычы на працягу цыкла ў цэлым, бо сам тэхналагічны працэс пры ўвядзенні гэтага механізма змяняецца.

*) Сталин. „Новая обстановка, новые задачи хозяйственного строительства".

**) Працы Інсторфа, вып. XII, выд. 1934 г., стар. 120. Усесаюзная навукова-тэхнічная канферэнцыя тарфянай прамысловасці (1934 г.) прызнала таксама мех. камбайн адным з рашаючых механізмаў па ўборцы торфу. Гл. „Торфяное дело" № 2, 1935 г., стар. 13.

Калі прыняць, што пры ўвядзенні механічнага камбайна, механічнае варашэнне будзе праводзіцца падвойным прыцэпам, а штабелёўка лентачным транспарцёрам (з нарматывамі, устаноўленымі для гэтых механізмаў Інсторфам *), а для варашэння 18,4 га за 8-гадзінную змену), тады затраты працы на фрэззданычы торфу за цыкл могуць быць зніжаны на палову, г. зн. дзённая прадукцыйнасць працы павялічваецца ў 2 з лішнім раза):

| | Расход рабсілы (у чал.-днях) | |
|---|---|---|
| | На 1 га | На 1 тону |
| Паводле справаздачных даных т.-з. імя Гея за сезон 1934 г. . . . . | 5,14 | 0,240 |
| Пры рабоце мехкамбайна, трактара на варашэнні і лентачнага транспарцёра . . . . . . . . . . . . | 2,61 | 0,104 |
| Процант змяншэння затрат працы . | 49,2 | 56,7 |

**Заўвага:** Для разліку прыняты наступныя паказчыкі:

1. Для камбайна норма за змену—100 тон пры двух рабочых; норма варашэння за змену—18,4 га пры адным рабочым; падштабелёўка—прадукцыйнасць адной работніцы 12,5 тон за цыкл.

2. Паводле справаздачных даных т.-з. імя Гея, фрэзераванне за змену 4,32 га; варашэнне механізаванае—8,69 га, ручное—1,2 га (процант механізацыі—81); валкаванне механізаванае—10,17 га, ручное—0,65 га (процант механізацыі—26,6); штабелёўка—6,57 тон; фактычны выхад—21,4 тоны з га.

3. Разлік зроблен на адзін закончаны цыкл без уліку паўторных аперацый.

Сезонная прадукцыйнасць можа даць яшчэ большы прырост, бо магчымы лік цыклаў пры мех. камбайне меркавальна ўстаноўлен Інсторфам у 30 або амаль у паўтара разы вышэй планавага ліку цыклаў у сучасны момант **).

* * *

У сваёй прамове на нарадзе работнікаў цяжкай прамысловасці 20/IX-34 г. тав. Орджанікідзе падкрэсліў, што важнейшым пытаннем, якое павінна быць пастаўлена зараз перад дырэктарамі прадпрыемстваў, інжынерамі, тэхнікамі, партарганізатарамі і прафработнікамі цяжкай прамысловасці, з'яўляецца пытанне аб тым, **«якімі рэзервамі, яшчэ нескарыстанымі, мы ўладаем, і як іх мабілізаваць, прывесці ў рух» ***).**

У тарфянай прамысловасці, у прыватнасці на фрэзернай здабычы торфу, гэтыя нескарыстаныя вытворчыя рэзервы ў справе выканання

*) Працы Інсторфа вып. XII, 1934 г., Бачароў, Канцавы і Солапаў „Механічны камбайн КМ—1", а таксама артыкул інж. Бачарова „За асваенне механізмаў для здабычы фрэзторфу". Час. „Торфяное дело" № 8 за 1934 г.

**) Там-жа.

***) „Правда" за 22/IX—34 г.

плана і ўздыму прадукцыйнасці працы асабліва вялікія, аб чым сведчаць усе прыведзеныя вышэй матар'ялы.

Прароблены Інстытутам Працы падлік агульна магчымага прыросту прадукцыйнасці на фрэзернай здабычы торфу ў БССР у другой пяцігодцы, паказвае, што дзённая прадукцыйнасць працы можа быць павышана (не ўлічваючы прымянення фрэзкамбайна), нават у параўнанні з удалым сезонам 1934 г., у паўтара-два разы, пры ўмове-ж асваення фрэзернага камбайна прадукцыйнасць дасягне яшчэ значна большага ўздыму. Аналагічны рост можа даць і сезонная прадукцыйнасць.

Работнікі фрэзернай здабычы з гонарам могуць выканаць гістарычнае ўказанне тав. Сталіна аб тым, што трэба «арганізаваць працу на прадпрыемствах такім чынам, каб прадукцыйнасць падымалася з месяца ў месяц, з квартала ў квартал *).

Рост прадукцыйнасці працы—рашаючая ўмова выканання плана другой пяцігодкі. Ведаючы гэта, асобая ўвага павінна быць удзелена кожнаму фактару, за кошт якога гэты рост прадукцыйнасці можа быць дасягнут.

* * *

Вынікі першых дзён сезона 1935 года сігналізуюць аб недавыкананні плана здабычы фрэзернага торфу. Замест прадугледжаных планам 14.166 тон, заводы Белторфа далі спачатку сезона па 27 мая толькі 4.383 т. фрэзторфу, выканаўшы календарную праграму на 31%. Па заводу імя Гея календарны план выканан на 47,6%, па «Осінторфу» толькі на 14,7%.

Усе сілы, веды, інцыятыва работнікаў фрэзернай здабычы торфу павінны быць мабілізаваны не толькі на хутчэйшую ліквідацыю майскага прарыву, але і на рашучае перавыкананне календарнага і сезоннага плана здабычы.

Сярод мерапрыемстваў, якія павінны забяспечыць максімальнае павышэнне прадукцыйнасці працы і выкананне плана, асаблівая ўвага павінна быць удзелена:

1. Найбольш эфектыўнаму выкарыстанню ўсіх бездажджовых прамежак шляхам лепшай і найбольш гібкай арганізацыі вытворчага працэса, максімальнага выкарыстання абсталявання, рабочай сілы, рабочага часу.

2. Павышэнню процанта механізацыі варашэння і валказбірання да норм, устаноўленых усесаюзнай Навукова-Тэхнічнай канферэнцыяй торфпрамысловасці—1934 г. (100% механічнага варашэння, не менш 70% валказбірання).

Павінны быць шырока ўжыты ўніверсальны групавы прыцэп сістэмы «Інсторфа», які дазваляе праводзіць варашэнне шырынёю да 10,5 метра, валкаванне—да 6 мтр., валкавальнікі сістэмы «Куклева», на штабелёўцы кошыкі неабходна замяніць тачанкамі.

Асобая барацьба павінна быць праведзена са стратамі фрэзернага торфу.

3. На падставе шырокага развіцця соцспаборніцтва і ўдарніцтва ўсе рабочыя і ІТР павінны быць ахоплены вытворчым паходам імя тав. Гікало. На ўсіх торфзаводах павінна быць разгорнута цэлая сістэма мерапрыемстваў па вырошчванню кваліфікаваных кадраў лю-

*) Сталин. „Вопросы ленинизма“, выд. 1932 г., стар. 591.

дзей, аўладаўшых тэхнікай. Усе рабочыя ахоплены тэхвучобай, павышана якасць яе.

Побач з гэтым трэба канчаткова ліквідаваць элементы абязлічкі і ўраўнілаўкі ў зарплаце, што наглядаецца на торфзаводах.

4. Важнейшая задача—яшчэ большае ўмацаванне партыйна-масавай і профсаюзнай работы.

Яшчэ больш клопату аб далейшым павышэнні матар'яльна-бытавога і культурнага абслугоўвання рабочых.

Ордэн Леніна, атрыманы БССР за выдатныя поспехі на працягу раду год у галіне прамысловасці і сельскай гаспадаркі, дасягнутыя пад кіраўніцтвам ЦК КП(б)Б на чале з тав. Гікало, абавязвае падзесяцярыць барацьбу за своечасовае выкананне і перавыкананне плана торфаздабычы 1935 года.

---

М. Матусевіч

# Тэхвучоба і падрыхтоўка кадраў

Важнейшай задачай пролетарыята пасля захвату і ўмацавання совецкай улады з'яўляецца стварэнне больш высокай прадукцыйнасці соцыялістычнай грамадскай працы.

«Капіталізм можа быць канчаткова пераможан і будзе канчаткова пераможан тым, што соцыялізм створыць новую, значна больш высокую прадукцыйнасць працы» *).

Магчымасці вырашэння гэтай карэннай задачы соцыялізма закладзены Окцябрскай рэволюцыяй. Яны вынікаюць з соцыялістычнай сістэмы, якая знішчыла супярэчнасці паміж грамадскім характарам вытворчасці і прыватнай формай прысваення, знішчыла паразітызм і анархію. Яны выцякаюць з новых соцыялістычных вытворчых адносін, соцыялістычнай кааперацыі працы, новых форм і метадаў соцыялістычнай арганізацыі працы, выкліканых да жыцця ў выніку замены паднявольнай працы на капіталістаў работай на сябе, на свой рабочы клас, на сваю рабочую дзяржаву.

Дыктатура пролетарыята, штодзеннае кіраўніцтва большэвіцкай партыі будаўніцтвам соцыялізма з'яўляецца асновай, якая забяспечвае пабудову соцыялізма і ўздым прадукцыйнасці соцыялістычнай працы. У жорсткай класавай барацьбе з капіталізмам і ўсякімі варожымі пролетарыяту элементамі, арганізуючы соцыялістычную вытворчасць, мабілізуючы працоўныя масы на соцыялістычнае будаўніцтва, дыктатура пролетарыята стварыла новаабсталяваную соцыялістычную прамысловасць, стварыла ўмовы для бурнага росту прадукцыйнасці працы.

Стварыць буйную передавую соцыялістычную прамысловасць, асабліва цяжкую прамысловасць з яе сарцавінай машынабудаўніцтвам, падвесці тэхнічную базу пад усю народную гаспадарку—вось рашаючая ўмова пабудовы соцыялізма і ўздыму прадукцыйнасці соцыялістычнай працы ў СССР.

Выконваючы заветы Леніна, геніяльны арганізатар соцыялістычных перамог—тав. Сталін развіў і канкрэтызаваў гэту задачу асабліва выразна на XIV з'ездзе ВКП(б), а потым у сваім геніяльным лозунгу: «Тэхніка ў перыяд рэканструкцыі вырашае ўсё».

Добра вядома, што стаўка партыі на індустрыялізацыю краіны, на будаўніцтва соцыялізма ў СССР сустрэла шалёнае супраціўленне. Рэшткі паміраючых класаў, правыя апартуністы, контррэволюцыйныя трацкісты, зіноўеўцы змагаліся супроць палітыкі партыі, супроць індустрыялізацыі нашай краіны, спрабавалі, а сям-там спрабуюць і затармазіць пераможны рух соцыялістычнага будаўніцтва. Пролетарыят, кіруемы ВКП(б) на чале з лепшым ленінцам тав. Сталіным,

*) Ленін, т. XXIV, стар. 342.

умацаваўшы сваю дыктатуру, падаўляючы супраціўленне варожых соцыялізму элементаў, дасягнуў велізарнейшых поспехаў у справе пабудовы соцыялізма.

Ужо ў выніку выканання першай пяцігодкі ў СССР пабудован фундамент соцыялістычнай эканомікі, створана машынабудаўнічая прамысловасць, станкабудаўніцтва, чорная металургія, трактарная, аўтамабільная, хімічная, электратэхнічная і рад іншых галін прамысловасці. СССР ператварыўся ў індустрыяльную краіну з самай канцэнтраванай і буйнай прамысловасцю ў свеце.

БССР, як неад'емная частка Совецкага саюза, у выніку ажыццяўлення ленінска-сталінскай нацыянальнай палітыкі, пры брацкай дапамозе пролетарыята СССР, пад кіраўніцтвам ЦК ВКП(б), дасягнула агромных поспехаў ва ўсіх галінах соцыялістычнага будаўніцтва.

Карэнным чынам змяніўся твар Совецкай Беларусі. З былой калоніі царскай Расіі, з нацыянальна-прыгнечанай аграрнай акраіны, яна ператварылася ў індустрыяльна-аграрную краіну з буйнай соцыялістычнай прамысловасцю. На месцы старых саматужных промыслаў з сярэдневяковым абсталяваннем створаны па апошняму слову тэхнікі буйныя фабрыкі і заводы агульна-саюзнага значэння. Магілеўская фабрыка штучнага шоўку і трубаліцейны завод, крычаўскі цементны завод, гомельскі завод сельскагаспадарчых машын, шклозавод імя Сталіна, віцебская швейная фабрыка «Сцяг індустрыялізацыі», бабруйскі і гомельскі дрэваапрацоўчыя камбінаты, раённая электрастанцыя імя Сталіна, якая сваёй энергіяй абслугоўвае прамысловасць трох буйнейшых цэнтраў Беларусі, дзесяткі іншых буйных фабрык і заводаў—усё гэта створана сіламі рабочага класа і працоўных мас сялянства пад кіраўніцтвам комуністычнай партыі Беларусі пры непасрэднай дапамозе ВКП(б) і асабліва тав. Сталіна.

Поспехі індустрыялізацыі БССР выражаюцца, **па-першае,** у агромным росце тэхнічнага ўзбраення прамысловасці. Асноўныя вытворчыя фонды нашай прамысловасці саюзнага і рэспубліканскага значэння (без промкааперацыі) з 109,1 млн. руб. у 1930 г. выраслі да 318 млн. руб. у 1934 годзе, або на 191,4 проц. **Па-другое,**—у росце пролетарыята БССР. Колькасць рабочых, занятых у цэнзавай прамысловасці, транспарце, МТС і МТМ, узрасла да 220 тысяч супроць 22 тысяч усіх рабочых дарэволюцыйнай Беларусі. Рост рабочага класа адбываўся галоўным чынам за кошт карэннага працоўнага насельніцтва БССР. Сярод усіх рабочых Беларусі—беларусаў 65 проц. **Па-трэцяе,**—у агромным росце прадукцыі прамысловасці. Калі ў 1913 годзе ўся прамысловасць БССР давала прадукцыі ўсяго на 100 млн. руб., то ў 1934 г. яна дала прадукцыі дзяржаве на 1.293 млн. руб. А гэта прывяло к павелічэнню долі прамысловай прадукцыі ў народнай гаспадарцы БССР у Совецкім саюзе з 1,6 проц. у 1922—23 г., да 2,3 проц. у 1932 г.

Карэнным чынам змяніўся твар сельскай гаспадаркі Беларусі.

За перыяд першай і два гады другой пяцігодкі ў БССР створана агромная тэхнічная база сельскай гаспадаркі ў асобе 76 МТС. Магутнасць трактарнага парка к канцу першай пяцігодкі складала 31,5 тыс. конскіх сіл, за другую пяцігодку яна ўзрасце ў 7 раз: да 225 тыс. конскіх сіл. Значна павысілася ўраджайнасць соцыялістычных палёў. Калгаснае сялянства моцна стала на шлях заможнага жыцця, калектывізацыя па БССР к канцу 1934 г. дасягнула 72,6 проц.

Такім чынам пролетарыят пад кіраўніцтвам ВКП(б) на чале з

тав. Сталіным стварыў важнейшую матар'яльную аснову ўздыму прадукцыйнасці соцыялістычнай працы—буйную соцыялістычную прамысловасць, буйную соцыялістычную сельскую гаспадарку, узброеную машыннаю тэхнікай. Створаны магчымасці для нябачанага ўздыму прадукцыйнасці соцыялістычнай працы, зніжэння сабекошту прадукцыі і няўхільнага росту матар'яльнага і культурнага ўзроўню шырокіх працоўных мас.

* * *

Аднак мала пабудаваць буйнейшыя ў свеце гіганты, абсталяваныя па апошняму слову навукі і тэхнікі,—іх неабходна асвоіць, каб цалкам выкарыстаць магутнасць нашых новых прадпрыемстваў.

У 2-ой пяцігодцы адбываецца агромны разварот новага будаўніцтва ў СССР. Аснашчэнне нашых прадпрыемстваў навейшаю тэхнікай з года ў год узрастае і будзе няўхільна ўзрастаць, а сродкі вытворчасці, накіроўваемыя ў народную гаспадарку за гады другой пяцігодкі, складуць 60 проц. усіх дзеючых сродкаў вытворчасці. У 1937 г. прадукцыя новастворaных і цалкам рэканструяваных заводаў за гады першай і другой пяцігодкі павінна скласці 80 проц. усёй прадукцыі прамысловасці. За гэтыя гады неабходна асвоіць цэлы рад зусім новых відаў вытворчасці, арганізаваць вытворчасць складнейшага абсталявання і машын, якія да гэтага часу ўвозіліся з-за мяжы. Адсюль зусім відавочна асаблівая важнасць і грандыёзнасць задачы асваення магутнасці пабудаваных намі шматлікіх гігантаў.

Калі-б у нас «мелася дастатковая колькасць кадраў, здольных асядлаць гэту тэхніку, краіна наша атрымала-б эфекта ў тры і ў чатыры разы больш, чым яна мае цяпер»—гаварыў тав. Сталін у сваім гістарычным выступленні на выпуску акадэмікаў Чырвонай арміі 4 мая 1935 года.

Асваенне навейшай тэхнікі патрабуе высокай кваліфікацыі рабочага. Нават рабочаму з вялікім вытворчым стажам неабходна перавучвацца і перабудоўвацца, прыстасоўваючыся да больш складаных станкоў і механізмаў. Ды і самі гэтыя кадры старых рабочых у нас адносна невялікі і не могуць задаволіць патрэб народнай гаспадаркі, якая бурна развіваецца.

Ужо за гады першай пяцігодкі нашы прадпрыемствы папоўніліся новымі кадрамі за кошт выхадцаў з рабочага класа, працоўнага сялянства і іншых груп насельніцтва, якія не маюць навыкаў індустрыяльнай працы.

Прыводзім даныя соцыяльнага паходжання новапаступіўшых рабочых у прамысловасць БССР за 1932 год (паводле справаздачных лічбаў ЦСПСБ):

| Раён | Колькасць распрацаваных картак. | Соцыяльнае паходжанне: | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | | Далі звесткі | З іх: | | | | | |
| | | | Рабочых | Сялян | Служачых | Саматужн. | Гандляроў | Іншых |
| Па БССР (абс. лічбы) . | 11 893 | 9 078 | 3 312 | 4 554 | 687 | 496 | 15 | 14 |
| У проц. . . . . . . . . | — | 100,0 | 36,5 | 50,2 | 7,6 | 5,4 | 0,2 | 0,1 |

З агульнай колькасці 10128 чалавек, на якіх атрыманы звесткі, да паступлення на прадпрыемства працавалі па найму 2.872 чал. (28,4%), не па найму працавалі 7.256 чал. (71,6%). Такім чынам пераважная большасць рабочых працавала не па найму.

У сэнсе перавыхавання новага прыліву вялікую цікавасць прадстаўляе аналіз таго, з якіх крыніц чэрпаліся гэтыя кадры рабочых. Калі прыняць за 100 групу рабочых, якая раней не працавала па найму, то па роду занятнаў яна размяркуецца наступным чынам: саматужнікаў 5,4%, заняты былі ў розных арцелях 3,7%, у калгасах 8,7%, у аднаасобнай гаспадарцы 20,1%, хатніх гаспадынь 7,5%, вучыліся 31,2%, знаходзіліся ў Чырвонай арміі 3,0%, не мелі заняткаў 19,5%, не ўказана дзе 0,9%.

З паданых лічбаў відаць, што сярод новапрынятых рабочых значнае месца займае моладзь, якая прышла ў прамысловасць з вучобы, за ёй ідуць выхадцы з аднаасобнай сельскай гаспадаркі, потым не меўшыя пэўных заняткаў (пенсіянеры і інш.), нарэшце калгаснікі, хатнія гаспадыні, саматужнікі і інш.

Як ужо адзначалася вышэй, меншасць рабочых прыліву 1932 года працавала раней па найму (28,4 %). Аднак і з гэтай групы рабочых пераважная большасць не знаёма была з умовамі індустрыяльнай працы. Толькі нязначная частка (19,4%) працавала раней у фабрычназаводскіх прадпрыемствах. Астатнія рабочыя працавалі: на транспарце 5,2%, на будаўніцтве 5,7% на распрацоўцы і нарыхтоўцы лесу 1,3%, у сельскай гаспадарцы 19,2%, ва ўстановах 4,3%, у іншых галінах 26,4%, хатнімі работніцамі 18,5%.

Рост пралетарыята БССР адбываўся галоўным чынам за лік новых рабочых, якія, як правіла, упершыню далучаюцца да навейшай перадавой тэхнікі і не маюць вопыту вытворчай работы. Іх трэба навучыць, як працаваць на складаным станку, каб яны мэтазгодна скарысталі даверанае ім абсталяванне і асвоілі яго магутнасць. Таму важнейшай умовай нашага паспяховага руху ўперад, умовай для нябачанага ў гісторыі ўздыму прадукцыйнасці социялістычнай працы, зніжэння сабекошту і павышэння якасці прадукцыі з'яўляецца пытанне аб кадрах, аб канкрэтных жывых людзях, якія авалодваюць тэхнікай, даверанай ім абсталяваннем і інструментамі.

Тав. Сталін яшчэ ў гутарцы з металургамі (снежань 1934 года), гаворачы аб лозунгу «тэхніка ў перыяд рэканструкцыі вырашае ўсё», з асаблівай сілай зрабіў упор на пытанне аб людзях, якія авалодваюць тэхнікай:

«Паколькі мы ўжо навучыліся цаніць тэхніку, пара заявіць прама, што галоўнае цяпер—**у людзях,** аўладаўшых тэхнікай».

А ў прамове на выпуску акадэмікаў Чырвонай арміі ён зноў звярачаецца да гэтага важнейшага пытання; высунуў лозунг—«кадры вырашаюць усё».

Гэта значыць, што галоўная наша ўвага зараз павінна быць накіравана на выхаванне людзей, здольных аўладаць складанай тэхнікай, механізмамі і абсталяваннем.

Важнейшым звяном, дзе выкоўваюцца і вырошчваюцца пролетарскія высокакваліфікаваныя кадры, з'яўляюцца нашы ВНУ, ВТНУ і тэхнікумы. З іх сцен краіна ўжо за гады першай і другой пяцігодкі атрымала тысячы высокакваліфікаваных работнікаў, якія паказалі

свае веды і здольнасці на соцыялістычных будоўлях, у прамысловасці, на транспарце, у сельскай гаспадарцы, у лабараторыях і розных навукова-даследчых установах.

Але для нашых запатрабаванняў гэтага недастаткова. Мы павінны ўсямерна павышаць насычанасць нашай вытворчасці спецыялістамі. У другой пяцігодцы ўдзельная вага ІТР у прамысловасці павялічваецца з 5,2 да 6,4%. Па галоўнейшых галінах вытворчасці СССР «будзе перавышан узровень насычанасці спецыялістамі, дасягнуты ў Германіі: па камена-вугальнай прамысловасці насычанасць спецыялістамі ў 1937 г. узрасце да 6% (у Германіі 4,2%); у металургіі—да 10,5% (у Германіі 6,2%); у машынабудаўніцтве да 12,8% (у Германіі 9,8%)» *).

Таму ў другой пяцігодцы выключная ўвага ўдзяляецца вырашэнню праблемы стварэння пролетарскай вытворча-тэхнічнай інтэлігенцыі і ўздыму тэхнічнай асветы ў краіне.

У другой пяцігодцы мы павінны падрыхтаваць праз ФЗУ, стацыянарныя курсы і школы каля 5 млн. работнікаў масавых кваліфікацый, у тым ліку больш 1,5 млн. кваліфікаваных работнікаў сельскай гаспадаркі (трактарыстаў, камбайнераў і т. д.), павінны выпусціць 340 тыс. высокакваліфікаваных спецыялістаў, скончыўшых вышэйшыя навучальныя ўстановы і 850 тыс. скончыўшых тэхнікумы **).

Гэта велізарнейшая армія будучых работнікаў прамысловасці, транспарта, сельскай і іншых галін нашай гаспадаркі патрабуе да сябе, як ніколі, уважлівых і руплівых адносін. Справа заключаецца ў тым, каб падрыхтаваць з рабочых і калгаснікаў такія кадры, якія-б стаялі на ўзроўні сучаснай навукі і тэхнікі, якія-б сапраўды былі выхаваны ў духу большэвізма.

* * *

Акрамя навучання ў ВНУ, ВТНУ і тэхнікумах, другі пяцігадовы план прадугледжвае рад дадатковых мерапрыемстваў па павышэнню кваліфікацыі рабочых і калгаснікаў. Сярод іх «цэнтральнае месца пры гэтым займае навучанне рабочых абавязковаму тэхнічнаму мінімуму» ***).

Таму, побач з падрыхтоўкаю кадраў у ВНУ, тэхнікумах, фабзавучах, на розных курсах, якімі ахоплена абмежаваная частка рабочых, велізарнейшае значэнне мае тэхнічная вучоба працоўных непасрэдна на вытворчасці—на заводзе, у калгасе, цэху, брыгадзе і т. д., вучоба на аснове соцыялістычнага спаборніцтва.

Па ўсяму Саюзу разгарнуўся масавы рух працоўных за аўладанне тэхнікай, за павышэнне вытворчай кваліфікацыі. Узнікшы спачатку на перадавых прадпрыемствах Масквы і Ленінграда, гэты рух ахапіў ужо шырокія масы рабочых прамысловасці, транспарта, пранік у соцыялістычны сектар сельскай гаспадаркі, у савецкі апарат.

Асабліва бурны рост тэхнічнай вучобы ў БССР прыпадае галоўным чынам на 1934 г. Калі на І/ХІ 1933 года ўсімі відамі тэхвучобы

*) Гл. „Второй пятилетний план развития нар. хоз." т. I, стр. 327.
**) Там-жа, стар. XVI.
***) Там-жа, стар. 334.

было ахоплена толькі каля 5 тысяч чалавек, а значкістаў ЗОТ былі адзінкі, то ўжо к XVII-й гадавіне Окцябра ў тэхвучобу ўцягнута была агромная колькасць рабочых, а зотаўцаў налічвалася 7.500 чалавек. Перыяд падрыхтоўкі да з'езда советаў азнаймаваўся новым прылівам ударнікаў тэхвучобы як добраахвотных яе форм, так і абавязковай здачы тэхмінімума.

Паводле даных ЦСПСБ на першае студзеня 1935 года ўсімі формамі тэхвучобы і здачай тэхмінімума ахоплена:

| | Колькасць прадпрыемстваў, даўшых звесткі | Колькасць рабочых, абавязаных здаць тэхмінімум | З іх ахоплена тэхвучобай: | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|
| | | | Абавязковай: | | Добраахвотнай: | |
| | | | Здала тэхмін. у 1934 годзе | Навучаецца | Здала грамад. экзамен | Навучаецца |
| Усяго па прамысловасці БССР . . . . . . . . | 132 | 32,069 | 18 058 | 14 979 | 3 906 | 8 019 |
| Па саюзах: трамвайшчыкаў, комунальнікаў, жылбуд, шасейн. дарог, чыгуначн. і райкамвод . . . . . . . | 56 | 6 700 | 4 052 | 3 4:5 | 1 399 | 1.151 |
| Усяго . . . | 188 | 38 769 | 22 110 | 18 474 | 5.305 | 9.170 |

На 1 студзеня 1935 года абавязковай тэхвучобай ахоплены былі 18.474 рабочыя і здалі абавязковы тэхмінімум 22.110 рабочых; добраахвотнымі формамі тэхвучобы ахоплена 14.475 рабочых, з іх здалі соцтэхэкзамен 5.305 рабочых.

Гэта гаворыць аб тым, што ў тэхвучобу ўжо ўключыліся шырокія рабочыя масы БССР, якія непасрэдна на вытворчасці актыўна змагаюцца за павышэнне сваёй вытворчай кваліфікацыі, за культурную работу на станку.

У падрыхтоўку да тэхэкзаменаў уцягнуты не толькі маладыя рабочыя, але і з вялікім вытворчым стажам, майстры, старыя рабочыя, начальнікі цэхаў і інжынерна-тэхнічны персанал, якія перадаюць свой багаты вопыт маладым рабочым, шэфствуюць над імі, вучаць кіраваць станком, павышаць тэхнічную граматнасць (заводы імя Варашылава, імя Кірава, «Пролетарый» і інш.).

БССР мае ўжо пэўныя дасягненні не толькі ў частцы ўцягнення рабочых у тэхвучобу, але і ў тэхэкзаменах. Ужо зараз здалі тэхэкзамен дзесяткі тысяч рабочых, здалі на добра і вельмі добра.

Тысячы выдатнікаў на буйнейшых прадпрыемствах паказалі высокую прадукцыйнасць працы, знізілі сабекошт, даюць дзяржаве прадукцыю дасканалай якасці. Гэтую форму соцыялістычнай працы трэба ўсямерна пашыраць, спалучаючы на практыцы высокую якасць працы з матар'яльнай зацікаўленасцю выдатніка. Для гэтага неабходна перабудаваць зарплату ў адпаведнасці з якасцю выпускаемай выдатнікам прадукцыі.

Па важнейшых галінах прамысловасці БССР было ахоплена ўсімі відамі тэхвучобы на 1/1-35 г.:

| Назва саюзаў | Колькасць рабочых, абавязаных здаць тэхэкзамен | З і х: | | Колькасць рабочых, ахопл. добрахвотнай тэхвучобай | З іх здалі грамадскі тэхэкзамен |
|---|---|---|---|---|---|
| | | Здала тэхмінімум | Навучаецца | | |
| Станка-інстр. прамысловасці . . . | 1 787 | 1 444 | 640 | 408 | 408 |
| Дакладнага машынабудаўніцтва . | 486 | 374 | 386 | 8 | 8 |
| Торфсланцав. прамысловасці . . . | 499 | 271 | 510 | 445 | 53 |
| Фанера-запалк. прамысловасці . . | 2 926 | 2 287 | 600 | 1 147 | 187 |
| Хлебапячэння . . . . . . . . . | 625 | 325 | 440 | 409 | 137 |
| Швейнай прамысловасці . . . . . | 7 357 | 2 202 | 3 250 | 862 | 355 |
| Скуранай прамысловасці . . . . | 383 | 283 | 107 | 2 134 | 942 |

Такім чынам мы бачым, што ў той час як па станкабудаўніцтву з 1787 рабочых здала тэхэкзамен 1444 чал., па швейнай прамысловасці здала толькі 2202 чалавекі з 7357 рабочых. З гэтых даных відаць, што некаторыя прадпрыемствы швейнай прамысловасці БССР недаацэньваюць важнасць тэхвучобы.

З якасцю тэхвучобы на паасобных прадпрыемствах таксама вялікая стрыкатасць. Так, напрыклад, на віцебскай акулярнай фабрыцы і гомельскім заводзе «Пролетарый» пераважная частка рабочых здала тэхэкзамен на добра і выдатна, на заводзе «Ударнік» каля 40 проц. рабочых здалі тэхэкзамен на здавальняюча. Тое-ж самае наглядаецца і на заводах: крычаўскім цэментным, магілеўскім трубаліцейным, на першай і трэцяй менскіх цагельнях і інш.

У частцы арганізацыі і якасці тэхвучобы некаторыя раёны БССР маюць агромнейшыя поспехі. Вядома, што Віцебск заваяваў пяршынства ў спаборніцтве трох гарадоў за права злёту значкістаў ЗОТ лёгкай прамысловасці. Гэта пяршынства аспрэчвае Гомель і Менск.

Да апошняга часу ў арганізацыі тэхвучобы адставаў Гомель. У сувязі з падрыхтоўкай да ўсебеларускага злёту значкістаў ЗОТ цяжкай прамысловасці і да ўсебеларускага з'езда саветаў прадпрыемствы Гомеля прыметна падцягнуліся, асабліва завод «Пролетарый».

Рыхтуючыся да ўсебеларускага з'езда саветаў, рад прадпрыемстваў дабіўся бясспрэчных дасягненняў у галіне арганізацыі і якасці тэхвучобы, у барацьбе за павышэнне кваліфікацыі рабочых і асваенне тэхнікі.

* * *

Шматлікія сведчанні рабочых, майстроў і інжынераў з самых розных заводаў і галін прамысловасці паказваюць, што падрыхтоўка к здачы тэхэкзамена, павышаючы тэхнічную граматнасць і кваліфікацыю рабочага, дапамагае асваенню тэхнікі і ўздымае прадукцый-

насць працы. Гэта можна праілюстраваць на прыкладзе затраты рабочым часу на тую ці іншую аперацыю, на прыкладзе выканання норм выпрацоўкі—аднаго з асноўных паказчыкаў асваення.

Многія здаўшыя тэхэкзамен брыгады і паасобныя рабочыя дабіліся здзіўляючых вынікаў. Настойлівая і ўпорная вучоба ў брыгадзе Талпекіна (Ростсельмаш) дапамагала рабочым асвоіць складаныя станкі, расшыфравала ім самыя складаныя чарцяжы і дала магчымасць павысіць у агромнай меры прадукцыйнасць працы. Вось яркі прыклад затраты часу на паасобныя аперацыі да і пасля здачы грамадска-тэхнічнага экзамена:

| Назва аперацый | Затрата часу на аперацыю: | |
|---|---|---|
| | Да пачатку вучобы | Пасля вучобы і здачы тэхэкзамена |
| Разметка нажа . . . . . | 20 мін. | 8 мін. |
| „ кованага штампа . . ПШ 1010 . . . . | 28 гадз. | 7 гадз. (пры норме 13 г.) |
| „ вязалкі № 508 . . . | 18 гадз. | 8 гадз. |

Скарачэнне часу на некаторыя аперацыі ў 2 і 3 разы ёсць вынік упартай барацьбы рабочых за павышэнне кваліфікацыі на аснове тэхвучобы.

Гэта характэрна не толькі для адной брыгады Талпекіна. Рабочы віцебскай акулярнай фабрыкі т. Добрын да здачы тэхэкзамена не выконваў нормы, а зараз значна перавыконвае. Рабочы Гомсельмаша т. Врублеўскі, здаўшы тэхэкзамен на выдатна і ўшчыльніўшы рабочы дзень, даў на станку «Рыдэр» замест 280—300 рэкордную выпрацоўку ў 670 дэталей за змену. Тарфяная прамысловасць дала рад узораў высокай выпрацоўкі (брыгады тт. Жура, Курэнева і інш.). Падобныя факты мае рад іншых заводаў Саюза. Рабочыя брыгады Сенгліна («Профінтэрн»—Бежыца) толькі пасля здачы тэхмінімума пачалі выконваць норму. Раней у змену рабілі 6—7 колаў, а зараз 13. Аб гэтым сведчаць факты на цэлым радзе шахт. «Да здачы тэхмінімума, — расказвае брыгадзір Печань Віктар, — забойшчыкі нашай брыгады (Анжэра-Суджэнская капальня) давалі па 7—10 тон вугалю ў змену. Пасля праходжання тэхмінімума вывучылі клавеж і сталі даваць 36 тон.».

Тэхвучоба і здача тэхэкзамена значна ўздымае тэхнічную граматнасць і кваліфікацыю рабочага, павялічвае знаёмства рабочага з «сакрэтамі» свайго станка, прыводзіць да значнага зберажэння рабочага часу за кошт скарачэння непрадукцыйнай траты часу пры рамонце, чаканні наладчыка і т. д. У гэтых адносінах надзвычай цікавыя вынікі дала тэхвучоба на Сталінградскім трактарным заводзе. У выніку падрыхтоўкі і здачы тэхэкзамена звычайны рамонт і непаладкі станка рабочы праводзіць самастойна. Так, з 43 абследваных маладых рабочых, здаўшых соцтэхэкзамен на СТЗ, наладжваюць станок самастойна 35 чалавек, пад кіраўніцтвам наладчыка 4 і толькі ў 4 рабочых станкі наладжвае наладчык. Тое-ж і з рамонтам. Толькі 5 чалавек з абследваных 43 маладых рабочых право-

дзяць бягучы рамонт пры дапамозе майстра або інструктара. Тэхвучоба павялічвае культурнасць рабочага. Ён лепш сочыць за чыстатою рабочага месца, усведамляе адказнасць за стан даверанага яму абсталявання і т. д. Са здаўшых соцтэхэкзамен 43 маладых рабочых на СТЗ вельмі чыста ўтрымліваюць станкі 36, здавальняюча 2 і нездавальняюча 3 рабочых. Тое-ж і са змазкай. Толькі чацвёра рабочых змазваюць станкі нездавальняюча.

Павышэнне тэхнічнай граматнасці і культурнасці рабочага, больш уважлівы догляд станка, чыстата рабочага месца, своечасовая змазка вядуць да чоткай і бесперабойнай работы механізмаў, да скарачэння аварый і паломак абсталявання. Так, на шахце № 1—6 (Анжэра-Суджэнская капальня) значна скараціліся аварыі і павялічылася колькасць прэміяваных за бесперабойную работу. На шахце № 51 (Маскоўская вобласць) за кастрычнік—снежань было 11 выпадкаў розных паломак механізмаў, а ўжо ў студзені, пасля здачы тэхмінімума,—ніводнага выпадку. На шахце № 10 (Данскі раён, Маскоўскай вобласці) колькасць аварый у студзені скарацілася амаль удвая.

Такім чынам тэхвучоба і здача тэхэкзамена павышае кваліфікацыю рабочага, прыводзіць да лепшага выкарыстання станка і механізмаў, да больш прадукцыйнага скарыстання рабочага часу, і з'яўляецца важнейшым фактарам уздыму прадукцыйнасці соцыялістычнай працы, зніжэння сабекошту і росту соцыялістычных накапленняў. Пацвярджаецца гэта штодзённаю практыкай не толькі паасобных рабочых-ударнікаў, але работай брыгад, цэхаў і нават цэлых прадпрыемстваў.

Дасягненні лепшых ударнікаў-выдатнікаў па-новаму ставяць пытанне тэхнармавання. Шматлікія факты вялікага перавыканання норм сведчаць аб тым, што часта на нашых прадпрыемствах дзейнічаюць заніжаныя нормы, якія ўстанаўляліся на больш нізкай ступені авалодання тэхнікай, пры нізкай кваліфікацыі рабочага. У аснову перагляду заніжаных норм і ўстанаўлення норм тэхнічна абгрунтаваных неабходна пакласці дасягненні і вопыт работы лепшых ударнікаў. Работнікі нармоўшчыкі не павінны абмяжоўвацца ўстанаўленнем нормы, а і наладзіць інструктаж. Вопыт і дасягненні лепшых ударнікаў-выдатнікаў павінны стаць набыткам кожнага рабочага. Шырокі абмен вопытам і інструктаж рабочых—неабходная ўмова асваення ўстаноўленых норм.

Важнейшым паказчыкам, які сведчыць аб агромнейшай ролі тэхвучобы, з'яўляецца выкананне промфінплана. Як правіла, рабочыя і цэлыя брыгады, здаўшыя тэхэкзамен, сістэматычна выконваюць і перавыконваюць свой промфінплан.

Прывядзем некалькі са шматлікіх фактаў, узятых з раду важнейшых прадпрыемстваў Саюза. На ткацкай фабрыцы «Пролетарый» (Маскоўская вобласць) усе 13 маладзёжных брыгад выконвалі промфінплан на 80 проц. з бракам звыш плана, пасля здачы тэхэкзамена яны ў верасні далі 100 проц., у снежні 107 проц. з бракам ніжэй плана. На Калінінскім вагонным заводзе (Маскоўская вобласць) у рэзультаце здачы тэхэкзамена 440 рабочых з 485 цалкам выканалі план, а паасобныя брыгады паказалі агромнае перавыкананне: брыгада Лаўрэнцьева выканала свой план на 137,6 проц., Манахава на 137,0 проц., Былінкінай на 117,2 проц., Дзевашова на 121,1 проц. Некаторыя брыгады іншых заводаў, здаўшы тэхэкзамен на выдатна і добра, сістэматычна перавыконваюць свае месячныя планы на 60 і больш процантаў.

Здача тэхэкзамена вядзе не толькі да павелічэння прадукцыйнасці працы, да перавыканання промфінплана, але разам з тым да палепшання якасці прадукцыі і зніжэння браку. Многія рабочыя і цэлыя брыгады, якія здалі тэхэкзамен на добра і выдатна, працуюць зусім без браку. Брыгады Лашковай і Панінай (Кашырская ДЭС) перавыконваюць план, знізілі брак з 5,0 проц. да 0,5 проц.; брыгада Румянцава (завод імя Сталіна—Ленінград) перавыконвае план і працуе зусім без браку; брыгада Стружкіна пры норме ў 2 проц. дае браку толькі 0,4 проц.; комсамольскія брыгады Яцуна, Кандура, Шчэрбаценко (завод імя Баранава), працуюць на адказнейшай рабоце па вырабу дэталей і зборцы матораў, мелі 4—5 проц. браку, пасля здачы грамадска-тэхнічнага экзамена зусім зжылі брак і павялічылі вытворчасць на 127—132 проц. і т. д. Тэхэкзамен з'яўляецца важнейшым фактарам у выкананні промфінплана, павелічэнні якасці прадукцыі і знішчэнні браку.

Тав. Сталін высунуў адказнейшую задачу па вырошчванню і выхаванню новых кадраў: выхоўваць, дапамагаць расці, даць перспектыву, своечасова вылучаць на больш кваліфікаваную работу. Масавая тэхвучоба без адрыву ад вытворчасці, на канкрэтным матар'яле цэха, завода, пры дапамозе інжынерна-тэхнічных работнікаў павышае кваліфікацыю рабочага, дае перспектыву для прасоўвання на больш кваліфікаваную работу: памочнікам майстра, майстрам, брыгадзірам і т. д.

Гэта можна праілюстраваць надзвычай цікавымі данымі. К 1 красавіка 1934 года на Сталінградскім трактарным заводзе переведзена ў вышэйшыя разрады з ліку здаўшых тэхэкзамен на выдатна і добра 468 комсамольцаў і беспартыйных. На заводзе «Пролетарый» (БССР) з ліку здаўшых тэхэкзамен на выдатна пераведзены ў вышэйшыя разрады 38 рабочых. Тое-ж самае мы маем на Гомсельмашы, заводзе імя Варашылава і іншых прадпрыемствах.

Тэхвучоба, здача тэхэкзамена, як правіла, суправаждаецца ростам заработнай платы і палепшаннем матар'яльнага становішча працоўных. Паводле выбарачных даных, на 6 буйнейшых заводах Сталінграда сярэдняя зарплата пасля здачы тэхэкзамена вырасла ў наступных размерах: ,

| | Усяго апрошана | У тым ліку: | | Зарплата | |
|---|---|---|---|---|---|
| | | Здала тэх-экз. | Не здала тэхэкзамен. | Да здачы тэхэкзамена | Пасля здачы |
| Па 6 заводах Сталінграда. . . . . . | 165 | 145 | 20 | 184 | 258 |
| У тым ліку: | | | | | |
| СТЗ . . . . . . | 64 | 54 | 10 | 192 | 235 |
| „Чырвоны Окцябр" . | 23 | 23 | — | 218 | 242 |

Такі-ж малюнак росту заработнай платы наглядаем і на іншых прадпрыемствах. На заводзе «Пролетарый» (БССР) рабочы т. Маршоў да здачы тэхэкзамена атрымліваў 90 руб., а пасля здачы 145—

160 руб., т. Трыфкін да здачы 75 руб., а пасля здачы 120—135 руб., т. Дворкіна да экзамена 70 руб., а пасля—145 руб., т. Цырульнікаў раней 190 руб., а зараз 250 руб. Такія факты маюць усе фабрыкі і заводы, дзе па-большэвіцку змагаюцца за павышэнне кваліфікацыі рабочых, дзе тэхвучоба пастаўлена на належную вышыню.

Баявое спаборніцтва на лепшы ахоп тэхнічнай вучобай стала агульнаю справай рабочага класа. Тэхнічная вучоба перакінулася ва ўсе галіны прамысловасці, транспарта, у соцыялістычны сектар сельскай гаспадаркі, кааперацыю. Яна стала магутным фактарам павышэння кваліфікацыі, дапамагае асваенню норм выпрацоўкі, стымулюе рост прадукцыйнасці працы, зніжае сабекошт, павышае якасць прадукцыі, дапамагае выкананню і перавыкананню вытворчых планаў па ўсіх важнейшых паказчыках, асваенню тэхнікі, дае перспектыву для высоўвання на больш кваліфікаваную работу і суправаджаецца палепшаннем матар'яльнага і культурнага добрабыту працоўных.

Разгортванне тэхвучобы ў БССР у бягучым годзе стала адным з важнейшых фактараў, якія палепшылі работу раду прадпрыемстваў і дапамог паспяхова выканаць промфінплан.

Але побач з бясспрэчнымі дасягненнямі ёсць рад буйнейшых недахопаў у арганізацыі тэхвучобы. Перш за ўсё зацягнулася тэхвучоба першай ступені (здача тэхмінімума). Вучыцца людзей больш, чым здае экзамен. На некаторых прадпрыемствах да апошняга часу былі рабочыя, неахопленыя пярвічнай тэхвучобай (завод ланцугоў Галля і інш.).

Буйнейшым недахопам у рабоце паасобных профсаюзных звенняў і гаспадарнікаў з'яўляецца адсутнасць добра распрацаваных праграм і метадычных указанняў па тэхнічнай вучобе. На прадпрыемствы спускаюцца надзвычай агульныя праграмы, якія не перадаюць і не канкрэтызуюць вопыту лепшых прадпрыемстваў. Асабліва гэта датычыць тарфянай і керамічнай прамысловасці.

Многія фабзаўкомы ўсё яшчэ дрэнна кіруюць тэхвучобай, не змагаюцца за яе якасць. На шчотачнай фабрыцы ў Гомелі, на фабрыцы «Пролетарская перамога» у Барысаве ўмудрыліся ў адзін вечар праэкзаменаваць адразу 200 чалавек. Былі факты, калі ў спісы выдатнікаў уносілі людзей, якія не выконвалі промфінплана (фабрыка «Сцяг індустрыялізацыі»).

Буйнейшы недахоп у рабоце нізавых партыйных і прафесіянальных арганізацый—слабая папулярызацыя найбольш апраўдаўшых сябе форм тэхвучобы і дрэнна наладжаны абмен вопытам.

Заслугоўвае ўвагі прыклад віцебскай акулярнай фабрыкі, якая рашыла абмяняцца вопытам з панчошнаю фабрыкай імя Клары Цэткін, наладжваючы сумесныя нарады, прысвечаныя тэхвучобе. Завод «Пролетарый» узяў на буксір адстаючыя прадпрыемствы: фабрыку ложкаў і інш.

Мала ўвагі ўдзяляецца пераводу тэхнічнай вучобы на больш высокую ступень, а гэта надзвычай важна. Дагнаць і перагнаць капіталістычныя краіны, дабіцца самай высокай у свеце прадукцыйнасці соцыялістычнай працы, самай таннай і высокаякаснай прадукцыі, мы можам шляхам павышэння кваліфікацыі рабочых, здольных аўладаць створанай намі навейшай тэхнікай. Таму нельга супакоіцца на здачы абавязковага тэхмінімума.

Па прыкладу перадавых прадпрыемстваў Саюза для здаўшых тэх-

мінімум рабочых неабходна арганізаваць тэхвучобу вышэйшай ступені.

Цікавы вопыт завода «Севкабель» (Ленінград), дзе высунулі ідэю здачы тэхэкзамена другой ступені. На заводзе імя Макса Гельца рабочыя, здаўшыя тэхэкзамен на выдатна, прыступілі да распрацоўкі дыпломных праектаў, якія даюць закончаную сярэднюю тэхнічную адукацыю па вузкай спецыяльнасці. Гэта ідэя падхоплена ўжо некаторымі прадпрыемствамі БССР (завод імя Варашылава, «Чырвоны металіст»).

На заводзе імя Ланцуцкага арганізавалі вучэбна-курсавы вытворчы камбінат з 3-ма факультэтамі, тэхнікумам і курсамі. Вучобай ахоплена 200 лепшых зотаўцаў. Але гэты выдатны вопыт яшчэ не абагулен. Аб ім мала ведае наша грамадскасць.

Патрэбна і іншым нашым прадпрыемствам падхапіць і прымяніць апраўдаўшыя сябе формы тэхвучобы другой ступені, а для гэтага дырэкцыя і прафарганізацыі заводаў павінны справу вырошчвання кадраў, клопаты аб іх паставіць у цэнтр сваёй увагі. Для арганізацыі тэхвучобы рабочых патрэбна вылучыць спецыяльнага работніка дырэкцыі, ставіць пытанне аб мерапрыемствах па павышэнню кваліфікацыі канкрэтных людзей на дырэкцыі, парткоме, групкоме.

Важнасць арганізацыі тэхнічнай вучобы на прадпрыемствах і пераводу яе на больш высокую ступень дзе-ні-дзе недаацэньваецца, у радзе выпадкаў тэхвучоба разглядаецца, як чарговая кампанія. Шырокая тэхнічная вучоба рабочага класа з'яўляецца важнейшым фактарам асваення тэхнікі і палепшання матар'яльнага становішча працоўных. Зараз гэта самая баявая і неабходная справа. У гутарцы з металургамі т. Сталін з асаблівасю сілай падкрэсліў, што «галоўнае цяпер у людзях, аўладаўшых тэхнікай». Усямернае павышэнне якасці тэхвучобы, перавод яе на вышэйшую ступень азначае далейшае павышэнне кваліфікацыі рабочага, рост прадукцыйнасці працы, палепшанне якасці прадукцыі, культурнага і матар'яльнага становішча рабочых. Усе гэтыя пытанні павінны быць узяты за аснову работы ў 1935 годзе.

* * *

Рабочае вынаходніцтва і рацыяналізацыя—адна з форм, якая адлюстроўвае развіццё здольнасцей вызваленай працы, накіраваных на палепшанне соцыялістычнай вытворчасці і ўздым прадукцыйнасці. Толькі ў СССР, на аснове новых вытворчых адносін, на аснове соцыялістычнай арганізацыі працы, барацьбы за аўладанне тэхнікай, з асяроддзя рабочага класа высунуўся тып арганізатара вытворчасці—ударнік-вынаходца, ударнік-рацыяналізатар, з'явіліся ізотавы рабочага класа ва ўсіх галінах народнай гаспадаркі. Аб гэтым красамоўна сведчыць рост ячэек рабочага вынаходніцтва і тая агромная работа, якую праводзяць яны на прадпрыемствах па палепшанню і ўдасканаленню працэсаў вытворчасці.

Некаторыя рабочыя сваімі рацыяналізатарскімі прапановамі значна палепшылі вытворчасць, палегчылі працу і павысілі прадукцыйнасць. Брыгадзір т. **Мурашоў** (электразавод), прымяніўшы сваё прыстасаванне да фрэзернага станка па аперацыі № 9, давёў яго прадукцыйнасць за 7 гадзін работы да 1200 дэталей, тады як прыстасаванне фірмы «Сцынцыла» давала толькі 70—80 дэталей. Прыстасаванне тав. Мурашова па аперацыі № 8 павялічыла прадукцыйнасць за

7 гадзін работы з 200 да 700—900 сардэчнікаў, па аперацыі № 7 з 300 да 800. Змена рэжыму фрэзернага радыуса башмачка павысіла выпрацоўку з 210 да 600 камплектаў і т. д.

У падарунак XI з'езду БССР механік Гофман і інжынер Снарскі (шчотачна-шчацінны камбінат—Віцебск) сканструявалі для шчаціны сушылку, якая значна скарачае час і павялічвае прадукцыйнасць працы. Раней у сушылку закладалі 200 кгр. сыравіны на 24 гадзіны, у сушылку-ж канструкцыі Гофмана і Снарскага адразу закладаецца 1000 кгр. сыравіны, а працэс сушкі скарачаецца да 6 гадзін.

Калгаснік Гарлачоў вынайшаў машыну для цераблення лёну, якая аблягчае працу і павялічвае яе прадукцыйнасць у 3—4 разы. Ужо зараз выпушчана больш 2000 машын яго канструкцыі.

Некаторыя рабочыя сваімі прапановамі і вынаходкамі з'эканомілі дзяржаве тысячы рублёў валюты. Возьмем к прыкладу Глайхенгауза (завод імя Варашылава). З 12 год ён працаваў на капіталістаў звычайным слесарам і да 1926 года быў няграматным. Соцтэхэкзамен Глайхенгауз здаў на выдатна і зараз з'яўляецца майстрам інструментальнага цэха. Не гледзячы на свае 50 год, Глайхенгауз не толькі ліквідаваў няграматнасць, але павышае сваю кваліфікацыю на курсах майстраў. За час сваёй работы на заводзе Глайхенгауз унёс больш 150 рацыяналізатарскіх прапаноў, якія далі эканоміі каля 50.000 руб. Акрамя гэтага, Глайхенгауз вынайшаў пілу для халоднай рэзкі металаў, якая раней увозілася з-за мяжы і каштавала заводу 500 руб. золатам. Гэта адкрыццё скарыстоўваецца іншымі заводамі: імя Мяснікова (Менск), некаторымі заводамі Горкаўскага краю і інш. За свае прапановы Глайхенгауз не раз прэміяваўся.

Рабочыя-рацыяналізатары, павышаючы сваю кваліфікацыю, асвойваючы тэхніку, далі агромнае зніжэнне сабекошту прадукцыі, ліквідавалі брак і значна павысілі соцыялістычнае накапленне. Брыгадзір па збору свідравальных станкоў Давыдзюк С. (завод імя Варашылава) аўладаў тэхнікай імпартнага станка і ўнёс 11 рацыяналізатарскіх прапаноў, што знізіла сабекошт станка з 400 да 200 руб.

Шэр С. І. (завод «Большэвік»—Менск) пры капіталізме працаваў звычайным клеевaрам па 14 гадзін у суткі і толькі пры савецкай уладзе стаў займаць тэхнічна-камандныя пасады. Зараз Шэр працуе тэхнарукам клееварнага цэха і з'яўляецца лепшым ударнікам-рацыяналізатарам. Шэр—аўтар кнігі «Клей і жэлацін» (выд. 1933 г.)—унёс 10 рацыяналізатарскіх прапаноў, даўшых эканомію 40 тыс. рублёў. Толькі ў перыяд падрыхтоўкі да XI з'езда БССР унёс новыя 3 прапановы па скарыстанню шквары (адходу з варачных чанаў), што дае эканоміі 10.600 руб., і атрымаў прэмію ў 680 руб.

Некаторыя рабочыя-рацыяналізатары за свае прапановы на карысць соцыялістычнага будаўніцтва ўзнагароджаны ордэнам працоўнага сцягу. Так, рабочы-чыгуначнік Еўстаф'еў Ф. Ф., маючы 71 год, унёс 104 рацыяналізатарскія прапановы, даўшыя соцыялістычнаму будаўніцтву сотні тысяч рублёў эканоміі. Еўстаф'еў узнагароджан ордэнам працоўнага сцягу. У радах рабочых вынаходцаў не мала такіх ордэнаносцаў і герояў: Арш, Капылоўскі, Папячкін і інш.

Варта ўвагі, што ў рады рацыяналізатараў уключаюцца не толькі старыя рабочыя з агромным практычным стажам, але і маладыя, якія нядаўна прышлі на вытворчасць. Напрыклад, т. Зісьман прышоў на электразавод у 1931 г. і за гэты час стаў кваліфікаваным рабочым і

добрым устаноўшчыкам. Станкі і штампы, наладжаныя Зісьманым, круглыя суткі працуюць бесперабойна. Але разам з тым ён рабочы-вынаходца і рацыяналізатар: унёс 62 рацыяналізатарскія прапановы, даўшыя вялікую эканомію заводу, за што прэміяваўся 35 раз.

Тав. Столяр мае 34 гады. Прышоў на менскую фабрыку «Окцябр» звычайным краўцом. Авалодваючы працэсам вытворчасці, т. Столяр паступова прасоўваўся на больш кваліфікаваную работу і ўжо ў 1934 годзе стаў загадчыкам. Змяняючы і спрашчаючы працэс вытворчасці, Столяр унёс 28 рацыяналізатарскіх прапаноў, даўшых больш 200 тыс. руб. эканоміі, за што не раз прэміяваўся.

Рады рабочага вынаходніцтва і рацыяналізацыі з кожным годам папаўняюцца, усё больш узрастае іх удзельная вага ў асяроддзі пралетарыята. Яшчэ некалькі год назад сярод рабочых беларускай прамысловасці былі адзінкі вынаходцаў. За апошнія гады колькасць ячэек вынаходніцтва і іх членаў складае велізарную лічбу: ужо на 1-I—34 г. па БССР налічвалася каля 8350 вынаходцаў-рацыяналізатараў, а на 1-I—35 г., паводле папярэдніх падлікаў, рацыяналізатараў-вынаходцаў у нас каля 9,5 тыс., з іх—7200 рабочых.

У пачатку 1933 г. па буйнейшых прадпрыемствах БССР удзельная вага рабочых-вынаходцаў і рацыяналізатараў складала 7,5 проц. да ўсіх рабочых гэтых прадпрыемстваў. К пачатку 1934 года ўдзельная вага рабочых-рацыяналізатараў, не гледзячы на велізарны рост пролетарыята БССР у 1933 годзе, узнялася да 10,4 проц. усёй колькасці рабочых. Кожны дзесяты рабочы з'яўляецца або вынаходцам або рацыяналізатарам. А гэта ўжо агромнейшая сіла. Трэба толькі арганізаваць яе, дапамагчы тэхнічнай кансультацыяй высокакваліфікаваных спецыялістаў, стварыць спрыяючыя ўмовы для нармальнай прадукцыйнай працы, клапаціцца аб далейшым росце яе агульнай і тэхнічнай кваліфікацыі.

Народная гаспадарка СССР у выніку рэалізацыі рацыяналізатарскіх прапаноў атрымала за апошнія гады велізарнейшую эканомію, якая вылічваецца сотнямі мільёнаў рублёў. Толькі ў прамысловасці БССР за 1932, 1933 і першую палову 1934 г. рэалізавана 9.701 рабочая прапанова і вынаходніцтва з эканоміяй на 9 млн. руб. Ужо адна гэта лічба сведчыць аб тым, што рацыяналізатарскія прапановы і рабочае вынаходніцтва ёсць агромнейшы ўклад у справу соцыялістычнага будаўніцтва, у справу аўладання тэхнікай і росту соцыялістычнага накаплення.

Нельга забываць, што гэтых поспехаў дабіліся мы, пачаўшы асваенне новых станкоў, новай вытворчасці і соцыялістычнай тэхнікі без адпаведнага вопыту і падрыхтаваных кадраў, калі значная частка нашых лепшых ударнікаў упершыню сустрэлася са складанейшымі, найтанчэйшымі станкамі і механізмамі. І ўсё-ж, перамагаючы труднасці, уздымаючы свой тэхнічны светапогляд, спаборнічаючы, тысячы рабочых-ударнікаў і ІТР далі рад каштоўных рацыяналізатарскіх прапаноў, паказаўшы сапраўдныя ўзоры большэвіцкай барацьбы за аўладанне тэхнікай.

Хіба не варта здзіўлення, што комсамолец Мацюхін (Электразавод), ніколі не бачыўшы складанага свідравальнага станка «Леві», праз год-паўтара асвойвае яго і дае ў снежні 400 ротараў пры норме 250, г. зн. 180 проц., прычым не робіць браку. У цэху Мацюхін стаў лепшым вытворцам, з якога бяруць прыклад і па якому раўняюцца іншыя рабочыя.

Комсамолец Будніцкі прышоў на завод без усякага вопыту вытворчай работы з падрыхтоўкаю сельскай школы, не мог разабрацца ў прасцейшых чарцяжах, а зараз асвоіў рад станкоў. У апошні час Будніцкі асвоіў складанейшы імпартны швейцарскі свідравальны станок маркі «СІП»—апошняе слова капіталістычнай тэхнікі для танчэйшых работ з дакладнасцю да аднаго мікрона. І гэтага дабіўся ён наперакор думцы швейцарскага інструктара, што для асваення гэтага станка неабходна сярэдняя асвета.

Усе гэтыя буйнейшыя дасягненні ў аўладанні тэхнікай і палепшанні арганізацыі вытворчасці, вядома, не здавальняюць нашых узрослых патрабаванняў. Дасягненні паасобных рабочых брыгад і заводаў павінны стаць набыткам усяго рабочага класа. Скарыстанне заваяванага, асвоенага палегчыць задачу асваення тэхнікі нашых новабудуючыхся гігантаў і прынясе агромную карысць усёй народнай гаспадарцы.

Мы не маем ніякага права супакоіцца і спачыць на лаўрах. Рост арміі рацыяналізатараў і вынаходцаў ставіць перад партыйнымі і профсаюзнымі арганізацыямі заводаў рад адказнейшых задач: арганізацыя работы і вучобы, тэхнічная дапамога высокакваліфікаванымі кадрамі, афармленне і рэалізацыя рацыяналізатарскіх прапаноў і вынаходак, павышэнне кваліфікацыі вынаходцаў.

На радзе прадпрыемстваў, як «Чырвоны металіст», завод імя Кірава, «Большэвік» і рад іншых, дзе справа тэхвучобы вынаходцаў-рацыяналізатараў пастаўлена нядрэнна, удзяляецца многа ўвагі рацыяналізацыі іх прапаноў і вынаходак. Аднак рад прадпрыемстваў абыякава адносяцца да гэтых важнейшых пытанняў. На тэкстыльнай фабрыцы «Дзвіна», на фабрыцы імя Клары Цэткін, на заводах «Ударнік», «Адраджэнне», Магілеўскім трубаліцейным, на швейнай ф-цы імя Валадарскага (Магілеў), імя Крупскай (Менск) і радзе іншых не распрацавана тэматыка для гурткоў тэхнічнай вучобы рацыяналізатараў-вынаходцаў, надзвычай слаба наладжана кансультацыя высокакваліфікаваных спецыялістаў і рэалізацыя рацыяналізатарскіх прапаноў.

Усё гэта гаворыць аб тым, што пытанню выхоўвання і вырошчвання кваліфікаваных кадраў рабочых вынаходцаў і рацыяналізатараў нізавыя прафесіянальныя і партыйныя арганізацыі раду прадпрыемстваў не ўдзяляюць належнай увагі. Тым часам гэта палітычная задача сучаснага этапа соцыялістычнага будаўніцтва з'яўляецца нашай асноўнай задачай.

«Калі мы хочам зжыць з поспехам голад у галіне людзей і дабіцца таго, каб наша краіна мела дастатковую колькасць кадраў, здольных рухаць наперад тэхніку і пусціць яе ў дзеянне,—мы павінны перш за ўсё навучыцца цаніць людзей, цаніць кадры, цаніць кожнага работніка, здольнага прынесці карысць нашай агульнай справе. Трэба, нарэшце, зразумець, што з усіх каштоўных капіталаў, якія ёсць у свеце, самым каштоўным і самым рашаючым капіталам з'яўляюцца людзі, кадры. Трэба зразумець, што пры нашых цяперашніх умовах «кадры вырашаюць усё». Будуць у нас добрыя і шматлікія кадры ў прамысловасці, у сельскай гаспадарцы, на транспарце, у арміі,—наша краіна будзе непераможна. Не будзе ў нас такіх кадраў—будзем кульгаць на абедзве нагі» (**Сталін**. Прамова на выпуску акадэмікаў Чырвонай арміі 4-V 1935 г.).

Ф. Селін

# Мемельскі ачаг вайны

Сярод шматлікіх тэрытарыяльных праблем у Еўропе, пагражаючых выбухам новай вайны, за апошні год асаблівую ўвагу прыцягвае праблема Мемеля. Германскі фашызм, вымушаны па тактычных меркаваннях час ад часу прыкрываць свае сапраўдныя мэты мірнымі дэкларацыямі, за заслонаю якіх ён няўтомна працягвае весці падрыхтоўку да вайны, у пытанні аб Мемелі не лічыць патрэбным нават прыкрываць свае агрэсіўныя імкненні.

Асабліва ярасная і пагражаючай стала германская прапаганда вакол Мемельскага пытання пасля Саарскага плебісцыта.

Гэта прапаганда крычыць аб прыгнечанні 140 тысяч немцаў маленькаю Літвой, якая, моў, нагла парушае прынцыпы міжнароднага права і нясцерпным чынам зневажае годнасць нямецкай нацыі. За ўсёй гэтай нацыяналістычнай шуміхай крыецца вельмі рэальны імперыялістычны змест.

Чым-жа вытлумачыць такое яраснае імкненне да аваладання гэтай маленькай областю з боку германскага фашызма? Адказ на гэта пытанне лёгка даць, калі каротка азнаёміцца з сутнасцю і з сучасным становішчам Мемельскага пытання.

Мемельская область (літоўская назва—Клайпеда) займае плошчу ўсяго ў 2656 кв. кілометраў. Яна цягнецца вузкаю палоскай, шырынёю ў 15—20 клм з поўначы на поўдзень уздоўж узбярэжжа Балтыйскага мора і затокі Курышгаф да вусця Нёмана, а затым у паўднёва-ўсходнім кірунку ўздоўж Нёмана, які ўтварае ў сваім ніжнім цячэнні германа-літоўскую дзяржаўную граніцу.

Насельніцтва ў області налічваецца 145 тысяч чалавек, каля 70% насельніцтва занята ў сельскай гаспадарцы. Адзіным буйным паселішчам гарадскога тыпу з'яўляецца горад Мемель (Клайпеда), які налічвае 42 тыс. жыхароў. Прамысловасць горада складаецца з лесапільных прадпрыемстваў, цэлюлознага завода і раду дробных фабрык, якія абслугоўваюць унутраны літоўскі рынак. Да крызіса ў мемельскай прамысловасці было занята каля 8 000 рабочых.

Па нацыянальнаму складу большасць жыхароў з'яўляецца літоўцамі, захаваўшымі сваю родную мову, не гледзячы на ўзмоцненую работу па германізацыі області, што праводзіцца на працягу чатырох стагоддзяў прускага валодання (з 1870 г. у школах выкладанне літоўскай мовы было забаронена). Нават паводле германскіх статыстычных даных за 1910—1920 гг. 49% жыхароў сваёй роднай мовай лічылі літоўскую. Паводле літоўскіх афіцыяльных даных на 1. І—29 г. з 145.000 жыхароў называлі сябе немцамі—41,2%, мемель-

цамі *)—27,9 %, літоўцамі—26,5 %; пры чым 57,8 % сельскага і 39% гарадскога насельніцтва ўказалі на літоўскую, як на сваю родную мову. Для паўнаты малюнку неабходна адзначыць, што літоўская гаворка Мемельскай обласці крыху розніцца ад агульна карыстанай у астатняй Літве мовы. Акрамя таго, пануючай рэлігіяй у обласці з'яўляецца лютэранства, а ў Літве каталіцызм.

Обласць пазбаўлена натуральных багаццяў. Вялікае гаспадарчае значэнне мае вельмі выгадна распаложаны Мемельскі порт, практычна не замярзаючы.

Гэта обласць па Версальскаму мірнаму дагавору была адторгнута ад Германіі ў карысць Антанты. Германія загадзя абавязалася прызнаць рашэнне аб тэрытарыяльнай прыналежнасці обласці, якую прымуць саюзныя дзяржавы. У 1923 годзе, у выніку паўстання літоўскага насельніцтва ў обласці, якая кіравалася французскім акупацыйным атрадам, обласць была захоплена Літвою.

У 1924 г. па спецыяльнаму дагавору (парыжская канвенцыя ад 8/V 1924 г.), заключанаму паміж краінамі Антанты і Літвой, Мемельская тэрыторыя фармальна ўвайшла ў склад Літоўскай рэспублікі. Па гэтаму-ж дагавору Літва абавязалася прадаставіць жыхарам Мемеля шырокую аўтаномію ў справах унутранага кіравання.

Мемельскі порт да вайны, знаходзячыся на крайнім паўночным усходзе Германскай імперыі, пазбаўлены натуральнага гінтэрлянда, празябаў. Ён меў значэнне толькі як лесаэкспартная гавань для лесу, сплаўляемага па водней сістэме Нёмана, натуральным выхадам якога з'яўляецца Мемель. Германія не толькі нічога не рабіла для развіцця спрыяюча распаложанага порта, але, наадварот, германскі ўрад нават перашкаджаў таму, каб Мемель, распаложаны каля самай граніцы, не рабіў, як транзітны порт, канкурэнцыі блізкаму да яго Кенігсбергу (галоўны горад і порт Усходняй Прусіі). Нават частка сплаўнога лесу да вайны накіроўвалася ў Кенігсберг па каналу, што злучаў яго з Нёманам. Сплаў па Нёману ў даваенныя гады дасягаў максімальнай лічбы ў 1 млн. фестметраў, пры чым з 1906 года сплаў бярвення, прызначанага для распілоўкі на мемельскіх і тыльзіцкіх лесапільнях, штогод ішоў на зніжэнне. Цікава адзначыць, што 20% усяго сплаўнога лесу да вайны паступала з тэрыторыі сучаснай БССР, 25% з сучаснай Літвы, 20% з унутраных раёнаў Польшчы, а 35%, нарэшце, з акупаваных у сучасны момант Польшчай літоўскіх абласцей.

Такім чынам з уласнай германскай народнай гаспадаркай Мемель, як порт, не быў звязаны. Тым большае эканамічнае значэнне порт, як адзіны выхад у мора, мае для незалежнай Літвы. Даволі ўказаць, што ў 1934 годзе праз Мемель прашло 66,10% усяго літоўскага экспарта і 60,51% імпарта (у каштоўным вылічэнні). У вагавых адносінах у тым-жа годзе 83,55% усяго літоўскага імпарта былі завезены праз Мемель.

Праз Мемель Літва ўвозіць усю неабходную ёй нафту, увесь вугаль, соль, цэмент, мінеральныя ўгнаенні, жалеза, і інш., а экспартуе ўвесь бекон, масла, жывую жывёлу і інш. сельскагаспадарчыя прадукты, прызначаныя для Англіі і іншых краін Заходняй Еўропы. Значэнне, якое для развіцця порта мела злучэнне порта з яго натуральным гінтэрляндам, можна праілюстраваць данымі аб грузазвароце, які паступова ўзрастаў за мінулае дасяцігоддзе, не гледзячы на скарачэнне сусветнага гандлёвага звароту, у выніку пасляваеннага

*) Мемельцамі (Memelländer) называюць сябе анямечаныя літоўцы.

і сусветнага крызісаў. Увоз павысіўся з 1924 па 1933 г. з 294 да 696 тыс. тон, вываз (без транзіта)—са 143 (1924 г.) да 256 (1933 г.). За гэты-ж перыяд узрасла колькасць суднаў, наведаўшых Мемельскі порт з 694 да 1069, а іх водазмяшчэнне—з 266 да 600 тыс. рэгістраваных тон. Літва ў 1932 годзе закончыла пераабсталяванне порта, што павысіла прапускную здольнасць яго з 800 тыс. да 2 млн. тон грузаў у год (не лічачы лесу).

Такім чынам страта Мемельскага порта для Літвы была-б роўнасільна страце эканамічнай незалежнасці. Пазбаўленая выхаду ў мора, Літва немінуча апынулася-б у поўнай эканамічнай залежнасці ад фашысцкай Германіі.

З вышэйпаданага таксама відаць, што эканамічнае значэнне вобласці для народнай гаспадаркі Германіі невялікае, і што ўсе сцверджанні германскай прапаганды аб чыста нямецкім характары вобласці хлуслівы.

Сапраўднаю мэтай германскага фашызма з'яўляецца не само валоданне Мемелем і не вызваленне «братоў па крыві», а імкненне пазбавіць літоўскую эканоміку адзінага натуральнага выхаду ў мора, паставіць яе ў поўную залежнасць ад германскага рынку, германскіх чыгунак і порта Кенігсберга для вывазу сваіх сельскагаспадарчых прадуктаў і ўвозу неабходных ёй фабрыкатаў.

Германскі імперыялізм зусім грунтоўна разлічвае, што захоп Мемеля дасць яму магчымасць і палітычна падначаліць Літву свайму ўплыву. А стратэгічнае значэнне Літвы як плацдарма для ажыццяўлення германскіх захватніцкіх планаў на ўсходзе надта вяліка, для гэтага даволі кінуць вокам на карту.

Германія, уладаючы Літвой пры наяўнасці чыгуначнай сеці, можа нанесці ўдар у трох напрамках: 1) па лініі Коўна—Шаўлі на Рыгу для захвату Прыбалтыкі і супроць СССР—па лініях: 2) Тыльзіт—Шаўлі, Дзвінск—Віцебск і 3) Коўна—Вільня—Менск. Падначаленне Літвы Германіі ў палітычных і эканамічных адносінах фактычнаператворыць Літоўскую тэрыторыю ў стратэгічны працяг Усходняй Прусіі. Германская ваеншчына ўжо ў мірны час зможа прыступіць да стварэння ў Літве ваенных аэрадромаў і іншых збудаванняў для будучага наступлення. Акрамя таго, на выпадак вайны літоўская сельская гаспадарка зможа істотна папоўніць харчовыя рэсурсы Германіі.

І так, не падлягае сумненню, што захват Мемельскай вобласці для Германіі не самамэта, а толькі першы этап ажыццяўлення стратэгічнага плана, паданага ў кнізе Гітлера «Мая барацьба».

Барацьбу за аўладанне Мемелем Германія пачала па сутнасці на другі дзень пасля ўступлення ў сілу Версальскага мірнага дагавора. Мяняліся толькі метады гэтай барацьбы па меры росту сіл германскага імперыялізма. На гэтых метадах і паасобных этапах барацьбы ўнутры самой вобласці варта спыніцца, каб мець уяўленне аб сучасным становішчы ў гэтым участку Еўропы.

Як вышэй было ўжо адзначана, Мемельская тэрыторыя ў межах Літоўскай дзяржавы карыстаецца вельмі шырокай аўтаноміяй. Гэта аўтаномія пашыраецца на галіны ўнутранай адміністрацыі, асветы, мясцовых фінансаў, судагаварэння.

Мемельская вобласць мае свой заканадаўчы орган—сеймік у складзе 29 дэпутатаў, які выбіраецца па літоўскаму выбарчаму закону і мае права прымаць законы, якія датычаць тых галін кіраўніцтва, што знаходзяцца ў кампетэнцыі аўтаномнай улады. На чале кіраўніцтва вобласці

стаіць дырэкторыя, адказная перад сеймікам, старшыня якой прызначаецца літоўскім губернатарам. Гэты апошні, прадстаўляючы літоўскі ўрад, мае права накладаць вэто на законы, прымаемыя сеймікам, калі яны заходзяць за рамкі прадстаўленых аўтаномным органам праў, або супярэчаць міжнародным абавязацельствам Літоўскай рэспублікі і прынцыпам яе канстытуцыі. Літоўская і нямецкая мовы на роўных правах лічацца ў обласці афіцыяльнымі мовамі.

Нарэшце варта яшчэ ўпомніць, што падпісаная паміж Літвою і саюзнымі дзяржавамі канвенцыя прадугледжвае права кожнай дзяржавы члена Совета Лігі нацый зварачаць увагу Совета на парушэнне ўзятых Літвою на сябе ў адносінах Мемеля абавязацельстваў. Дзяржавы-ж, падпісаўшыя з Літвой канвенцыю, могуць акрамя таго абскардзіць тыя ці іншыя дзеянні Літвы ў сталую палату міжнароднага суда ў Гаазе, рашэнне якой носіць абавязковы для Літвы характар. Устаноўлены парадак садзейнічаў захаванню пануючага становішча германскай буржуазіі ў обласці. Германскія ўрадавыя колы з самага пачатку імкнуліся выкарыстаць мемельскую аўтаномію з мэтай узмацнення гаспадарчага і палітычнага ўплыву Германіі на обласць і з мэтай абвострання адносін паміж мемельскім насельніцтвам і Літоўскім урадам.

Германскі ўрад пасля пераходу Мемеля да Літвы ў першую чаргу прыняў усе захады к таму, каб у недатыкальнасці захаваўся стары нямецкі чыноўнічы апарат у обласці. Мемельская канвенцыя мае спецыяльную агаворку, што за старымі дзяржаўнымі і муніцыпальнымі чыноўнікамі захоўваюцца «набытыя правы», калі яны дадуць згоду перайсці ў літоўскае грамадзянства. Тым чыноўнікам, якія хацелі апціраваць у карысць Германіі, германскае консульства ў Мемелі, заахвочваючы іх застацца, выдавала спецыяльныя пасведчанні. У гэтых дакументах ад імя германскага ўрада сведчылася: 1) што германскі ўрад ухваляе аптацыю літоўскага грамадзянства і 2) што яго ўласнік у выпадку звароту ў Германію ў будучым без усякіх фармальнасцей можа аднавіцца ў германскім грамадзянстве. Больш таго, германскі ўрад сакрэтна выплачваў, праз пасярэдніцтва мемельскай арганізацыі чыноўнікаў, пэўнай катэгорыі чыноўнікаў, дадатковую ўзнагароду (нібы розніцу паміж ранейшым акладам і акладам, які яны атрымліваюць у новых умовах) пад выглядам «беспрацэнтнай ссуды».

Такім чынам у асобе разгалінаванага чыноўнічага апарата аўтаномных органаў Германія мела ў сваім распараджэнні магутную агентуру, пры дапамозе якой германскі ўрад мог аказваць непасрэдны ўплыў на ўнутранае жыццё обласці.

Увесь гэты апарат, дзеючы па ўказцы германскага консульства, укупе з нямецкім друкам, які атрымліваў субсідыю з Германіі, бачыў сваю задачу ў тым, каб перашкаджаць збліжэнню обласці з астатняй Літвою і з падвойнай энергіяй прадаўжаць справу германізацыі насельніцтва. Большасць гэтых чыноўнікаў не ўладае літоўскаю мовай; у судах літоўскі селянін павінен быў карыстацца дапамогай пераводчыка. Былі выпадкі, калі асоб, не жадаўшых гаварыць на судзе па-нямецку, суддзя германскі грамадзянін прыгаварваў да штрафу. Чыноўніцтва, перашкаджаючы эканамічнаму развіццю обласці, у той-жа час усімі мерамі пашырала бюракратычны апарат, які дорага каштаваў насельніцтву. Аклады чыноўнікаў перавышалі намнога стаўкі, дзеяўшыя ў астатняй Літве.

Германія, акрамя таго, уладае магутнымі сродкамі эканамічнага ціску на насельніцтва, якімі яна шырока карыстаецца.

Хранічны пасляваенны аграрны крызіс, цяжкое падатковае брэмя, выкліканае ўтрыманнем непасільнага для такой маленькай абласці бюракратычнага апарата, прывяло да сільнейшай запазычанасці сялянства. Гэтым шырока карыстаюцца германскія банкі і крэдытныя таварыствы, размяркоўваючы крэдыты па прынцыпу «добранадзейнасці» паасобных гаспадароў з нямецкага пункту погляду. Спісы вартых атрымліваць крэдыты зацвярджаліся ў адпаведных інстанцыях Кенігсберга і Берліна.

З 13 тысяч сялянскіх гаспадарак абласці 11 тыс. у сучасны момант з'яўляюцца даўжнікамі аб'яднаных германскіх сельскагаспадарчых крэдытных таварыстваў «рэйфэйзэнфэрэйн». Асобую дапамогу германскі ўрад аказвае германскім памешчыкам з тым, каб яны не прадавалі свае маёнткі літоўскім каланістам. Акрамя таго, у абласці дзейнічаюць рад нямецкіх сельскагаспадарчых кааператываў, якія рэгулярна пры перавыбарчых кампаніях, закупаюць у падтрымліваючых «нямецкую справу» сельскіх гаспадароў жывёлу і іншыя сельскагаспадарчыя прадукты па цэнах, значна перавышаючых рыначныя, для экспарта ў Германію, дзе яны ў межах вядомых кантынгентаў атрымліваюць сакрэтным чынам вялікія таможныя ільготы. Германская прапаганда для апрацоўкі сялян усяляк дэмагагічна выкарыстоўвае значную розніцу ў цэнах на сельскагаспадарчыя прадукты ў Германіі і Літве.

Такімі метадамі германскія партыі, не гледзячы на бясспрэчную большасць літоўскага насельніцтва абласці, пры выбарах у сеймік нязменна атрымлівалі перамогу. Да адзінага фронта германскіх партый прымыкалі і с. д., якія распальвалі канкурэнцыю паміж нямецкімі і прышлымі літоўскімі рабочымі, арыентуючыся на сваю нацыяналістычную буржуазію.

Пры гэтых умовах заўжды ўзнікалі працяглыя канфлікты паміж цэнтральным урадам і аўтаномнымі органамі. Літоўская буржуазія, эканамічна значна менш магутная, чым яе германскі сапернік, па сутнасці была вымушана весці абарончую барацьбу. Метады голага адміністравання, якія праводзяцца чыноўнікамі, прашоўшымі школу старой царскай бюракратыі, імкненне да фарсіраванай літвінізацыі насельніцтва, жорсткае падаўленне рабочага руху, асабліва з часоў ўстанаўлення ва ўсёй краіне (у 1926 г.) ваеннага становішча, не маглі ёй, вядома, забяспечыць у гэтай барацьбе якое-небудзь падтрыманне працоўных мас.

Няспынныя ў Мемелі трэнні мелі ўплыў на германска-літоўскія адносіны. Але ступень вострасці ўзнікаўшых па розных повадах канфліктаў у сваю чаргу залежала ад стану гэтых адносін.

У германскай палітыцы ў адносінах Літвы можна адрозніваць два этапы. Германія пасля сусветнай вайны аж да 1930 г. мела вялікі ўплыў на Літву. Гэты ўплыў грунтаваўся на вялікай залежнасці літоўскай народнай гаспадаркі ад германскага рынку (даволі ўказаць, напрыклад, што яшчэ ў 1930 годзе 60% усяго літоўскага вывазу ішло ў Германію і каля 50% тавараў, якія ўвозіліся ў Літву, было нямецкага паходжання), на наяўнасці літоўска-польскага канфлікта з-за Вільні. Германія была таксама зацікаўлена ў добрых адносінах з Літвою.

Пагроза літоўскай незалежнасці з боку Польшчы выклікала ў Германіі апасенні за лёс Усходняй Прусіі, якая, у выпадку захвату Польшчай літоўскай тэрыторыі або падпарадквання яе польскаму ўплыву, з трох бакоў апынулася-б у польскім кальцы. Палякі право-

дзілі ўзмоцненую падпольную работу ў Літве, старанна выкарыстоўваючы ў сваіх інтарэсах германа-літоўскія супярэчнасці. Імкнучыся падпарадкваць Літву свайму ўплыву, Польшча дабівалася не толькі ўмацавання сваіх пазіцый у адносінах Германіі, але і дасягнення другой мэты—стварэння антысовецкага блока прыбалтыйскіх дзяржаў. Барацьба з польскім уплывам і апасенні штурхнуць Літву ў абдымкі Польшчы прымушалі Германію ўмерыць пыл сваіх староннікаў у Мемельскай абласці. З другога боку, і Літва з-за баязні страціць германскі рынак для сваіх сельскагаспадарчых прадуктаў, у гэты перыяд была схільна на кампрамісы па Мемельскаму пытанню. У святле гэтай палітыкі трэба разглядаць літоўска-германскі гандлёвы дагавор 1928 года, які пашыраў магчымасць збыту літоўскіх жывёлагадоўчых прадуктаў. Праўда, Літва павінна была ў сваю чаргу згадзіцца на адначасовае заключэнне тарыфнай згоды, абавязваўшай яе на сваіх чыгунках увесці такія тарыфы, якія ва ўшчэрб Мемелю, садзейнічалі накіраванню грузапатоку з Літвы (і назад) на Кенігсберг. (Яшчэ адзін довад, што ў сваёй палітыцы Германія менш за ўсё кіравалася эканамічнымі інтарэсамі, гэтак апекваемай ёю абласці.) Акрамя таго літоўскі прэм'ер Вольдэмарас заключыў «джэнтэльменскае» узгадненне са Штрэземанам, якое прызнавала за Германіяй права ўзнімаць мемельскія пытанні ў дыпламатычным парадку. Але, з другога боку, ва ўзгадненні аб правядзенні граніц, падпісаным у той-жа час, была зафіксавана сучасная літоўска-германская граніца. Пры чым узгадненне не змяшчае звычайную для іншых пасляваенных германскіх дагавароў аб правядзенні граніц спасылку на «Версальскі дыктант».

З 1930 года ў германа-літоўскіх адносінах наступае пералом. Пад уплывам сусветнага крызіса Германія рэзка павышае таможныя пошліны на сельскагаспадарчыя прадукты, уводзіць імпартныя кантынгенты. Адначасова праходзіць падрыхтоўка да ўстанаўлення фашысцкага рэжыма, якая суправаджаецца разгулам шавіністычнага, расісцкага нацыяналізма.

У дэмагагічнай прапагандзе нацыянал-соцыялістаў патрабаванне захвату Мемеля нароўні з іншымі рэваншысцкімі лозунгамі пачынае адыгрываць усё большую ролю. Германскі імперыялізм прыступіў да актыўнай падрыхтоўкі новай імперыялістычнай вайны. Нацыяналістычная прапаганда захліствае таксама Мемельскую абласць. У Літве пачыналі ўсведамляць усю рэальнасць пагражаючай Мемелю і літоўскай незалежнасці небяспекі з боку Германіі. Літва спешна пачынае пераарыентоўваць сваю гаспадарчую палітыку, у першую чаргу на англійскі рынак.

Новая абстаноўка адразу-ж сказваецца на Мемелі. Канфлікт паміж сеймікам і губернатарам з-за прызначэння новай дырэкторыі набывае вострыя формы. Германія, карыстаючыся сваім правам члена Совета Лігі нацый, узбуджае скаргу супроць Літвы ў Совеце.

Германія патрабуе ўтварэння чыста нямецкай дырэкторыі ў адпаведнасці з нямецкай большасцю сейміка. Гэта патрабаванне дапаўняецца недвусэнснымі пагрозамі прыняць у адносінах Літвы эканамічныя рэпрэсіі, якія павінны нанесці вялікую страту літоўскаму экспарту, які ўжо і без таго знаходзіцца пад пагрозай скарачэння з-за надыходзячага павышэння германскіх пошлін. Пад уплывам гэтых пагроз Літва ўступае. У снежні 1930 года ўпершыню ў Мемелі створана чыста нямецкая дэмакратыя. Работа нямецкіх нацыяналістаў, пакорных указцы звонку, становіцца ўсё наглей. Усякі, хто не

згодзен з правакацыйнаю практыкай нямецкіх партый, або выказваецца за кампраміс з літоўцамі, кляйміцца мемельскім нямецкім друкам як «здраднік», «літоўскі агент».

Дырэкторыя зачыняе рад літоўскіх школ, спасылаючыся на тое, што, моў, большасць бацькоў літоўцаў у адпаведных мясцовасцях лічаць за лепшае, каб іх дзеці атрымалі пачатковую асвету на нямецкай мове. У пачатку 1932 года старшыня дырэкторыі Бетхер, без ведама літоўскай улады, накіроўваецца ў Берлін у суправаджэнні 2-х членаў сейміка для вядзення эканамічных перагавораў з германскім урадам. Справа ішла аб асобых ільготах для экспартуемых мемельскімі арганізацыямі сельскагаспадарчых прадуктаў пры ўвозе ў Германію. Факт перагавораў стаў вядомым літоўскаму ўраду. Літоўскі губернатар зняў дырэкторыю. Германская прэса падняла шалёную кампанію супроць Літвы. Германія, аспрэчваючы права Літвы адстраняць дырэкторыю, якая карыстаецца давер'ем сейміка, перадала пытанне ў Лігу нацый. На гэты раз Літва не ўступіла. У выніку даўлення, аказанага германскім урадам на Англію, апошняя пабудзіла астатніх удзельнікаў канвенцыі абскардзіць дзеянні літоўскай улады у Сталую Палату Міжнароднага суда ў Гаазе. Літоўскі ўрад тым часам распусціў сеймік, але ў выніку вышэйабрысаваных метадаў нямецкай прадвыбарчай агітацыі, якая дасканала выкарыстала факт выступлення супроць маленькай Літвы 4 вялікіх дзяржаў, разлікі Літвы на змену суадносін сіл у сейміку не спраўдзіліся. Германскі блок страціў усяго два месяцы, захаваўшы абсалютную большасць. Гэта прымусіла Літоўскі ўрад яшчэ да вынясення рашэння ў Гаазе, зноў згадзіцца на стварэнне нямецкай дырэкторыі. Але рашэнне Гаагскага Трыбунала, вынесенае ў жніўні, прызнала па большасці пунктаў абвінавачання правату Літвы, у прыватнасці пацвердзіўшы права губернатара адстраняць старшыню дырэкторыі, які перавысіў свае прэрагатывы.

Наступіўшы перыяд некаторага зацішша ў хуткім часе змяніўся яшчэ больш вострым канфліктам. 30 студзеня 1933 года ў Германіі к уладзе прышоў Гітлер. Гэта адразу-ж адбілася на ўзмацненні нацыянал-соцыялістычнай работы ў Мемельскай області. Платныя германскія агенты пераарыентаваліся на новага гаспадара. У маі к выбарам у Мемельскае самакіраўніцтва ўстанаўляецца першая легальная партыя нацыянал-соцыялістычнага толку пад назвай «Хрысціянскае соцыялістычнае рабочае аб'яднанне». Дзякуючы дэмагагічнай агітацыі, не мілаваўшай ранейшых нямецкіх партый і іх правадыроў, гэта арганізацыя, кіруемая лютаранскім папом Зассам, сабрала 50% галасоў. Літоўцы спачатку спадзяваліся скарыстаць з наступіўшых варожых адносін паміж старымі і новымі важакамі. У Берліне зразумелі, што старых вопытных чыноўніцка-памешчыцкіх кадраў у Мемелі пазбаўляцца неразумна. Таму было вырашана няўгоднага мемельскай буржуазіі Засса замяніць іншым «правадыром». Выбар паў на ветэрынарнага ўрача Нэймана, які прашоў наспех кароткатэрміновы курс у «школе правадыроў» у Мюнхене. Але стары «правадыр» праявіў недысцыплінаванасць і не хацеў уступаць. Тады была створана новая арганізацыя «соцыялістычнае народнае аб'яднанне», у якую ўліліся кадры старых нямецкіх партый «сельскагаспадарчай» і «народнай». Дзве фашысцкія арганізацыі пачалі жорсткую барацьбу, напераб́ой стараючыся даказаць Берліну, што кожны з іх больш верны паслядоўца Гітлера. У сваёй арганізацыі і метадах яны капіравалі германскіх нацыянал-соцыялістаў, стварылі нелегальныя штурмавыя

атрады, кіруемыя германскімі інструктарамі і вялі актыўную падрыхтоўку да ўзброенага паўстання, тэрарызуючы насельніцтва, ствараючы ўпэўненасць у хуткім уступленні гітлераўскіх атрадаў у абласць.

Ва ўзаемнай барацьбе перамагаў Нэйман, на баку якога стаяў германскі ўрад, субсідуемая прэса, кенігсбергскае радыё, дырэкторыя і германскае генеральнае консульства, у якім нават хаваўся архіў партыі Нэймана.

Германскі віцэ-консул Штрак не пасароміўся выклікаць да сябе староннікаў Засса і пабуджаць іх пераходзіць к Нэйману, прад'яўляючы ім адпаведныя афіцыяльныя цыркуляры і прыбягаючы нават да пагроз рэвальверам. Мемельскія фашысты, верныя паслядоўцы Гітлера, не спыняліся і перад тэрорам. Асаблівую вядомасць набыло забойства спецыяльнаю тэрарыстычнаю групай, па прамому ўказанню таго-ж віцэ-консула Штрака, нейкага Ясуціса, які на допыце ў літоўскай паліцыі даў паказанні аб перагаворах, якія абодва «правадыры» вялі ў Берліне з намеснікам Гітлера, членам германскага ўрада,—Гесам.

Усе гэтыя факты былі даставерна ўстаноўлены на ковенскім працэсе мемельскіх нацыянал-соцыялістаў у студзені—лютым гэтага года.

Метадамі эканамічных рэпрэсій, падкупам, пагрозамі мемельскія фашысты фактычна захапілі ўвесь адміністрацыйны апарат самакіраўніцтва, судовыя ўстановы, школы, дзе фашысцкія педагогі прышчаплялі вучням гітлераўскі дух і варожасць да Літвы.

Літоўскі ўрад беспаспяхова пратэставаў у Берліне супроць грубага ўмяшання германскіх афіцыяльных улад ва ўнутраныя справы літоўскай правінцыі.

У канцы 1933 года мемельскі канфлікт ператварыўся ў глыбокі крызіс германа-літоўскіх адносін. На разбэшчаную дзейнасць мемельскіх фашыстаў літоўскі ўрад адказаў узмацненнем рэпрэсіўных мер. У пачатку 1934 года быў выдан закон аб «абароне рэспублікі», які даваў ураду надзвычайна шырокія паўнамоцтвы для барацьбы з «антыдзяржаўнымі» элементамі.

Неўзабаве былі закрыты абедзве фашысцкія арганізацыі. Іх кіраўнікі і актывісты былі прыцягнуты к суду, а тыя з іх, якія з'яўляліся членамі сейміка, пазбаўлены мандатаў. Губернатар таксама патрабаваў звальнення 103 чыноўнікаў германскіх грамадзян, галоўным чынам настаўнікаў і суддзяў. Нарэшце ў чэрвені 1934 года губернатар адстраніў нямецкую дырэкторыю Шрэйбера, сільна скампраментаваную блізкасцю да арганізацыі Нэймана, прызначыўшы на яе месца чыста літоўскую дырэкторыю Рэйзгіса. Сеймік з-за адсутнасці кворума (па статуту патрабуецца прысутнасць 20 дэпутатаў) не змог сабрацца для выражэння сваіх адносін да новай дырэкторыі, бо літоўская фракцыя на паседжанні не з'яўлялася, не сумняваючыся ў тым, што застаўшаяся нямецкая большасць у 18 дэпутатаў выразіць дырэкторыі недавер'е.

Літоўскія мерапрыемствы выклікалі рэзкія эканамічныя рэпрэсіі з боку Германіі. Германія, парушыўшы свае абавязацельствы па гандлёваму дагавору, закрыла свой рынак для літоўскага масла, свіней, рагатай жывёлы і спыніла аднабаковым актам малыя пагранічныя зносіны на літоўска-германскай граніцы, якія маюць вялікае эканамічнае значэнне для літоўскага сялянства мяжуючых з Германіяй раёнаў. Мала таго, Германія забараніла нават транзіт літоўскай жывёлы праз сваю тэрыторыю.

Уяўленне, як гэтыя мерапрыемствы адбіліся на літоўскай народнай гаспадарцы, могуць даць наступныя даныя: экспарт у Германію ў 1930 годзе дасягаў амаль 200 млн. літ, складаючы 60% усяго літоўскага вывазу, а к 1934 году ён упаў да 31 млн. літ. У першыя два месяцы 1935 года вываз у Германію складаў толькі 7% усяго літоўскага вывазу.

На літоўскай граніцы ва Ўсходняй Прусіі адкрыта праводзяцца ваенныя падрыхтаванні, узброеныя дэманстрацыі штурмавых атрадаў. Германскае радыё і прэса з дня на дзень вядуць шалёную кампанію супроць Літвы, прыбягаючы да літаральна нецэнзурнай лаянкі ў адносінах Літоўскай дзяржавы і яе дзеячоў. Адначасова не толькі ў Мемельскай абласці, але і ў карэннай Літве германскія агенты вядуць правакацыйную работу, арганізуюць антысеміцкія эксцэсы і т. д. Няўдалая спроба ваеннага перавароту ў Коўне 7/VI-34 года, утвораная прыхільнікамі былога літоўскага прэм'ер-міністра Вольдэмараса—крайняга фашыста і германафіла, таксама падрыхтоўвалася пры ўдзеле германскіх фашыстаў. Германскія ўлады сябе выдалі, паспяшыўшы 7-га чысла раніцою абвясціць з Тыльзіта аб звяржэнні старога ўрада і прыходзе к уладзе Вольдэмараса ў момант, калі нават ковенскія жыхары яшчэ не ведалі аб начной спробе перавароту, якая закончылася правалам.

Літоўскі ўрад у канцы снежня 1934 года зрабіў спробу дасягнуць кампраміса з лаяльнымі нямецкімі элементамі ў Мемелі. Быў прызначан новы старшыня дырэкторыі Брувелайціс, які ўступіў у перагаворы з прадстаўленымі ў сеймік нямецкімі групамі аб састаўленні дырэкторыі, у якую-б уваходзіла 3 немцы і два літоўцы. Перагаворы пашлі было паспяхова, фракцыя былой сельскагаспадарчай партыі нават дэлегавала 2 сваіх прадстаўнікоў у дырэкторыю, але ў апошні момант кампраміс па ўтварэнню працаздольнай дырэкторыі быў сарваны па ўказу з Германіі, які цынічна перадаваўся да ведама мемельскага насельніцтва па кенігсбергскаму радыё. Сельскагаспадарчая партыя ўзяла назад сваю згоду падтрымаць дырэкторыю Брувелайціса. Нямецкія партыі звярнуліся да свайго папярэдняга патрабавання аб звароце дырэкторыі Шрэйбера. На гэта літоўскі ўрад не мог пайсці, разумеючы, што перадача ў сучасных умовах выканаўчай улады ў рукі нацыянал-соцыялістаў, падрыхтавала-б страту так жыццёва неабходнай для незалежнага існавання Літвы абласці.

Свайго апагея германскія пагрозы і разбэшчаная кампанія нямецкай прэсы дасягнулі ў момант Ковенскага працэса супроць 126 мемельскіх фашыстаў, і пасля вынясення ваенным судом суровага прыгавару абвінавачаным. Сэнс гэтай кампаніі заключаўся ў падрыхтоўцы міжнароднай грамадскай думкі на выпадак «рашучых дзеянняў» Германіі. Здавалася, што можна было з дня на дзень чакаць гвалтоўнага ўтаржэння германскіх войск, або штурмавых атрадаў у Мемельскую абласць і Літву.

У той-жа час германскі ўрад «у імя захавання міру», якому, моў, «пагражае» маленькая Літва, зноў патрабуе ад вялікіх дзяржаў, падпісаўшых мемельскую канвенцыю, у першую чаргу ад Англіі, рашучых мер супроць Літвы.

Англійскі ўрад на канферэнцыі ў Стрэзе дабіўся згоды Італіі і Францыі на сумеснае прадстаўленне пратэсту Літве. 19/IV пасланнікі адзначаных дзяржаў уручылі літоўскаму ўраду ноту, у якой патрабуюць, грунтуючыся на мемельскай канвенцыі, прыняцця мер

да нармальнага функцыянавання сейміка і стварэння дырэкторыі, якая-б карысталася давер'ем апошняга.

Літоўскі ўрад указаў на беспаспяховыя крокі, якія прымаліся ім у справе ўтварэння прыемлемай для абодвух бакоў дырэкторыі, а таксама на пагражаючыя літоўскаму суверэнітэту над абласцю дзеянні германскіх улад, якія непасрэдна ўмешваліся ва ўнутраныя справы Літвы, што перашкаджае аднаўленню нармальнага становішча ў абласці.

4 мая скончыліся паўнамоцтвы сейміка. Новыя выбары прызначаны на 29 верасня. Нямецкія групы ўжо прыступаюць да перадвыбарчай кампаніі пад лозунгам стварэння «адзінага нямецкага фронту», рыхтуючыся надаць надыходзячым выбарам характар «плебісцыта».

Адначасова, паводле апошніх вестак, Германія ва Ўсходняй Прусіі ўзмацняе свае вайсковыя сілы, прызываючы пад ружжо не адзін, як у астатняй Германіі, а два ўзросты адразу.

Разарваўшы ваенныя пастановы Версальскага дагавору, стаўшы на шлях неабмежаваных узбраенняў, германскі фашызм дзейна рыхтуецца да змен тэрытарыяльнага «статус кво» у Еўропе. Калі ён у сучасны момант канцэнтруе свае намаганні ў напрамку Мемеля, дык толькі таму, што тут ён чакае сустрэць найменшае супраціўленне. У Мемелі ён працуе тымі-ж метадамі, якія ён скарыстоўваў у адносінах Аўстрыі ў мінулым годзе. Вымушаны часова, з прычыны атрыманага адпору ўмерыць сваю актыўнасць у Аўстрыі, ён кінуўся ў іншым напрамку. Але гэта не значыць, што германскі фашызм адмовіўся ад другіх сваіх мэт.

Апошняя прамова Гітлера паказвае, што Германія імкнецца к таму, каб па магчымасці па чарзе рэалізаваць свае захватніцкія планы. Гітлераўскі праект «лакалізацыі» вайны, як гэта пацвярджае такі кампетэнтны сведка, як кракаўская газета «Час», у першую чаргу мае на ўвазе магчымасць для Германіі бесперашкоднай расправы з Літвою і захват Мемеля, за якім па праекту павінны паследваць іншыя, «лакалізаваныя» войны і захваты на Ўсходзе і на Захадзе.

Калі германскі імперыялізм да гэтага часу яшчэ не прыступіў да рэалізацыі сваіх пагроз, то гэта можна вытлумачыць поспехамі мірнай палітыкі Совецкага саюза і тымі крокамі, накіраванымі да ажыццяўлення калектыўнай гарантыі міру, рэзультатам якіх з'явіліся дагавары, заключаныя СССР з Францыяй і Чэха-Славакіяй. Хоць пан Гітлер і апалчаецца супроць формулы тав. Літвінава, што «мір непадзельны», формулы, якая падзяляецца ўсімі прыяцелямі міру, але ўсё-ж з ёю германскаму імперыялізму прыходзіцца лічыцца. Пачатак ваенных дзеянняў у якім-небудзь адным напрамку можа мець недасяжныя вынікі, а да рашучай вялікай вайны Германія відавочна яшчэ не гатова. Адсюль і спробы дасягнення папярэдніх мэт «мірнымі» сродкамі пры дапамозе згаворчывых англійскіх лордаў.

Вядомы французскі прафесар міжнароднага права Рэдслоб у артыкуле, прысвечаным сучаснаму становішчу мемельскай праблемы, указвае, што з пункту погляду вызначэння нападаючага, данага тав. Літвінавым, якое, паводле слоў Рэдслоба, стала часткаю дзеючага міжнароднага права, германскія дзеянні ў адносінах Мемеля не могуць быць расцэнены інакш, як прамая падрыхтоўка агрэсіі. З гэтым вывадам цалкам можна згадзіцца. Германіі ні ў якім разе не да твару становіцца ў ролі абвінаваўцы Літвы ў парушэнні міжнароднага права. «Нармалізацыя» становішча ў Мемелі не наступіць, пакуль не будзе знішчана непасрэдная пагроза германскай агрэсіі.

Працоўныя Совецкага саюза маюць усе падставы пільна сачыць за развіццём становішча ў гэтым маленькім кутку Еўропы пад назвай Мемеля. Совецкі саюз зацікаўлен у захаванні сапраўднай незалежнасці сваіх прыбалтыйскіх суседзяў.

Сваёй палітыкай ён гэта неаднакроць паказаў. Напомнім аб пактах аб ненападзе, прадоўжаных у 1934 годзе датэрмінова на 10 год, аб прапановах гарантаваць недатыкальнасць і незалежнасць гэтых краін, зробленых у мінулым годзе паступовa Польшчы і Германіі, але адхіленых імі, нарэшце аб намаганнях па заключэнню ўсходняга пакта ўзаемадапамогі. Імперыялістычная Германія і Польшча імкнуццаператварыць Прыбалтыку ў плацдарм для нападу на СССР, і захват Мемеля павінен з'явіцца першым этапам па гэтаму шляху.

# КНІЖНАЯ ПАЛІЦА

**КІРАЎ І КОМСАМОЛ.** Пераклад з рускай мовы. Менск, ДВБ, 1935 г. С. 74, Ц. 50 к.

У зборніку сабраны выступленні і прамовы тав. Кірава аб комсамоле. Гэтыя матар'ялы яскрава паказваюць, з якою ўвагай адносіўся Сергей Міронавіч да комсамола і клапаціўся аб большэвіцкім выхаванні змены.

У сваіх успамінах пра настаўніка і друга ленінградскага комсамола, тт. Косараў, Вайшля, Март'янаў і Швецаў расказваюць, як арганізоўваў т. Кіраў працоўную моладзь для барацьбы за перамогу соцыялізма. Яны заклікаюць усё падрастаючае пакаленне выхоўваць сябе так, каб быць падобнымі да тав. Кірава—лепшага большэвіка, нястомнага барацьбіта партыі Леніна—Сталіна.

**КАГАНОВІЧ. Л. М. Па-большэвіцку змагацца за перавыкананне плана чыгуначным транспартам.** Менск, Партвыдавецтва. 1935 г. С. 82, Ц. 25 кап.

Прамовы тав. Кагановіча на нарадзе гаспадарчых і палітаддзельскіх работнікаў чыгуначнага транспарта 1—4 красавіка г. г. і на нарадзе работнікаў чыгуначных палітаддзелаў 9 красавіка. Шырока асветлены асноўныя вузлавыя праблемы транспарта—барацьба з крушэннямі, барацьба за працоўную дысцыпліну сярод чыгуначнікаў і паскарэнне звароту вагонаў.

Тав. Кагановіч дае канкрэтныя ўказанні аб палепшанні масава-палітычнай работы і выхаванні большэвіцкіх кадраў на транспарце, гаворыць аб задачах комуністаў і беспартыйных актывістаў-чыгуначнікаў. Ён заклікае мабілізаваць усе сілы на барацьбу супроць адставання чыгунак, за большэвіцкую рэканструкцыю транспарта адпаведна з патрабаваннямі, якія прад'яўляюцца да яго ў другой пяцігодцы.

**Второй всесоюзный с'езд колхозников-ударников.** Стенографический отчет, 1935 г. С. 302, Ц. 9 руб.

Другі ўсесаюзны з'езд калгаснікаў-ўдарнікаў (11—17 лютага 1935 г.) з'яўляецца буйнейшай гістарычнай вехай па шляху барацьбы за большэвіцкія калгасы і заможнае жыццё шматмільённых калгасных мас. З'езд падагуліў велізарныя перамогі соцыялізма ў сельскай гаспадарцы, а таксама багацейшы вопыт, накоплены калгасамі за пяць гадоў дзеяння старога статута сельскагаспадарчай арцелі і абгаварыў далейшую праграму соцыялістычнага наступлення ў вёсцы.

Пад кіраўніцтвам тав. Сталіна на з'ездзе выпрацаван новы статут

сельскагаспадарчай арцелі, які яшчэ цясней згуртаваў шматмільённыя масы калгаснага сялянства вакол комуністычнай партыі і яе Цэнтральнага Камітэта на чале з тав. Сталіным.

У кнізе змешчаны даклады, заслуханыя на з'ездзе, спрэчкі па іх і прывітанні рабочых арганізацый. Дадаткі: 1) пастановы з'езда; 2) прыкладны статут сельскагаспадарчай арцелі; 3) пастанова СНК СССР і ЦК ВКП(б) аб арганізацыі ўсесаюзнай сельскагаспадарчай выстаўкі; 4) спіс дэлегатаў. Кніга багата ілюстравана.

**ВАЛКОВІЧ Д. І. Партыйна-арганізацыйную і палітычна-выхаваўчую работу—на ўзровень палітычных задач.**

Даклад на пленуме ЦК КП(б)Б 6-га красавіка 1935 года. Менск, Партвыдавецтва 1935 г. С. 76, Ц. 1 руб.

Даклад сакратара ЦК КП(б)Б т. Валковіча прысвечан стану партработы ў КП(б)Б і асноўным задачам яе на сучасным этапе. Спачатку т. Валковіч разгортвае ганебны шлях контррэволюцыйнай зіноўеўскай групы, наглядна паказвае, як зіноўеўцы завяршылі кола свайго здрадніцтва—ад штрэйкбрэхерства ў Окцябрскія дні да белага тэрора супроць кіраўніцтва партыі. Т. Валковіч заклікае павысіць рэволюцыйную пільнасць, да канца разграміць класавага ворага, які пад усякімі выглядамі імкнецца праводзіць сваю шкодніцкую работу.

Тав. Валковіч завастрае ўвагу на вырошчванні, выхоўванні і падборы партыйных кадраў. Аперуючы мясцовымі прыкладамі партыйнай работы, ён гаворыць аб падрыхтоўцы сходаў, якія з'яўляюцца важнейшаю школай ідэйна-палітычнага выхавання комуністаў, аб рабоце з членамі партыі—адзіночкамі, аб кіраўніцтве групамі спачуваючых, аб упарадкванні партыйнай гаспадаркі і т. д.

Спыняючыся на ідэйна-палітычным выхаванні ў КП(б)Б, тав. Валковіч звяртае ўвагу на вывучэнне гісторыі большэвіцкай партыі і палепшанне якасці партыйнай асветы. Ён падкрэслівае неабходнасць беларусізацыі марксісцка-ленінскага выхавання, асваення не толькі мовы, але і гісторыі, экономікі Беларусі і інш. У канцы брашуры змешчана пастанова пленума ЦК КП(б)Б, прынятая па дакладу тав. Валковіча.

**Б. ВАРГА. Между VI и VII конгрессами Коминтерна.** Партиздат. ЦК ВКП (б). 1935 г. С. 188, Ц. 1 р. 35 к.

Агляд развіцця сусветнай экономікі і палітыкі за 1928—1934 гг. Аўтар ставіць задачай—падвесці ў сціслай форме вынікі перыяду паміж VI і VII кангрэсамі Комуністычнага Інтэрнацыянала.

У кнізе сабраны фактычны матар'ял і дан аналіз падзей па наступных праблемах: эканамічныя асновы крызісаў перавытворчасці; крызіс 1929-1933 гг.; сусветны аграрны крызіс; крызіс у калоніях; асобы характар сучаснай дэпрэсіі; социяльныя і знешне-палітычныя вынікі эканамічнага крызіса; змена метадаў дыктатуры буржуазіі; барацьба за адзіны фронт і за перамогу сусветнай рэволюцыі.

Асобыя главы прысвечаны гаспадарча-палітычнаму росту СССР і поспехам кітайскай рэволюцыі за апошнія шэсць год.

**Брыгада бібліяграфічнага Інстытута БССР**

## Аб мерапрыемствах па выпрацоўцы, абмеркаванню і прыняццю калгасамі статутаў па Беларускай ССР

### Пастанова Совета Народных Камісараў Беларускай ССР і ЦК КП(б) Беларусі

Совет Народных Камісараў і ЦК КП(б) Беларусі рэкамендуюць калгасам пры прыняцці статута ўносіць наступныя ўдакладненні ў Прыкладны статут сельскагаспадарчай арцелі, прыстасоўна да мясцовых умоў:

#### Па пункту 2-му раздзела II Прыкладнага статута,

Рэкамендаваць калгасам устанавіць наступныя размеры прысядзібных зямель (агарод, сад) у асабістым карыстанні кожнага калгаснага двара (не лічачы зямлі пад жывымі пабудовамі):

а) ад 0,25 гектара да 0,50 гектара ў раёнах:

Багушэўскі, Кармянскі, Сенненскі, Бешанковіцкі, Касцюковіцкі, Сіроцінскі, Будакашалёўскі, Чырвонапольскі, Суражскі, Быхаўскі, Клімавіцкі, Свяцілавіцкі, Бялыніцкі, Круглянскі, Талачынскі, Віцебскі, Крычаўскі, Терахоўскі, Веткаўскі, Лоеўскі, Уваравіцкі, Гарадоцкі, Лёзненскі, Хоцімскі, Гомельскі, Магілеўскі, Чавускі, Горацкі, Мсціслаўскі, Чачэрскі, Добрушскі, Мехаўскі, Чэрыкаўскі, Дрыбінскі, Оршанскі, Чашніцкі, Дубровенскі, Прапойскі, Шклоўскі, Журавіцкі, Рагачоўскі;

б) ад 0,30 да 0,60 гектара ў раёнах:

Бабруйскі, Заслаўскі, Нараўлянскі, Барысаўскі, Капыльскі, Осіповіцкі, Брагінскі, Чырвонаслабодскі, Асвейскі, Бягомельскі, Камарынскі, Пухавіцкі, Бярэзінскі, Капаткевіцкі, Парыцкі, Ветрынскі, Кіраўскі, Петрыкаўскі, Грэскі, Крупскі, Полацкі, Глускі, Клічаўскі, Плешчаніцкі, Даманавіцкі, Лагойскі, Рэчыцкі, Дзержынскі, Лельчыцкі, Расонскі, Дрысенскі, Лепельскі, Рудзенскі, Ельскі, Любаньскі, Слуцкі, Жлобінскі, Менскі, Смалявіцкі, Жыткавіцкі, Мазырскі, Старадарожскі, Старобінскі, Уздзенскі, Халопеніцкі, Тураўскі, Ушацкі, Хвойніцкі, Чэрвеньскі.

У калгасных двароў, якія маюць прысядзібныя ўчасткі, перавышаючыя ўстаноўленую для раёна прадзельную норму,—лішкі прысядзібнай зямлі супроць гэтай прадзельнай нормы адразаюцца.

Калгаснікам, якія маюць прысядзібныя ўчасткі менш устаноўленага для адпаведнага раёна ніжэйшага прадзелу, прысядзібная зямля можа быць прырэзана да ніжэйшага прадзелу за лік адрэзкі зямлі ў калгасных двароў, маючых лішкі прысядзібнай зямлі супроць устаноўленага

верхняга прадзелу, за лік нескарыстаных у сучасны момант прысядзібных зямель, шляхам зніжэння размеру прысядзібнай зямлі аднаасобнікаў на 10 проц. супроць размеру сядзіб калгаснікаў, а таксама за лік раскарчоўкі і асваення новых зямель.

Для калгасных двароў, якія маюць на прысядзібнай зямлі сады ў размеры звыш 0,20 гектара, дапускаць павелічэнне прысядзібнага ўчастка, але не звыш 0,80 гектара, уключаючы і сад.

Усе змены ў фактычным карыстанні прысядзібнай зямлёй у адпаведнасці з прынятым і зарэгістраваным статутам, робяцца ўвосень 1935 года.

У адпаведнасці з пунктам 2-м Прыкладнага статута сельскагаспадарчай арцелі райвыканкомам правесці замацаванне зямлі за ўсімі калгасамі ў бестэрміновае карыстанне, г. зн. навечна і выдаць кожнаму калгасу акт на бестэрміновае карыстанне зямлёй, у якім устанаўляюцца размеры і дакладныя граніцы зямлі, што знаходзіцца ў карыстанні арцелі, у наступныя тэрміны:

а) 1.400 калгасам—к 1-му жніўня 1935 года,

б) 2.000 калгасам—к 1-му верасня 1935 года,

в) 2.400 калгасам—к 1-му студзеня 1936 г.,

г) 5.100 калгасам—к 1-му лістапада 1936 г.

Адначасова з выдачай калгасу акта на вечнае карыстанне зямлёй павінна праводзіцца, з удзелам старшыні калгаса і ўпаўнаважаных ад калгаса, устаноўка межавых знакаў (слупоў).

Для ўстранення цераспалосіцы, далёказямелля і для нанясення на карту граніц калгасаў правесці наступныя мерапрыемствы:

а) мабілізаваць усіх землеўпарадчыкаў, працуючых па сваёй або другой спецыяльнасці ў розных установах і прадпрыемствах рэспублікі;

б) дадаткова скарыстаць для работы па землеўпарадкаванню 100 студэнтаў Горацкага сельгаспадарчага інстытута і 130 студэнтаў Горацкага землеўпарадчага тэхнікума ў канікулярны час;

в) арганізаваць у раёнах месячныя курсы на 1.700 чалавек мершчыкаў і 180 чалавек чарцёжнікаў.

## Па пункту 5-му раздзела III Прыкладнага статута.

Аднесці ўсе раёны рэспублікі (за выключэннем ніжэйпайменаваных раёнаў) па колькасці жывёлы ў асабістым карыстанні кожнага калгаснага двара да першай групы раёнаў, у якой, у адпаведнасці з п. 5 Прыкладнага статута, кожны калгасны двор можа мець у асабістым карыстанні 1 карову, да 2-х галоў маладняка рагатай жывёлы, адну свінаматку з прыплодам, або, калі праўленне калгаса знойдзе неабходным, 2 свінаматкі з прыплодам, да 10 авечак і коз разам, неабмежаваную колькасць птушкі і трусоў і да 20 вулляў.

Дазволіць калгасным дварам, якія ў ніжэйпералічаных раёнах разводзяць племянную жывёлу, мець у асабістым карыстанні дзве каровы і 3—4 галавы маладняка рагатай жывёлы.

Асвейскі, Чырвонаслабодскі, Дзержынскі, Дрысенскі, Капыльскі, Плешчаніцкі, Старобінскі (паўночная частка), Уздзенскі, Бягомельскі.

Аднесці **палескія раёны:** Брагінскі, Глускі, Даманавіцкі, Ельскі, Жыткавіцкі, Капаткевіцкі, Камарынскі, Лоеўскі, Лельчыцкі, Любаньскі, Мазырскі, Нараўлянскі, Парыцкі, Петрыкаўскі, Рэчыцкі, Тэрахоўскі, Тураўскі, Хойніцкі і паўднёвую частку Старобінскага раёна (палескую частку) да 2-й групы раёнаў, у якой, у адпаведнасці з пункт-

там 5-м Прыкладнага статута, кожны калгасны двор можа мець у асабістым карыстанні 2—3 каровы і, акрамя таго, маладняк, ад 2-х да 3-х свінаматак з прыплодам, ад 20 да 25 авечак і коз разам, неабмежаваную колькасць птушкі і трусоў і да 20 вулляў.

**По пункту 6-му IV раздзела Прыкладнага статута.**

Рэкамендаваць сельскагаспадарчым арцелям уключыць у статут дадаткова, выходзячы з мясцовых умоў, абавязкі арцелі і праўленняў па:

пад'ёму і асваенню цалінных зямель (раскарчоўка, меліярацыя і т. д.);

развіццю ільнаводства (расшырыць насеннікі канюшыны, поўнасцю выцесніць пасеў ільна па ільну і папару, пасевы ільна рабіць выключна ў раннія тэрміны, рассціл ільна праводзіць у жніўні і, як правіла, на лугах, арганізаваўшы пільны догляд і ахову ільна на сцелішчах, заўчасна падрыхтаваць мачылы для мочыва ільна, укараняць механізацыю ўборкі і першапачатковай апрацоўкі ільна);

палепшанню развядзення бульбы;

угнаенню глебы торфам, кампостам, скарыстанню вапны і мергелю на кіслых глебах, развіццю пасеваў лубіну на папарных землях;

сцягванню хутароў у калгасныя пасёлкі і дапамозе калгасным дварам пры перасяленні з хутароў у калгасныя пасёлкі;

утрыманню ў добрым праезджым стане дарог.

**Старшыня Совета Народных Камісараў БССР ГАЛАДЗЕД.**

**Сакратар ЦК КП(б)Б ГІКАЛО.**

# Аб дзяржаўным плане развіцця жывёлагадоўлі на 1935 год па Беларускай ССР

## Пастанова Совета Народных Камісараў Саюза ССР і Цэнтральнага Камітэта ВКП(б)

1. Зацвердзіць наступны план вырошчвання маладняка з прыплоду 1935 года ў соўгасах, у калгасных таварных фермах, у калгасных дварах і ў аднаасобнікаў (у тысячах галоў):

| | Цялят | Свіней | Ягнят і казлянят | Жарабят |
|---|---|---|---|---|
| 1. Соўгасы ўсіх сістэм . . . . . . | 20,1 | 68,6 | 2,6 | 3,2 |
| У тым ліку: | | | | |
| Соўгасы Наркамсоўгасаў . . . . | 12,6 | 36,0 | — | 1,8 |
| Соўгасы Наркамзема . . . . . . | 2,3 | 1,0 | — | 0,23 *) |
| Каапгасы Цэнтрасаюза . . . . . | 0,3 | 0,8 | — | — |
| ОРС'ы Наркамцяжпрома . . . . | 0,2 | 0,2 | — | — |
| Іншыя соўгасы, каапгасы і ОРС'ы | 4,7 | 30,6 | 2,6 | — |
| 2. Калгасныя таварныя фермы . . . | 239,0 | 190,0 | 59,0 | 68,2 **) |
| 3. Калгасныя двары і аднаасобнікі . | 257,3 | 1090,0 | 400,0 | 23,5 |
| Усяго. . . . . . | 516,4 | 1348,6 | 461,6 | 91,9 |

*) У конзаводах Наркамзема.
**) У калгасах.

2. Давесці к 1 студзеня 1936 года пагалоўе жывёлы ў соўгасах і ў калгасных таварных фермах да наступных размераў (у тысячах галоў):

| | Буйнай рагатай жывёлы | | Свіней | Авечак і коз | Коней |
|---|---|---|---|---|---|
| | Усяго | У тым ліку кароў | | | |
| 1. Соўгасы ўсіх сістэм . . . . . | 82,7 | 40,1 | 92,8 | 7,3 | 28,2 |
| У тым ліку: | | | | | |
| Соўгасы Наркамсоўгасаў . . | 45,9 | 21,5 | 48,0 | — | 12,8 |
| Соўгасы Наркамзема . . . . . | 10,5 | 4,8 | 2,6 | 0,2 | 3,5 |
| Каапгасы Цэнтрасаюза . . . . | 2,0 | 1,3 | 1,2 | — | 1,0 |
| ОРС'ы Наркамцяжпрома . . . | 0,6 | 0,3 | 0,4 | — | 0,2 |
| Іншыя соўгасы, каапгасы і ОРС'ы . . . . . . . . . . | 23,7 | 12,2 | 40,6 | 7,1 | 10,7 |
| 2. Калгасныя таварныя фермы . | 660,0 | 200,0 | 245,0 | 150,0 | 13,0 |

3. Зацвердзіць план кантрактацыі цёлак у калгаснікаў для калгасных таварных ферм у колькасці 85 тыс. галоў і план прадажы калгасным таварным фермам з соўгасаў у колькасці адной тысячы галоў буйнай рагатай жывёлы і 10 тысяч галоў парасят.

4. Аказаць дапамогу калгаснікам у набыцці каровы і дробнай жывёлы, для чаго прадаць калгаснікам з соўгасаў 2,3 тысячы цёлак і 30 тысяч парасят, з калгасных таварных ферм 45 тыс. парасят і шляхам кантрактацыі ў калгаснікаў і аднаасобнікаў 25 тыс. цёлак.

5. Зацвердзіць план інкубацыі ў 370 тыс. куранят, у тым ліку для калгаснікаў і рабочых 250 тыс. куранят.

6. Прапанаваць СНК БССР і ЦК КП(б)Б разгарнуць работу па палепшанню мясцовай жывёлы шляхам метызацыі з племяннымі пародамі—швіцкай, галандскай і чырвона-беларускай пародамі буйнай рагатай жывёлы і белай англійскай пародай свіней.

Зацвердзіць арганізацыю дзяржплемрассадніка буйнай белай англійскай свінні і рэспубліканскага племрассадніка чырвона-беларускай пароды буйнай рагатай жывёлы.

Давесці к 1 студзеня 1936 года сець племянных калгасных таварных ферм да наступных размераў:

| Племфермы | Колькасць ферм | Пагалоўе (у тыс. гал.) |
|---|---|---|
| Буйнай рагатай жывёлы . . . | 89 | 4,7 |
| Свінагадоўчыя . . . . . . . . | 150 | 4,0 |
| Аўцагадоўчыя . . . . . . . . | 5,0 | 25 |

7. Давесці колькасць зоатэхнічных участкаў у 1935 годзе да 300, колькасць ветэрынарных участкаў да 200, колькасць ветпунктаў да 250

8. Прапанаваць Соўнаркому Беларускай ССР і ЦК КП(б)Б падрыхтаваць у 1935 годзе ў раённых калгасных школах не менш 2.830 загадчыкаў фермамі і брыгадзіраў жывёлаводаў і 1.400 калгасных ветфельчароў.

9. Зацвердзіць наступны план сенакашэння, сіласавання і палепшання лугоў і пасьбішчаў на 1935 год:

| | План сенакаш. натурал. сенаж. (у тыс. гект.) | План сіласавання (у тыс. тон) | План палепшання лугоў і пасьбішч (у тыс. гектар.) |
|---|---|---|---|
| Соўгасы ўсіх сістэм . . . . . . . | 80,0 | 100,0 | 15,0 |
| У тым ліку: | | | |
| Соўгасы Наркамсоўгасаў . . . . . | 56,6 | 85,0 | 13,9 |
| Калгасы . . . . . . . . . . . . . . | 1200,0 | 610,0 | 375,0 |
| Аднаасобнікі . . . . . . . . . . . | 500,0 | — | — |
| Усяго . . . . . . | 1780,0 | 710,0 | 390,0 |

10. Зацвердзіць план астаўлення насеннікаў шматгадовых траў на плошчы: у соўгасах—6 тыс. гектараў і ў калгасах—22 тыс. гектараў, з іх —у калгасах 20 тыс. гектараў канюшыны і 2 тыс. гектараў цімафееўкі. Акрамя таго, аставіць пад насеннікі лугапасьбішчных траў 3.770 гектараў, арганізаваўшы для гэтага спецыяльны рассаднік лугапасьбішчных траў.

11. Соўнарком СССР і ЦК ВКП(б) указваюць Соўнаркому БССР і ЦК КП(б)Б на надзвычай нізкую прадукцыйнасць жывёлы, на меўшую месца вялікую выразку цялят, высокі падзеж маладняка ў свінагадоўчых фермах і соўгасах і на дрэннае асваенне пасьбішчных і сенакосных угоддзяў і прапануюць совецкім і партыйным арганізацыям БССР забяспечыць у 1935 годзе захаванне цялят ад выразкі, спыненне падзяжу маладняка на фермах і ў соўгасах, палепшанне ўтрымання і догляду жывёлы на фермах і ў соўгасах, расшырэнне мерапрыемстваў па метызацыі мясцовай жывёлы і правядзенне неабходных работ па расшырэнню пасьбішчных і сенакосных угоддзяў за лік асваення балот.

12. Адпусціць дзяржаўны крэдыт:

а) калгасам у размеры 5.700 тыс. руб. на будаўніцтва памяшканняў для жывёлы, набыццё племянной жывёлы і куплю маладняка і дарослай жывёлы для жывёлагадоўчых калгасных таварных ферм;

б) калгаснікам—у размеры аднаго мільёна рублёў на куплю цёлак.

13. Абавязаць Соўнарком БССР і ЦК КП(б)Б давесці ў двухдэкадны тэрмін планавыя заданні па развіццю жывёлагадоўлі да соўгасаў, калгасаў і сельсоветаў, устанавіўшы наступны парадак давя-

дзення плана вырошчвання маладняка да соўгасаў, калгасаў, калгасных двароў і аднаасобнікаў:

а) соўгасы і калгасныя таварныя фермы атрымліваюць план па вырошчванню маладняка ў адпаведнасці з зацверджаным планам росту пагалоўя жывёлы ў соўгасах і на фермах з улікам выканання абавязацельстваў па здачы мяса дзяржаве і плана продажы маладняка калгаснікам;

б) план па вырошчванню маладняка калгаснымі дварамі і аднаасобнікамі даводзіцца да сельсоветаў, якія даводзяць яго да калгасных двароў і аднаасобных гаспадарак, з улікам канкрэтных умоў кожнай гаспадаркі.

Старшыня Совета Народных Камісараў Саюза ССР В. МОЛАТАЎ.

Сакратар Цэнтральнага Камітэта ВКП(б) І. СТАЛІН.

# Аб захаванні і вырошчванні маладняка па калгасных таварных фермах

## Пастанова ЦК КП(б)Б

Бюро ЦК КП(б)Б адзначае зусім нездавальняючае захаванне маладняка па калгасных таварных жывёлагадоўчых фермах за прашоўшыя пяць месяцаў па большасці раёнаў, што паставіла пад прамую пагрозу зрыву выкананне дзяржаўнага плана развіцця калгаснай жывёлагадоўлі ў радзе раёнаў.

Асабліва нездавальняючую работу па захаванню маладняка бюро ЦК адзначае ў наступных раёнах і калгасах, дапусціўшых ганебна высокі адыход прыплоду: Гомельскім—у свінафермах гэтага раёна «Пролетарый» і «Перамога», Стара-Дарожскім—на свінафермах гэтага раёна «Чырвоная зорка» і «Шлях соцыялізма», Дзержынскім—на свінафермах гэтага раёна «Чырвоны пагранічнік» і «Профінтэрн», а таксама ў Сіроцінскім, Крупскім, Полацкім, Клічаўскім і іншых раёнах.

Бюро ЦК лічыць, што падобнае недапушчальнае становішча з'яўляецца прамым рэзультатам таго, што ў радзе раёнаў справе жывёлагадоўлі не надаецца такое-ж значэнне, як справе сяўбы і хлебаздачы і адсутнічае належнае штодзеннае аперацыйнае кіраўніцтва калгаснымі фермамі з боку зямельных органаў, райвыканкома і рай[illegible] партыі, якія сапраўды большэвіцкую барацьбу за развіццё жы[illegible] ў радзе выпадкаў падмяняюць вынясеннем час ад часу [illegible]алюцый і пастаноў, не правяраючы іх выканання.

[illegible])Б **пастанаўляе:**

[illegible]мельскі, Старадарожскі, Дзержынскі, Сіроцінскі, [illegible] і інш. райкомы партый пад асабістую адказнасць [illegible]адкладна праверыць захаванне і вырошчванне прыплоду па асобных калгасах, выдзеліць і ўзяць пад асобны нагляд фермы, дапусціўшыя вялікі адыход маладняка, забяспечыўшы безумоўнае захаванне па ўсіх фермах наяўнага маладняка і чакаемага прыплоду. Работу зямельных органаў і перш за ўсё сектароў райза па жывёлагадоўлі сканцэнтраваць у першую чаргу на пытаннях захавання маладняка.

2. Абавязаць рэдакцыю «Звязда», пад адказнасць т. Стэрніна, разгарнуць сістэматычнае асвятленне работы па жывёлагадоўлі і асабліва па захаванню маладняка, паказваючы вопыт лепшых раёнаў, соўгасаў, ферм і паасобных ударнікаў.

Абавязаць т. Стэрніна не менш трох раз у месяц змяшчаць у «Звяздзе» зводкі Наркамзема аб захаванні маладняка, ходзе злучной кампаніі і ліквідацыі бескароўнасці.

